# Кніга другая

# Мінск за небакраем

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### Раздзел I

### I

Зямля Беларусі!

Пявучыя лясы Бабруйшчыны, беластвольныя бярозавыя гаі Гродзеншчыны, сінявата-зялёныя ельнікі на пясчаніках.

Шырокія вятры над палямі, акаймаванымі частымі кучаравымі пералескамі, над жытнімі зрэдку ўзгорчатымі прасцягамі. Таямнічы нясціхны шэпт чаратоў на Пінскіх балотах, сінія, з малых год помныя, любыя сэрцу воды Прыпяці, пенныя хвалі Парачы.

Векавечныя муры Віцебска і Турава, маўклівыя помнікі далёкай мінуўшчыны, заімшэлыя сведкі нашай даўняй славы і варожай ганьбы. Клапатлівы шум новых заводаў Мінска, турбін Асінаўкі, тысяч іншых помнікаў пяцігодак, які сціх, анямеў на тры доўгія пакутныя гады...

Партызанскія кастры, баявыя патаемныя сцежкі.

Родная, любая бясконца беларуская зямля. Колькі разоў твае палі і шляхі тапталі важкія боты захопнікаў. Колькі разоў сыходзіліся над табой злавесныя хмары навалы, скрыжоўваліся, звінелі мячы, грымелі стрэлы і выбухі. Чорны дым засцілаў роднае неба...

Плакалі, стагналі ўчарнелыя ад гора ўдовы... Цягнуліся па пыльных дарогах з торбамі незлічоныя, раздзетыя, змарнелыя, бадзягі-сіроты.

Згнілі даўно ў зямлі косці няпрошаных гасцей.

Кожны раз побач з табой уставалі вялікія твае браты, адзінакроўныя, верныя. І адпаўзалі назад варожыя навалы, і заставаліся толькі гніць чужыя косці.

І вось — чуеш? — зноў грымяць грамы пад Оршай і Віцебскам, пад Жлобінам і над палескімі гушчарамі. Чуеш? Гэта добрыя грамы, грамы, якія вяшчаюць пасля навальніцы ясны дзень. Гэта зноў ідзе на дапамогу к табе вялікая маці твая — Масква, твае дужыя браты з усходу, твае блізкія. Па загаду Радзімы мільёны салдат рушылі ў бой за тваё жыццё, за будучыню тваю.

Чуеш — грымяць грамы пад Оршай? Слухай, глядзі ім насустрач, вітай іх!

2

Лагчына засталася ззаду. То была «нічыя» зямля. Снарады і бомбы ўсю яе перарылі, спустошылі, пакрылі чорнымі ды іржавымі выпалінамі. Казалі, у лагчыне калісьці красавалася вёска, — цяпер на тым месцы не было нават задымленых печышчаў. Ніякіх знакаў ранейшага жылля...

Перад Юрыем Тураўцом цягнуўся вялізны абшар балота. На ўсёй шырыні балота, колькі можна было бачыць, далёка і блізка — ускідваліся цёмныя стаўбуры выбухаў.

Пехацінцы ішлі, стараючыся не адставаць ад хвалі агню і дыму, што, клубячыся, кіпучы, палячы, рушыла ў варожы бок. Хутка яны ўжо набліжаліся да першых варожых траншэй. Нарыхтаваліся да атакі, але гітлераўцы маўчалі.

Хтосьці кінуў у траншэю гранату.

Калі падбеглі да траншэі, то ўбачылі, што сцены яе, аплеценыя лазовымі дубцамі, паразварочваны снарадамі. На дне яе валяліся некалькі трупаў, амаль засыпаных торфам...

Тут, азірнуўшыся, Юрый заўважыў, што непадалёк наводзяць пераправу танкісты. Танкі часта білі па варожых пазіцыях, упарта пасоўваючыся наперад.

Адразу каля траншэй пачынаўся негусты, вельмі пасечаны алешнік, што рос на куп'істым грунце...

Ледзь толькі пехацінцы мінулі алешнік, як побач, востра скрыгочучы, важка загрукаталі выбухі. Гэта білі нямецкія гарматы.

Той-сёй прыпыніўся. Юрый стаў таксама. Яму раптам нястрымна захацелася кінуцца назад у бяспечнае месца. Яго апанаваў страх.

Юрый азірнуўся на байцоў, потым на шчуплага, парывістага, з дзіўна блішчэўшымі карымі вачыма Праворнага, чакаючы падтрымкі ці парады. Юрый удзельнічаў у баі ўпершыню, — ён толькі пяты дзень быў ва ўзводзе Праворнага...

Малодшы лейтэнант хутка перазарадзіў пісталет, махнуў рукой наперад. Юрый, уцягнуўшы галаву ў плечы, сціснуўшыся, штосьці крыкнуў сваім байцам,— што — ён і сам добра не цяміў, — і кінуўся ў грукат і дым.

Ён здагадкаю адчуў, што жыццё яго цяпер у смяротнай небяспецы. Гэта было незвычайнае, даўкае адчуванне, якое адзначала кожны новы выбух. «Яшчэ адзін... яшчэ, яшчэ». Юрыю хацелася

ўпасці. Але ён адольваў гэтае жаданне і наперакор выбухам, наперакор усяму — бег, бег...

Калі выбухі засталіся ззаду, яму не палягчэла. Ён недаверліва прыслухоўваўся, чакаў, што ўсё зноў паўторыцца.

У галаве яго прайшло: «Гэта, відаць, і ёсць тое...» Тое суровае і жорсткае, што называецца «быў у агні». Яму на міг успомніўся Мінск, першая бамбёжка, якая на ўсё жыццё ўрэзалася ў памяць...

Хоць усё абышлося добра, Юрый быў па-ранейшаму нацяты, гатовы да ўсякай небяспекі, — аднак цяпер яму цяжка было б спыніцца. Быццам нейкая нястрымная хваля штурхала яго, вяла наперад... Як акінуць вокам — справа і злева — рушылі наперад тысячы такіх жа, як ён. Ішлі, стралялі, хутка лажыліся, беглі. Над Юрыем групамі праносіліся імклівыя, як маланкі, штурмавікі, знішчальнікі, плылі бамбардзіроўшчыкі...

Уся гэтая агромністая, магутная, накіраваная ў адзін бок плынь нібы несла і яго.

Юрыя падначальваў, падганяў гэты агульны ўздым, і сержант, трымаючыся на яго хвалях, стараючыся не адставаць ад другіх, ад Праворнага, ішоў і ішоў. Ён цяпер бачыў сябе дзіўна дробненькім, кволым, нейкім незнаёмым. Усё, што адбывалася навокал, было таксама незвычайным, такім незвычайным, вялізным і бязлітасным, што здавалася незразумелым, нават нерэальным. Ён адчуваў сябе так, нібы трапіў у зусім іншы свет. Усе звыклыя ўявы ў гэтым свеце некуды зніклі, замяніліся іншымі, чужымі, незнаёмымі. Ён упершыню спазнаваў гэты дзіўны свет, слухаў, хваравіта востра сачыў, усё міжвольна падсвядома адзначаў, але амаль нічога не думаў, многага не разумеў.

Па меры таго, як батальён паглыбляўся ў размяшчэнне ворага, наступаць станавілася цяжэй. Хоць пехацінцы ішлі амаль адразу за артылерыйскімі выбухамі, якія, здавалася, змяталі са шляху ўсё жывое і нежывое, вораг яшчэ спрабаваў утрымацца. Калі выбухі аддаляліся, гітлераўцы, якім пад бетоннымі столямі і тоўстымі накатамі пашанцавала выратавацца, выпаўзалі наверх і секлі па нашых байцах з кулямётаў і аўтаматаў...

На адзін такі заслон наскочыў і ўзвод Праворнага. Кулямётная страляніна ўзнікла раптам так блізка, што Юрый не ўправіўся зразумець, што гэта. Але ён адразу кінуўся на зямлю, паспеўшы заўважыць, як непадалёк, недарэчна падагнуўшыся, паваліўся нехта з байцоў.

Юрый ляжаў нерухома, стараючыся аддыхацца. «Што са мной? Ці не ранены?» — падумалася трывожна. Нямецкі кулямёт лескатаў

быццам перад самай галавой, і гукі стрэлаў, здавалася, стукалі па макаўцы. Справа, поблізу, чарга кулямёта зрэзала некалькі высокіх балотных сцяблін... Вось-вось,— яшчэ чарга, і куля, напэўна, увап'ецца ў галаву, у плечы. Ён раптам прыгадаў бацьку: «Няўжо не ўбачымся?..» Сэрца яго моцна калацілася.

Ён ляжаў на адкрытым месцы. Калі б тут быў хоць кусточак, хоць варонка, якімі перарыта амаль усё балота,— каб можна было схавацца ад куль! Адны толькі барадаўкі-купіны ды балотная трава. А навокал пачалі рвацца нямецкія міны.

Прыслухоўваючыся мімаволі да іх посвісту, Юрый стараўся асэнсаваць сваё становішча. Што з яго байцамі? Жывыя яны? Дзе яны цяпер?.. Ён азірнуўся па баках і ўбачыў аднаго крыху правей ад сябе, ззаду, — гэта быў Шарыфутдзінаў. Ён вострымі чорнымі вачыма штосьці высочваў з-за купіны. Злева ад Юрыя ляжаў тварам уніз забіты бялявы баец; на яго спіне тапырыўся новенькі рэчавы мяшок...

Юрый вачыма адшукаў поблізу ямку і асцярожна перасунуўся ў яе. Ямка была мелкая, але ўсё ж у ёй Юрый адчуў сябе больш надзейна. Хоць крыху, ды можна ўкрыцца. Цяпер ён пачаў турбавацца пра далейшае: колькі ж яшчэ ім прыдзецца тут ляжаць? Няўжо нельга прымусіць гэты пракляты кулямёт змоўкнуць? Чаго маўчыць Рыбалка з кулямётам? Чаго не страляе? Нельга марудзіць!.. Трэба прымусіць сціхнуць іх! Узвод Праворнага можа адстаць ад іншых, затрымаць усю роту... увесь батальён... Іншыя ўзводы, мусіць, ужо наперадзе... Ну, чаго ж ён, Рыбалка, не пачынае?..

І тут Юрый узрадавана пачуў — кулямёт загаварыў! Ён біў караткімі, скупымі чэргамі, з перапынкамі... Малайчына, Рыбалка, дай ім аганьку!

Неўзабаве кулямёт змоўк. Мінула некалькі хвілін, а ён маўчаў. Што з Рыбалкам: патронаў няма ці, можа, загінуў?.. Не, патроны ён яшчэ не расстраляў. Няўжо ён загінуў?! Забіты?.. А што з другім нумарам?..

Як там ні было, кулямёт маўчаў... Ён не можа, не павінен бяздзейнічаць. Думкі Юрыя раптам пайшлі ў іншым кірунку: калі хутка праскочыць адлегласць да Рыбалкі, то варожыя кулямётчыкі, напэўна, не ўправяцца ўзяць на прыцэл. Трэба толькі выбраць момант, калі будуць біць кулямёты ў суседніх аддзяленнях...

Ён больш не думаў пра небяспеку. Трэба. Трэба зрабіць. Перад гэтым — трэба зрабіць! — усе іншыя меркаванні адступалі, здаваліся малазначнымі. Адчуваючы ў сябе прыліў сілы і рашучасці, ён ускочыў.

Юрый упаў каля Рыбалкі на якую-небудзь долю секунды раней, чым прайшлася над ім чарга. Не ўправіліся!

Ён не памыліўся: Рыбалка быў мёртвы, ляжаў, уткнуўшы галаву ў балота, нібы хаваў яе.

Куля вышла цераз патыліцу,— над кволай шыяю, над шышачкамі пазванкоў заплывала крывёю глыбокая варонка раны. Убачыўшы аголеную парваную тканку, мокрую ад крыві, кроў, у якой бялелі асколкі касці, Юрый хутчэй адвярнуўся. Ён адчуў, што яму робіцца млосна...

Стараючыся адолець гэтую млоснасць, не думаць ні аб чым, хаваючыся за Рыбалкам, Юрый, нейкі паслабелы, з непаслухмянымі рукамі, выцягнуў незвычайна важкі кулямёт і адпоўз у бліжэйшую ямку ад выбуху, перавалок каробку з дыскамі.

Выбраўшы, як яму здавалася, зручную хвіліну, ён, спяшаючыся, прыцэліўся і хутчэй націснуў спускавы кручок.

Некалькі хвілін маўчаў, пакуль нямецкі кулямётчык вёў па ім страляніну. Потым, адчуўшы, што прыціхла, супакоіўшыся крыху, паспрабаваў зноў прыцэліцца, аднак ледзь ён узняў галаву, побач прайшлася доўгая чарга.

Юрый ляжаў моўчкі. Можна было падумаць, што ён забіты. Вычакаўшы добра, сержант зноў паварушыўся, прыцэліўся. Нямецкі кулямётчык не адгукаўся. Забіты ці хітрue?

Стралялі яшчэ два ці тры кулямёты, якія былі на левым флангу. Час ішоў і ішоў, а кулямёты не замаўкалі. Навокал па-ранейшаму грукаталі гарматы, недзе спераду былі чуваць выбухі бомб, а ляскат чужых кулямётаў, блізкі, злавесны, як бы знарок, не змаўкаў. І Юрыю прыходзілася ляжаць.

3

Камбат Паўлоўскі, заўважыўшы са свайго КП, як залегла рота, адразу пастараўся дапамагчы ёй. Ён загадаў камандзіру суседняй роты ўдарыць у фланг гітлераўцаў. Тады ж камбат, доўгі, з доўгім качыным носам і рашучым падбародкам, нязменна з біноклем на плячах, павярнуў свае крутыя, ледзь не метровай шырыні плечы да шчупленькага артылерыста-капітана з чумацкімі вусамі, камандзіра прыданага артдывізіёна.

— Выручай, капітан. Эх, гады пячорныя,— прыціснулі маіх «самаварамі» і кулямётамі! Узняцца не даюць!.. Вунь, бачыш, правей дрэўца, як бы купінкі — кулямёт... Лявей яшчэ два,— адзін вунь на два пальцы лявей хмызнячку. Бачыш?.. Далей, за тымі чатырма кусточкамі, мінамётная батарэя...

— Да гэтай я ўжо добра прыглядзеўся. Яна на прыкмеце ў мяне... Хвіліны яе, як кажуць, ужо злічаны — яна ў «вілцы»... Ну, ды і

кулямёты хутка прыціхнуць. Што ж, пачнём з «самавараў»... — капітан загадаў артылерысту-тэлефаністу даць «Амур».

Узяўшы трубку, ён пачаў камандаваць «Амуру» прыцэлы, вугламеры, лічбы.

Наперадзе Юрыя пачалі ірвацца снарады. Яны праносіліся ўгары з імклівым, абнадзейлівым посвістам. Там, дзе былі чужыя мінамёты, выблісквалі ярасна-гарачыя, як гнеў, агні і ўскідваліся з громам рудыя грывы.

Неўзабаве пачалі ірвацца снарады і на пазіцыях нашай артылерыі. Артылерысты, як бы не заўважаючы гэтага, прадаўжалі страляць і страляць. Усю агнявую хутка заслала дымам ад стрэлаў і выбухаў. Раптам варожы снарад разарваўся каля лафета адной гарматы, і некалькі чалавек упала...

Юрый гэтага не бачыў, ён толькі чуў, як усё мацнее артылерыйскі паядынак. Вось ужо ў бой уступілі цяжкія гарматы. Яны таксама пачалі біць па нямецкай артылерыі,— іх выбухі раздаваліся далёка за пазіцыямі пяхоты. Ад гэтых выбухаў уздрыгвала зямля. Слухаючы магутны грукат, які ўсё мацнеў наперадзе, Юрый нібы дужэў. Вунь колькі артылерыстаў заступілася за іх...

Нарэшце, нямецкія кулямёты сціхлі. Калі Юрый, трымаючы ў руках кулямёт, узняўся, адразу і не верылася, што яны сціхлі. Але яны маўчалі. І, хоць навокал па-ранейшаму кіпела вялікая бітва, Юрыю здавалася, што настала цішыня. Праворны, надзяваючы пілотку на коратка падстрыжаную галаву, загадаў весці людзей наперад.

— Падымайся! — крыкнуў Юрый байцам.

Але падымаць і не трэба было. Убачыўшы, як усталі Юрый і Праворны, байцы, хто застаўся жывы, самі пачалі ўздымацца. Па затравелай, падатнай глебе, па куп'і, хлюпаючы ў вадзе, а часта і грузнучы па пояс, зноў пайшлі наперад.

Юрый, стараючыся ісці ў рост, адольваючы прыкрую слабасць у нагах, зноў мімаволі чакаў чагосьці страшнага. Але ён бег і падаў, і ўскокваў, а гэтае страшнае абмінала.

Між тым наблізіліся да альховага хмызняку. Ускочылі ў яго...

Да Юрыя раптам збоку штосьці паляцела. Хлопец не заўважыў гэтага, але жвавы, спрытны Шарыфутдзінаў ірвануў яго да сябе і кінуўся з ім на зямлю. Амаль адначасова пачуўся выбух.

Юрый лежачы адчапіў ад пояса «лімонку» і кінуў за альховы куст. Пусціў з кулямёта па гэтаму кусту доўгую чаргу.

Перачакаўшы момант, ускочыў, насцярожана зазірнуў за куст. Паблізу, каля траншэі, ляжалі два забітыя фашысцкія салдаты. Адзін

гітлеравец выбіраўся з акопчыка, намерваючыся, напэўна, уцячы, але, убачыўшы пехацінцаў, падняў рукі.

Далей у кустах ішла аўтаматная перастрэлка. Потым адтуль прывялі яшчэ некалькі палонных.

Выгляд у іх быў разгублены, насцярожаны. Салдат з белым чубком, без пілоткі і без мундзіра, у заплямленай граззю майцы штосьці плямкаў губамі і шаптаў.

— Чалавек: галава, два вухі, — пагардліва прамармытаў Шарыфутдзінаў.

— Малітву, ці што ён шэпча? — прамовіў Юрый, запытальна пазіраючы цыганскімі, як у бацькі, вачыма на Праворнага.— Думае, мусіць, што бог паможа яму?.. Успомніў!..

— Наш «бог вайны» напомніў! — без усмешкі пажартаваў Праворны.

Юрый упершыню бачыў гітлераўцаў так блізка. Ён пазіраў на іх, як на незнаёмыя істоты — «вось яны якія!» Каторы гэта з іх гранату кінуў? Але, хоць стаялі яны перад ім упершыню, у яго была да іх даўняя, укаранелая нянавісць. Ён ненавідзеў іх яшчэ да таго дня, калі ўбачыў сваю маці пад абломкам сцяны, якую разбурыла бомба з «юнкерса»...

Праворны адразу адправіў палонных у тыл.

4

Пад поўдзень рота заняла боем рад траншэй на ўскраі лесу. Уся зямля тут была ўсеяна безліччу варонак. У неглыбокіх, аплеценых лазою траншэях на дне блішчала гразь. У гэтай гразі, у варонках і ў траве каля траншэй валялася многа трупаў, ранцаў з рудой цялячай скуры, газеты, разгорнуты часопіс са здымкамі.

Заняўшы ўвесь лясок, рота вымушана была пры ўзлессі прыпыніцца: байцы хутка акапаліся. Увесь час білі варожыя гарматы, але снарады ірваліся недзе ззаду пазіцый пяхоты. Юрый зняў боты, каб выліць з іх ваду, якая прыкра хлюпала, і выкруціць мокрыя анучы. Ногі пакрыліся быццам рубцамі іржы, а анучы зусім парудзелі.

Юрый толькі ўправіўся пераабуцца, як яго паклікаў да сябе Праворны. Малодшы лейтэнант, як і Юрый, мокры да пояса, з мокрымі рукавамі, з чубком раскіданых і звіслых на лоб глянцавітых каштанавых валасоў, сядзеў каля пасечанага асколкамі камля дрэва, зламанага снарадам. Вяршыня дрэва ляжала тут жа, на траве. Перад Праворным быў малодшы лейтэнант з суседняга ўзвода і тоўсты, пануры ротны старшына. Праворны сядзеў заклапочаны, але з

выглядам бадзёрага чалавека: яго карыя вочы, як і раней, здавалася, пасмейваліся. Юрыю было дзіўна бачыць яго такім звычайным. Дзіўна, нібы сорамна за сваю кволасць...

Праворны замяняў цяпер камандзіра роты, якога паўгадзіны назад разарвала міна, што прыляцела з варожага боку.

Адпусціўшы малодшага лейтэнанта, Праворны, не змяняючы выразу заклапочанасці, моршчачы па-юнацку чысты лоб, пачаў распытваць Юрыя пра страты. У аддзяленні не хапала цяпер шасці чалавек: чатыры былі ранены, а два забіты.

— Падшукай, старшына, яму кулямётчыка... Я цябе, Туравец, паклікаў вось для чаго. Хутка атрымаем ва ўзвод папаўненне, табе таксама прышлюць людзей... Сачы за імі, дапамагай, пакуль абвыкнуцца. Многія з іх, напэўна, будуць упершыню ў баі...

— Разумею, таварыш малодшы лейтэнант.

Ён запытаў, колькі аддзяленню Юрыя трэба патронаў і гранат, і загадаў, каб старшына зараз жа ўсё даставіў яму.

— А ты малайчына, Туравец,— як бы выпадкова прамовіў ён напаследак.

Юрый адчуў сябе няёмка. Гэта ён, Юрый, малайчына? Ён, у якога аказалася так мала адвагі.

— Добра трымаешся!.. Адказнасць адчуваеш за справу: за кулямёт лёг. Гэта таксама добра... Прадаўжай так і далей!..

— Ясна,— адказаў Юрый, падбадзёраны добрым словам Праворнага.

У такім настроі сержант вярнуўся ў сваё аддзяленне, праверыў, як яно размясцілася.

Хутка падышло папаўненне. Юрый пазіраў на яго ўжо, як бывалы франтавік, не заўважаючы ў сабе гэтай змены, і «навічкі» адносіліся да яго таксама з давер'ем і павагай. Ён размеркаваў «навічкоў». Аднаму з іх Юрый перадаў кулямёт Рыбалкі.

Крыху ззаду, дзе снарады пакінулі толькі пасечаныя камлі і мешаніну галля, усталёўваліся мінамётчыкі. Яны ўстанаўлівалі важкія зялёныя пліты і трубы, раскладвалі скрынкі з мінамі. Потым падышлі лясной прасекай палкавыя артылерысты, цягнучы гарматы, якія вельмі груздлі. Адзін з артылерыстаў — ефрэйтар — падбег да Юрыя, папрасіў закурыць.

— Запалкі ёсць? — запытаў Юрый, дастаючы з кішэні пачак махоркі. Юрый ніколі раней не курыў, але цяпер чамусьці хацелася курыць.

Закурылі. Ефрэйтар адразу пабег да сваіх гармат, дзе артылерысты пачалі капаць раўкі.

Раптам снарады праціўніка пачалі часта ірвацца каля пехацінцаў. Лясное рэха гукі выбухаў памножвала, паўтараючы, патройваючы на розныя галасы.

Падбег, прыгнуўшы галаву і крутыя плечы, камбат Паўлоўскі і перадаў загад падрыхтавацца адбіваць варожую контратаку. З камбатам было два байцы — ардзінарац і, мусіць, сувязны.

Сапраўды, гітлераўцы, прыкрываючыся агнём гармат, падцягваліся на зыходны рубеж. Яны збіраліся на рубяжы амаль непрыкметна, бо поблізу яго слаўся белы паўзучы дым. Гэта гарэў падпалены снарадамі торф.

Агледзеўшы пазіцыю ўзвода, камбат загадаў перанесці два кулямёты на левы фланг. Юрый, паглядваючы час-ад-часу ў бок гітлераўцаў, пахапліва курыў. Выбухі ўзнікалі ўсё часцей і часцей.

— Не курыў раней?— запытаў раптам камбат, пачуўшы, як Юрый закашляўся.— Не куры... Здароўе папсуеш,— сказаў ён павучальна, як старшы малодшаму.— Ну, камандуй!

Ён паслаў сувязнога з нейкім даручэннем у суседнюю роту, а сам подбегам падаўся да КП. Тут ён звязаўся з камандзірам кулямётчыкаў і загадаў перакінуць чатыры кулямёты да Праворнага.

Капітан-артылерыст з чумацкімі вусамі, стоячы за дрэвам каля КП, назіраў за выбухамі сваіх снарадаў, часам ён падбягаў да тэлефаніста і перадаваў «Амуру» папраўкі.

— Бачыш, капітан, дзе яны збіраюцца? — запытаўся камбат.

— Бачу. Няхай, няхай збіраюцца! Я зараз вермішэль з іх зраблю! — і, перадаўшы прыцэл і вугламер, скамандаваў:— Дывізіёнам восем снарадаў, беглы агонь!

Юрый з мелкага акопчыка бачыў, як варожых пехацінцаў, якія ўзняліся і рушылі сюды, да ляска, раптам ахапілі дым і полымя выбухаў. Білі гарматы прыданага дывізіёна, потым пачалі біць палкавыя батарэі, мінамёты. Некалькі дзесяткаў гітлераўцаў выскачылі з дыму, набліжаючыся да роты Праворнага, але тут запрацавалі нашы кулямёты і лёгкія мінамёты. Гітлераўцы спыніліся, залеглі, а праз некаторы час, кідаючы ўсё — і зброю, і раненых, пачалі хутка адпаўзаць назад.

Тады батальён паспрабаваў прабіцца далей. Але немцы трымаліся па-ранейшаму ўпарта...

Седзячы ў гразкім акопчыку, над якім роем віліся надакучлівыя камары, Юрый бачыў, як цераз які-небудзь кіламетр наперадзе штурмуюць ворага «сілы»...

Прышоў пануры старшына і аб'явіў, што падвезлі тэрмасы з абедам. Юрый загадаў вылучыць двух чалавек атрымаць абед... Ён толькі тут успомніў, што з вечара нічога не еў.

Але есці і не хацелася. Ці да таго яму, калі яго поўняць, гнятуць такія нязвычныя, недаступныя разуменню агромністыя ўражанні.

«Ах, гады, як, праклятыя, чапляюцца...— думаў неспакойна ён.— Няўжо яшчэ доўга прыдзецца гэтак жа выбіваць іх...»

Якраз Праворнага выклікалі да камандзіра батальёна. Калі малодшы лейтэнант падышоў, камбат гаварыў з некім па тэлефоне. Палажыўшы трубку, ён прыслухаўся да блізкага артылерыйскага грукату, які мацнеў.

— Чуеш? Артылерыя пачынае падрыхтоўку... Толькі што вось гаварыў з палкоўнікам — трэба рыхтавацца. Хутка зноў пойдзем, май на ўвазе!..

5

Калі перадавыя падраздзяленні аддаліліся, генерал-маёр Шчарбацюк загадаў перанесці НП на новае, падрыхтаванае ўжо месца. Ён узяў папку з картай і, спусціўшыся з узгорка, на якім быў ранейшы НП, з групай штабных афіцэраў пайшоў наперад.

Пад нагамі ўгіналася забалочаная зямля, зацягнутая разнатраўем, хлюпала вада. Амаль на кожным кроку віднеліся сляды нядаўняй бойкі — варонкі ад снарадаў, ад бомб, ад мін, парваныя дротавыя загарожы, кінутыя нямецкія супрацьгазы, падобныя на тэрмасы. Усюды валяліся варожыя трупы.

Увесь час плылі і плылі самалёты — адны ў бок пярэдняга краю, другія вярталіся назад. Плылі вялізнымі і маленькімі стаямі, высока ў блакітным небе і нізка, над самымі дымамі бітвы. У небе было цёмна ад іх.

Ішлі мінамётчыкі, згінаючыся пад цяжарам пліт, труб і скрынак з мінамі. Напінаючыся з усіх сіл, коні цягнулі цяжкія павозкі...

Генерал, грузны, рыхлаваты, з жыватом, прасачыў, як некалькі артылерыстаў сунулі гармату, якая грузла амаль да восі, сказаў начарту[1] дывізіі.

— Адстае твая тэхніка... Ці ўправішся ты падцягнуць усе ствалы ў час?

Начальнік артылерыі, смуглявы чарнабровы падпалкоўнік, адказаў:

— Усе працітанкавыя і лёгкія паспею.

---

[1] Начальніку артылерыі.

Пад НП была занята варожая траншэя ў хмызнячку, на ледзь прыкметным пагорку. НП не падабаўся генералу, але знайсці лепшы на гэтым балоце было немагчыма.

— Ну, як сувязь?— запытаўся генерал у сувязіста-лейтэнанта.

— Сувязь устаноўлена, таварыш генерал...

Месца, дзе выбралі НП, было пад шалёным артабстрэлам. У розных баках ад НП ірваліся снарады і міны, раскідваючы балотную гразь. Магчыма, не трэба было займаць НП так блізка ад ворага, але Шчарбацюк улічыў тое, што палкі наступаюць...

— Звяжыся з палкамі, удакладні абстаноўку,— загадаў ён падпалкоўніку — начальніку разведкі.

Генерал рыхтаваў новую атаку на варожыя пазіцыі. Дывізія заняла першую лінію ворага, а месцамі пачала штурмаваць другую. Аднак праціўнік трымаўся яшчэ моцна, асабліва на цэнтральным участку, дзе ён прыпыніў полк Сібірака. Генерал стаў гаварыць з Сібіраком сам.

— Контратакуе Сібірака!.. От, скажэнны! — ён звярнуўся да начарта: — Дадай Сібіраку дывізіён. Толькі адзін! Іншых рыхтуй да атакі...

Шчарбацюк зняў фуражку, выцер лысіну, медны карак.

— Ну, дзянёк!.. Угрызаешся, як у пароду, у гадзіну — крок.

Генерал стаў пазіраць на поле бітвы. Была хвіліна, як здавалася камдыву, незвычайнага ў гэты гарачы дзень зацішша ў яго дывізіі. Праўда, назваць гэта «зацішшам» мог толькі хіба такі цярплівы, прывыклы да бою воін, як Шчарбацюк. Як і раней, наваколле грымела ад выбухаў і стрэлаў гармат, у прамежкі між якіх урывалася чачотка кулямётаў. Над варожымі пазіцыямі ўзляталі кусты дыму і полымя. Але генерал усё ж меў рацыю: гэта было адноснае зацішша. Зацішша ў буры. Больш за палову гарматных ствалоў, якія стаялі сярод хмызняку на ўчастку, які займала дывізія, маўчалі. І баявыя палкі, акрамя Сібірака, таксама «маўчалі». Але чарга іх набліжалася.

Поблізу ад камдыва, у суседнім акопчыку, быў наводзячы ад авіячасці, прыданай дывізіі, рослы, флегматычны з выгляду лейтэнант. Ён сядзеў каля рацыі, трымаючы ўвесь час сувязь з палком, і, здавалася, нешта ціха насвістваў.

— Праз дваццаць адну хвіліну пачнем атаку,— сказаў камдыў, падышоўшы да яго.— Перадай сваім, каб былі напагатове.

— Добра. Зараз перадам.

— Сігнал для абазначэння пярэдняга краю — дзве белыя ракеты адначасова... Не пераблытай квадратаў... Начальнік разведкі ўдакладніць табе абстаноўку.

Шчарбацюк паклікаў падпалкоўніка.

Непадалёк ад гарбка ішлі павозкі са снарадамі. Яшчэ некалькі цягнулася ззаду ад іх. Коні грузлі. Ездавы пярэдняй павозкі размахваў пугаю і крычаў штосьці на каня, які пяўся з усіх сіл. За павозкай ішлі, папіхаючы яе, два пехацінцы.

— Марудна, другі мае, наступаеце,— заўважыў генерал пехацінцам, калі яны, уз'ехаўшы ўжо на выспачку, прывіталі яго.

— Дык балота ж, таварыш генерал-маёр... Вось выйдзем на цвёрдую зямлю, тады — аж пыл закурыцца! — аптымістычна адказаў адзін з салдат.

— «Выйдзем на цвёрдую»... Колькі ж вы будзеце так выходзіць!

Генерал зірнуў на гадзіннік,— заставалася семнаццаць хвілін. На НП Шчарбацюк звязаўся з камандзірамі палкоў, правяраючы, ці падрыхтаваліся ўсе, зверыў свой гадзіннік з гадзіннікам начарта.

— Што ж, дарагі, палкі гатовы... Табе засталося шэсць хвілін.

Начальнік артылерыі ведаў, што калі генерал сказаў: шэсць, значыць — шэсць, ні секунды менш ці больш. Шчарбацюк быў, пры ўсёй сваёй марудлівасці, на дзіва дакладны.

Роўна праз шэсць хвілін забухалі гарматы. Некаторыя з іх стаялі так блізка ад НП, што тэлефаністы і лётчык вымушаны былі прыкрываць вушы далонямі, каб чуць з трубак адказы. Над пазіцыямі праціўніка суцэльнай сцяною заклубіўся дым. Гітлераўцы адказалі на нашу страляніну некалькімі залпамі, — паўдзесятка снарадаў лягло каля агнявой пазіцыі бліжэйшай батарэі.

Варожым артылерыстам прыйшлося сціхнуць...

Камдыў падышоў да лётчыка:

— Падымай, лейтэнант, у паветра сваіх летуноў.

Гарматы пачалі змаўкаць. Штурмавікі пранесліся так нізка і з такім рокатам, што задрыжала зямля. Праз кіламетры два з паловай яны развярнуліся і пайшлі ўсцяж пярэдняга краю, расстрэльваючы праціўніка з кулямётаў і гармат. Адсюль было відаць, як з самалётаў выкідваюцца вострыя язычкі полымя. Раз-по-раз чуліся выбухі бомб...

— Пайшла, царыца палёў і балот! — сказаў падпалкоўнік-разведчык, гледзячы наперад.

Там былі відаць пехацінцы, тысячы пехацінцаў з мяшочкамі за плячыма, са зброяй, яны паступова аддаляліся. На іх шляху нярэдка ўскідваліся дымы выбухаў, але людзі не спыняліся. Павольна і ўпэўнена яны ўсё ішлі ды ішлі...

Вось яны ўжо дабраліся да пагорка, і тут хваля пяхоты, як марская хваля, ударыўшыся аб бераг, спынілася. Шчарбацюк, які цяпер нязводна сачыў за імі, пачаў хвалявацца,— пад скурай напружана

захадзілі жаўлакі. Ён выняў кісет, панура зацягнуўся едкім дымам самакруткі.

З гэтым астраўком прыдзецца павалтузіцца. Не так проста вытурыць адтуль ворага. Камдыў непакоіўся, як бы яго дывізія, заважджаўшыся з узгоркам, не адстала ад суседзяў. Гэта было б для яго найвялікшай ганьбаю. Акрамя таго, ён уяўляў, як бы адгукнуўся на вестку пра гэта камандарм: «Я так і ведаў... Ён толькі хваліцца майстар!»

Генерал выклікаў авіяцыю, і над астраўком хутка з'явіліся нашы пікіроўшчыкі. Змяняючы адзін аднаго, яны кідаліся з гары на нябачныя адсюль цэлі. Не перастаючы, па тых жа месцах біла артылерыя. Усё ўдалечы зацягнула дымам.

Камдыў загадаў выклікаць да тэлефона Скорабагатага, полк якога правым флангам наступаў на ўзгорак, але лейтэнант-сувязіст зморана адказаў, што сувязь з палком перарвана.

— Трэці раз! Толькі што паправілі і зноў...

— Хоць бы і дзесяты раз, дарагі... Мне патрэбен Скорабагаты!

Лейтэнант хацеў сказаць, што там, на лініі, ужо ёсць салдат, якога ён нядаўна паслаў, але стрымаўся. Зірнуўшы на генерала, сувязіст пайшоў подбегам следам за байцом усцяж провада.

Каля кустоў алешніку ён убачыў збялелага тэлефаніста, які поўз каля провада, цягнучы акрываўленую нагу.

— Снарад... блізка...— прашаптаў баец з намаганнем.— Нага... як у агні...

Ён сам сабе наспех зрабіў перавязку, напэўна, адразу пасля ранення. Лейтэнант сказаў, што зараз вернецца, і, спяшаючыся, занепакоена пабег далей. Поблізу ён знайшоў абрыў,— каля провада чарнела варонка, якая напалову заплыла тванню. Сувязіст нацягнуў правады з абодвух бакоў, абчысціў ножыкам парваныя канцы і, злучыўшы іх, абматаў клейкаю ізаляцыйнай істужкай.

Праз хвіліну Шчарбацюк слухаў хуткую гаворку Скорабагатага. Наступленне на правым флангу затармазілася, і гэта ставіла пад пагрозу фланг Сібірака.

— Дзоты? — перапытаў генерал-маёр, густа-барвова чырванеючы.— Спачуваю! Непрыемнасць такая!..

Усе, хто ведаў натуру камандзіра дывізіі, адчувалі, што падступае выбух гневу. У дабрадушнага Шчарбацюка часам роўны, лагодны настрой перарываўся, змяняўся гневам, выбухам. У такія хвіліны генерал станавіўся гарачым і нястрыманым, — нібы ўсё, што капілася многія дні, выбухала адразу.

Гэтых «выбухаў» у дывізіі ўсе баяліся.

— У цябе, душа мая, артылерыі на цэлую дывізію! Больш, як на дывізію! Такая сіла! І ты не можаш з такой сілай закрыць ім зяпы?.. Нялёгка? Спачуваю! — у голасе камдыва чулася кіпенне. — Але, каб было лёгка, нам тут не было б чаго рабіць!..

З самага маленства ён жыў нялёгка. У пятнаццаць год ён, абліваючыся гарачым потам, ужо ганяў ваганеткі як адкатчык. Праз два гады хлопец стаў сам рубіць вугаль, цэлымі гадзінамі лежачы ў паўцёмнай пячоры. Шахцёры ніколі не скардзіліся на цяжкасці, ён таксама не гаварыў пра гэта. Больш таго, ён не разумеў, што такое лёгкае жыццё. Былы вугальшчык, з-пад Новачаркаска, настойлівы і ўпарты, ад той пары захаваў прывычку спакойна адольваць усё, што трэба. Хоць Шчарбацюк ведаў, што Скорабагатаму сапраўды цяжка, ён адчуваў непрыхільнасць да камандзіра палка, які паскардзіўся.

— Не разумею гэтага чалавека! Гонару мала! Я б разбіўся, а не стаў бы скардзіцца, а ў яго вечныя скаргі. Баба!..

Генерал звязаўся з Сібіраком.

— Павярні дзве крайнія роты і дывізіён артылерыі направа — дапамажы Скорабагатаму.

На нейкую хвіліну ён падумаў, як ацэніць сённяшнія дзеянні камандарм,— пры ўспаміне пра камандарма камдыву стала неспакойна. Успомніліся словы Чарняхоўскага — «... а што вы скажаце, таварыш генерал... справіцеся?» Ён падумаў, што Чарняхоўскі, відаць, уважліва сочыць за яго дывізіяй...

Камдыў падышоў да лётчыка.

— Пяць «Ільюшыных» на правы фланг,— ён назваў квадрат.

Пазваніўшы Скорабагатаму, генерал-маёр сказаў, каб той абазначыў свой пярэдні край.

## Раздзел II

### I

Туравец на хвіліну прыпыніўся, выняў з кішэні гадзіннік і чыркнуў запальнічкай. У варухлівым святле акрэсліўся кружок цыферблата.

«Спазніўся!»

Звычайна ў гэты час ён быў каля радыёпрыёмніка, слухаў зводкі Інфармбюро. Сёння ж Туравец затрымаўся — партыйны сход у атрадзе, з якога ён цяпер ішоў, зацягнуўся. «Ну што ж, даведаюся ад Габдуліна»,— падумаў Туравец, дзьмухнуўшы на запальнічку. Ён збавіў крок, пайшоў спакайней.

Сцежкі амаль не было відаць, бо ад дрэваў, якія маўкліва цісնуліся абапал вузкай дарожкі, тут панавала такая цемрадзь, якая

можа быць толькі ў лесе і то хіба летнім вечарам. Толькі таму, што Туравец добра ведаў дарогу, ён ішоў не збіваючыся.

Падыходзячы да лагера, ён яшчэ здалёк пачуў там гоман. Хутка выдзеліліся ў шуме асобныя мацнейшыя галасы, але ніводнага слова, як ён ні стараўся ўлавіць, нельга было разабраць. Што гэта значыць? Звычайна ў гэты час у лагеры было ціха. Нешта, відаць, здарылася незвычайнае.

«Няўжо ж пачалося?» — падумаў ён, узрушваючыся ад радаснага прадчування.

Недалёка ад лагера Тураўца спыніў вартавы. Ён аклікнуў камісара з цемры, зусім нявідны між дрэвамі, і толькі, калі Туравец адгукнуўся, падышоў блізка,

— Чаго гэта, браце, у нас расшумеліся там, як на маёўцы?

— Не ведаю, таварыш камісар... Ды там ужо даўно так,— мусіць, з паўгадзіны... Штосьці дзіўнае робіцца. Эх, а ў мяне як на тое — гэта варта!.. Ды каб хоць змену прыслалі, а то яны могуць і забыцца...

Туравец падаўся да лагера.

Каля зямлянак усюды стаялі групкамі людзі, весела перагаварваліся. Наводдаль нехта заводзіў песеньку,— чалавек, відаць, быў падвыпіўшы. Туравец, не распытваючы нікога, накіраваўся проста да штабной зямлянкі, спадзеючыся пра ўсё даведацца ад Ермакова. Па асобных словах, якія ён лавіў на хаду, камісар ужо здагадаўся, што пачалося наступленне. Ад адной групкі данеслася слова «Віцебск», і ён падумаў, што наступленне ідзе пад Віцебскам. Але ці толькі пад Віцебскам? Камісар ужо не ішоў, а бег.

Акрамя камбрыга, у зямлянцы ціснулася яшчэ некалькі чалавек. Як і ва ўсім лагеры, тут было незвычайна ажыўлена і шумна — гаварылі голасна, перабіваючы адзін другога, смяяліся. Калі камісар увайшоў, увесь гэты тлум на хвіліну сціх.

— Эх ты, інфармбюро! — сказаў Ермакоў з урачыстай усмешкай на паўнеючым твары.— Паведамляў, паведамляў, а самае галоўнае прамаргаў!..

— Пачалося, значыцца?!

— А ты яшчэ не ведаеш? — здзівіўся Габдулін, пазіраючы касымі вачыма чамусьці не на камісара, а на таварышаў.

— Так, камісар, наступленне! — прамовіў Ермакоў. Такім узрушаным Туравец бачыў яго ўпершыню.— Вялікае наступленне. Пад Віцебскам! Трэці Беларускі і Першы Прыбалтыйскі бяруць фашыстаў у «клешчы». З паўночна-заходняга кірунку і з поўдня.

Ермакоў па-ваеннаму адрывіста, з амаль дзіцячай радасцю стаў пераказваць змест зводкі. Камбрыг запомніў яе, здаецца, слова ў слова.

— Віцебск не занялі яшчэ?

— Не, пакуль пра гэта не перадавалі. Але зоймуць!

— Не сумняваюся, Дантон любы!.. Слухай, камандзір,— схамянуўся Туравец,— пры такім выпадку трэба было б мітынг. Сабраць людзей.

— Спазніўся,— адказаў замест камбрыга Дрозд, які моўчкі стаяў сярод камандзіраў.— Мы тут ужо зрабілі... Ды і без мітынгу людзі цяпер самі тое... мітынгуюць...

— А ў другія атрады конных паслалі?

— Паслалі... Я, прызнаюся, на радасці, не здагадаўся, дык прыбег Крайко: «Камбрыг, кажа, загадай людзям давезці гэтую вестку ў іншыя атрады».— «Правільна,— кажу.— Ляці ў «Радзіму». Толькі без лішняга шуму там — каб не перапалохаў уночы ўсіх...» Ён ужо даўно там... А ты яго не сустракаў? — запытаўся Ермакоў. — Не бачыў?... Ты па сцежцы ішоў? І ён тут, не інакш,— як жа вы маглі размінуцца?

— Бачыш, камісар, і тут ты спазніўся. Але ў адным ты ўсё ж не спазніўся.— Габдулін хітравата падміргнуў Ермакову і аднекуль з кутка выняў пляшку самагонкі.

2

Камбрыг раптам схамянуўся,— на твары яго з'явіліся вінаватасць і няёмкасць.

— Табе, Нічыпар Паўлавіч, пашанцавала яшчэ на адзін падарунак... Даруй, што не сказаў адразу. Адгадаеш?

«Які падарунак яшчэ? Можа... пісьмо ад Юрыя, якога ён ужо даўно чакае? Не, напэўна, штосьці іншае»,— падумаў ён, больш за ўсё жадаючы, каб гэта было іменна пісьмо.

— Не, відаць, не адгадаю...

— Ад сына! Вось! — Ермакоў падаў Тураўцу адразу два канверты.— Са штаба злучэння прыслалі...

Камбрыг заўважыў, як здрыганулася працягнутая рука Тураўца. Выраз шчасця, які асвятліў твар камісара ў першы момант, змяніўся непакоем. Туравец, было прыкметна, хваляваўся. І гэта так падзейнічала на ўсіх, што ў зямлянцы адразу стала ціха. Усе сачылі за камісарам. Ён разгарнуў адзін трохкутнік і прагна прабег вачыма некалькі паспешлівых, напісаных зялёным алоўкам радкоў: «Пішу з дарогі... цягнік вязе нас у той бок, дзе ты... хутка, напэўна, і я пачну ваяваць... будзем разам...» Туравец стаў чытаць ліст у другі раз, цяпер

павольней, слова ў слова. У скронях горача стукала: «Значыць, і Юрый — на вайне».

Ён думаў пра гэта і з гонарам, што ў яго сын ужо на фронце, і з трывогаю. Любы хлопец, хто лепш за мяне ведае, як табе будзе цяжка! І небяспечна. У такія маладыя гады!..

Ён асцярожна адкрыў другі канверцік — пісьмо было напісана тыдні на два раней за першае. Юрый пісаў пра сваё жыццё ў вучэбным палку.

— Юрый — на фронце...— Туравец сказаў гэта спакойна, але многія адчулі, што ён па-ранейшаму ўзрушаны.

Туравец раптам, нібы адганяючы трывогу, рашуча ўзняўся.

— Трэба зайсці ў друкарню. Як там з газетаю, ці ўправяцца надрукаваць да світання? Раён чакае...

— Усё-ткі адну справу мы, выходзіць, празявалі!..— прызнаўся Ермакоў.

Туравец выгнаў. На адзіноце падумаў: «Юрка, мусіць, таксама наступае там...» У друкарні зводку ўжо канчылі набіраць. Рэдактар газеты нешта пісаў на лістку. Лісток быў увесь перакрэслены.

— [1] Нічога не атрымліваецца,— сказаў у роспачы рэдактар, як толькі ўбачыў камісара.— Не магу! У сэрцы — агонь, а тут пустата! Пратакол! Квас!..

Камісар сеў за столік. Туравец быў добрым прамоўцам, і яго палкія, разумныя выступленні моцна дзейнічалі на людзей. З алоўкам у руцэ ён адчуваў сябе менш упэўнена, — на паперы словы, здавалася, трацілі частку запальнай сілы. Акрамя таго, тут трэба было напісаць коратка, вельмі сцісла, пра галоўнае. Як у маўклівых, скупых словах выказаць тое агромністае, багатае пачуццё, якое ў ім жыве?

Так, газетчык гаворыць праўду — патрэбны нейкія асаблівыя словы... Туравец некалькі разоў пачынаў, але, напісаўшы два — тры радкі, закрэсліваў.

Нарэшце, яму прыйшло: «Збылося! Гэтага дня мы чакалі тры доўгія гады, чакалі з нязгаснай вераю ў дапамогу Радзімы, роднай арміі...» У яго памяці прайшлі ўрыўкамі гэтыя тры гады — апошнімі ажылі чорныя дні блакады.

Успомнілася Ніна,— дзе яна, што з ёй? Ніна, Ніна!.. Якія пакуты трываеш ты, можа, у гэтую хвіліну? Эх, як не пашанцавала! Так, цяжкія і вялікія былі гэтыя тры гады!

Туравец адчуў, што знайшоў тое самае глыбокае, самае важнае. Пісаць стала лягчэй.

— Бяры,— аддаў ён лісток рэдактару,— і хутчэй, як мага хутчэй друкуй нумар.

Вышаўшы з зямлянкі, камісар спыніўся. Плыла ноч, звычайная, падобная на многія ночы. Недзе ўзышоў месяц, але ў лесе яго яшчэ не было відаць; пра тое, што месяц узышоў, можна было здагадацца па блакітных водсвітах, якія плаўна варушыліся на верхавінні дрэваў, ды па тым, як усё навокал пасвятлела. У прагалінах мігалі няяркія зоры.

Туравец уявіў — недзе пад Віцебскам грымяць гарматы, сціхаюць пажары ў першых вызваленых вёсках, са сховішчаў выходзяць жанчыны і дзеці... Ён амаль убачыў Юрыя: ідзе па вуліцы вёскі, абветраны, стомлены, рашучы... Рука бацькі пяшчотна дакранулася да правай кішэні гімнасцёркі, дзе ляжалі складзеныя абодва канверты. Захацелася зноў узяць лісты і перачытаць іх...

Як ён, Юрый, хутка вырас. Здаецца, не так даўно гадзінамі біўся над просценькімі арыфметычнымі задачамі, з радасцю сустракаў у піянерлагеры бацькоў, з якімі не бачыўся цэлы тыдзень.

Ці даўно перажываў ён, што не падышоў у школьнай камандзе на варатара. Рост малы! Туравец успомніў, як сын захапляўся ў школе футболам... Юрка тады знайшоў сваё месца ў абароне, ён стаў добрым цэнтрам абароны — хуткі, спрытны, увішны.

Маці яго часта дакарала: дзе абутку набрацца. Ды і бацьку былі клопаты: і раней Юрый быў «сярэднім» вучнем, а цяпер часта стаў прыносіць троечкі...

Успомніліся паездкі на паляванне. Для Юркі гэтыя паездкі — калі бацька браў яго з сабою — былі цэлым святам. Як ён любіў хадзіць са стрэльбай па лесе, упарты, цярплівы, як любіў спаць з паляўнічымі каля агню! Колькі тады трывог было маці: каб не прастудзіўся, каб не параніў сябе...

Ці даўно гэта было? А сёння Юрка ўжо салдат...

Вось яна, настала і твая салдацкая пара. «Будзь жа сапраўдным салдатам, сынок».

«Будзь шчаслівы, Юрка!..»

Туравец падумаў, што і ім неабходна перайсці ў наступленне. «Мы ж таксама стаім на Мінскім напрамку». Трэба пагаварыць з Ермаковым!

Але, калі ён ступіў у зямлянку, то ўбачыў, на стале, за якім схіліўся камбрыг, ляжыць карта і Ермакоў нешта вылічвае запалкаю. На адным канцы карты, каб яна не тапырылася, стаяў карэц, з якога нядаўна пілі гарэлку.

Камандзіры, што былі поруч, перагаварваліся і таксама разглядвалі карту.

— Падарунак хачу зрабіць Чырвонай Арміі. Да сустрэчы... Сядай, камісар, далучайся...

3

Як гэта сталася, Васіль і сам добра не ведаў. Ён павінен быў ехаць у атрад, каб перадаць весткі з фронта.

Атрымаўшы даручэнне, Вася адразу ўскочыў на каня і паімчаў... Хлопец проста зямлі не чуў пад сабою, разумеючы, якую вестку яму трэба перадаць людзям.

Шчаслівы, забыўшы ад радасці, здаецца, усё, ён, калі ехаў у атрад, нечакана для сябе звярнуў на вузкую звілістую сцежку, што вяла ў шпіталь. Хіба мог ён абмінуць Валю? Як жа ён праедзе, не падзеліцца такой радасцю раней за ўсіх з ёй?

Можа, і дзіўна, але ў тыя хвіліны Вася зусім забыўся пра тое, што «з ёю ўсё скончана», як ён думаў амаль увесь гэты месяц. Яна ўяўлялася яму зноў такою, якою ён ведаў раней — блізкаю, любаю — нібы і не было ніякага разладу.

Ён падляцеў да яе зямлянкі і, саскочыўшы з каня, пастукаў пальцамі па невялічкай квадратнай шыбе.

— Валя, Валя,— ён паправіўся: — Залеская!

Вася адступіўся ад акенца і стаў нецярпліва чакаць. «А можа, яе тут няма?» — затрывожыўся раптам хлопец. Сапраўды, чаму ён думае, што яна абавязкова ў зямлянцы, а не на дзяжурстве? Але тут дзверы адчыніліся, і Вася пазнаў: яна! Яе постаць добра акрэслівалася ў блакітным месячным святле.

— Хто тут? Ты?! — голас дзяўчыны задрыжаў, але ў наступную хвіліну ў ім пачуліся ўжо халаднаватыя ноткі: — Што гэта такое раптам прывяло... вас... уночы?..

Вася, узрадаваны, усхваляваны, нават не заўважыў ні гэтага халадку, ні «вас».

— А вось адгадай! Адгадай!

Дзяўчына па голасу адчула, што адбылося нешта незвычайнае, але што іменна, не магла здагадацца.

— Што?.. Скажы што, Вася?!.

— Вялікая навіна! Т-такая навіна!..

Валя схапіла яго за руку, сціснула сваёй тонкай мяккай далонькай.

— Пачалося?!

Яна і прасіла і патрабавала адразу. Хіба мог Васіль прымушаць яе рабіць здагадкі, бачачы нецярплівасць дзяўчыны?

— Ну, праўда! Пачалося наступленне — пад Віцебскам. Прарвалі абарону на фронце працягам трыццаць кіламетраў і прабіліся ад 12 да 15 кіламетраў у глыбіню!

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Па радыё прынялі... — і ён, бязмерна шчаслівы, выпаліў, што. занялі больш за сто населеных пунктаў, горад Шуміліна вызвалілі, перарэзалі дарогі на Полацк і на Віцебск!..

— Ух, як многа! — прамовіла ціха Валя і раптам заплакала. Васю гэта крыху збянтэжыла.

А ўжо нехта другі прыбег са штаба і апавясціў на ўвесь шпіталь: «Пачалося наступленне!» Ціхі лясны пасёлак адразу заварушыўся. Непадалёк сталі збірацца натоўпам людзі: «Дзе... якое наступленне?! Орша?!» — крыкнуў хтосьці, бегучы паўз Валю да шумлівага натоўпу.

Вася адразу апамятаўся,— яго чакаюць у атрадзе. Да таго ж вестку пра наступленне можа прынесці туды таксама хто-небудзь іншы. Як будзе сорамна, калі ён спозніцца!

— Валя, я паеду! Мне трэба ў «Радзіму»...

Вася, не развітваючыся, адразу падаўся адсюль.

Валя здагнала яго, схапіла за руку і, не выпускаючы яе, лёгка і хутка, амаль уподбег, пайшла поруч.

— Будзе мне ад Ермакова! Пападзе на арэхі! — весела гаварыў хлопец.— Не папала за баявыя справы, дык пападзе за гэта.

— Нічога не будзе,— адказала лагодна і ўпэўнена яна. Валя часта гаварыла з ім быццам старэйшая — яна любіла папраўляць яго, пераконваць, запэўняць, як чалавек больш вопытны.

— Які ты слаўны, што зрабіў так!

У гэтыя хвіліны ён быў вельмі шчаслівым чалавекам.

Любоў, якая прынесла яму столькі горкіх дзён, за хвіліну прымусіла яго пра ўсю горыч забыць.

Ён спрытна ўскочыў на каня і, не азіраючыся, паімчаўся да атрада.

## Раздзел III
### I

Чарняхоўскі быў у асаблівым, нібы святочным, настроі, што прыходзіць, калі наступіў час, які даўно чакаеш, калі ведаеш, што гэты час вельмі важны.

Гэты настрой да Чарняхоўскага з'явіўся, калі пачалася артпадрыхтоўка, і ён з іншымі генераламі вышаў з бліндажа наверх. Навокал білі гарматы,— і наперадзе, і з бакоў, і з-за ўзгорка. Ззаду была

цяжкая батарэя, і яе снарады праносіліся над КНП, нячутныя ў грукаце, які лютаваў навокал.

Узыходзіла сонца. Яно асвятляла чырвонымі праменнямі грукатлівую, дымную зямлю. Адсюль з вышыні 208,5 далёка, на многія кіламетры, віднеўся прасцяг, на якім яшчэ таіўся вораг.

Учора там была цішыня, маўкліва цягнуліся рады дротавых загарожаў, лініі траншэй, хадоў злучэння.

Цяпер на ўсім гэтым прасторы ўздымаліся, ускідваліся, паўзлі незлічоныя хвалі дыму. Яны зліваліся, гусцелі, а ў сярэдзіне іх увесь час там і тут успыхвалі агні.

На варожыя пазіцыі паплылі эскадрыллямі самалёты, якія хутка пачалі разварочвацца, выстройвацца ў рад, і тады над дымам артылерыйскага валу ўзняліся хмары ад выбухаў бомб... Гэта было выдатнае відовішча. Артылерыя ўсё працавала і працавала, і агні, і дым наперадзе ўсё ўскідваліся і ўскідваліся. Не згасаючы, не слабеючы, кіпела, лютавала агромністая спапяляючая бура агню, зямлі і дыму.

Самалёты ішлі хваля за хваляй: ледзь адна група адбамбіцца, як яе змяняе наступная. Неба, здавалася, варушылася.

Гордасць, вялікую салдацкую гордасць адчуў камандуючы, калі ён убачыў, як узнялася пяхота, узнялася на ўсім неабсяжным абшары. Рушылі, пайшлі таварышы, сябры!

Вярнуўшыся пасля артпадрыхтоўкі ў бліндаж, Чарняхоўскі яшчэ доўга быў напоўнен цудоўным адчуваннем сілы сваёй арміі, роднай краіны, адчуваннем, якое многа разоў узнікала ў яго і раней, але цяпер ажыло з асаблівай сілай.

І як ні дзіўна, разам з гэтым пракраўся неспакой,— камандуючы мімаволі трывожыўся ад ведання, што зараз будзе вырашацца лёс таго, чаму столькі аддадзена сілы, часу, розуму.

Гэта была першая яго аперацыя такога размаху. Чарняхоўскі быў самым маладым з камандуючых франтамі, маладым і па гадах і па вайсковай біяграфіі. Якіх-небудзь два гады назад, у маі сорак другога, ён быў палкоўнікам, камандзірам танкавай дывізіі. Ён яшчэ ніколі не камандаваў фронтам, не даводзілася яму працаваць да гэтага нават у штабе фронта,— у яго зусім не было вопыту работы ў такім вялікім маштабе.

Чарняхоўскі прышоў сюды, маючы практыку ў камандаванні толькі арміяй, і вось тут адразу суджана было яму весці падрыхтоўку да такой вялікай аперацыі, а з учарашняга дня і кіраваць ёю.

Хоць Чарняхоўскі быў ад прыроды моцным і вясёлым чалавекам, і хоць ён і цяпер здзіўляў сваёй жыццярадаснасцю ўсіх, хто яго бачыў у гэты час, ён усё ж хваляваўся, тоячы свой неспакой у сабе.

Штосьці падобнае Чарняхоўскі некалі адчуваў у Бабруйску, прыехаўшы туды з Акадэміі на стажыроўку. Яго, курсанта, назначылі тады начальнікам апераддзела танкавай дывізіі, і яму давялося распрацоўваць аперацыю па фарсіраванню дывізіяй Бярэзіны. Гэта была, як тады здавалася, вельмі сур'ёзная задача. Такое ж хваляванне было многа пазней — пад Шаўляем, у першыя дні вайны... Не, усё тое цяпер уяўлялася проста дробяззю ў параўнанні з тым, што яму цяпер выпала рабіць...

Пад канец другога дня ў становішчы фронта, які наступаў адначасова на некалькіх участках, многае ўжо змянілася.

Вораг адыходзіў пад Віцебскам, дзе войскі фронта ўзаемадзейнічалі з Першым Прыбалтыйскім, адступалі немцы і на Багушэўскім напрамку. На гэтым напрамку наступленне развівалася асабліва ўдала: тут ужо сёння ў прарыў пачалі ўваходзіць танкі Ротмістрава і Абухава, конніца Аслікоўскага. Ім належала рушыць на захад, разрываючы варожы фронт напалам.

Ішлі баі і на Аршанскім кірунку: на Мінскай магістралі, а таксама на Аанаўскіх балотах, дзе наступаў Галіцкі. Гітлераўцы былі пераканааны, што нашы часці будуць біць перш за ўсё ў раёне магістралі,— там абапал яе асабліва старанна ўзводзіліся рад за радам умацаванні, яна ўся шчэрылася амбразурамі бетаніраваных дотаў. Балоты немцы менш умацоўвалі: тут рускія не пойдуць.

А іменна ў гэтых балотах і быў нанесены моцны ўдар у кірунку Оршы, і, хоць наступаць было вельмі цяжка, Чарняхоўскі ўсё ўзмацняў націск...

— Генерал-лейтэнанта Галіцкага,— сказаў камандуючы, зняўшы тэлефонную трубку.

Ён папрасіў Галіцкага далажыць, як ідуць справы ў кірунку Арэхі — Выдрыца.

Галіцкі адказаў, што часці, хоць і паволі, па-ранейшаму прабіваюцца наперад: ён назваў пункты, дзе цяпер знаходзяцца яго перадавыя падраздзяленні. Чарняхоўскі, слухаючы яго, нават не зірнуў на карту,— ён добра помніў на ёй кожны ручай і кожны гаёчак.

Галіцкі дадаў, што праціўнік амаль на кожным кроку контратакуе. Асабліва прыйшлося паваждацца, вызваляючы сяло Востраў-Юр'еў. Да гэтага «вострава», акружанага балотамі, падступіцца было цяжка, яшчэ цяжэй давялося браць яго, а потым гітлераўцы не давалі перадыху, спрабуючы вярнуць сяло. Колькі яны пяхоты паклалі каля гэтага «астраўка», пакуль не адагналі іх далей!..

Чарняхоўскі з удзячнасцю падумаў пра пехацінцаў Галіцкага,— яго ўжо не раз радавала вялікая самаадданасць і настойлівасць пяхоты. Але пра свае думкі аб пяхоце ён камандуючаму арміяй не сказаў нічога: не трэба супакойваць.

Чарняхоўскі загадаў, каб пяхота паскорыла тэмп наступлення...

Скончыўшы гаварыць, Чарняхоўскі загадаў перакінуць да Галіцкага яшчэ некалькі эскадрылляў штурмавікоў...

Неўзабаве з-пад Віцебска пазваніў Людтнікаў. Ён далажыў, што левы фланг яго злучэння падышоў да Астраўно. Чарняхоўскага гэта вестка парадавала: гітлераўцам, якія чапляліся за Віцебск, быў закрыт шлях адыходу на паўднёвы захад.

— Выходзьце зараз жа ў раён Гняздзілавіч! — сказаў камандуючы. — Закрывайце ўсе шляхі адыходу ворагу, забіце апошнія шчыліны, праз якія ён можа выслізнуць. Ды забіце мацней, надзейна!

— Зробім, таварыш генерал-палкоўнік, моцна заб'ём.

Другія часці Людтнікава, тыя што былі на правым флангу, ужо вялі баі пры ўсходніх ускраінах Віцебска...

Абмеркаваўшы справы з Людтнікавым, Чарняхоўскі гукнуў Камарова, але паручэнца блізка не аказалася.

Камароў быў у члена Ваеннага Савета. Генерал Емяльянаў з сярдзітым выразам на гладкім твары запытаўся:

— Алёша, ты ведаеш, што здарылася няшчасце?.. Брат камандуючага Аляксандр загінуў...

— Падпалкоўнік Чарняхоўскі? Калі?

— Толькі што званілі з корпуса... Як ты думаеш,— камандуючы яшчэ не ведае?

— Здаецца, не...

— Не гавары пакуль, Алёша. Я папрасіў корпус, каб адтуль таксама нічога не перадавалі... Трэба пачакаць, Алёша... У яго, у Івана Данілавіча, цяпер, ты ведаеш — столькі работы, так напружаны нервы, што мы павінны паберагчы яго... Разумееш?

— Разумею, таварыш генерал.

Калі Камароў вярнуўся, Чарняхоўскі размаўляў з Баграмянам. Па выразу твару камандуючага паручэнец адзначыў: «Не ведае яшчэ»...

Чарняхоўскі звязаўся з Баграмянам, каб высветліць, як ідзе наступленне пад Віцебскам у часцях Першага Прыбалтыйскага, якія павінны сысціся з левым флангам войск Людтнікава каля Гняздзілавіч.

— Рад чуць вас, дарагі генерал, і вельмі цікаўлюся, з якімі вы навінамі да мяне? — весела адгукнуўся Баграмян.

— Я хацеў тое ж даведацца ад вас, таварыш камандуючы, але так і быць — скажу першы... Войскі Трэцяга Беларускага ўжо каля Астраўно. Пад самым Астраўно.

— Гэта добра. Рад за вас, генерал.

— Ад Астраўно да Гняздзілавіч — восем кіламетраў,— напомніў Чарняхоўскі. — Але гэта не самая блізкая адлегласць між войскамі фронта і Гняздзілавічамі, таварыш камандуючы... Не спозніцеся?

— У мяне ёсць весткі, што пяхота Прыбалтыйскага ўжо на самым беразе Дзвіны, за дзве сотні метраў ад Гняздзілавіч...

— За ракой?

— Так, у гэтым месцы — за ракой. Але Дзвіна ўжо фарсіравана, у нас на паўднёвым беразе ёсць рад плацдармаў, на ўсход ад Гняздзілавіч...

— Дзе?

Камандуючы Першага Прыбалтыйскага фронта адказаў.

— Значыцца, я вас так разумею, аперацыя разгортваецца ў вас добра, і вы не спозніцеся?

— Не спознімся.

— Дзякую, таварыш камандуючы, за добрыя весткі.

— Вас таксама, — адказаў Баграмян.

Паклаўшы трубку, Чарняхоўскі зірнуў на ручны гадзіннік.

— Генерал-маёра Івалгіна,— папрасіў ён ад'ютанта. — Скажыце, няхай возьме сутачныя данясенні і зводку...

Генерал-маёр, шчуплы, з акуратна паголенай галавой, з дабрадушнымі ўсмешлівымі вачыма, падаў камандуючаму карычневую каленкоравую папку.

— Усё падрыхтавана?— Чарняхоўскі раскрыў папку, запрасіў: — Сядайце, генерал, сядайце вось тут, поруч — паглядзім, што тут у нас атрымалася.

Ён стаў уважліва чытаць уголас зводку, раз перапытаў генерал-маёра, ці не завышаныя тут весткі, ці правераныя яны, і, толькі пачуўшы адказ, што ўсё гэта праверана, зноў схіліўся над паперай. Паправіў акуратна заточаным алоўкам адну фармуліроўку. Камандуючы любіў дакладнасць ва ўсім і праўдзівасць, тым больш у гэтай зводцы.

Прачытаўшы ўсё, ён паглядзеў у вочы генерал-маёру і неспадзявана сказаў:

— Як вы думаеце, Пётр Іванавіч, усё добра ідзе ў нас?

— Я думаю, нармальна, таварыш генерал... Пачатак, я лічу, удалы...

— Я хацеў бы ведаць вашу думку пра нашы хібы, якія маглі выявіцца цяпер? Ці ўсё добра ў нашых разліках?

— Хібы?..

— Вось-вось, пра хібы падумайце!..

Генерал-маёр нічога больш не сказаў: ён разумеў клопат камандуючага...

Ужо было апоўначы, калі Чарняхоўскаму паведамілі, што зараз будуць перадаваць загад войскам яго фронта.

У пакойчыку, дзе быў устаноўлен маленькі рэпрадуктар, сабралася некалькі генералаў і афіцэраў. Калі камандуючы ўвайшоў туды, ужо гучалі пазыўныя Масквы, за імі пасля невялічкай паўзы пачуўся голас дыктара, які аб'яўляў загад.

Слухаючы, Чарняхоўскі стаяў каля сваіх таварышаў, памаладзелы, поўны радасці за свой фронт, за сваіх камандзіраў.

Ледзь у Маскве адгрымелі залпы і сціх гімн, Чарняхоўскага сталі віншаваць.

— Дзякуй усім,— сказаў ён.

Пацiснуўшы рукі афіцэрам і генералам, Чарняхоўскі прыслухаўся — у баку пярэдняга краю гупалі важкія выбухі, і падлога, як і раней, прыкметна ўздрыгвала.

Сочачы за ім, за яго рухамі, усе таксама сталі слухаць.

— Не сціхае!.. — Чарняхоўскі правёў позіркам па тварах падначаленых дзіўным, нібы запытальным позіркам.

Ён намерыўся ўжо ісці, але, як бы ўспомніўшы штосьці важнае, спыніўся.

— Адзін разумны рускі чалавек... — загаварыў ён з інтымнай мяккасцю, — неяк сказаў: усе мы народ, і ўсё тое лепшае, што мы робім, ёсць справа народная...

Ён рашуча павярнуўся да выхаду: — Прашу ўсіх вярнуцца на месцы.

Крыху пазней Чарняхоўскаму далажылі, што войскі Люднікава і Белабародава сышліся каля Гняздзілавіч і што, такім чынам, віцебская групіроўка ворага поўнасцю акружана. Чарняхоўскі загадаў пачаць зараз жа знішчаць акружаныя часці.

— Рассякайце на часткі, драбніце! Біце па частках! — ён энергічна махнуў рукой, быццам паказваў, як трэба рассякаць. — Каб ніводзін не вылузнуўся... Пры гэтым помніце, што час не церпіць, што таптацца доўга тут нам ніхто не дазволіць. Трэба дзейнічаць энергічна і хутка! — Скончыўшы размову з Люднікавым, ён выпрастаўся і сказаў да члена Ваеннага Савета фронта, які якраз увайшоў сюды:

— Ну, вось, Васіль Макаравіч, магу парадаваць, першы «беларускі кацёл» гатовы!.. Толькі што гаварыў з Люднікавым.

— Акружылі ўжо, Іван Данілавіч? Колькі ўсяго ў катле?

— Пяць дывізій...

Чарняхоўскі назваў іх нумары.

2

Блізка, зусім блізка, наперадзе бухалі нашы гарматы, якія стаялі каля вышыні 208,5. Дашчаныя сцены, падлога і столік у бліндажы-пакоі камандуючага ўздрыгвалі.

За гэты час на другіх участках нашы прайшлі ўжо далёка наперад, а тут, перад КНП, нібы знарок, усё яшчэ бухала, як і раней...

Чарняхоўскі не раз выходзіў на назіральны пункт; ён бачыў дзесяткі спаленых і падбітых танкаў, што сумна чарнелі непадалёк. Бачыў стаі штурмавікоў і бамбардзіроўшчыкаў, якія сыпалі бомбы на праціўніка.

Палкі і дывізіі, што па некалькі разоў за дзень кідаліся ў атакі, хутка радзелі і вымушаны былі лажыцца.

Данясенні казалі пра вялікія страты ў раёне магістралі.

Усё гэта вельмі непакоіла Чарняхоўскага. Затрымка тут адбівалася на развіцці ўсяго наступлення фронта, бо забірала і прымушала таптацца на месцы частку войск. Акрамя таго, яна зрывала захоп важнейшай камунікацыі.

З інакшым пачуццём Чарняхоўскі сачыў за тым, як ішлі баі пад Багушэўскам, у Віцебску, на Аанаўскіх балотах.

Абстаноўка амаль няспынна змянялася. Яго захаплялі гэты рух, гэтая імклівая зменнасць, у якіх адчувалася вялікае бурлівае жыццё войск. Працуючы, ён не стамляўся, а, наадварот, адчуваў нейкі светлы ўздым.

Адсюль, з КНП, у амбразуры было відаць столькі, колькі і з КП якой-небудзь дывізіі. Але жылі тут значна большымі справамі.

Пульс агромністай, складанай бітвы даносілі сюды і тэлефонныя правады, і шыфраваныя радыёграмы, і афіцэры сувязі... Камандуючы ведаў тое, што адбывалася за многія дзесяткі кіламетраў ад КНП, па ўсім фронце, ведаў так, быццам гэта было перад яго вачыма.

— Развівайце поспех дывізіі! — гаварыў ён заклапочана па тэлефоне, выпрастаўшыся на ўвесь рост, прыжмурыўшы вочы. — Узмацніце яе — артылерыяй і танкамі... яе поспех адкрывае перад вамі добрыя перспектывы... вы дарэмна недаацэньваеце яго...

— Вы не баіцеся за свой левы фланг? Не? Дарэмна. За яго трэба баяцца,— ён у вас кепска прыкрыт,— папярэджваў ён пазней. — Што — рызыка добрая справа? Я згодзен з гэтым, але рызыка павінна быць разумнай, — а тут ужо не рызыка, а проста легкадумнасць.

Тактыка на «авось»... — і раптам строга: — Прыкрыйце фланг. Зараз жа...

— Вы не выконваеце задачы, топчацеся! Так, топчацеся, бо вы недастаткова энергічна прабіваецеся, вы адстаеце ад суседа. А сілы ў вас досыць, каб пагнаць,— як належыць, пагнаць праціўніка!.. Вы мала манеўруеце!..— і Чарняхоўскі падказваў рашэнне задачы.

Так гадзіна за гадзінай. Хоць камандуючаму ўжо трэцюю ноч амаль не даводзілася спаць, ён пачуваў сябе добра. У галаве была незвычайная яснасць, — такая чыстата і спрыт думак, якія здараюцца толькі ў час асаблівага натхнення, уздыму, — хацелася працаваць і працаваць. Як ён мог думаць пра сон, пасля салюта, у той час, калі чуў напружаны подых бітвы, ведаў, што войскі б'юцца...

Камандуючаму часам хацелася спяваць, — стоячы каля карты, склеенай з некалькіх лістоў, ён сам сабе заклапочана паціху мармытаў мелодыю «Узяў бы я бандуру...»

Доўга абследаваў вачыма лініі дарог, вілюжыны рэк і рачулак, блакітныя плямы балот, — мімаходам зрабіў некалькі новых адзнак: з апошніх вестак. Адзначыў, дзе цяпер знаходзяцца танкі Ротмістрава і коннікі Аслікоўскага...

Орша... Мінская магістраль...

Ён хвіліну пазіраў туды, дзе шасэ перасякала фронт, — пярэдні край ворага тут цяпер выдаваўся рэзка ў наш бок. Абапал шасэ чапляўся за шматлікія ўмацаванні фашысцкі генерал Траут са сваёй адборнай 78 штурмавой дывізіяй.

Чарняхоўскі энергічна, з націскам акрэсліў гэты выступ, падумаў нецярпліва і трывожна, як звычайна, і ўжо са злосцю: дакуль жа гэты цвердалобы гітлераўскі крот будзе трымацца?! Ён стаў уважліва разглядаць размяшчэнне войск Глаголева, якія наступалі з паўднёвага боку магістралі. У тым, як камандуючы аднёсся да ўпартасці Траута, адчувалася, што ён усё ж упэўнен: гітлераўцу на магістралі засталося нядоўга сядзець.

На наступны дзень Галіцкі далажыў, што яго часці прарвалі апошні тылавы рубеж варожай абароны на поўнач ад магістралі.

— Добра. Папрадавалі як трэба! — пахваліў хоць скупа, але ад душы і генерала і пехацінцаў Чарняхоўскі. Хто-хто, а камандуючы фронтам ведаў, што значыла прарваць гэтыя тры рубяжы. Ён мільгам успомніў Шчарбацюка, прыгадаў Праворнага, з якімі яму даводзілася бачыцца не так даўно. Яны таксама ўсе гэтыя дні прабіваліся праз рады траншэй і балоты.

Войскі Галіцкага цяпер павінны былі павярнуць на поўдзень, у бок Оршы. Чарняхоўскі дакладна дамовіўся, калі яны падступяць да

горада, стаў распытваць, як ідзе забеспячэнне перадавых часцей боепрыпасамі і прадуктамі.

Адразу пасля гэтага Чарняхоўскі выклікаў па тэлефоне камандуючага бранятанкавымі войскамі і загадаў увесці ў прарыў гвардзейскі корпус.

Задача, якую ён ставіў танкістам, была вельмі цяжкая. Ісці трэба будзе па забалочаных мясцінах, выбіраючы паўразбураныя грэблі, насыпы вузкакалеек, сцелючы фашыны. Але затое, што зробіць гэты корпус, прарваўшыся на прастор, калі ён ударыць па варожых пазіцыях у Оршы з захаду!..

У пакой увайшоў ад'ютант і прынёс лісткі з аператыўнымі зводкамі з другіх франтоў, і Чарняхоўскі адразу стаў чытаць.

У гэтыя перапоўненыя цераз край клопатамі дні ён стараўся сачыць за тым, што робіцца і ў Захарава, і ў Ракасоўскага, які другі дзень ужо вёў наступленне. Тое, як суладна развіналі баі цэлыя чатыры франты, разламваючы абарону праціўніка на розных кірунках, як умела ўзаемадзейнічалі войскі ў гэтай гіганцкай аперацыі, дзе столькі людзей і тэхнікі, радавала і акрыляла Чарняхоўскага.

Калі танкісты перабраліся праз Аанаўскія балоты, яны адразу хутка рушылі на поўдзень, абходзячы Оршу. Чарняхоўскі ўважліва сачыў за імі, як і за тымі, што ішлі на Талачын.

З аператыўнага ўпраўлення Чарняхоўскаму паведамілі, што, мяркуючы па радыёперахватах, у праціўніка ў раёне магістралі пачалася паніка.

Тут генерал Емяльянаў рашыў, што настала пара паведаміць, нарэшце, тое, што ён адкладваў.

— Іван Данілавіч, — сказаў ён са спачуваннем,— я вам павінен перадаць сумную вестку. Ваш брат Аляксандр Данілавіч загінуў...

— Саша? — перапытаў Чарняхоўскі, нібы не разумеючы.— Адкуль вам вядома?

— Мне паведамілі з корпуса. Акрамя таго, я гаварыў таксама з брыгадай...

— Калі ён загінуў?

— Пазаўчора...

— Чаму мне не паведамілі раней?

— Гэта, Іван Данілавіч, па маёй просьбе...

Чарняхоўскі паглядзеў на генерала доўгім позіркам, памаўчаў, потым, стомлена апусціўшыся на стул, папрасіў:

— Раскажыце, пры якіх абставінах ён загінуў.

І ўвесь час, пакуль член Ваеннага Савета гаварыў, Чарняхоўскі моўчкі пазіраў у адну кропку на карце, разасланай на стале. І пасля, калі ўжо Емяльянаў скончыў, таксама маўчаў.

— Іван Данілавіч, на пахаванне — вы не паедзеце?

Чарняхоўскі як бы ажыў. На хвіліну задумаўся. Сказаў са шкадаваннем, але цвёрда:

— Не. Не змагу.

Увайшоў генерал-маёр Івалгін, перадаў Чарняхоўскаму, што Траут пачаў адыходзіць у бок Оршы.

— Не вытрымалі нервы ў гітлераўца! — стрымана пайранізаваў Чарняхоўскі, — сядзеў, чапляўся — і усё ж не вытрымаў...

— Ён адкрыў, таварыш генерал, фланг свайго суседа, які стаіць з поўдня магістралі!

— Ну, што ж, гэта — прыемны сюрпрыз Глаголеву,— сказаў Емяльянаў. — Трэба перадаць яму!..

Чарняхоўскі зняў трубку тэлефона, папрасіў звязаць яго з Глаголевым...

З гэтай пары перасталі біць гарматы каля вышыні 208,5, дзе быў КНП фронта.

Чарняхоўскі вышаў з бліндажа.

Пачынала ўжо днець, сонна пракрычала непадалёк нейкая птушка.

Чарняхоўскі адчуў, як асвяжае чыстае ранішняе паветра. Паволі адыходзіла змора. Але на душы яго было цягуча, даўка.

«Саша»,..

Згадалася далёкае-далёкае. Калі хавалі маці, Саша-маленькі некалькі дзён сумаваў па ёй. Яму сказалі, што маці паехала ў горад: «прывязе табе хлебца», ён верыў і ўсё пытаўся — калі ж яна вернецца?..

Урыўкамі ўспаміналіся сустрэчы. Іван усе гады, пакуль Саша вучыўся, дапамагаў яму — пасылаў грошы, даведваўся пра поспехі ў вучобе, даваў парады. Аднойчы строга выгаварыў брату, — гэта было ўжо на фронце, калі дачуўся, што Саша часам п'е...

Усё, што прыходзіла на памяць, цяпер выклікала журботу. «Апошні раз ён не застаў мяне. Не ўбачыліся, і цяпер ўжо — не ўбачымся»...

Прайшоўшы крыху, Чарняхоўскі заўважыў у ранішняй шэрані, як здымалася з пазіцый артылерыя. Туркаталі цягачы, часам даходзілі сюды вясёлыя воклічы.

Тры дні назад тут усюды стаялі гарматы, а ў лагчыне, крыху наводдаль, — танкі. Цяпер усё вакол пусцела, але гэтая спусцеласць выклікала не сум, а радавала.

Страляніна была далёка. І камандуючаму захацелася таксама: хутчэй бы пайсці адсюль і яму, яго штабу.

Услед за войскамі, у той бок...

## Раздзел IV

### I

Вакол быў змрок. Дарога ў ім віднелася цьмяна-шэраю ручаінаю. Аляксей Лагуновіч, седзячы на вежы, спусціўшы ногі ў сярэдзіну яе, з уздымнай радасцю бачыў, як плыла і плыла гэтая ручаіна, як абапал праходзілі цёмныя, ледзь відныя дрэвы, кусты, падобныя ў змроку на копы сена. Часам шэрая ручаіна надоўга прападала, і машыну пачынала больш звычайнага кідаць ва ўсе бакі: батальён ішоў наўпрасткі па полі...

Гром пярэдняга краю паступова аддаляўся, і агністыя ўсплёскі выбухаў станавіліся падобнымі на зарніцы. Танкі ўсё глыбей увalthodзілі ў тыл ворага. Вакол іх на многія кіламетры зямля была мініравана, і яны строга трымаліся абазначаных сапёрамі кірункаў.

У Аляксея была трывожная насцярожанасць, якая ўвайшла ў яго душу пасля таго, што ён убачыў, праходзячы прарыў. На выпаленай зямлі, каля разварочаных траншэй, нерухома чарнелі прабітыя, узарваныя, згарэлыя танкі. Іх было многа. Аляксей чуў добра знаёмы горкі пах гары, які заўсёды выклікаў у яго непакой. Колькі іх, сяброў незнаёмых, такіх жа танкістаў, палегла там?!

Разам з тым у старшага лейтэнанта жыла радасць. Радасць не толькі таму, што ён вёў свае машыны па роднай зямлі, а і таму, што — ён лічыў — бадай самае цяжкае ўжо зроблена. Тое, што гітлераўцы старанна будавалі цэлага паўгода, разламана, скарэжана.

Было чаму радавацца старшаму лейтэнанту. Вось і надышла пара, якую ён так доўга чакаў!..

Аляксей усе гэтыя дні жыў тым добрым настроем — прылівам, калі хочацца працы, клопату, калі невядома адкуль бярэцца сіла, калі забываецца, што такое стома. Хацелася імчаць як мага хутчэй, імчаць без упынку.

Усё ж, як чалавек, што прабыў доўгі час на фронце і прывык прабіваць сабе шлях боем, Аляксей стараўся не захапляцца лішне. Ён ведаў: дарога будзе не лёгкая. Нават тое, што пачатак наступлення быў удалы, яшчэ не значыла, што ўсё будзе добра і далей. Ён даўно

прызвычаіўся чакаць у баі ўсякую неспадзяванасць і таму не ўмеў сябе цешыць надзеямі-падманкамі. Хто можа сказаць, як далёка ўдасца адагнаць гэту навалач? Да таго ж, — калі і дойдзем да Мінска, — што там чакае яго? Ды і што станецца з ім, у гэтыя дні, ці жывы, здаровы будзе?..

Сярод ночы, глушачы лескатню тракаў, наперадзе раптам гухнуў недалёкі гарматны стрэл. Яшчэ адзін, два адразу... Там была цяпер батальённая разведка. Неўзабаве камбат перадаў, што ў бліжняй вёсцы — на іх шляху — разведка выявіла каля двух узводаў танкаў і самаходак праціўніка. Ён загадаў Аляксею, рота якога ішла ў галаўной паходнай заставе, расчысціць дарогу.

— Зараз жа выступаю, камбат!

Старшы лейтэнант наблізіўся да разведчыкаў. Адзін іх танк быў падбіты і гарэў.

Аляксей пакінуў свой трэці ўзвод, каб ён вёў перастрэлку з гітлераўцамі, а сам з іншымі машынамі, хаваючыся ў цемры, пачаў па полі абыходзіць вёску справа.

Ён хваляваўся. Прыкра, нервова дрыжалі рукі, у грудзях ныла неспакойнае напружанае чаканне. Вось, ліха на яго, — заўсёды так: варта толькі крыху адвыкнуць ад фронта, як зноў пачынаеш, нібы ў першы раз.

«Не заўважылі б хлопцы».

Яму ўдалося, не стрэліўшы ні аднаго разу, дабрацца да самых агародаў.

У сярэдзіне сяла палала некалькі хлявоў і хат. Полымя кідалася ўгару лютымі агніста-барвовымі грывамі. Ад іх на зямлі лажыліся чырванаватыя, неспакойныя водбліскі. З агародаў было добра відаць усё, што рабілася на вуліцы, на дварах, між абрысамі хат і хлявоў.

Адсюль Аляксей, які стаяў у адкрытай вежы, каб лепш назіраць за наваколлем, убачыў два нямецкія танкі. Яны стралялі па дарозе, хаваючыся за пабудовы. Дзе-ні-дзе ўвішна мітусіліся постаці; з недалёкага двара, выламаўшы плот, на вуліцу выбіраліся два грузавікі.

Аляксей заўважыў гэта амаль адначасова. Ён толькі намерыўся было скамандаваць першыя цэлі — абодва варожыя танкі,— як яго ўвагу захапіла іншае.

З-за хлява, што быў крыху лявей тых пабудоў, за якімі ён назіраў, вынырнуў яшчэ адзін нямецкі танк. Старшы лейтэнант убачыў яго цёмны сілуэт: танк быў павернуты ўжо ў бок нашых машын. Амаль у тую ж хвіліну з танка зыркнуў агонь стрэлу, і поблізу, са свістам рэжучы паветра, шугануў снарад.

Аляксей спрытна шмыгнуў уніз:

— Быстроў, злева, каля хлява...

Старшы лэйтэнант не паспеў скончыць, як яго «трыццацьчацвёрка», бліснуўшы полымем, стрэліла. Быстроў лавіў каманды старшага лейтэнанта так хутка, нібы чытаў яго думкі.

Адначасова з машынай Аляксея стрэліла другая «трыццацьчацвёрка»,— гэта была машына Колышава. Нямецкі танк, не разварачваючыся, стаў адступацца назад, але Быстроў і Колышаў дадалі яшчэ па снараду.

На варожай машыне адразу клубам выбухнуў агонь...

Калі Колышаў убачыў гэта, то спачатку і не паверыў сваім вачам. Няўжо праўда, што ён падбіў танк? Праўда, праўда: вунь жа палае! Ён не памыляецца — палае! Ад снарада, які пушчаны з яго машыны — яго, Колышава! Няхай усе бачаць, як Колышаў уціхамірыў яго. Так ён будзе гаварыць з імі!

Трэба сказаць, што тое, з чым пазнаёміўся Колышаў раней, пакуль ішлі баі на прарыў, зрабіла на яго дваістае ўражанне. Ён адчуў вялізную, дзівосную сілу арміі, у якой быў адной мільённай пясчынкай, і разам з тым ён пабачыў, як усё-ткі цяжка даводзіцца на вайне кожнаму салдату паасобку. Ён бачыў, что кожны вызвалены кіламетр даецца вялікім боем і ахвярамі. Ад падарваных і спаленых танкаў, абгарэлых хлопцаў, якіх было столькі ў месцы прарыву, засталося пачуццё нейкай няўпэўненасці за сваё жыццё. Цяпер, калі ён адчуў сябе пераможцам, яму стала як бы вальней.

— Малайцы, хлопцы, — сказаў ён як мага спакойна. Хоць Колышаў гаварыў гэта да сваіх таварышаў па машыне, ён свае словы адносіў таксама да сябе. Так лейтэнант выказаў сваю радасць.

Гэты першы поспех радаваў лейтэнанта асабліва, бо ўсё, што Колышаў цяпер рабіў, здавалася яму незвычайна важным. Ён сам сабе здаваўся інакшым, чым да баёў, — ён удзельнічаў у такіх падзеях, пра якія раней мог толькі думаць.

Некалькі «трыццацьчацвёрак» вырваліся на вуліцу. Гітлераўцы, якія яшчэ спрабавалі супраціўляцца, разгубленыя з'яўленнем нашых танкаў у сярэдзіне вёскі, іх стралянінай, пачалі кідаць пазіцыі.

У гэты час з танкаў пачалі саскокваць увішныя аўтаматчыкі, — яны забягалі ў двары, у хаты, вышуквалі і абяззбройвалі варожых салдат. Там і тут чуліся цяпер выбухі гранат і аўтаматныя чэргі.

Колышаў у гэты час вывеў танк па агародах на заходнюю ўскраіну вуліцы. Ён павінен быў са сваімі аўтаматчыкамі адрэзаць гітлераўцам шлях да адступлення.

Ледзь лейтэнант спыніў танк, як на яго аўтаматчыкаў наляцелі тры гітлераўцы, палічыўшы гэту машыну ў цемры за сваю.

Пакуль немцы разабраліся, хто перад імі, было позна. Ім не заставалася нічога іншага, як узняць рукі. Адзін з аўтаматчыкаў падбег да лейтэнанта і запытаўся, што рабіць з імі.

Што з імі рабіць? Можа, іх адправіць куды? Колышаў, памаўчаўшы хвіліну, пачаў звязвацца са старшым лейтэнантам. Ён адчуваў сябе няўпэўнена ў абставінах, якія ўзнікалі цяпер, і пытаўся ў Аляксея ледзь не пра ўсякую дробязь.

Старшы лейтэнант паспешліва сказаў, што весці нікуды не трэба: — Нашто весці?!. Хутка ж сюды падыдзе ўся брыгада. Тады іх і здадзім...

2

Страляніна сціхала. Нарэшце стала толькі чуваць, як гурчаць маторы ды ляскочуць тракі. Колышаў саскочыў на зямлю, пазіраючы навокал вачыма пераможцы.

Вось сяло, якое ён адваяваў. Гэта была звычайная, да таго ж невялічкая вёска са звычайнымі хатамі, якіх ён нямала бачыў раней, але выгляд яе напоўніў сэрца Колышава вялікай гордасцю. Гордасцю за сябе, за старшага лейтэнанта, за ўсіх таварышаў. Многа яшчэ будзе на шляху Колышава падобных вёсак і вялікіх гарадоў, але ўспамін пра гэтыя хаты ніколі не сатрэцца. Бо тут ён спазнаў салдацкую гордасць упершыню.

Колышаў, што яшчэ ўвесь гарэў боем, пашукаў вачыма той танк, якому ён так удала «даў прыкурыць». Танк быў недзе за будынкамі.

Адно здзіўляла і нават крыху расчароўвала Колышава, што сяло было амаль пустое. Яму ўяўлялася, што адразу ж, як толькі бой сціхне, а можа, і ў часе яго, усе жыхары з радасцю акружаць танкістаў, пачнуць абдымаць, выказваць сваю радасць. А тут пакуль навокал былі нейкая амяртвеласць і насцярожанасць. Нават каля хат, якія гарэлі, ніхто, як звычайна, не завіхаўся, не трывожыўся. Гэтыя маўклівыя пажары рабілі малюнак яшчэ больш сумным.

Толькі пазней, калі Колышаў са сваёй машынай спыніўся ў цэнтры сяла, ён убачыў жыхара.

Гэта быў вельмі пажылы чалавек, амаль лысы, з барадою, адзін бок якой недзе падгарэў; на плячах сваіх ён меў чамусьці накінуты кажушок. Стары стаяў у акружэнні танкістаў, сярод якіх Колышаў заўважыў старшага лейтэнанта і Якавенку. Стары штосьці гаварыў да Якавенкі, але пра што ён гаварыў, Колышаў праз шум недалёкіх матораў спачатку амаль нічога не чуў. Але ён бачыў, як усе ўзрушаны расказам, і сам мімаволі паддаўся агульнаму хваляванню.

— Павесілі сына майго!..— дайшло раптам да Колышава, голаснае, роспачнае, і лейтэнант убачыў, як жорстка прыплюшчыліся вочы Быстрова, які стаяў насупраць дзеда. Стары дзіўна гахнуў і павёў па вачах кулаком: — Няма Андрэя!

Колышаў спахмурнеў. Яго радасць адразу неяк прытаілася. Хлопца ўразілі словы старога,— у іх чулася такое вялікае, няўтольнае гора! «Якім легкадумным я быў, закаханым у сябе!» — падумаў раптам з дакорам лейтэнант.

Стары сказаў аб тым, куды падзеліся людзі. Іх гітлераўцы пагналі на захад.

— Адарвалі ўсіх ад сваіх хат... Акружылі з бакоў, наставіўшы вінтоўкі, і пагналі... Толькі і засталіся тыя, хто ўправіўся ўцячы ці схавацца...— Ён расказаў, што давялося перажыць яму апошнімі днямі, пакуль хаваўся ў нейкім Панасавым гушчары. Гэта была жахлівая, звычайная ў тыя дні гісторыя,— танкісты слухалі яе моўчкі і панура...

Колышаў не ўтрываў, каб не падысці да падбітай нямецкай машыны. Яна цяпер ледзьве дымілася. Лейтэнант задаволена дакрануўся рукою да гарачага жалеза. Пашукаў тую прабоіну, якую зрабіў яго снарад, і знайшоў недалёка ад лабавіка круглую дзірку — вось яна. А можа, і другі снарад уцэліў? Колышаў знайшоў і другую прабоіну, але побач з ёю аказалася чамусьці яшчэ і трэцяя. Адкуль яна? Ён жа стрэліў два разы!

— Што, таварыш лейтэнант, вучышся, як працаваць трэба? — нечакана пачуўся ззаду кплівы голас Быстрова. Лейтэнант азірнуўся.

— Не, правяраю, як мой экіпаж працуе.

— Тады вам, таварыш гвардыі лейтэнант, трэба было б пайсці да другой машыны. Бо тут мая работа.

— Чаму гэта?

І Колышаў расчаравана пачуў, што па гэтаму танку біў таксама Быстроў! Вось дык навіна: значыцца, гэта, можа, і не ён, не Колышаў, падбіў? Ну, вядома, хто ж скажа, што іменна ён. Эх, а ён радаваўся! Колышаў паспрабаваў уцешыць сябе тым, што, як бы там ні было, усё-ткі хоць адзін снарад ды ёсць там яго, але расчараванне ад гэтага не знікла.

Вяртаючыся да сваёй машыны, Колышаў спаткаў старшага лейтэнанта. Аляксей запытаўся ў яго:

— Ну, як — страшна было?

— Спачатку было страшнавата... А потым — неяк прайшло. Забыўся пра гэта... Забыўся, таварыш гвардыі старшы лейтэнант!..— Колышаў прамовіў так, нібы страх ужо даўно мінуў і не вернецца. Ён

цяпер быццам падсмейваўся над сваім непакоем.— Не было, ведаеце, калі баяцца. Так завіхацца давялося, што ўсякае глупства вылецела...

— Вылецела?! — усміхнуўся мімаволі старшы лейтэнант.— Ну, глядзі, не ўпускай яго назад!.. Як бы ні прыйшлося!..— Старшы лейтэнант раптам дадаў: — І яшчэ набудзь адну прывычку: менш мяне па дробязях турбуй. Вучыся сам арыентавацца і рашай, як камандзір...

Старшы лейтэнант нагадаў запытанне пра палонных: ну, хіба гэтага ён не мог рашыць сам?

Аляксей падаўся да сваёй машыны. Трэба было выступаць.

3

Машына ўвесь час калыхалася, падскоквала, ападала. Напружана працавалі, раўлі маторы, імкліва несучы важкую крэпасць наперад — па дарозе, праз ямы, узгоркі, рачулкі. Ствол гарматы, нацэлены туды, куды ляцела машына, то апускаўся ніжэй лініі небасхілу, то ўскідваўся ў нябесную шэрань.

На дарогах і каля іх часта віднеліся варонкі, мноства варонак, каля якіх тырчалі разбітыя, пакарэжаныя машыны і павозкі, валяліся раздутыя конскія трупы, далёка раскіданыя выбухамі абломкі. Было падобна на тое, нібы тут прайшоў ужо фронт. Гэта былі вынікі работы нашай авіяцыі...

Мерна-роўна, як гадзіннік, стукацелі, спяшаліся тракі. Аляксей, слухаючы гэты звыклы перастук, акружаны аўтаматчыкамі, насцярожана ўглядваўся ў маўклівыя хмызнякі, дрэвы, яры.

Толькі, калі ён азіраўся назад, яго добрыя, засценчывыя вочы весялелі.

За ім, уздымаючы, як дымавую завесу, касякі пылу, адна за адной імчалі па дарозе машыны, таксама аблепленыя аўтаматчыкамі. Танкі імчалі следам за Аляксеем з тым жа неўтаймаваным імкненнем наперад, падуладныя яго волі, яго камандзе...

Калі ўзнялося зіхатлівае сонца, над танкавымі калонамі ў бязвоблачным лагодным небе паявіліся нашы знішчальнікі. Самалёты амаль увесь час патрулiравалі брыгаду, ахоўваючы яе зверху,— то праляталі наперад, так далёка, што станавіліся ледзь віднымі, то вярталіся, лагодна ракочучы.

Потым яны некуды зніклі. А хвілін праз пятнаццаць сержант-аўтаматчык, які сядзеў каля вежы, паказаў Аляксею ўправа. З-за блізкага лесу плыў «кастыль». Неўзабаве ён ужо кружыўся, як коршак, над танкамі, тоячы нейкія нядобрыя намеры.

— Аляксей, мне не падабаецца гэтая варона! — паведаміў старшаму лейтэнанту Гогабярыдзе.— Ты бачыш яе?

— Бачу...

Аляксей пільна сачыў за «кастылём». Той паволі рабіў кругі над калонаю, ляніва нахіляючыся то на адно крыло, то на другое.

Рота падыходзіла да балота, праз якое цягнулася грэбля. Старшы лейтэнант, асцерагаючыся налёту бамбардзіроўшчыкаў, загадаў павялічыць адлегласць між машын. Заднія танкі адразу пайшлі павольней. Калона стала расцягвацца.

Хутка выявілася, што Аляксей непакоіўся недарэмна.

Ён яшчэ здалёк убачыў злева ў небе некалькі чорных, даўгаватых сілуэтаў нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў, якія заходзілі, напэўна, у хвост яго калоне. Назіраць за імі хутка стала цяжка — там, куды яны зайшлі, сляпуча іскрылася сонца.

— Злева, ззаду — нямецкія самалёты,— прытрымліваючы рукою ларынгафон, перадаў старшы лейтэнант экіпажам, ён, выглянуўшы з вежы, яшчэ раз уважліва азірнуўся навокал — усюды была асака з лугавой травою, рэдкія сіваватыя купы лазняку, нізкарослыя дрэўцы.

— Ісці — па грэблі!.. Не зварочваць!..

Самалёты хутка набліжаліся да калоны. Вось ужо ў чыстым, непарушна-спакойным небе сталі відаць жаўтаватыя канцы крылаў і шкляныя насы. За стукам тракаў гулу самалётаў не было чуваць. Аўтаматчыкі то сачылі за небам, то трывожна пераглядваліся. Старшы лейтэнант, перадаючы камбату, што на роту ідуць «юнкерсы», назіраў, як яны выстройваюцца адзін за адным, рыхтуючыся да бамбёжкі. У сярэдзіне ў Аляксея штосьці тужліва сціснулася — ох, як не любіў ён бамбёжак. З тых першых дзён вайны засталася ў яго гэтая тужлівая апаска перад бамбёжкамі. Горш за ўсё не любіў ён налёты!

Праз адкрыты люк Аляксей бачыў, як адзін, пераваліўшыся на нос, стаў імкліва падаць уніз. Аўтаматчыкі адразу пасыпаліся з машыны. На хвіліну здалося, што наступіла цішыня, што ўсё замерла, і нібы стукат тракаў паглушэў. Поблізу рэзка залескатаў нечы кулямёт.

Запоўніўшы ўсё на час даўкім свістам, самалёт пранёсся над машынай Аляксея. Наперадзе ён крута выраўняўся, сыпнуўшы адразу некалькі бомб.

Загрукаталі моцныя выбухі — гуп, гу-гуп!

— Лагуновіч, глядзі, каб машыны не засадзілі ў балота! — пачуў Аляксей у шлемафоне ўладны голас камбрыга. Бяссонаў увесь час ведаў, што робіцца ў батальёнах, ротах, экіпажах, ведаў, здавалася, нават драбніцы. У ліхую хвіліну амаль заўсёды камандзіры чулі яго голас, быццам ён быў разам з імі...

Камбрыг адгадаў, што непакоіла старшага лейтэнанта. Аляксей таксама баяўся, што хто-небудзь з маладых танкістаў не вытрымае бамбёжкі і з перапалоху збочыць з грэблі, засядзе ў балоце або «закупарыць» вузкую дарогу.

Калі старшы лейтэнант бачыў, як валіцца ўніз другі самалёт, у яго памяці раптам мільгануў плот каля роднай хаты, аксамітная травіца, кусток парэчак, заліты спякотным летнім святлом. Чаму выплыла гэтая травіца і гэты кусток з далёкага маленства, хто яго ведае, але такім мілым, дарагім здалося яно цяпер...

Ён крыкнуў, каб падалі лабавы кулямёт. Зараз жа, не марудзячы!

— Хутчэй!

Пакуль кулямёт дайшоў да Аляксея, «юнкерс» праляцеў над танкам... Старшы лейтэнант хутка нарыхтаваўся сустрэць наступны бамбардзіроўшчык, які ўжо ішоў у піке.

Рукі Аляксея, на якіх мускулы напяліся, нібы прыкіпелі да кулямёта. Вочы, што не міргаючы гарэлі пад навіслымі брывамі, здаецца, пранізвалі бамбардзіроўшчык,— танкіст лавіў яго на прыцэл.

«Юнкерс» падаў на «трыццацьчацвёрку». Ён хутка-хутка павялічваўся. Можна было падумаць, што ён так і не зверне: урэжацца ў танк з усімі сваімі бомбамі. Трэба было мець многа мужнасці, каб біцца з ім у гэты міг...

Аляксей, здавалася, забыўся на ўсё на свеце, упіўшыся вачыма ў «юнкерс», які ён упарта стараўся трымаць на прыцэле. Старшы лейтэнант да болю прыціснуў спуск кулямёта.

Цэліцца было цяжка, бо машыну на ходу кідала з боку на бок. Праз нейкі міг «юнкерс» стаў выроўнівацца.

— Сто-о-й! — крыкнуў старшы лейтэнант. Штосьці падказала яму, што «юнкерс» кіне бомбы па яго машыне.

Сонцаў — вадзіцель — спыніў машыну так рэзка, што Аляксей, якога па інерцыі кінула наперад, ледзь не ўдарыўся галавой аб перыскоп. У наступіўшай адразу цішыні яму было добра чуваць, як бомбы з уедлівым візгам несліся на «трыццацьчацвёрку». Машыну моцна страсянуў адзін, другі, трэці выбухі. Аляксей выглянуў з вежы — поблізу на грэблі асядала хмара зямлі.

— Наперад!— Машына адразу ірванулася і кінулася ў гэтую хмару. Аляксею ўдалося праімчаць вельмі мала, бо на грэблю пікіраваў другі самалёт. Сонцаў зноў рэзка затармазіў «трыццацьчацвёрку». Бомбы на гэты раз упалі не на дарогу, а ў балота.

Неўзабаве Аляксееў танк вымушан быў зусім спыніцца. Перад ім, загароджваючы вузкі насып, нерухома стаяла машына.

Што з ёй? Чаму яна стала? Старшы лейтэнант убачыў, што адна гусеніца сарвана,— машына нахілілася на бок. І кавалак вежавай брані вырваны!..

Але падбегчы да раненага танка яму не давялося, таму што, зірнуўшы ўгару, ён убачыў, як на калону падае «юнкерс». Аляксей схапіў кулямёт і пачаў зноў біць па ненавіснаму пікіроўшчыку.

Услед за гэтым рушыў яшчэ адзін... Раптам іншыя «юнкерсы», якія ўжо рыхтаваліся да атакі, крута павярнулі ўбок.

Што гэта, які-небудзь новы манеўр?

4

Не, гэта быў не манеўр. Да «юнкерсаў» імкліва набліжаліся нашы знішчальнікі. Аляксей, яшчэ ўвесь узрушаны, правёў іх удзячным позіркам.

Ён цяжка, стомлена спусціўся з вежы: чорт, як яго змарнавала гэтая бамбёжка. Ён падышоў да пярэдняга танка. Колышаў, незвычайна бледны, пасуравелы, абняўшы аберуч Архіпава, выцягваў яго з люка. Рукі Архіпава без сілы віслі, а ногі сунуліся па брані, ведучы за сабой струменьчык крыві. Аляксей дапамог спусціць Архіпава на зямлю, падтрымліваючы раненую нагу, і сказаў Колышаву, каб перавязаў хутчэй рану. Старшы лейтэнант праворна зазірнуў у вежу — зараджаючы быў забіты. Аляксей з адным аўтаматчыкам аднёс яго на сваю машыну.

— Не пашанцавала!..— з высілкам гаварыў Архіпаў Колышаву, які абкручваў бінтам яго акрываўленую нагу. Архіпаў моршчыўся ні то ад болю, ні то ад таго, што бачыць сваю нагу ў крыві.— Толькі што пачаў — і трах!..

— Вайна — не маці родная,— адказаў недзе чутымі словамі Колышаў.— Бывае і горш...— Ён быў нібы ў забыцці і яшчэ не мог зразумець сэрцам усяго, што адбылося; ён рабіў усё, як у сне.

Рукі яго слухаліся кепска, быццам чужыя, і аўтаматчык, адзін з тых, што сышліся сюды і абступілі абодвух, хацеў узяць ад яго бінт, але Колышаў не аддаў. Ён прадаўжаў перавязваць сам.

Угары раптам пачуўся моцны рэў і блізкая страляніна. Над грэбляй ляцеў адзін «юнкерс», адрэзаны ад бамбардзіроўшчыкаў. Яго насцігді два знішчальнікі, б'ючы з кулямётаў. «Юнкерс» раптам нахіліўся, клюнуў носам і стаў валіцца ўніз. Ён нязграбна перавярнуўся некалькі разоў цераз крыло, потым цераз нос. У тую хвіліну, калі ён даляцеў да зямлі, адразу загрымеў важкі выбух. Калі аселі гразь і вада, у балоце, праз паўкіламетра, стала відаць чорная варонка, вакол якой валяліся нейкія пакарэжаныя абломкі.

Знішчальнікі зрабілі круг, і падаліся ў той бок, дзе біліся іншыя самалёты.

Закончыўшы перавязку, Колышаў стаў адчуваць, што ў яго на правым баку штосьці ўсё больш шчыміць. Ён цярпліва маўчаў. А калі завязаў вузялок бінта і памацаў пад гімнасцёркай тое месца, то здзівіўся: на пальцах была кроў.

— Вы ж ранены, што ж вы маўчыце! — прамовіў дакорліва аўтаматчык, які браўся перавязваць Архіпава.

Гэта, выявілася, была маленькая драпінка ад нейкага асколка...

Між тым да месца затрымкі падышло яшчэ некалькі танкаў. Купка людзей каля падбітай машыны і Архіпава хутка пачала расці. Усіх цікавіла, што здарылася. А Аляксей, які зноў вярнуўся сюды, ужо турбаваўся, як прабірацца далей. Машына загарадзіла амаль увесь шлях: яна стаяла не ўсцяж насыпу, а наўкась. Калі гусеніцу разарвала выбухам бомбы, каткі аселі ў зямлю і затармазілі адзін бок...

Аляксей загадаў Сонцаву зараз жа сапхнуць машыну з грэблі.

Сяржант падвёў танк да машыны і стаў паціху ціснуць на яе. Пабітая «трыццацьчацвёрка» спачатку не рушылася з месца. Толькі калі Сонцаў даў больш «газу», пачала спаўзаць з дарогі марудна і неахвотна, быццам не хацела адставаць ад іншых.

Старшы лейтэнант спачувальна зірнуў на Колышава:

— Ваяваць можаш? Шпіталь, здаецца, табе не патрэбны...

— Не патрэбны, таварыш гвардыі старшы лейтэнант.

— Вось і добра.— Аляксей прыгадаў начную размову з Колышавым перад прарывам. Ад гэтай размовы ў Аляксея засталося пачуццё сяброўскай, як бы інтымнай, блізкасці да шчырага хлопца. «Відаць, нялёгка будзе сёння яму,— падумаў мімаволі Аляксей.— Трэба б яго накіраваць у які-небудзь экіпаж. Куды?» Але разважаць аб гэтым не было часу. Старшы лейтэнант толькі сказаў Колышаву, каб той дагнаў свой узвод і сеў на машыну Гогабярыдзе.

Аляксей падышоў да Архіпава. Каля таго быў цяпер санінструктар, які прыехаў у адной з машын, што ішлі следам. Аляксей параіў санінструктару, як адправіць Архіпава ў тыл. Трэба вывезці адсюль з грэблі на танку і ў бліжэйшай вёсцы пачакаць тылавых машын,— адтуль з першай папутнай можна будзе перавезці Архіпава ў медсанбат. Старшы лейтэнант працягнуў Архіпаву руку на развітанне:

— Ну, браток, бывай! Вельмі шкадую, дружа, што так рана пакідаеш... Ну, нічога. Пішы нам, а?.. Не забывай таварышаў...

Аляксей пабег да сваёй машыны. Праз хвіліну яго «трыццацьчацвёрка» кранулася і пайшла па грэблі.

Неўзабаве Аляксей зноў убачыў паветраных таварышаў. Знішчальнікі з магутным задаволеным рокатам імкліва пранесліся нізка над танкамі, прывітальна пакалыхваючы блакітнымі крыллямі.

Аляксей зняў з галавы шлем і памахаў лётчыкам у адказ...

5

Колышаў сказаў Архіпаву — «бывае і горш!» не выпадкова. Ён ведаў, што на вайне бываюць і больш цяжкія здарэнні, і хацеў глядзець на сваё няшчасце спакойна. Але жаданы спакой не прыходзіў. Колышаў не мог звыкнуцца з думкаю, што смерць так блізка прайшла паўз яго, і толькі выпадковасць уратавала яму жыццё.

Ён ледзь не загінуў у першы ж дзень, прычым, нават не ў баі, а на маршы! Калі лейтэнант думаў пра гэта, ён хмурнеў і суровеў. Вайна паўставала перад ім у жорсткім, бязлітасным аблíччы.

Як і тады перад боем, яму ўспаміналася Рая, і ён думаў, ці ўдасца пабачыцца з ёй. Небяспека, нават смерць, могуць спаткаць на кожным кроку, іх трэба асцерагацца і зараз, і заўтра, і праз некалькі дзён...

Успамінаўся запытальны і строгі позірк камбрыга: «А ты не трус?» І Колышаў, які звык заўсёды быць праўдзівым, бязлітасна судзіў сябе: значыцца, ён не герой, сапраўдныя салдаты не думаюць такога. Яму было прыкра за сябе.

А перад вачыма паўставалі незвычайныя дзівосныя відовішчы.

На дарозе, якая бегла праз поле, дзе мільгалі то палоскі жыта, то зялёны бульбянік, пад'язджаючы да лесу, танкісты спаткалі групу ўзброеных людзей. Гогабярыдзе быў тут першы, бо брыгадная разведка пайшла па іншай дарозе.

Людзі ляжалі і сядзелі ў кювеце і ў прыдарожным маладым зарасніку, — заўважыўшы танкістаў, амаль усе яны прыхаваліся і насцеражыліся. Колышаў, які ехаў на машыне з аўтаматчыкамі, ледзь толькі ўбачыў іх, адразу паведаміў пра гэта Гогабярыдзе.

— Хто гэта? — углядаўся пільна Колышаў. — У іх вінтоўкі...

— Хутка ўбачым! — Гогабярыдзе загадаў аўтаматчыкам даведацца пра людзей, а сам падрыхтаваўся на ўсякі выпадак да бою. Пакусваючы губу пад фарсістымі вусікамі, ён нецярпліва выглядваў з вежы.

Колышаў пайшоў разам з аўтаматчыкамі. У яго кішэні ляжала важкая граната, у руцэ ён сціскаў пісталет. Каб на ім не было камбінезона, то можна было б палічыць яго за аднаго з дэсантнікаў. Ён ішоў, уважліва сочачы за тымі, што былі на ўзлессі.

Раптам адзін, маленькі, рухавы, выскачыў насустрач і, размахваючы аўтаматам, штосьці крыкнуў. Ён кінуўся абдымаць Колышава. Следам за ім з зарасніку высыпала яшчэ многа людзей.

— Нашы! Ур-ра-а-а!— пачулася паблізу. Што адбылося потым, Колышаў не змог бы расказаць. Воклічы радасці, пацалункі, страляніна! Адзін з партызан пусціў у неба доўгую чаргу з кулямёта — салют!.. Колышава абдымалі, штосьці крычалі яму, і ён таксама крычаў шчаслівы, усё яшчэ трымаючы ў руцэ пісталет. Такога выбуху радасці Колышаў ніколі, напэўна, не ведаў...

Пад'ехаў Гогабярыдзе. Калі ён саскочыў на зямлю, чалавек, які першы выбег на дарогу, моцна абняў яго, а потым схамянуўся, выпрастаўся і сказаў лейтэнанту, што перад ім Ваўчок, начальнік разведкі атрада.

— Гогабярыдзе. Гвардыі лейтэнант, — з пафасам назваў сябе танкіст, прыгожа казырнуўшы, потым па-прыяцельску дадаў: — Для сяброў проста — Сандро...

Разведчык зноў абняў лейтэнанта.

— А мы вас і чакалі! Чулі, што хутка павінны быць, ды не ведалі, хто першы тут паедзе — ці вы, ці гэтыя, каб яны спруцянелі, нягоднікі... Таму рыхтаваліся на два фронты...

— Яны адсталі! — пажартаваў Сандро.

Партызан можна было цяпер бачыць і на танкавых вежах і каля машын, дзе яны бурлівым натоўпам акружалі невялічкі гурток танкістаў.

Адкуль іх столькі сабралася на гэтай дарозе, якая толькі што здавалася амаль пустой! Пажылыя мужчыны, бязвусыя юнакі, жанчыны з вінтоўкамі. Якіх тут толькі людзей не было! Яны мала нагадвалі ваенных: розная вопратка, розная зброя — звычайныя цывільныя людзі. Але Колышаў глядзеў на іх, як на нейкія казачныя істоты, не тоячы шчырага захаплення. Гэта ж партызаны!

Калі б Колышаў быў менш усхваляваны, ён убачыў бы, што партызаны глядзяць на яго з не меншым захапленнем. Асабліва адзін чарнявы хлопец у старой, з адкладным каўняром, гімнасцёрцы, які неспадзявана запытаўся:

— Дык вы з вучылішча? Праўда, з вучылішча?! І нядаўна толькі скончылі?.. А скажыце, каго прымаюць у яго? Ну, якая асвета патрэбна?..

І ён пашкадаваў, што асвета ў яго малаватая. Усяго сем класаў... Колышаў жа мімаволі пазайздросціў яму: вось ён, напэўна, прайшоў праз «агонь і ваду», не баіцца нічога...

Праз кіламетры два — якраз на ўездзе ў сяло — узвод Гогабярыдзе «атакавалі» зноў. Тут былі людзі з сякерамі і піламі, яны канчалі новы мост. Вакол моста весела жаўцелі сасновыя трэскі і пілавінне.

Колышава, як і іншых танкістаў, абдымалі, цалавалі. У яго чыстыя, з ценем смутку, вочы пазіралі з адданасцю і любоўю. Хіба мог быць абыякавым да гэтай любові Колышаў!

Не, ён не можа быць баязліўцам. Ён не ашукае людзей, якія яго так любяць! Ён і сам не заўважыў, як у тыя хвіліны пачала пакрыху развейвацца яго няўпэўненасць. Ён аддаваўся адчуванню вялікай, не параўнанай ні з чым радасці і душэўнай раўнавагі.

Першы танк рушыў па новых, трывала ўкладзеных бярвеннях на другі бераг. Стары, з ружовай лысінай, цясляр усміхнуўся шчасліва Колышаву, які ішоў за танкам.

— Выходзіць, недарма масток падправілі! А то тут некаторыя сумняваліся...

Праплываючы потым праз сяло на машыне, Колышаў некалькі разоў азірнуўся: партызаны доўга махалі яму рукамі, шапкамі...

## Раздзел V
### 1

Усе няўдачы пачыналіся з той страшнай раніцы.

Клямт яшчэ спаў у раўку, як прасвістала некалькі снарадаў і грымнула непадалёк. Ён адразу прачнуўся і вылаяўся.

У наступную хвіліну ўсё навокал грукатала. Снарады лажыліся справа, злева, спераду.

Не было чаго і думаць пра сон. Лейтэнант адразу, сагнуўшыся, кінуўся ў бліндаж. Тут ён перавёў дыханне. Столь угары трэслася, з накатаў сыпаўся пясок. Нібы білі ў зямлю вялізнай цяжкай даўбнёй.

Усе, скурчыўшыся, насцярожана чакалі, што нейкі снарад уцэліць сюды, праломіць тоўстую столь або зажыва засыпле зямлёю. Клямт, аднак, стараўся не губляць раўнавагі. Ён быў упэўнен, што руская артылерыя хутка сціхне, тады пойдзе пяхота. Трэба толькі спакойна чакаць гэтую хвіліну. Ён пастараецца сустрэць рускіх як належыць.

Але гром, што чуўся ўгары, думкі гэтыя паступова выбіваў з галавы, глушыў, пакідаючы ў душы толькі цягучае чаканне нечага невядомага і страшнага.

Тэлефаніст перадаў яму трубку. Камбат пераказваў загад генерала: «Трымацца, трымацца! Ён пасылае сваё благаславенне». Клямт

адказаў, што на яго можна заўсёды спадзявацца, аднак, цягучае чаканне страшнага не пераставала гнясці.

З кожнай хвілінай было горш.

Спачатку тэлефаніст паведаміў, што парваны правады. Рота засталася без сувязі, яна цяпер адна, адарвана ад усіх. Потым лейтэнант убачыў перад сабой салдата з першага ўзвода. Ён быў увесь у гразі і так перапалоханы, што змяніўся з твару. «Хто гэта? Што яму трэба? Што ён крычыць? — не разумеў Клямт. — Ды гэта ж... Ён кажа, што ўсе загінулі... Бліндаж, прамое пападанне...»

— Хутка... гарматы скончаць, пойдзе пяхота... Глядзіце ўважліва! — закрычаў да салдата лейтэнант; ён спрабаваў быць спакойным, але са страху, які ўсё рос, мацнеў, — сам не цяміў, што гаворыць. Клямт адразу схамянуўся: у першым жа ўзводзе цяпер нікога няма...

Памаўчаў. Але сядзець спакойна было нязносна, і ён зноў нечакана накінуўся на салдата:

— А што з другім узводам? Я ў вас пытаюся, што з другім узводам?..

Адказу Клямт не дачакаўся, не толькі таму, што салдат нічога не чуў з яго слоў і не ведаў пра другі ўзвод. Наверсе столь так страсянулася, што бярвенні ўгары рассунуліся, вышлі са сваіх гнёздаў.

Некалькі з іх абвалілася, прыдушыўшы тэлефаніста. Пасыпалася зямля. Другі выбух раскідаў шчыліну ўверсе, і ў бліндаж папоўз едкі дым.

Ефрэйтар-аўтаматчык, нядаўна прысланы пасля кантузіі са шпіталя, пабялеў, упіўся кастлявымі рукамі ў стол. Ён некалькі хвілін сядзеў, як каменны, не варухнуўшыся. Потым раптам, як ашалелы, падскочыў і кінуўся да выхаду. Ён збіў кулаком фельдфебеля, што быў на яго шляху. На яго амаль не звярнулі ўвагі.

Не заўважыў яго і Клямт, які стаў шаптаць малітву, што чуў некалі ў маленстве.

У гэтыя хвіліны перад ім прайшло яго жыццё. Бацька Клямта марыў увесь час выбіцца ў людзі.

Спачатку арандаваў зямлю, — але з гэтага нічога не вышла, ледзь не разарыўся. Адкрыў піўную у сяле — таксама ледзь зводзіў капцы з канцамі.

Ён любіў успамінаць вайну: добрыя былі часы! Стараючыся вывесці сына ў людзі, ён аддаў малога Клямта ў вучні да каўбасніка. Стары тады збіраўся заняцца вырабам каўбас.

Але потым усё перамянілася: у модзе сталі ваенныя. Клямт кінуў каўбасніка і падаўся ў армію. Вайсковая кар'ера Клямта была не

надта паспяховая: давялося доўга хадзіць у ефрэйтарах. Толькі вайна ў Францыі крыху падняла: Клямт стаў фельдфебелем.

Служыў ён старанна, спраўна, і, хоць яго часта абыходзілі, не крыўдзіўся. Клямт верыў, што прыдзе і яго час. Ён чакаў, што б ні здарылася, гэты час...

Неспадзявана Клямт успомніў тую жанчыну з дзіцем, якую спаліў у часе блакады. З паўсотні спаленых і расстраляных успомнілася чамусьці яна адна. Клямт убачыў яе вочы, пачуў словы праклёну: «Табе гэта так не мінецца...» Яго ўсё мацней гнёў жывёльны жах, з якім пачало на час губляць сэнс усё — і камандзірскі абавязак, і загад генерала, і жыццё.

«Калі ж будзе канец? — нецярпліва падумаў Клямт. — Так можна звар'яцець...»

Ён не ведаў, што гэта быў толькі пачатак.

## 2

Пасля двух пякельных баявых дзён рота Клямта была адведзена з пярэдняга краю. Аддзяленні і ўзводы яе парадзелі за гэты час настолькі, што з роты наўрад ці можна было б сфарміраваць адзін узвод.

Клямт, здаўшы ўчастак змене, адчуў сябе адразу лягчэй. Праўда, адчуванне палёгкі было няпэўнае, насцярожанае: не верылася, што сапраўды дазваляюць пакінуць гэтае пекла. Вельмі ўедлівымі і даўкімі былі ўражанні апошніх дзён, каб іх можна было лёгка забыць.

Тым не менш гэта была праўда. Рота перайшла ў карпусны рэзерв. У вёсцы, ноччу, яе наспех папоўнілі рэшткамі з другіх пабітых падраздзяленняў і сказалі чакаць далейшых загадаў...

Настрой у Клямта быў трывожны. Увесь час у баку фронта былі чуваць несціханыя гукі бою. Лейтэнант уяўляў, што там робіцца, і з непакоем думаў, што, напэўна, у тое пекла хутка прыдаецца вяртацца зноў.

«Адкуль у рускіх столькі гармат? І самалётаў... Дзіўна!..»

Пасля абеду Клямт атрымаў загад выступаць, але праз паўгадзіны, калі ён ужо выводзіў салдат з сяла, прышоў другі загад, які адмяняў першы,— трэба было чакаць далейшых распараджэнняў.

З фронта правезлі праз вёску некалькі машын з параненымі.

Папаўзлі няясныя трывожныя чуткі, якія невядома хто прынёс. Нібы недзе на левым флангу бальшавікі прарвалі фронт і іх танкі і конніца апынуліся глыбока ў тылу нямецкіх часцей. Гэты прарыў — гаварылі — пагражае ўсяму фронту. Клямт спрабаваў даведацца аб

праўдзівасці чутак у аднаго штабнога афіцэра, але той раздражнёна адмахнуўся ад яго.

Неўзабаве пасля гэтага прышоў загад — неадкладна выступіць і заняць пазіцыі на паўночнай ускраіне аднаго сяла.

Ледзь рота наблізілася да сяла, выявілася, што яно ўжо занята савецкімі пехацінцамі.

Тады са штаба палка Клямту і яшчэ аднаму камандзіру роты загадалі атакаваць бальшавіцкія пазіцыі і заняць вёску. Перад атакай абедзвюм ротам прыслалі на падмацаванне тры «фердынанды». Бой ішоў амаль да вечара — за гэты час савецкія байцы падбілі ўсе тры самаходкі. Акрамя таго, Клямт страціў вельмі многіх салдат, якіх пасеклі кулямётныя чэргі і міны.

Рускія абараняліся вельмі ўпарта і самааддана. У той жа час Клямт з прыкрасцю заўважыў, што некаторыя яго салдаты б'юцца без уздыму, як бы загадзя разумеючы бескарыснасць сваіх ахвяр. Асабліва ненадзейнымі былі тыя, хто ўліўся ў роту ўчора. Увогуле, рота вельмі паслабела.

Позна ўвечары рускія былі ўсё ж выбіты з вёскі. У начной цемры, цёплай, як сырадой, салдаты Клямта акапваліся, абсталёўвалі кулямётныя гнёзды — у дамах, на дахах. Перамога дасталася вялікаю цаною. Клямт папрасіў падмацавання, але са штаба адказалі, што трэба абыйсціся тою сілаю, якая ёсць. Кепска было і з боепрыпасамі — машына прывезла толькі палову таго, што патрэбна. Кажуць, боепрыпасы недзе ў тылу, абяцаюць да раніцы падвезці рэшту, — але хіба можна цяпер вельмі верыць абяцанкам?

Клямт адчуваў сябе неспакойна. Акрамя таго, што рота паслабела і боепрыпасаў мала, была яшчэ адна важная акалічнасць, якая трывожыла яго, — левы фланг роты быў дрэнна прыкрыты. А між тым гукі бою злева заходзілі ўсё глыбей і глыбей у тыл ротных і палкавых пазіцый.

Клямт, аднак, не быў перакананы ў тым, што рускія пакінуць гэту вёску ў спакоі. Удзень яны, напэўна, пастараюцца яе вярнуць сабе, прыдуць, магчыма, з вялікаю сілаю. На краі сяла гарэлі падпаленыя ў часе бою хаты, кідаючы злавесныя водсветы на ўсё наваколле. Клямт хадзіў па выгану і агародах,— правяраў, як салдаты рыхтуюцца да абароны. Каля адной траншэйкі сядзелі оберефрэйтары Келер і Гетэрых. Яны аб нечым размаўлялі. Калі Клямт падышоў, Келер запытаўся:

— Ну, як падрыхтоўка? Напэўна, рускія разаб'юць свае ілбы аб нашу абарону? — Клямт адчуў у яго голасе ноткі насмешкі і раздражнення.

Келер наогул стаў вялікім скептыкам. Але, што здзіўляла,— Гетэрых маўчаў, і ў гэтым нельга было не заўважыць падтрымкі Келеру.

— Не хвалюйся, лейтэнант. Сядзь, пасядзі — паберажы сілы на заўтра. Заўтра будзе гарачы дзянёк...

— Заўтра давядзецца павяяваць — гэта ясна,— адгукнуўся Гетэрых. Келер, памаўчаўшы, раптам прамовіў незадаволена:

— Чорт пацягнуў нас... звязацца з імі...

Што за характар у Келера: усіх гатоў папраўляць, з усімі спрачацца! Клямт рэзка сказаў, што меркаваць пра гэта не ефрэйтара справа.

— А ваяваць — мая справа? А расплачвацца за ўсё — я павінен? Кулі рускія ў мяне цэляць?.. Я вось неяк выбраўся з-пад рускіх снарадаў. Пашанцавала мне сёння... А як заўтра — не ведаю. І ніхто не ведае! Толькі, можа...

Клямт загадаў яму змоўкнуць і, паклікаўшы з сабой Гетэрыха, стаў правяраць «абарону».

«Няўжо яны, гэтыя бальшавікі, прарвалі фронт? — мімаволі кружылася ў галаве лейтэнанта.— Няўжо не здолеем утрымацца?.. Але хто нам дасць такое права — адступаць? Здаць «балкон»?!. Не, не — гэтага быць не можа!»

Ён быў упартым аптымістам, лейтэнант Клямт. Калі Келер і некаторыя другія амаль сумняваліся, што можна паправіць становішча, лейтэнант яшчэ не верыў, што становішча зрабілася катастрафічным. Ён лічыў, што Келер паддаўся паніцы.

«Мы ўтрымаемся! Мы не адступім... Яшчэ прыдзе пара, калі мы з гэтага «балкона» пойдзем наперад... зноў на Смаленск»...

Уранні савецкія салдаты павялі наступленне. Яны абышлі сяло і ўдарылі з левага фланга і з тылу. У іх было многа мінамётаў і гармат. Яны адкрылі ўраганны агонь па абедзвюх ротах, уварваліся на заходнюю ўскраіну і зноў захапілі свае пазіцыі. Увесь узвод, які абараняў гэты ўчастак, разам з оберефрэйтарам Гетэрыхам, прапаў без вестак — загінулі або трапілі ў палон.

Клямт і сам ледзь-ледзь выратаваўся. Апрача яго, выбралася з сяла толькі некалькі салдат.

Не было обер-ефрэйтара Гетэрыха — ветэрана роты, які ваяваў у Францыі, у Грэцыі, разам з Клямтам перажыў усе нягоды рускага паходу. Не было яшчэ многіх, якія бралі сотні гарадоў і раптам палеглі ў невядомай вёсцы.

Палеглі без ушанавання, як бяздомныя сабакі. Клямт панура паварушыў плячыма, уявіўшы, як яны будуць валяцца на полі, пухнучы ад спёкі...

Ён усё ж не паддаваўся роспачы.

3

Вёска, у якую Клямт прыехаў пасля абеду, сустрэла яго маўчаннем. На вуліцах было пуста. Гэтае запусценне Клямт бачыў не ўпершыню.

Куды яны пахаваліся, чорт іх пабяры! У кожным сяле — ні душы.

Клямт загадаў каго-небудзь знайсці. Салдаты прыцягнулі да яго жанчыну, якая хавалася ў пограбе, недалёка ад хаты. У яе былі спакойныя, крыху насмешлівыя вочы, густыя пасівелыя валасы. Клямт запытаўся, ці не паяўляліся тут, у сяле, рускія. Жанчына сказала, што савецкае войска прайшло праз сяло ўжо гадзіну ці дзве перад немцамі.

— Колькі іх было? — пацікавіўся лейтэнант, сціраючы з твару пот.— Многа?

— О, відана-нявідана... Цэлую гадзіну бесперапынна ішлі!

Жанчына ледзь хавала радасць. Клямт адчуваў, што яна зусім не баіцца яго, бачачы, які ён бяссільны і ўстрывожаны. Гэта Клямта злавала.

— Ты брэшаш! — пагрозна сказаў лейтэнант.

Яна не запярэчыла, а ўсё з той жа прытоенай радасцю прамовіла:

— Нашто мне хлусіць?

Клямт загадаў запаліць яе хату: ах, як яму хацелася, каб радасць з гэтага твару знікла, замянілася горам. Няхай парадуецца, пазіраючы на пажар... Шкада, што ён вымушаны быў спешна выбірацца з вёскі.

Калона звярнула з шасэ. Амаль гадзіну ехалі па пыльнай дарозе, у спякотнай цішыні. Потым іх спынілі ў нейкай вёсцы і загадалі заняць абарону на беразе рачулкі. Рота стала акапвацца ў пяску, між лазовых кустоў. Чорт пабяры, колькі ім даводзілася капаць зямлі ў гэтыя дні! І ўсё, галоўнае, марна: ні ў адным з акопаў не прыйшлося абараняцца.

Не было боепрыпасаў, і Клямт, які сядзеў у цяньку пад лазовым кустом, думаў пра бой з трывогаю, лаючы ў душы тылавых службістаў і няўпраўных генералаў, якія не маглі ў свой час пра гэта паклапаціцца.

Перад вечарам перадалі новы загад адыйсці. Зноў адступаць!

Але Клямт на гэты раз пакідаў непатрэбныя акопы не толькі без узлаванасці на свой лёс, а нават з ахвотай. Ён быў цяпер са сваёй ротай недалёка ад Талачына, да якога лейтэнант набліжаўся з вялікімі надзеямі. Ён думаў не пра адпачынак: перадышкі, ён ведаў, чакаць не прыходзіцца, ды яна яму і не патрэбна — не такі час. Клямт спадзяваўся, што ў Талачыне можна будзе атрымаць боепрыпасы. Там таксама, напэўна, стабілізуецца фронт і праясніцца становішча...

Акрамя роты Клямта, тут ішлі рэшткі ўсёй дывізіі. На цягачах і грузавіках, што выцягнуліся ў доўгую нястройную чараду, млелі ад спёкі некалькі соцень пехацінцаў і артылерыстаў. Калона рушыла вельмі марудна, невядома чаму робячы частыя прыпынкі...

Кіламетраў за дзесяць ад гарадка зусім .спыніліся.

— У Талачыне — рускія танкі... — папаўзла па дарозе вужакаю чутка.

— Не можа гэтага быць! Брахня!.. — адгукнуўся Клямт, які сядзеў на падножцы машыны, жуючы галету. Ён быў недаверлівым, калі чуў пра розныя непрыемнасці.

Келер апаліў яго зняважлівым позіркам.

— Чаму не можа быць?

— Выдумка баязліўцаў! За такія чуткі расстрэльваць трэба!

Келер, не сказаўшы нічога, павярнуўся і пайшоў да групкі салдат, якія воддаль аб нечым гаварылі. Клямт застаўся сядзець на падножцы.

Але спакой яго знік. А што, калі гэта праўда?.. Раздумваць — праўда ці не праўда гэта, яму не прыйшлося, бо тут яго паклікалі да маёра-камбата. Ён даведаўся па трывожных тварах афіцэраў, што гэта праўда...

Здарылася непапраўнае і грознае — перарэзан шлях!

## Раздзел VI

### I

Гэта быў апошні дзень працы Сяргея Сняжко ў гаражы, які належаў фірме «Ост».

Сяргей ад самай раніцы корпаўся ў маторы старога «Ганамака», замяняючы поршні і падшыпнікі.

— Ну, як справы, Сняжко? — запытаўся ў яго шэф гаража Гюнтэ, тоўсты, нізенькі, з кароткімі пухлымі ручкамі немец, апрануты ў рабочую блузу. Гюнтэ стараўся здавацца дабрадушным і прасцецкім. — Яшчэ пажыве гэты стары каняка?..

— Пажыве, пан шэф, — кіўнуў галавой Сяргей, выціраючы аб пакулле чорныя рукі.

— Ты марудна, надта марудна працуеш, гэта вельмі кепска. Трэба старацца працаваць хутчэй. Але справу ты ведаеш нядрэнна. Ты будзеш добры майстар, Сяргей. — Гюнтэ нават ляснуў Сяргея па плячы, што ён звычайна рабіў, калі быў у добрым настроі.— Пачакай крыху: мы закончым вайну, — і ты будзеш вучыцца... Так, так — вучыцца, — калі будзеш старацца працаваць. На спецыяльных курсах!.. Я табе дапамагу паступіць...

Сяргей падумаў: «Я і без цябе паступлю ў інстытут, калі мы выганім вас адсюль». Але ўголас, адкінуўшы назад валасы, што спадалі на лоб, адказаў:

— Дзякую, пан шэф...

Праца ў Гюнтэ сёння была скончана. Сяргей скінуў ненавісную спяцоўку і надзеў свой латаны, замаслены пінжачок. Хлопец быў вельмі стомлены: цэлых трынаццаць гадзін пратрымаў яго «шэф» у гэтым праклятым гаражы. Дабрадушны з выгляду Гюнтэ стараўся выціскаць з людзей усё, што толькі можна. «Жмінда старая», — вылаяўся ў думках Сяргей, пазіраючы ўслед Гюнтэ, які накіраваўся ў кантору.

Сняжко ўжо сабраўся ісці дамоў, як на двор укаціў незнаёмы сіне-шэры «опель-капітан». З машыны рашуча выскачыў гестапавец, а ў сярэдзіне яе Сяргей пазнаў шафёра, падпольшчыка Калесніка.

Твар Калесніка быў увесь у сіняках і страшэнна распух. «Папаўся!» — адразу зразумеў Сяргей і тут жа насцеражыўся: «А Клава? Што з ёю?» Яго стому ўмомант нібы ветрам здзьмула. Думкі адразу пабеглі, завіхурыліся.

«Клава таксама... папалася?!»

Напэўна, папалася. У яе, у мяшках з бульбаю, павінна было быць самае галоўнае — магніткі. Нічога іншага «недазволенага» Калеснік не вёз, толькі гэта...

Значыцца, гестапаўцы знайшлі магніткі. А калі так, то яму таксама не мінуць турмы... Трэба зараз жа ратавацца, як мага хутчэй. Мускулы Сяргея напружыліся. Ён заўважыў, што два эсэсаўцы з аўтаматамі станавіліся каля выхаду з двара.

Не марудзячы больш ні хвіліны, Сяргей, хаваючыся за машыну, шмыгнуў за вугал гаража. Ён прабраўся па вузенькім цёмным калідорчыку, што ішоў паміж сцяною і плотам, да месца, дзе была адарвана дошка.

Сяргей адсунуў яе і выскачыў на агарод. Тут ён азірнуўся: ці не гоніцца хто за ім. Не пакуль.

Ён паўз плот прабраўся на другую вуліцу. Прайшоў крыху, спакойна і непаспешліва, каб не выклікаць падазрэння ў сустрэчных, потым павярнуў у завулак. «Дзе ж Клава? Чаму Калеснік быў у машыне адзін?..» — думаў Сяргей, адыходзячы ўсё далей і далей ад гаража. Ён рабіў розныя здагадкі. Найбольш праўдзівай з іх здавалася такая: Клаву, мусіць, павезлі ў сталоўку, дзе яна працавала...

Эх, Клава, Клава! Чаму табе гэтак не пашанцавала? І Калеснік — столькі разоў выходзіў удала з усіх небяспек, і раптам — папаўся...

У ціхім завулку, які быў вельмі далёка ад гаража, Сяргей спыніўся. Прысеўшы на лаўку нібы адпачыць, ён пачаў абдумваць, што рабіць далей. Усё раптам перамянілася ў яго становішчы, і ён пакуль не ведаў, як яно будзе далей. Адно было толькі вядома, што ісці дамоў нельга.

Калі гестапаўцаў яшчэ і няма ў яго хаце, то яны хутка, як груганы, наляцяць туды. Наляцяць, каб схапіць, кінуць у турму, катаваць усіх Клавіных блізкіх. Гэта іх звычайны метад.

Нават, калі Клава і Калеснік не выдадуць яго, — а яны не выдадуць, — Сяргея ўсё роўна арыштуюць. Толькі за тое, што ён Клавін брат...

Што ж рабіць? Куды ісці? Дзе прытуліцца хоць на першую ноч?

2

Першыя дзве ночы ён перабыў у свайго таварыша, з якім пасябраваў яшчэ да вайны ў тэхнікуме. Месяцы тры назад яны працавалі разам у гаражы, потым яго дружбак паспрачаўся з Гюнтэ і перайшоў на працу ў іншае месца.

Сяргей сядзеў у цёмным, цесным дрывотніку, у якім пахла сухою асінаю. Ён двое сутак нікуды не выходзіў, і гэтыя двое цягучых сутак здаліся хлопцу не менш, як двума тыднямі. Напэўна, ніколі за ўсё жыццё ў Сяргея не было такой цяжкай пары, як гэтая. Асабліва горка станавілася яму, калі ён думаў пра тое, дзе цяпер Клава. Слаўная, вясёлая сястрычка, як табе, напэўна, балюча і цяжка!

У яго было такое адчуванне, быццам ён перад ёй вінаваты за няўдачу. Можа, ад гэтага кожны раз, калі Сяргей думаў пра сястру, так яму нястрымна хацелася выйсці адсюль і дзейнічаць. Эх, каб у яго была хоць адна магнітка ці каб хоць быў аўтамат! У яго, праўда, ёсць аўтамат, але ён закапаны там, на селішчы, — каля хлява, а зараз туды нельга прабрацца...

Вельмі прыкра, што цяпер няможна пабачыць тых, з кім ён быў звязаны яшчэ два дні назад. Ён сустракаўся з імі ці каля кінотэатра, ці на скверы ў канцы вуліцы Астроўскага, ці дзе-небудзь у ціхім

завулку. Цяпер ён можа выходзіць са схову і сустракацца толькі ўночы, — значыцца, трэба прыдумаць новыя спосабы сувязі... Самая ж вялікая бяда ў тым, што ён адарваўся ад сувязнога з гаркома партыі...

Сяргей, упарта перабіраючы розныя варыянты, думаў, як усё гэта наладзіць. Ён павінен наладзіць, а потым, калі ўсё зноў стане на месца, Сяргей падасца ў лес, да партызан. Больш тут яму нельга заставацца.

Пад вечар Сяргееў дружбак, вярнуўшыся з горада, зайшоў сюды, у дрывотнік, як бы па дровы, і расказаў аб тым, што адбылося ў гаражы гэтымі днямі. Тады ж, калі прыязджалі гестапаўцы, амаль усіх механікаў і шафёраў арыштавалі, адных проста ў гаражы, а другіх — на кватэрах. На наступны дзень гестапаўцы, праўда, некалькі чалавек выпусцілі, а сем яшчэ і цяпер сядзяць.

— Цябе, Сярожка, таксама шукалі і вельмі дапытваліся, дзе ты можаш быць... Вобыск у тваёй хаце...

— Дзе мама?! Што з мамаю! Даведаўся? — нецярпліва перабіў яго Сяргей. Ён раптам замёр, нібы баючыся дыхнуць.

— Маці, гавораць, — у турме.

— Арыштавалі... Дзе, у якой яна?

— Ніхто не ведае.

— А дзе Клава?

— Таксама... у турме...

— Не ведаеш, як схапілі?.. З усімі рэчамі?.. Ці толькі... падазраюць?..

— Яна трапіла нечакана. З усім...

— Э-эх... — Сяргей парывіста ўзняўся, неспакойна варухнуў плячыма і раптам сеў зноў. Апусціў галаву і, утаропіўшы невідушчы позірк у бярозавае палена, задумаўся, аддаўся свайму гору...

Наступныя тры дні Сяргей хаваўся ў хаце Залескай. Яны былі родзічамі, хоць і не блізкімі, але вельмі дружнымі. Сяргей прабраўся да яе хаты апоўначы і ціха, ледзь чутна, пастукаў у шыбку таго пакоя, дзе яна звычайна спала. Жанчына, як толькі пачула, што гэта Сняжко, адразу пайшла адчыняць. Яна ўжо ведала, што Клава арыштавана, і, увёўшы Сяргея ў сенцы, загаварыла са слязамі:

— Божа мой, якое няшчасце!..

Яна ўладзіла Сяргея на «гары», у куточку за комінам. Над ім нізка звешваўся паплёт і шчыльна прыгнаны адзін да аднаго гонт, які тут быў яшчэ як новы. Сяргей па некалькі разоў на дзень падбіраўся адсюль да паўкруглага акенца, зацягнутага павуціннем, і пазіраў на

горад. За бляшанымі пірамідамі дахаў удалечы быў відаць рог будынка вакзала. Часам вецер даносіў адтуль гудкі паравозаў.

Увечары Сяргей вышаў з хаты, каб сустрэцца з адной сувязной. Ён крыху пастаяў на двары, азіраючыся, прагна дыхаючы цёплым вячэрнім паветрам.

Тут ён пачуў шум, падобны на далёкі прыбой. «Самалёты... нашы самалёты ідуць!» Сяргей узрадаваны, увесь час слухаючы гэты нарастаючы шум, стаў хутка прабірацца праз платы і агароды...

Яны спаткаліся ў садку, калі самалёты ўжо бамбілі нейкі аб'ект на другім краі горада.

— Чуеш, з якой харошай музыкай я прышоў?— сказаў ён замест прывітання.

— А я з добрымі весткамі... нашы пачалі наступленне.

— Наступленне?!

Сяргей абняў дзяўчыну і моцна-моцна сціснуў у абдымку. Ён некалькі хвілін маўчаў, увесь перапоўнены бураю, якая ўзнікла ў грудзях пры гэтых словах.

Потым ён прыгадаў Клаву, шафёраў, якія сядзяць у гестапа, і спахмурнеў.

— Перадай, калі хто яшчэ не ведае, што ў мяне... правал,— - выціснуў ён.— Каб не пасылалі да мяне...

Ён успомніў, што цвёрда рашыў ісці праз дзень — два ў лес,— і нечакана перамяніў задуму: не, цяпер ён ні за што не пакіне горада.

Ён будзе тут да прыходу нашых! І Сяргей папрасіў:

— Алеся, даведайся ў гаркоме, якія будуць заданні...

### 3

Неяк пад вечар у камеру ўпіхнулі пухлую жанчыну. Яна застагнала, трымаючыся за паясніцу, але праз момант сціхла і стала азіраць камеру, здзіўлена і ўстрывожана.

— Ідзіце сюды,— паклікала яе жанчына, што сядзела каля Ніны.

«Новая» адразу пачала прабірацца да яе, пераступаючы праз тых, хто ляжаў.

Калі жанчына села, яе пачалі, як звычайна, распытваць: хто яна, адкуль, а потым — асцярожна, з падводамі, за што ўзялі. Незнаёмая адрэзала сярдзіта:

— За доўгі язык.

Зазіраючы ў твар вачыма, якія як бы прасілі спачування, пачала расказваць усё, як мае быць. Яна прадавала на Чэрвеньскім рынку малако,— брала за гэта вялікія грошы,— калі падышоў нейкі паліцай, не гаворачы, не плоцячы нічога,— як сваё,— узяў адзін бітончык і

падаўся прэч. Малочніца стала лаяць яго, але той і не азірнуўся. Жанчына ад такога нахабства проста ашалела і ў гневе, каб дапячы паліцаю, крыкнула: «Пачакай, прыдуць партызаны!..»

Паліцай адразу спыніўся і вярнуўся: «Партызаны?! А-а, дык ты з партызанамі звязана! Адкуль жа яны прыдуць? А ну, хадзем са мной...»

У СД яна богам клялася, што і ведаць не ведае пра партызан. Гестапаўцы ёй не паверылі...

Цяпер ёй хацелася давесці гэта зняволеным. У камеры, амаль не сціхаючы, чулася, як яна скардзіцца ды охае. Асабліва надакучыла яна Ніне, поруч з якой сядзела. То яна трывожылася, што могуць цяпер кароўку забраць, што рэчы раскрадуць, то дапытвалася, колькі трэба заплаціць, каб выпусцілі з турмы.

— Пяць тысяч, пэўне, хопіць. Хопіць, праўда?.. Ці, можа, замнога столькі?..

— Сціхніце!.. Як вам не сорам?— з абурэннем сказала Ніна замест адказу.

На другую ноч гітлераўцы вывезлі малочніцу,— відаць, расстралялі.

Яны цяпер не вельмі дапытваліся: здавалася, ім было больш не да гэтага. Яны спяшаліся. Па некалькі разоў за суткі турэмшчыкі дзесяткамі хапалі зняволеных, выводзілі на двор і адтуль везлі або ў канцлагер, або адразу на згубу.

Турэмшчыкі нерваваліся і шалелі. Асабліва лютаваў адзін з іх, наглядчык з сонным тварам. Ён штоночы п'яны ўваходзіў у камеру, абводзячы ўсіх ненавідным позіркам, выбіраў ахвяру. Забіваць у камеры яму не дазвалялі, але біць ён мог, колькі хацеў. І наглядчык гэтае права выкарыстоўваў. Выбраўшы каго-небудзь, ён без усякай прычыны, з асалодай садыста, рукамі і нагамі біў і біў, пакуль не знемагаўся. Ісці да яго баяліся больш, як у гестапа...

Страшныя гэта былі дні. Людзі, якім даводзілася зносіць нечалавечыя здзекі, увесь час адчувалі блізкі цень смерці. Не адзін раз многія з іх гадалі: «Сёння?.. Ці заўтра? Няўжо — ніякай надзеі на ратунак?» І не адзін раз кіпелі гнеўныя, ад усяго сэрца, пагрозы забойцам...

Калі адчыняліся важкія дзверы, усе пазіралі: ці не браць прышлі, — каго сёння?

Дваццаць чацвёртага чэрвеня — позна вечарам — выклікалі Клаву.

— От і мая чарга настала...— прамовіла яна глуха, пачуўшы сваё прозвішча, і дзіўна ўсміхнулася.

Яна спакойна паправіла пасму бялявых валасоў, што спалі на лоб, і раптам моцна, колькі сілы, абняла Ніну за шыю. Абпаліла гарачым шэптам:

— Можа, мяне на смерць... Калі табе... пашанцуе, Нінка... раскажы Сяргею пра ўсё...

— А ты, калі... будзеш жыць, пра мяне... Аляксею і маці.

Адзін з турэмшчыкаў, які трымаў блакноцік у руцэ з залатым пярсцёнкам, закрычаў нецярпліва.

— Управішся! — кінула яму Клава. — Ой, не, Нінка, мне, мусіць, не давядзецца...

Яна выпрасталася і пайшла да дзвярэй, здавалася, як звычайна, спакойная.

Насустрач ёй выскачыў наглядчык з сонным тварам. Брыдка вылаяўся і наводмаш ударыў яе. Клава ледзь утрымалася на нагах, але болю на яе твары ніхто не ўбачыў. Не, не боль, а пагардлівая знішчальная ўсмешка з'явілася на яе твары. «Эх ты, гніда!» — пачулі ўсе ў прыціхлай камеры.

— Спяшайся... Ужо мала табе засталося!..

Наглядчык вылаяўся, але другі раз не ўдарыў...

Праз міг дзяўчына знікла ў калідоры. Ніна адчула, што больш яны ўжо ніколі не ўбачацца.

Усю гэту ноч Ніна думала і трызніла пра Клаву. Згадвала першую сустрэчу: хто тады мог падумаць, што яна такая, гэтая дзяўчынка-жартаўніца... Ніна бачыла яе зноў, якой яна прышла з допыту: «Ой, як мяне білі... Ніколі яшчэ не білі так...» «Усё-ткі яны ад мяне нічога не дабіліся!» — як бы яшчэ гучаў яе гарачы шэпт.

І вось яна пайшла ў апошні, напэўна, шлях. Гордая і спакойная за сябе, за сваё жыццё.

А ёй жа ўсяго семнаццаць. Столькі Ніне было, калі яна канчала дзесяты клас... Што яна ведала тады? Вочы толькі-толькі пачыналі разумець хараство, сэрца — сумаваць па каханні, незразумелым, заваблівым. Тады толькі пачыналася самае лепшае ў яе гадах...

А Клава гэтага, напэўна, не будзе ведаць... Затое яна ведае, што значыць гордасць жыць, гарэць для вялікай справы... Хай жа яна будзе такой яснай і прыгожай да апошняй хвіліны.

А калі трапіцца выпадкам магчымасць вырвацца, то няхай ёй будзе шчасце! Удачы табе, Клаўка!..

4

Раніцай пасля гэтай ночы Ніну выклікалі на допыт. Гэта быў яе апошні допыт.

Дапытвалі яе цяпер не ў будынку былога Інстытута народнай гаспадаркі, а тут жа, у памяшканні турмы. У вузкім і нізкім пакоі, куды яе ўвялі праз цёмны калідор, быў следчы з «вучоным выглядам». Ён сядзеў за сталом з нейкім немцам у форме эсэсаўца.

— У казіно? Не, я не пайду, Рэйзе... Бомбы з неба! Лепш да мяне, добра? Будзе весела!.. — гаварыў следчы эсэсаўцу.

— Добра... Толькі, каб Ані не была,— адказаў другі ўстаючы. — Ты ведаеш, я яе ўдала спіхнуў аднаму маёру. Можа, цяпер адчэпіцца... Добра было б, каб ты паклікаў Берту... А-а, паклічаш?

Ён акінуў Ніну позіркам.

Следчы блізарука прыплюшчыў вочы і надзеў рагавыя акуляры, якія ляжалі перад ім на папцы. Ён пачаў штосьці жаваць, як і мінулы раз.

— Я яшчэ раз паклікаў цябе, — загаварыў ён рэзка. — Мне патрэбны... прозвішчы мінскіх падпольшчыкаў і адрасы явак... Ты іх, вядома, ведаеш...

— Не ведаю... — адказала Ніна абыякава.

— Не ведаеш?.. Ты, значыць, рашыла ўпарціцца?.. А я думаў, што наша мінулая размова... непрыемная для цябе размова прымусіла цябе паразумнець. Аказваецца, не... Не? — вочы за рагавымі акулярамі рабіліся злымі. Ніна падумала, што сёння зноў будуць біць, але следчы раптам прамовіў:

— Ну, што ж, нарэшце... Мы заплоцім. Грошы дам... У Германію магу адправіць... калі ты баішся сваіх...

— Я казала — не ведаю нічога пра падпольшчыкаў.

— Ты смяешся?.. Ваша брыгада звязана з горадам. Гэта вядома... У мяне дакладныя весткі... Я маю весткі, што тут была і ты...

— Я не была...

— Ты ілжэш!.. — не вытрымаў, умяшаўся Рэйзе.

— Не, я не была тут, — ціха, але цвёрда паўтарыла яна.

— ' Не, ты была!.. Была!

Следчы нецярпліва паварушыў губамі.

— Яўкі і прозвішчы! — крыкнуў Рэйзе тонам загаду.— Зараз жа!.. «Не ведаю, нічога не ведаю...» — едка перакрывіў ён Ніну.

Рэйзе злосна ўсміхнуўся.

— Я не буду далікатнічаць!.. Пакуль не позна, чорт пабяры, — яўкі! Ну, я чакаю?

Памаўчаў, уставіўшыся пранізлівым позіркам на Ніну. Яна падумала, што гэта, відаць, апошняя размова тут, што далей — канцлагер, а можа, адразу Трасцянец...

Але чаго ён чакае? Няўжо думае, што яна ў апошнюю хвіліну здасца? Якая ненавісная морда, як хацелася б апусціць на яе прыклад аўтамата.

— Ну?!

— Я сказала — не ведаю...

Твар гестапаўца густа наліўся крывёю. Ён рэзка падскочыў да Ніны і з усяе сілы ўдарыў яе па твары. Яна ўпала. Калі Ніна прыўзнялася і села, стрымліваючы боль, каб не застагнаць, Рэйзе, пазіраючы ва ўпор, прашыпеў пагрозна:

— Маўчыш?! У-у-у, бальшавічка!..

— Супакойся, Рэйзе, — сказаў яму следчы. — Яна хутка змоўкне зусім. А іх — я знайду, знайду-у! Усё роўна!

З суседняга пакоя выбег ефрэйтар.

— Не трэба. Хаця... папрасі Берту... Готфрыд Берту, каб яна прышла да мяне... роўна а восьмай...

Ефрэйтар вышаў. Следчы сінім алоўкам штосьці надпісаў наверсе ліста пратакола, перакрэсліў яго і кінуў, як непатрэбную рэч, на край стала. Пры гэтым ён зірнуў на Рэйзе так, нібы пытаўся: «Ну вось — задаволен?..»

Белай рукой з тоўстымі пальцамі махнуў турэмшчыку:

— Вывесці!..

Зноў— калідорны прыцемак, грукат ботаў турэмшчыка, рады дзвярэй. Важка заскрыпелі завесы, і Ніна апынулася ў сваёй камеры.

Абыходзячы людзей, якія сядзелі і ляжалі на падлозе і нарах, стала прабірацца да свайго месца. Прымасціўшыся на ўскрайку нараў, абаперлася локцямі на калені. У галаве аднастайна паўтаралася: «маўчыш, маўчыш».

— Хутка сёння цябе... Напэўна, усё-ткі білі, — прамовіла суседка, Красуцкая.

— Без гэтага, відаць, не абыйсціся...

На Ніну раптам найшла нейкая дзіўная бяздумнасць, на якісьці час жанчына перастала заўважаць, што рабілася навокал...

Абудзілася яна, калі ўбачыла сонечную палоску на сцяне. Падумала, што ўжо, відаць, поўдзень, бо ў гэтым месцы палоска бывае, калі сонца стаіць на поўдні.

Тады ўспомнілася, як сонечны прамень мінулаю вясною лавіла Люда. Лавіла і ніяк не магла схапіць непаслухмяны прамень, які, нібы дражнячыся, скакаў раптам на ручкі, на пальчыкі.

Ніне захацелася ўзяць тыя ручкі, тыя пальчыкі, прыцiснуць да свае шчакі. Пяшчотна-пяшчотна. У душы варухнулася такое харошае і такое сумнае пачуццё, што сэрца зайшлося з болю.

— Дзе гэта цяпер мая... Людачка? — загаварыла яна раптам да Красуцкай.

Ніне хацелася гаварыць пра дачку. Хто можа лепш зразумець яе, як Красуцкая, у якой засталося там, на волі, чацвёра дзяцей. Ніна расказала Красуцкай, не называючы горада, як аднойчы, — яна ўспомніла пакой Клавы, асветлены вячэрнім сонцам, — была блізка ад дачкі, але не змагла пабачыцца з ёй...

— Пабаялася за яе!.. За яе — такі непакой. Каб ніякай хмурынкі, здаецца, на яе!..

— Ведама, матчына сэрца... У якой гэта маці сэрца не баліць па дзіцяці? Мне дык усё рупіць: мусіць, не ўбачымся...

Ніну апаліла жорсткая думка, што напоўніла яе тугой: «І мы, мусіць, больш не ўбачымся...» Аднак усё ўнутры яе заспрачалася: не, не, гэтага не можа быць.

— А мне здаецца, што пабачу яе...

## 5

Уночы непадалёк пачуліся гулкія выбухі гармат, частая дробная стралянiна блізкіх кулямётаў. Ніна адразу пачала зацікаўлена слухаць. У камеры ўсе заварушыліся, загаманілі...

Хутка стралянiна зрабілася такою густою, што, здавалася, усё неба пранізана кулямі ды асколкамі і, як бы ні хацелася, нікому не ўдасца прарвацца да горада. Лямпачкі ў камеры пагаслі. На пераплеценых кратамі вузкіх вокнах, прарэзаных каля самай столі, трапятала ўсплёскамі святло.

Але прайшло некалькі хвілін, і Ніна ў прамежку між выбухаў пачала ўлоўліваць жаданы ціхі гул. Ён мацнеў, не зважаючы на грукат гармат.

Нарэшце, пачуліся частыя і важкія выбухі бомб. Яны глушылі ляскат зенітак. Бомбы грукаталі як бы чэргамі, — выбухне некалькі бомб, потым наступае малая паўза, пасля якой зноў чуваць: гу-гу-гу. Сцены каземата і падлога пры кожным выбуху ўздрыгвалі.

— Гэта на Таварнай!.. — радасна крыкнула Ніна Красуцкай.— Бамбяць Таварную! Ой, ды як моцна! Што там цяпер робіцца, на Таварнай?! Эх, каб пабачыць!.. Чуеце, як грымнула. О, яшчэ раз! Чуеце?..

— Толькі б уцэлілі добра... — прашаптала на вуха Ніне Красуцкая.

Ніна ведала, што значылі гэтыя словы. На Таварнай амаль заўсёды стаяць эшалоны з боепрыпасамі...

— Уцэляць! Яны ўцэляць!.. О, чуеце, яшчэ — якія выбухі!.. Гэта ўжо ў іншым баку.

— На станкабудаўнічым...

Так, самалёты бамбілі і станкабудаўнічы завод, дзе гітлераўцы рамантавалі танкі і гарматы... Ніну перапаўняла такая радасць, якой яна даўно не ведала. Калі яшчэ тут гарэлі гэтак весела яе вочы, у якіх цяпер адбіваліся зарніцы выбухаў!..

Вось яно, яе шчасце. Прыйшло! Парадавала!

— Дзякуй вам... дзякуй, — шаптала Красуцкая.

У камеры ўзрушана гаварылі. Хтосьці засмяяўся, забываючыся пра сваё становішча. Праз тоўстыя сцены ўсё прабіваліся гукі выбухаў — ггах, га-гах...

Самалёты адбамбіліся, павярнулі назад. Гул сцішыўся, сціхлі зеніткі, а ў камеры яшчэ доўга панаваў той радасны, абнадзейлівы настрой, які прынеслі самалёты.

Па сценах трапяталі чырванаватыя водсветы.

— Відаць, недзе гарыць склад... — не магла маўчаць Ніна. — Мусіць, снарады! Глядзіце, як успыхвае!..

Яна падумала, што лётчыкі, магчыма, карысталіся тымі весткамі, якія прынесла яна з горада. Можа, іх камандзір па яе карце-схеме выбіраў аб'екты для бамбёжкі.

Значыцца, яна не дарэмна рызыкавала...

6

Клаву прывезлі сюды з лагера, што быў на вуліцы Шырокай.

Калі людзі пачалі выходзіць з машын, гітлераўцы, якія канваіравалі арыштаваных, адабралі некалькі чалавек, першых, якія трапіліся. Між іх была і Клава. Ім адразу загадалі ўзняць рукі і, нічога не гаворачы, пагналі да нейкай нізкай і доўгай пабудовы, падобнай на хлеў, якая цямнела ў ранішнім змроку.

— Гей ты, чаго стаіш, як пень!.. Рус ферфлюхтэн!..

Клаву ўпіхнулі ў будыніну.

Яна ступіла крок наперад і неспадзявана спаткнулася аб штосьці мяккае, што ляжала на зямлі.

Амаль у той жа час поблізу пранізліва заляскала аўтаматная чарга. Штосьці моцна тузанула яе ў спіну, і яна, яшчэ нічога не цямячы, упала тварам уніз...

— «Гэта — канец?» — праплыло здзіўлена і трывожна ў галаве. Яна не адказала сабе, бо не ведала, што гэта, ды і не шукала адказу...

Адчуваючы, як унутры ўсё пахаладзела, Клава чакала, што зноў пачнуць страляць па ёй. Але некалькі хвілін было ціха. Тыя хвіліны

цягнуліся вельмі марудна. Напэўна, нічога не магло быць горш гэтага: ляжаць, чакаць смерці.

Ёй страшэнна хацелася падхапіцца і бегчы, бегчы — абы-куды, толькі б не ляжаць тут, не чакаць.

Але яна стрымлівалася, — ці таму, што навакольнае было такім незвычайным, жахлівым, што яна не магла сабраць думкі да якога-небудзь ладу, ці таму, што, усёй душой цягнучыся да жыцця, яшчэ спадзявалася, што ўдасца як-небудзь вырвацца. Як бы там ні было, Клава ляжала нерухома.

Яна не застагнала, не паварухнулася і тады, калі двое схапілі яе за рукі і павалаклі. Плячо яе пры гэтым апаліла такім болем, што яна ледзь не страціла прытомнасць. Яе кінулі ў нейкую яму.

Прыводзілі арыштаваных — заўважыла Клава — яшчэ некалькі разоў. І зноў чуліся крыкі людзей і лаянка гітлераўцаў.

— Н-ну, жвавей! Чорт пабяры... Ідзі!..

— Не пайду! Страляй тут, паскуда арыйская!

— Гей, пагаворы! Штыль!.. Маўтшаць! Маўтшаць!

— І так намаўчаліся! Хопіць. — І на ўвесь голас: — Смерць вашаму Гітлеру, іуды! Усім вам!.. Гады вы! Падкалодныя!

— Страляй, сволач! Страляй! Хутка прыдуць нашы. Яны табе...

Нечы дзявочы голас прасіўся: «мамачка любая... мамачка мая...» Хтосьці моцным, урачыстым басам заспяваў:

«Кипучая, могучая, никем непобедимая
Страна моя, Москва моя!..»

Гэтыя воклічы і галасы абрываў, глушыў рэзкі ляскат аўтаматаў. Цемру раздзіралі стогны і лямант.

Два забітыя, якіх гітлераўцы сапхнулі ў яму, прыціснулі Клавіны плячо і ногі. Ёй было балюча, але яна маўчала.

Раптам штосьці вогненна зіхнула, ударыў выбух. Адзін, другі. Яна здагадалася, што гэта гітлераўцы кідаюць гранаты, каб дабіць параненых.

Адна граната выбухнула так блізка, што гром яе на хвіліну аглушыў Клаву. Але дзяўчына засталася жывой, бо яе прыкрыў сваім целам забіты.

Потым загучалі рэзкія галасы каманды, воклічы, і, нарэшце, стала ціха. Аўтаматчыкі, відаць, адыходзілі, таму што галасы іх паволі глушэлі.

Яна асцярожна павярнула галаву. Непадалёк чарнеў ледзь відны ў змроку салдат, які з нейкай пасудзіны абліваў забітых. Далей, за ім стаяў яшчэ адзін гітлеравец. Яна чула, як, плюскочучы, льецца

вадкасць. Ёй даў у нос едкі пах бензіну, і да яе дайшла страшная здагадка:

«Нас збіраюцца спаліць!»

Клаву ад гэтай думкі нібы абдала гарачай хваляй; зрабілася жахліва млосна. Ёй зноў захацелася ўскочыць і бегчы, бегчы. Але яна ўсё ляжала...

Неўзабаве ў салдат здарылася нейкая замінка, і яны, перакінуўшыся двума-трыма словамі па-нямецку, сталі выбірацца з ямы.

У аднаго, калі ён выходзіў, бразнула моцна аб нешта цвёрдае пасудзіна...

7

Калі непаспешлівыя крокі і галасы салдат пачалі аддаляцца, Клава першы момант яшчэ ляжала, нібы нежывая. Яна не адразу і зразумела, што адбылося. Але хутка ў гарачым змроку, што поўніў яе галаву, штосьці заяснела, затурбавала. Тады да яе ўжо выразна дайшло, што крокі аддаляюцца, што адбылося нешта асаблівае, і гэта Клаву быццам абудзіла.

Чуючы, як ураз забілася сэрца, яна з натугай вызваліла плячо і, крыху ўзняўшы галаву, стрымліваючы боль у плячы, ва ўсёй спіне, спасцярожліва азірнулася навокал.

Тут нікога больш не было. У яе ўспыхнула з новай прагай надзея, ад якой сэрца закалацілася гулка, часта.

Нікога?! Няўжо — нікога?!

Яна, не верачы, азірнулася ў другі раз. Так, навокал не было нікога! Ніводнай постаці з тых! Ніхто не сачыў за ёю, ніхто не перашкаджаў...

Ціха, пуста.

Толькі чуўся глыбокі, з нутра, пакутлівы стогн кагосьці з параненых: — Ы-ых, ы-ых.

Няясная надзея стала нястрымным, палючым жаданнем — уцячы, выратавацца!..

Яно прыдало аслабелай дзяўчыне дужасці. Клава, да якой вярнулася жвавасць думак і рухаў, не трацячы ні хвіліны попусту, паспрабавала варухнуцца, каб скінуць з сябе важкі труп, які прыціснуў ногі і паясніцу. Труп быў нібы каменны, нават не зварухнуўся ад яе натугі. Клава апала з крыўдай і знямогай. Але праз момант яна зноў узнялася, што сілы ўпіраючыся рукамі, напружваючы спіну.

Труп, нарэшце, крыху асунуўся ніжэй, і ёй палягчэла. Яшчэ адно намаганне, яшчэ, і вось толькі ногі яе да каленяў заціснуты. Але ногі яна можа выцягнуць.

Выцягнуўшы ногі, адчула, што змарылася. Але адпачываць не стала. Няма калі.

Нарэшце, яна можа падняцца. Клава на коленцах дабралася да краю ямы, абаперлася аб яго рукамі, адчуўшы пад пальцамі мокрую і слізкую зямлю. Узлёгшы на край яе грудзямі, уперлася каленямі. Выбралася.

Два крокі — і яна апынулася каля варот, у якія цьмяна шарэў двор.

Тут Клава прыпынілася. Хоць ёй хацелася хутчэй, хутчэй бегчы, хоць яе адсюль быццам штурхала штосьці вялікае, нецярплівае, яна стрымалася. Можна было здзівіцца яе разважлівасці ў такі час.

Тулячыся да шурпатага вушака, яна асцярожліва выглянула.

Нікога не відаць. Цішыня...

Толькі сэрца гулка і важка б'ецца — і яго ўдары гучаць у цішыні, як грымоты. Клава прыціснула руку да грудзей, як бы стрымліваючы яго ці суцішаючы, — здавалася, што яго гул могуць пачуць...

Куды бегчы? У які бок?

Яна хацела была кінуцца ўлева, калі адтуль пачуліся недалёкія павольныя галасы немцаў.

Відаць, салдаты вярталіся.

Каб не гэтыя галасы, Клава наскочыла б на гітлераўцаў, але на шчасце, яна пачула іх у час. Забойцы самі неспадзявана для іх як бы перасцерагалі Клаву: жыццё яе залежала ад нікчэмнай выпадковасці.

Слухаючы галасы, у якіх дзяўчыне чулася пагроза, хоць гітлераўцы гаварылі зусім будзённа і ціха, яна, не марудзячы ні секунды, рашуча, без роздуму кінулася ў вароты.

Прыціснуўшыся да сценкі, як толькі было можна, яна ценем шмыгнула за вугал будынка.

Клава ледзь управілася схавацца за вуглом, калі з другога боку з'явіліся дзве постаці, што неслі ў руках поўныя пасудзіны.

Прыпыніўшыся, прыціскаючыся да бярвенняў, замёршы так, што сэрца нібы спынілася, яна прыслухалася да іх галасоў і крокаў — ці не заўважылі?! Ці не ідуць сюды? — і разам з тым насцярожана і прагна акінула позіркам месца навокал.

Яно было пустое і адкрытае: ні кусточка, ні лагчынкі, дзе б можна было прапаўзці, стаіцца ад чужых вачэй, прыхавацца. І змрок шарэў па-ранішняму рэдкаваты, здрадлівы, і цішыня панавала зманлівая, непатрэбная. Чаму цяпер не глухая, асенняя ноч, не цемра, якая хавае чалавека, не вецер, які глушыць крокі...

Справа хтосьці хадзіў, — напэўна, вартавы, якога было слаба відаць у прыцемку. Каля вартавога чарнеліся ў рад слупы, там —

мільганула ў Клавінай галаве — напэўна, цягнецца агарожа. Вунь, лявей, яшчэ адна постаць.

Як тут выбрацца?

Марудзіць нельга было. Яна гэта не толькі помніла, яна гэтым жыла. Гэта было самае галоўнае ў яе душы. Як толькі дзяўчына агледзелася, яна адразу ж пачала адпаўзаць — хутчэй, хутчэй, ад гэтага страшнага месца.

Эх, чаму светла навокал! Здаецца, кожны яе рух відаць здалёк. А можа, яе ўжо заўважылі? Вунь вартавы чамусьці спыніўся...

Прыпаўшы да зямлі, не варушачыся, яна стала ўзірацца: не, гэта ён так, ён не бачыць яе, — вось ён зноў патупаў. Клава аддыхалася: тады, калі яна сачыла за вартавым, яна перастала дыхаць.

Цяпер можна прабірацца далей, асцярожней і смялей, пакуль не позна.

Шлях гэты ёй вельмі сцягнуўся. Клава яшчэ некалькі разоў прыпынялася, прыслухоўвалася, узіралася ў зморк, пакуль, нарэшце, не дабралася да агарожы, да слупа, які цяпер здаўся вельмі высокім. Тут яна зноў прыпынілася. Трэба зрабіць, мусіць, самае цяжкае, небяспечнае, а можа, і немагчымае: перабрацца праз калючую загарожу.

А што, калі яна, загарожа, так зроблена, што праз яе пралезці не можна? Ці, можа, ледзь дакранешся да яе, як яна зазвініць, загрыміць? Трывожачыся гэтымі неспакойнымі думкамі, Клава асцярожна кранула рукою дрот. Хутка адняла руку, паслухала: навокал было па-ранейшаму ціха. Узняўшы ад зямлі тугі, калючы дрот, паспрабавала падцісвуць пад яго плечы.

Дрот паддаваўся неахвотна, уядаўся ў рукі.

Ёй прыйшлося легчы на спіну, каб можна было, трымаючы яго рукамі над сабою, прасунуцца на другі бок. Рукі дрыжалі ад вялікай натугі, калючкі моцна ўпіліся ў нагу над каленам. Але яна гэта не заўважыла. Яе затрывожыла тое, што за калючку зачапілася спадніца. Гэта было амаль няшчасце: як яе адчапіць, калючку, у такім стане, як не патрывожыць дрот, не выдаць сябе.

Клаве прыйшлося паваждацца, пакуль удалося яе адчапіць.

За агарожай у траве Клава некалькі хвілін ляжала, чакаючы, калі вартавы адыдзе далей. Неспадзявана яна пачула, што тут моцна, так моцна — аж кружыцца галава — пахне рамонкам.

Вычакаўшы зручны момант, яна выбралася на дарогу. Уціскаючыся ў зямлю, ловячы кожны гук у ранішняй цішыні, хутка папаўзла на другі бок. Перабраўшыся, затаілася ў затравелай разоры,

пачакала, ці не заўважылі, зірнула, у які бок ідзе вартавы. Усё было ціха, і вартавы ішоў ад яе. Значыцца, можна далей.

Паўзком па роснай траве яна дацягнулася да хмызнячку.

Схаваўшыся ў ім, дзяўчына ўстала, азірнулася, паслухала і, ужо не маючы больш сілы стрымлівацца, забыўшыся на ўсё, адчуваючы толькі ззаду за сабой здань жаху, якая нібы гналася за ёй, кінулася ў бок балота ці рэчкі, мяркуючы па тым, што там бялеў туман. Задыхаючыся ад бегу, гарачкавата думала: у тумане можна пакуль што схавацца, а ў балоце яна скрые свой след, бо, можа, будзе пагоня... І нап'ецца вады.

Галіны алешынак і бярозак секлі яе твар, але яна бегла і бегла. І ўсё хацела аднаго — хутчэй, хутчэй ад таго жахлівага будынка.

Не ведала ні радасці, ні палёгкі. Усе яе пачуцці глушылі трывога і непакой, якія гналі дзяўчыну ўсё далей...

Але яна хутка пачала слабець. Галаву паліў агонь, які паступова мацнеў, калі яна бегла, і, нарэшце, пры кожным штуршку стаў адзывацца нясцерпным болем. Яна вымушана была пайсці цішэй, са страхам заўважаючы, што перад яе вачыма ўсё пачынае хістацца.

У яе яшчэ хапіла сілы перабрацца праз рэчку. Гэта, выявілася, было не балота, а дробная, мелкая рэчка. Вады ў рэчцы было крыху больш, як да кален. Перайшоўшы рэчачку, Клава здолела праз лужок дапаўзці да загону жыта. Становішча было па-ранейшаму небяспечнае, бо тут маглі лёгка знайсці.

Напаследак, калі ўжо ўзнялося сонца і. пачало прыграваць, яна, лежачы тварам да мяккай, пульхнай зямлі, тулячыся шчакой да белай кветкі павітухі, як цераз дрымоту, цераз гарачы звон, што поўніў галаву яе, наваколле, пачула поблізу крокі, шоргат калоссяў. Хтосьці блізка ішоў.

Больш нічога не чула. Усё раптам, як і паявілася, патанула ў гарачым звоне, усе трывогі і ўсе надзеі.

Клава страціла прытомнасць.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ
### Раздзел I

#### I

Становішча войска ўвесь час мянялася. Дні адразу быццам падаўжэлі — так многа ўмяшчалі яны ў сабе. Зводкі і данясенні, што ляцелі ўвесь час з карпусоў і армій у штаб фронта, зіхацелі назвамі ўсё новых адваяваных вёсак, гарадоў, станцый. Такія паведамленні былі з усіх участкаў...

На поўначы нашы часці яшчэ 25 чэрвеня ўчапіліся за ўскраіну Віцебска, пачаўшы бітву за адзін з буйнейшых беларускіх гарадоў... Спачатку гітлераўцы былі выбіты з усходняй часткі Віцебска. Пад сховаю вячэрняй цемры група сапёраў захапіла і размініравала мост, па якім пехацінцы адразу пераправіліся цераз Заходнюю Дзвіну, пачаўшы наступленне на другім беразе ракі. Амаль тады ж уварваліся ў горад нашы палкі, што наступалі з заходняга боку. Пачаўся штурм варожых пазіцый.

Горад, падпалены гітлераўцамі, асвятляў месцы баёў шматлікімі пажарамі. Усю ноч пехацінцы і артылерысты бралі дом за домам, квартал за кварталам.

Раніцай 26 чэрвеня Віцебск быў поўнасцю вызвален. Па разбураных, зраненых вуліцах панура цягнуліся чароды ваеннапалонных.

На захадзе і паўднёвым захадзе ад горада яшчэ ішлі баі: наша армія дабівала дзве акружаныя гітлераўскія групіроўкі, якія марна спрабавалі вырвацца. Праўда, частцы немцаў удалося спачатку прабіцца з акружэння, але тады Чарняхоўскі загадаў павярнуць часці Паплаўская, што наступалі пад Багушэўскам, на поўнач, а левы фланг войск Люднікава — на ўсход, і гітлераўцы зноў былі акружаны.

На поўдні ад Мінскай магістралі фронт падыходзіў да Дняпра: савецкія палкі вялі баі на ўскраінах Магілёва.

Заняўшы Жлобін, танкісты і кавалерысты Першага Беларускага фронта хутка вырваліся на поўнач і акружылі пад Бабруйскам групіроўку гітлераўцаў, якая складалася з пяці дывізій. Так утварыўся яшчэ адзін «кацёл».

У гэтыя дні танкісты Чарняхоўскага перарэзалі шляхі, што звязвалі Оршу з захадам. Каб унікнуць акружэння, гітлераўцы, пакінуўшы ў горадзе моцныя заслоны, пачалі хутка адыходзіць на поўдзень. Нашы пехацінцы, артылерысты і танкісты ўварваліся на паўночную і паўночна-ўсходнюю ўскраіны Оршы. У той жа час войскі, што наступалі з поўдня, пераправіліся цераз Дняпро і завязалі баі ў цэнтры горада...

2

Мост быў разбураны. Іншыя зручныя для пераправы месцы знаходзіліся далёка. Старшы лейтэнант парашыў перапраўляцца ўброд.

Танкі, рассоўваючы крутымі грудзьмі ваду, лёгка пераходзілі рэчку, але з натугай раўлі, калі пераадольвалі вязкі грунт берага. Як ні асцярожна вялі па гэтым грунце машыны вадзіцелі, памятаючы Аляксеевы «ўрокі», усё ж, калі пераправіліся некалькі машын, гусеніцы раскапалі на берагах такія канавы, што гразь уздымалася амаль на

вышыню клірэнса. Аляксей паспрабаваў перапраўляцца далей ад дарогі, паслаўшы туды аднаго з самых добрых вадзіцеляў, але машына засела, яшчэ не падышоўшы да рэчкі. Прышлося вяртацца на ранейшае месца.

— Наслаць бярвенні! — загадаў старшы лейтэнант. На кожнай машыне былі бярвенні, падрыхтаваныя яшчэ да пачатку прарыву, якія па загаду Бяссонава ўвесь час везлі з сабой.

Цяпер іх хутка паклалі ўпоперак чорных разварочаных каляін. Па бярвеннях, як па шпалах, пачалі перапраўляцца «трыццацьчацвёркі»...

Неўзабаве важкія машыны так уціснулі ў гразь бярвенні, што іх не стала відаць.

Старшы лейтэнант, які ўвесь час быў на беразе, выходзіў насустрач кожнай машыне, што набліжалася да пераправы, і, ступаючы наперадзе яе, рукамі паказваў механікам, дзе весці.

На шчасце, ноч была ясная. Над полем серабрыста бялеў амаль поўны месяц, падобны на ліхтарны шар, і пераправіцца можна было, не запальваючы святла. Вада ў рэчцы блакітна свяцілася, — за машынамі, як ад парома, разыходзіліся ў бакі зыбкія вадзяныя палосы.

Адна «трыццацьчацвёрка» завязла на пераправе. Вадзіцель дачасна даў газ, і, калі трэба было зрабіць рывок, матор сціх.

— Эх ты, герой! — сказаў гарачкавага лейтэнант Гогабярыдзе. — У лужыне сеў!..

— Вазьмі на буксір, — загадаў яму Аляксей, які не любіў гаварыць попусту. Чаго тут цяпер лаяць, усё роўна гэтым нічога не дапаможаш.

Лейтэнант схамянуўся, заспяшаўся да кладкі, якая была перакінута на месцы разбуранага мастка. Аляксей бачыў, як Гогабярыдзе спрытна перабег па хісткіх жэрдках, балансіруючы рукамі. Рухі яго, як заўсёды, былі лёгкімі і прыгожымі. «Хадзіць бы табе, Сандро, у тэатры на сцэне, каб любаваліся ўсе», — мімаволі мільганула ў галаве Аляксея.

Тады, калі на тым баку прыладжвалі буксір, старшы лейтэнант, які то хадзіў туды-сюды, то пазіраў нецярпліва за рэчку, падумаў, што гэтая пераправа адбярэ ў яго многа часу. Прыдзецца, мусіць, да самага світання тут працягацца. І хто б мог ведаць, што гэтая рачулка так доўга затрымае.

Аляксей адчуў, што вельмі стаміўся. «Трэба было б гадзіну падрамаць... Ну, што ж, яшчэ некалькі машын перапраўлю, а потым пакіну наглядаць тут каго-небудзь...»

Неўзабаве на тым баку натужна, з завываннем, загурчаў буксірны танк. Счапілі, было відаць, некалькі тросаў, каб буксірная машына стаяла наводдаль ад берага, на цвёрдым грунце...

Танк, што засеў на пераправе, неахвотна і важка пачаў успаўзаць на разварочаны бераг.

Старшы лейтэнант убачыў, што па дарозе да пераправы падышла легкавая машына. Як толькі яна спынілася, на дарогу выскачыў прысадзісты моцны чалавек. Лагуновіч пазнаў Бяссонава і пайшоў насустрач яму.

— Ну, як тут у цябе, Лагуновіч? Многа перацягнуў?..

Палкоўнік, не спыняючыся, адразу накіраваўся да рэчкі. Аляксей на хаду дакладваў яму, як ідзе пераправа, колькі машын перабралася ўжо на другі бераг.

— Мала пераправіў, — прамовіў незадаволена Бяссонаў. — Так да поўдня праваждаешся тут...

Ён паглядзеў, як гусеніцы размясілі бераг, і, сказаўшы, каб Аляксей ішоў за ім, накіраваўся назад. Праходзячы каля машын, што стаялі пры дарозе, чакаючы сваёй чаргі перапраўляцца, палкоўнік убачыў Колышава і прыпыніўся:

— Як ваюеш?.. Лагуновіч, як ён у цябе?..

— Ваюе нядрэнна, таварыш гвардыі палкоўнік... Толькі вось не пашанцавала яму: машыну разбамбілі. Цяпер разам з аўтаматчыкамі быць прыходзіцца...

— А ты незадаволены гэтым? — Бяссонаў зірнуў на Колышава.

— Чаму?.. Вядома, на танку мне зручней, але, таварыш гвардыі палкоўнік, і аўтаматчыкі — салдаты...

— Правільна. Галоўнае, усюды быць салдатам. Добрым салдатам!.. Мне самому давялося пабыць і ў пяхоце, і ў кавалерыі, усяго паспытаць. А я задаволены!..

Цяперашнім летам пераваліла дваццаць год, як ён прышоў у армію, паваяваўшы перад гэтым яшчэ разам з сібірскімі партызанамі. У арміі Бяссонаў доўга служыў і салдатам, і аддзялённым, і ўзводным, і ротным — усё ў пяхоце, у танкавую часць ён трапіў многа пазней. Рос ён пастунова, папрацаваўшы, здаецца, на ўсіх пасадах па чарзе...

Мусіць, ад салдацкіх часоў у Бяссонава засталася звычка быць з салдатамі простым у абыходжанні, ён вёў сябе з імі, хоць і грубавата і рэзка, але нібы роўны з роўнымі. Не грэбаваў камбрыг і самай цяжкай і маркай салдацкай працаю...

— Я спадзяюся, што яшчэ пачую пра цябе! — сказаў Бяссонаў і пайшоў.

Каля свайго «газіка» ён спыніўся:

— Затрымліваешся ты... Вось што, старшы лейтэнант, пакінь за сябе намесніка, а сам — бяры машыны, што пераправіліся, і гані ў кірунку Хвойнага! — ён сказаў ад'ютанту, каб той даў ліхтарык. Пасвяціў Аляксею, які выняў карту з планшэткі. — Вось тут... у лясочку — будзеш засяроджвацца. Злева ад дарогі, правей цябе, будзе Белабародаў... Немцы — ёсць весткі — на выручку Трауту спешна перакідваюць пяхотную дывізію. Трэба зараз жа выйсці сустракаць іх!..

Ён сеў у машыну, даў знак шафёру завяртаць і ўжо на хаду кінуў Аляксею:

— Трымай са мной сувязь — будзь увесь час на прыёме!..

— Ёсць, таварыш гвардыі палкоўнік!

Аляксей адразу перабраўся на той бераг, да сваёй машыны. Гогабярыдзе па тым, як камандзір рота рашуча і хутка падышоў, здагадаўся, што ён атрымаў загад выступаць.

— Хутка выступім, Аляксей?

— Так, Сандро, заданне. І вельмі важнае... Пакліч камандзіраў сюды!

Аляксей, схіліўшыся ў люк вадзіцеля і паднёсшы карту да маленькай зыркай лямпачкі, уважліва прагледзеў маршрут.

Калі камандзіры сабраліся, ён некалькімі словамі расказаў пра задачу і загадаў зараз жа выступаць. Цяпер, адчуў ён, на ўліку кожная хвіліна... Аляксей спехам зацягнуўся папяросаю некалькі разоў, кінуу яе і падняўся на вежу. Танк крануўся.

Машыну лёгка пакалыхвала. Твар ледзь халадзіў свежы начны ветрык.

У гэтую хвіліну, чакаючы блізкі бой, Аляксей стаў думаць пра Ніну. Дзе яна цяпер? Што робіць? Пры ўспаміне пра яе на сэрцы стала трывожна і неспакойна. Цяпер, калі яна была бліжэй ад яго, чым калі-небудзь, ён пачаў больш трывожыцца за яе.

Старшы лейтэнант звязаўся па рацыі з камбатам і з «Грымучым» — радыстам камандзіра брыгады.

— Грымучы! Я — Ручай... Як чуеце мяне?.. Прыём,— ён пераключыў рацыю «на прыём» і пачуў адказ радыста камбрыга:

— Я — Грымучы... Чую вас добра...

У навушніках стаяў бязладны трэск,. мешаніна розных гукаў.

Было па-ранейшаму месячна. У святле месяца і дарога, і кусты, і поле здаваліся блакітнымі. Часамі палоскі збажыны, якая ледзь варушылася, блішчалі, як марскія хвалі. Ценявыя бакі кустоў і дрэваў былі чорныя, загадкавыя, і Аляксей, які прывык сачыць за ўсімі мясцінамі, адкуль можа пагражаць небяспека, на гэтыя цені паглядаў насцярожана.

У баку фронта амаль безупынку грукаталі гарматы. Гукі іх цяпер нагадвалі прыцішаны, няблізкі гром. Слухаючы тое глухое вуркатанне, Аляксей падумаў, як многа яны прайшлі за гэты кароткі час. Але гукі далёкіх грымот абудзілі разам з тым і неспакой, — старшы лейтэнант у іх як бы пачуў, што гітлераўцы па-ранейшаму б'юцца, б'юцца зацята, спрабуюць, дзе можна, трымацца.

«Дзіўна, — падумаў старшы лейтэнант. — Яшчэ праз дзень — другі ім не будзе куды адступаць, а яны б'юцца за кожны акоп!..»

3

Яшчэ не пачынала світаць, калі старшы лейтэнант са сваімі «трыццацьчацвёркамі» дайшоў да Хвойнага.

Ён перш за ўсё завёў машыны ў лясок, у якім было вельмі ціха і цёпла, нібы ў хаце, і разгарнуў роту так, каб усе маглі манеўраваць і страляць.

Аляксей паслаў Колышава і двух аўтаматчыкаў разведаць, якое наперадзе месца, ці добрае яно для атакі яго танкаў.

Ён сказаў, каб Колышаў не адыходзіў далёка, бо хто ведае, калі пачнуць паяўляцца наперадзе гэтыя гітлераўскія памочнікі?

Старшы лейтэнант быў незадаволены, што месяц цяпер, на досвітку, схаваўся і што навокал усё ахутаў густы змрок. Тут жа, у гэтым галлі і лісці, якое і навісла ўгары, і абступіла з усіх бакоў, і чапляецца ледзь не ўсюды за ногі, стаіць такая цемра, што, прадзіраючыся праз яе, трэба трымаць далонь перад вачыма, бо можаш напароцца на бяду...

— Разбягуцца гітлераўцы ў гэтай цемрадзі... — сказаў Аляксей лейтэнанту Гогабярыдзе.

— Не разбягуцца, Аляксей! — упэўнена заявіў Сандро. — Як гэта, разбягуцца?! Чалавек — не іголка... Акрамя таго — цемры не будзе!

Ён засмяяўся.

— Не верыш?! Яны падыдуць сюды, калі сонца будзе... на самым высокім месцы. Апоўдні — вось пабачыш!

Гогабярыдзе гаварыў з такой упэўненасцю, быццам пра ўсё гэта ў яго меліся дакладныя весткі. Ён чамусьці заўсёды і ўсюды быў упэўненым, упэўненым у тым, што ўсё будзе так, як яму здаецца і хочацца. Гэтая яго ўпэўненасць, якая не адзін раз здзіўляла Аляксея, межавала з нейкай бесклапотнасцю: Сандро здаваўся Аляксею крыху легкадумным.

— Да чаго ж можна быць бесклапотным!— здзівіўся не ў першы раз Якавенка.

— А ты — на дзіва сур'ёзны! Увесь час думаеш, думаеш — шкада цябе!.. Не гавары нічога — я не люблю, калі ты чытаеш мараль — мне становіцца нудна.

Якавенка пачырванеў: Сандро трапіў у балючае месца — Якавенка вельмі любіў павучаць.

Гогабярыдзе паклікаў Аляксея «перакусіць». Сандро аднекуль са сваіх запасаў дастаў пляшку трафейнага рому.

— Не маскоўская асобая, папярэджваю, але нішто, піць можна. Мы яшчэ, Аляксей, не пілі за тваё шчасце...

Добры, таварыскі хлопец Сандро! Жыццё за таварыша можа аддаць, нічога не пашкадуе. Падабалася Аляксею, што ён быў адкрыты, просты, не таіўся ні ў чым...

Спехам паснедаўшы, Аляксей падаўся да сваёй машыны.

— Прыляж, прыкархні гадзінку— дзве, — параіў услед яму Гогабярыдзе. — Раней поўдня не пачнецца!..

Аднак ледзь Аляксей ступіў некалькі крокаў, раптам пачуўся наводдаль трэск матацыклаў. Ён пачаў хутчэй прабірацца да сваёй машыны.

Танк быў прыкрыты кустамі і галлём маладога дубка, што хавала вежу. Аляксей стаў каля лабавіка. Абламаўшы некалькі гнуткіх галінак, ён зрабіў перад сваімі вачыма праталінку, каб можна было лепш бачыць дарогу.

Праз некалькі хвілін у світальнай шэрані, што была ўжо даволі рэдкай, на полі перад лесам Аляксей разгледзеў цёмныя абрысы двух постацей на матацыклах, якія паволі набліжаліся па дарозе. За імі, наводдаль, ціха, быццам прыслухоўваючыся і прынюхваючыся, ішоў бронетранспарцёр. «Відаць, перадавая застава», — мільганула здагадка ў Аляксея.

— Здымем, старшы лейтэнант? — прамовіў нецярпліва Быстроў, які з люка вежы таксама сачыў за дарогаю.

— Хай едуць...

Аляксей быў упэўнены, што за бронетранспарцёрам зараз пойдуць, можа, яшчэ матацыклы, а хутчэй за ўсё грузавікі з пяхотай — асноўныя сілы. Ён пільна ўглядаўся ў не зусім ясную далеч і ў той жа час прыслухоўваўся, але яму перашкаджаў надакучлівы трэск матацыклаў. Калі матацыклісты крыху ад'ехалі, за ўзгоркам пачуўся прыцішаны шум, і тады ж Аляксей заўважыў недзе далей, на другім, крыху вышэйшым, узгорку абрыс грузавіка. Машына пачала спускацца ў нявідную лагчыну і хутка знікла, але ўслед за ёй на ўзгорак высунулася другая, трэцяя, пятая...

Яны ішлі з патушанымі фарамі, ішлі, мусіць, усю ноч, спяшаючыся да дня наблізіцца да фронта.

Цераз якіх-небудзь трыста метраў ад дрэваў, дзе стаялі танкі, дарога паварочвала і ішла ўсцяж лесу. Першымі павярнулі — убачыў Аляксей — бранявік, яшчэ бронетранспарцёр, за імі — некалькі машын з салдатамі, за машынамі на прычэпе каціліся дзве маленькія працітанкавыя гарматка Салдаты ў кузавах сядзелі ціха, напэўна, драмалі.

Танкісты, сочачы за ворагам, ірваліся хутчэй у атаку. Яны неспакойна чакалі стрэлу з камандзірскай машыны, які быў бы сігналам да бою, але і гармата і кулямёты камандзіра маўчалі. «Чаго ён марудзіць?»— думаў не адзін з іх пра Аляксея.

А старшы лейтэнант цярпліва чакаў, калі калона як мага больш спусціцца з узгорка.

«Нікуды яны цяпер ад нас не ўцякуць, — няхай бліжэй падыходзяць, каб біць іх было зручней...»

Калона расцягнулася амаль на паўкіламетра, а на ўзгорак узыходзілі новыя машыны. «Ого, колькі іх сабралася!» — мімаволі падумаў старшы лейтэнант.

І вось Аляксей адчуў, што надышоў час пачынаць. Ён ускочыў у машыну і загадаў Быстрову даць стрэл. Гармата адразу ўдарыла ва ўпор па калоне. Лясное водгулле не паспела падхапіць гук стрэлу, бо ўслед дружна загрукаталі іншыя «трыццацьчацвёркі».

Быстроў нацэліўся ў бранявік, што ішоў наперадзе. Ад першага ж стрэлу Быстрова бранявік вільнуў з дарогі і застыў, нахіліўшыся набок.

Калона ў замяшанні спынілася. Пачалася панічная мітусня. З машын, як гарох, сыпаліся салдаты, з дрымоты, напэўна, не цямячы добра, што адбываецца. А танкі, не перастаючы, білі і білі, — адны па пярэдніх машынах, другія па цэнтру, па «хвасту». У некалькіх месцах адразу ўспыхнула полымя.

Машына старшага лейтэнанта, раскідваючы маскіроўку і падмінаючы кусты, вышла з зарасніку.

Другія «трыццацьчацвёркі» хутка выпаўзалі побач з ёй. Кідаючы з-пад гусеніц камякі зямлі, уціскаючы траву, танкі рушылі на калону. Машына Якавенкі з налёту збіла і падмяла пад сябе «ўсюдыход», што імкнуўся абыйсці грузавікі. Сплюшчыўшы і скарэжыўшы кузаў «усюдыхода», Якавенка паімчаў далей.

«Трыццацьчацвёркі» цяпер завіхаліся на ўсім бачным адрэзку дарогі.

— Сувязь парушана? — запытаўся з прыкметным спачуваннем генерал-лейтэнант.

— Так.

Фельдмаршал амаль безуважна пашукаў вачыма штосьці на разасланай карце.

— Яны разразаюць нашы войскі, дробняць адзінае цела нашай групы на часткі. Яны разлічваюць, што такім спосабам, па частках, лягчэй будзе справіцца з намі... Наступленне ідзе аднвчасова з шасці напрамкаў. І на ўсіх напрамках — у іх вялікая перавага...

Фельдмаршал зірнуў на генерала, сочачы, як генерал адносіцца да яго слоў. Вочы ўпаўнаважанага былі закрыты халоднымі шкельцамі акуляраў.

— Салдаты не праяўляюць дастатковай упартасці ў абароне,- прамовіў Баумволь,— Ёсць адзнакі паяўлення нявер'я ў сябе...

— Генерал, толькі нямецкі салдат мог вытрымаць такі націск і не пасці духам,— нязгодна, сухавата адказаў фельдмаршал.— Нашы часці збераглі парадак, дысцыпліну. Гэта ў такіх акалічнасцях, дзе многія другія арміі немінуча загінулі б... Нельга не ўлічваць складанасць абстаноўкі. — Ён неспадзеўкі стомлена паведаміў: — Рускія прарваліся к Бабруйску.

— Калі?

— Сёння. Атакавалі. Але — адбіты.

Фельдмаршал апошнім словам, відаць, хацеў зрабіць сваё паведамленне не такім сумным, хацеў надаць яму выгляд абнадзейлівасці. Упаўнаважанага гэта не супакоіла.

— Бабруйск нельга здаваць ні ў якім разе! Мы не можам адступіць з Бабруйска!..

Генерал-лейтэнант узрушана падняўся. Ён глядзеў на фельдмаршала такімі вачыма, нібы ўся бяда была ад камандуючага,— гэтыя вочы патрабавалі і чакалі.

Фельдмаршал згадзіўся:

— Бабруйск — ключ да ўсёй нашай бярэзінскай абароны... Страціўшы Бабруйск, мы паставім пад удар увесь бярэзінскі рубеж... Я лічу, генерал, што наша абарона па Бярэзіне дае нам вялікія шансы стрымаць ярасны націск рускіх, абяскровіць іх...

— Трэба, каб нашы салдаты ўмацаваліся на Бярэзіне да падыходу рускіх. Рускія ўжо нярэдка ідуць наперадзе нас...

Фельдмаршал адчуў у гэтых словах папрок.

— Я паклапачуся пра гэта сам.

Ён запытаўся, ці доўга намеран генерал-лейтэнант яшчэ прабыць на фронце, і генерал-лейтэнант пачуў у яго словах і сум і

скрытую непрыязнасць, як яму здалося, за тое, што ён, Баумволь, можа паехаць у ціхую, ратоўную далеч.

— Я павінен азнаёміцца з падрыхтаванасцю нашай абароны на Бярэзіне, у Мінску. Акрамя таго, я маю даць некаторыя інструкцыі Готбергу... Аднак, генерал-фельдмаршал, — усміхнуўся ўпаўнаважаны, — я зусім не развітваюся з вамі. Я яшчэ магу вярнуцца да вас, калі гэта будзе патрэбна справе і фюрэру... Усе нашы планы залежаць ад фюрэра...

Развітваючыся, гаворачы гэта, генерал-лейтэнант не ўяўляў сабе, пры якіх акалічнасцях ён можа вярнуцца ў армію. Але ён вярнуўся, вярнуўся, каб убачыць, перажыць вялікую ў сваім жыцці трагедыю.

Апоўдні наступнага дня ён быў у Мінску.

3

У Мінску генерал-лейтэнанту Баумволю і Вольфу давялося спаткацца.

Вольф атрымаў часовае прызначэнне да палкоўніка Шульцэ, які рыхтаваў абарончыя збудаванні каля горада і ў горадзе.

— Вас да мяне накіравалі? — паморшчыўся Шульцэ. Гэта быў яшчэ малады чалавек, гадоў трыццаці дзевяці, з сухім, посным тварам. Шульцэ быў нечым вельмі незадаволены.

— Яволь, гер палкоўнік.

— Для якой патрэбы?

— Памагаць, гер палкоўнік...

— Вам тут рабіць няма чаго, — ён убачыў здзіўлены позірк Вольфа.— Я ўжо ўсё зрабіў... Войскі могуць хоць сёння займаць умацаванні і ваяваць.

Ён зірнуў на Вольфа, які стаяў, як свечка, і, мусіць, для таго, каб пераканаць гэтага недаверка-маёра, дастаўшы папку, разгарнуў карту са схемай умацаванняў:

— Вось, палюбуйцеся — знешні абарончы пояс... Гэта — сістэма апорных пунктаў у горадзе... Яны ўсе гатовы!

Не ўправіўся Вольф разабраць што-небудзь, як Шульцэ карту згарнуў і стаў, не зважаючы на маёра, збірацца. Пазваніў шафёру, загадаў падаць машыну.

— Мяне чакае генерал Баумволь. Трэба пабыць на некаторых участках...— гэтым ён, відаць, даваў знак, што размова скончана.

Шульцэ ўжо накіраваўся быў да дзвярэй, але, ступіўшы крок ці два, задуменна спыніўся і неахвотна прамовіў:

— Можаце паехаць і вы...

Ён адносіўся да Вольфа яўна высакамерна, як бы падкрэсліваючы, што яны не раўня. І Вольф адразу знелюбіў яго. «Індык самаўпэўнены...— смаркач!»— аблаяў ён у думках палкоўніка: Шульцэ быў не менш як гадоў на пяць маладзей за яго.

У такім настроі Вольф і сядзеў на заднім скураным сядзенні «мерседэса-бенца» каля будынка, дзе быў генерал. Чакаць давялося нядоўга. Неўзабаве машыны ўжо імчалі па вуліцах, усцяж якіх беглі доўгія горы руін.

Генерал і яго ад'ютант і ахова ехалі ззаду.

Машыны мінулі мост над Свіслаччу, Камароўку і неўзабаве выбеглі за горад. Шульцэ высіўся поруч з шафёрам, вельмі прамы, і ад таго, мусіць, што ён быў поўны ўласнай вялікасці, у яго і верх фуражкі неяк асабліва лез ўгару. За ўвесь час ён не сказаў ні слова Вольфу.

Шульца павёў генерала палявой дарожкай. Яны спыніліся на невялікім узгорку каля дота, замаскіраванага ельнічкам.

— Гэта — някепска,— стрымана сказаў генерал, агледзеўшы дот і пазіраючы ў амбразуру, за якой віднелася жытняе поле, кусты наводдаль.

— Тут можна трымацца. Можна трымацца...— задуменна сказаў ён, гледзячы на тое ж поле ўжо з узгорка.

— Аб гэты бастыён можна зламаць нават моцныя зубы,— запэўніў Шульцэ.

Баумволь, незадаволена прыплюшчыўшы вочы, пазіраў на ўсход так, быццам стараўся ўбачыць рады чужых войск.

Выцершы хусцінкай потны лоб, Шульцэ рэзка павярнуўся і кінуў руку ўлева:

— Там — паглядзіце, генерал, — яшчэ адзін... Вунь лінія траншэй... Тут няма ніводнага метра «мёртвай» прасторы. Кожны пункт пад скрыжаваным агнём з двух-трох кірункаў... Хадзем, вы яшчэ тое-сёе пабачыце...

Ён паказаў некалькі пляцовак, падрыхтаваных для артылеры. На адной з іх яшчэ віднеліся салдаты, якія маскіравалі нядаўна выкапаную зямлю травой і дзёрнам.

— Пазніцеся... Трэба спяшацца...

— Мы канчаем, генерал. За намі затрымкі не будзе.

Баумволь прыдзірліва праверыў, якога дыяметра кожная пляцоўка, адлегласць паміж іх, глыбіню раўкоў для разлікаў і многае іншае, — ён не выпускаў з-пад увагі, здавалася, ніякай дробязі...

— Калі рускія нават і прарвуцца сюды, ім прыдзецца тут засесці,— пахваліў палкоўніка Вольф, калі яны вярталіся к машыне. Ні

Баумволь, ні Шульцэ не адказалі. Але маёр на нявetлівасць Шульцэ не пакрыўдзіўся: ён пачынаў паважаць гэтага фанатыка-інжынера.

У Мінску яны аблазілі некалькі дотаў на Траецкай гары, потым абгледзелі ўмацаванні ў самым цэнтры, між гор бітага каменння.

— Руіны вельмі зручны для абароны...— гаварыў Шульцэ, паглядаючы ў амбразуру, праз якую ў змрок дота цадзілася святло.— Вялікае злачынства, што пытанне аб тым, як іх скарыстаць для абароны, не вывучана... Я зрабіў, генерал, у гэтай справе цэлы рад вельмі важных знаходак. Яны маюць значэнне для ўсёй арміі, і я аб гэтым пішу вучоную працу...

Калі ўсе выбраліся з руін на вуліцу і генерал паехаў, Шульцэ мірна сказаў маёру:

— Паабедайце і прыходзьце на працу, — калі вас да мяне назначылі. Я гуляць вам не дам.

...З гэтага дня Вольф то прападаў цэлыя дні там, дзе капалі ўсё новыя траншэі ці цэментавалі доты, то ўдакладняў схемы абароны.

4

Каля будынка гарадскога тэатра, які панура цямнеў на рагу ціхага цэнтральнага сквера, штурмбанфюрэр Рэйзе нечакана спаткаў Вольфа. Штурмбанфюрэр прывітаўся з ім, як знаёмы, і хітравата запытаўся, дзе ён прападае, чаму яго не відаць у «Афіцыргайме».

— А, мусіць, у Ані прападаеш? Што ж, густ у цябе, бачу, не кепскі: яе чароўнае і пяшчотнае суседства, яе спакуслівыя прынады, канешне, прыемней грубага мужчынскага сяброўства і п'янак. Асабліва пасля доўгага франтавога голаду...

Маёр, улавіўшы ў словах Рэйзе насмешку, пачырванеў, але той як бы не заўважыў гэтага; узяў Вольфа за локаць і павёў з сабою, гаворачы, што ўсё-ткі кепска адасабляцца, адрывацца ад мужчын.

Размаўляючы такім чынам з маёрам, Рэйзе падвёў яго да будынка, у якім да вайны была цэнтральная бібліятэка.

— Што гэта за сцяг? — плюшчачы вочы, кіўнуў угару Вольф.

Над паўкруглым выступам галоўнага ўваходу вісеў на дрэўку незнаёмы сцяг: чырвоная палоска пасярэдзіне была акаймавана з абодвух бакоў белымі.

— Што за сцяг? Дык ты, Вольф, не ведаеш!.. О, маёр, хіба можна не ведаць такіх рэчаў на гэтай зямлі. — Штурмбанфюрэр раптам штурхнуў яго ў спіну:— Не, відаць, ты павінен зараз пайсці са мной — нельга ж заставацца табе далей такім невукам у гм... міжнародных нашых справах. Да таго ж мне аднаму там будзе сумна, удваіх, можа быць, час пойдзе хутчэй...

Вольф паспрабаваў адгаварыцца, але Рэйзе, які наогул ніколі не меў звычкі далікатнічаць, не стаў і слухаць.

Неўзабаве абодва сядзелі ў высокай халаднаватай зале з вялізнымі вокнамі, якая была больш як напалову пустая. Тут адбываліся пасяджэнні «другога ўсебеларускага кангрэса», скліканага нацыяналістамі па заданню гітлераўскага «генералькамісара ў Беларусі». «Кангрэс», які сабраўся ў той час, калі савецкія войскі былі недалёка ад Мінска, павінен быў аб'явіць «незалежную» беларускую рэспубліку. Гітлераўцы, уцякаючы, спрабавалі зрабіць яшчэ адну подлую правакацыю. На «кангрэс» яны звезлі рознае нацыяналістычнае ахвосце, паліцаяў і кулакоў, назваўшы ўсіх «дэлегатамі», хоць гэтых дэлегатаў ніхто не выбіраў...

Рэйзе, акінуўшы пустыя рады, паварушыў ад злосці сухімі губамі і шэптам вылаяўся. Да іх, тулячы галаву ў плечы, нячутнай хадою кошкі падышоў з пярэдняга рада рухавы чалавечак, які сваімі паходкай і паставай вельмі нагадваў афіцыянта.

— Рад бачыць вас, гзр штурмбанфюрэр, — заківаў ён, сочачы пільнымі сабачымі вачыма за тварам Рэйзе.

Штурмбанфюрэр нахмурыўся:

— Чаму ў вас, Кухта, пуста ў зале?..

— Разбягаюцца, гэр... Я хацеў сказаць — неспакой тут сярод дэлегатаў, гэр штурмбанфюрэр...

— Які гэта неспакой?

Кухта заікнуўся штосьці сказаць, але Рэйзе асек яго і загадаў, каб ён сеў на сваё месца. Той адразу паслухмяна падаўся назад, а Рэйзе, прыслухоўваючыся да слоў прамоўцы, сказаў маёру, што гэта быў адзін з памочнікаў прэзідэнта...

Прамоўца — пажылы, азызлы, захлёбваючыся, з ненатуральным пафасам нудна гугнеў пра тое, што беларуская зямля зараз перажывае вялікі гістарычны момант.

Ён сказаў, што яму «выпала шчасце» на «зары жыцця» быць пры першай спробе нараджэння «Беларускай дзяржавы», — ён прысутнічаў на першым кангрэсе у «сумным снежні» семнаццатага года. Толькі цяпер, праз дваццаць шэсць год, — казаў прамоўца,— выпала яму і яго калегам шчасце сабрацца на свой другі кангрэс, каб прадоўжыць і аформіць тое, што не ўдалося тады. Нарэшце, прышоў жаданы час, Германія і «фюрэр» аб'яўляюць Беларусь «самастойнай» дзяржавай і прызнаюць яе «незалежнасць»...

Словы гэтыя мёртва гучалі ў пустой зале, якая цішынёй і холадам нагадвала цяпер склеп з мертвякамі...

— Сам пан Астроўскі, прэзідэнт, — Рэйзе кіўнуў на сцэну, дзе за сталом прэзідыума, як толькі скончыў прамоўца гаварыць, узняўся цяжкі пануры чалавек; у голасе Рэйзе Вольф пачуў прыкметную насмешку.

«Прэзідэнт» расчапіў сціснутыя губы, пазіраючы праз акуляры ў залу, і Рэйзе, усё з тым жа выразам іроніі, слухаючы «прэзідэнта», пачаў перакладаць, што той гаворыць.

Астроўскі папярэдзіў, што ён хоча зараз сказаць толькі некалькі слоў, спецыяльна да дэлегатаў «кангрэса»...

— За апошні час сярод вас, шаноўныя супольнікі, якія сядзяць тут, пашыраецца трывога, якую пачалі распускаць бальшавіцкія агенты... І— як ні сорамна мне гаварыць — тыя-сія з вас паддаліся гэтым камуністыцкім плёткам: яны збаяліся і перасталі прыходзіць сюды... Я ўпаўнаважан, шаноўныя спадарове, сказаць, што ўсё, што даходзіць да вас ад бальшавіцкіх падпявалаў, мана. Праўда, рускія паспрабавалі наступаць, але ў мяне ёсць дакладныя весткі, што нашы нямецкія заступнікі адбілі ўсе іх спробы. Бальшавіцкія атакі паўсюды, на ўсім фронце заламаліся... маскоўцы пабеглі назад! — з уздымам абвясціў ён, чакаючы воплескаў.

Зала запляскала вяла, недаверліва.

— Мы будзем, як і раней, працаваць спакойна і цвёрда...

На гэты конт нямала хто з тых, што яшчэ сядзелі ў зале, відаць, меў іншую думку. Ці можна спакойна сядзець тут, калі ўночы ў Мінску ўжо чуваць водгулле франтавых гармат?

Рэйзе зноў узлаваўся: нягоднікі гатовы хутчэй кінуць усё ды пашыцца ў норы, абы толькі выратаваць сваю скуру... Потым ён, прыплюшчыўшы вочы, пачаў перабіраць у думках гісторыю «дзейнасці» Рады. І тады яго ўзлаванасць набыла іншы характар — ён думаў пра тых, хто не падтрымліваў, ненавідзеў гэтае стварэнне. Іх было многа, — усе тыя, каго яна павінна была б аблытаць, звязаць, ёю пагарджалі...

Так, няўдалае было гэтае стварэнне...

Ад дзвярэй да Рэйзе прабраўся эсэсавец — унтэр і папрасіў зараз жа выйсці ў калідор. Штурмбанфюрэр, а следам за ім і Вольф узняліся; у калідоры эсэсавец паведаміў Рэйзе, што яго выклікае фон Готберг.

Калі Рэйзе і Вольф спусціліся па ступеньках і выйшлі на вуліцу, маёр нечакана запытаўся проста:

— Для чаго гэта камедыя?

— Якая? — быццам не зразумеў штурмбанфюрэр. — А-а... Гэта ты называеш камедыяй? Я табе, дарагі маёр, параіў бы надалей

больш мякка і разумна выказваць такія думкі. Гэтай камедыяй, як ты кажаш, кіруе сам Готберг па ўказаннях Берліна... Ты, Вольф, кепскі палітык. Ты просталінейны і наіўны, як і ўсе вашы вайсковыя. Вы думаеце, што адзіная зброя тая, што ў вашых руках...

— Можа, і ваша добрая, толькі я пакуль не ўбачыў гэтага. Можа, я і, праўда, сляпы ў такіх справах...

— Так, ты сляпы. Ты многага не разумееш, — рэзка прамовіў Рэйзе.

Яму не хацелася спрачацца з гэтым, як ён лічыў, недалёкім, тупаватым пехацінцам.

5

Рэйзе хутка падаўся да пад'езда вялізнага шасціпавярховага будынка. Над уваходнымі дзвярамі дома ўжо некалькі месяцаў шырока — на паўсцяны — злавесна чарнела: «General-Kmissariat für Weissruthenia».

Нетынкаваная, дагляна-барвовая сцяна дома была абляпана бруднымі пісягамі камуфляжу; гэты колер — крыві і бруду — вельмі падыходзіў да ўстановы, якая кіравала ўсімі крывавымі справамі на заняволенай Беларусі.

Адразу пры ўваходзе ў Рэйзе праверылі дакументы. Ён мінуў тры пасты аховы, дзе тройчы запатрабавалі пасведчанне, тройчы абмацалі пранізліва вачыма яго зацягнутую ў ваеннае сукно прамую постаць. Такая насцярожанасць да яго, якога добра ведалі, не абражала Рэйзе: гэта быў загад Готберга — правяраць усіх. Пасля забойства Кубэ яго заступнік усюды баяўся партызан.

У прыёмнай Готберга сядзелі два генералы паліцыі. Калі ўвайшоў туды Рэйзе, абодва генералы пачціва прывіталіся з ім. Сакратарша адразу пайшла дакладваць пра яго Готбергу.

Па тым, як адносіліся да Рэйзе, адчувалася, што ён тут на асаблівым становішчы.

Рэйзе абыякава казырнуў генералам і пачаў пахаджваць па пакоі. Пахаджваць, як дома.

Вышла сакратарша і з ледзь прыкметнай ноткай інтымнасці сказала, што групенфюрэр яго хутка прыме.

Рэйзе быў «шчаслівчыкам». Сын фабрыканта абутку, першага багацея ў горадзе, ён змалку прывык мець ад жыцця ўсё, што хочацца. Да таго ж і прырода яго не пакрыўдзіла: ён быў красамоўным і яго лічылі разумным. Жанчыны гаварылі, што ён прыгажун, і былі шчаслівыя, калі ён хацеў іх кахання.

Рэйзе лёгка зблiжаўся з iмi i лёгка iх кiдаў, як толькi дабiваўся свайго. Ён быў упэўнены, што жанчыны нiбы iснуюць для таго, каб даваць яму ўцеху, i не разумеў, чаго яны пасля чапляліся за яго, плакалi. Ён пагарджаў такiмi. У яго былi каханкi ў многiх гарадах Германii, дзе яму даводзiлася быць, але яны нiколi больш не цiкавiлi яго.

Жыццёвая кар'ера Рэйзе была такой жа лёгкай. Справы, за якiя ён браўся, заўсёды ўдавалiся. Ён лёгка скончыў унiверсiтэт, падаўся ў эсэсаўскую часць, дзе быў заўсёды «на вiду», увесь час узвышаючыся чынамi.

Калi прыйшлося, ён лёгка, без ваганняў, стаў забiваць вiнаватых i невiнаватых. За гэтыя «заслугi» ён атрымаў у Польшчы жалезны крыж.

Пасля Польшчы ён папаў быў у Вязьму, уцёкшы з якой пры адступленнi, выгадна ўладзiўся ў Мiнску каля Коха, а потым каля Готберга, якi давяраў яму асаблiва важныя даручэннi. Сябры Рэйзе лiчылi, што ён далёка пойдзе.

Готберг прыняў Рэйзе вельмi хутка, незвычайна хутка, i з гэтага штурмбанфюрэр адразу зрабiў свой вывад: вiдаць, будзе сур'ёзная справа.

Готберг, якi толькi што адпусцiў начальнiка палiцыi, падняў на штурмбанфюрэра халодны позiрк i запытаўся, чаму той не хутка прыходзiць, калi яго клiчуць. Рэйзе сказаў, мiмаволi трапечучы, што ён быў у Радзе.

— Я даручаю вам важную i небяспечную справу. Вы можаце або атрымаць новы чын, або згубiць усё. I галаву ў тым лiку.

— Я гатовы, мой групенфюрэр!..

— Справа патрабуе хуткасцi, энергii i — таленту. Я выбраў вас...

— Я пастараюся, мой групенфюрэр.

Готберг сцiх на хвiлiну, а калi загаварыў зноў, то ў голасе яго Рэйзе адчуў стрыманую ярасць i рашучасць.

— Армiя адступае!.. Не, яна — бяжыць. Яна ганебна ўцякае, нават не стрымлiваючы наступленне камунiстаў... Фронт коцiцца сюды... Бальшавiкi iрвуцца да Мiнска. Яны хочуць вы-ра-таваць Мiнск!— губы Готберга скрывiла спазма злосцi.

Ён кiнуў позiрк, поўны нянавiсцi, у бок акна, за якiм спакойна зелянелi клёны i вязы сквера.

— Мы iм можам пакiнуць яго. Так, пакiнуць!.. Але яны, уступiўшы сюды, адчуюць не радасць, не шчасце, а гора, страх, жах. Яны скалануцца ад жаху, бо не ўбачаць тут нiводнага дома. Мы зробiм тут дзiкую пустыню, пустыню смерцi i крывi! Iх нiхто не выйдзе сустракаць, нiхто: нi адной душы тут не застанецца!..

У Рэйзе, хоць ён меў натуру стрыманую, ад гэтых слоў зацяло дых: які моцны, жорсткі і рашучы чалавек, якія вялікія планы — увесь горад, сотню тысяч людзей...

— Рускія спяшаюцца, штурмбанфюрэр, яны думаюць апярэдзіць нас. Але ім гэта не ўдасца!.. Я зараз жа пачынаю выконваць свой план, з якім і звязана заданне табе. Ты будзеш сачыць за лагерамі — яны павінны як мага хутчэй ачышчацца... Як мага хутчэй!

— Яволь, мой групенфюрэр. Як мага хутчэй!

Готберг, адчуўшы, што Рэйзе галоўную задачу зразумеў, пачаў даваць розныя практычныя парады.

6

Рэйзе яшчэ з будынка выклікаў машыну. О, ён умеў, дзе трэба, быць і хуткім і рашучым.

Праз якую-небудзь чвэрць гадзіны яго машына падляцела да будынка камендатуры лагера каля вёскі Дразды.

Рэйзе, які яшчэ на хаду выскачыў з машыны, загадаў зараз жа паклікаць шэфа лагера; начальніка, аднак у камендатуры не было, і некалькі салдат з аховы пабеглі шукаць яго.

«Шэф» прышоў расчырванелы, млявы, з сытай санлівасцю ў вачах: яго выцягнулі са сталовай.

— Дзе вы прападаеце?— хмура і грозна спаткаў яго Рэйзе, і, не чакаючы адказу, скамандаваў: — Хадзем!

Яны падаліся ў лагер. Рэйзе хуткай, рашучай хадой пачаў абыходзіць баракі, каля якіх сядзелі, стаялі і ляжалі абарваныя, змарнелыя людзі.

Поруч з ім, крыху ззаду, насцярожана спяшаўся шэф. Рэйзе, строгі, з непадступным выглядам, безупынку, шырокім крокам ішоў ды ішоў, аглядваючы людзей, ахову; ён нават чамусьці палічыў неабходным зазірнуць на кухню. Штурмбанфюрэр лавіў на сабе запытальныя позіркі шэфа, але знарок маўчаў, нібы тоячы штосьці грознае.

Шэф, якога такое маўчанне трывожыла, паскардзіўся, што каманда пры лагеры малаватая, аднак Рэйзе таксама прамаўчаў.

Абышоўшы лагер, ён вярнуўся да будынка камендатуры; увайшоў у пакойчык начальніка і, калі той зачыніў за сабой дзверы, запытаўся, колькі яшчэ засталося ў лагеры.

— Вы доўга намерваецеся валаводзіцца тут?!— прашыпеў ён, пачуўшы адказ шэфа; у голасе Рэйзе гучалі злавесныя ноткі.

— Гэр штурмбанфюрэр... каманда малая — цэлыя ночы працуюць, а...— шэф хацеў яшчэ штосьці сказаць у апраўданне, але Рэйзе перабіў:

— Вы працуеце на дзіва вяла і марудна. Так вы да прыходу рускіх не здолееце ачысціць лагер нават напалавіну... А можа... вы рашылі перадаць іх рускім?..

— О, гэр штурмбанфюрэр! Як можна так жартаваць?

Начальнік лагера пабялеў. Рэйзе гэта не здзівіла: ён жа тут пасланец самога Готберга; штурмбанфюрэр наогул прывык, што яго пабойваюцца, і ўпотай ганарыўся сваёй здольнасцю наганяць страх.

— Я вам даю магчымасць давесці, што мае падазрэнні беспадстаўныя. Гэта будзе залежаць ад таго, як вы справіцеся з далейшым... За два дні трэба ўсё ачысціць, так ачысціць, каб і следу не было...

Лагерны начальнік пакляўся, што ўсё будзе як належыць...

Так, у гэты дзень Рэйзе быў вельмі задаволены сабой. Гэр штурмбанфюрэр адчуваў сябе як ніколі важнай асобай. Ён наведаў неўзабаве яшчэ адзін лагер, які размяшчаўся ў горадзе, на вуліцы Шырокай, а потым, нават не заязджаючы ў сталовую паабедаць, накіраваўся на Магілёўскае шасэ. Ён намерыўся пабыць да вечара яшчэ ў лагеры ў Трасцянцы.

Тут дзейнасць Рэйзе мела крыху іншы характар. Ён праверыў, як працуюць печы, у якіх паляць трупы,— Готберг наказаў яму, што ніякіх слядоў не павінна заставацца.

Зняўшы пальчаткі, штурмбанфюрэр браў з цёплых пячэй попел і, расцярушваючы яго, разглядаў...

У адным хляве яшчэ дымелі трупы. Штурмбанфюрэр сказаў, што трэба старацца працаваць найбольш уночы.

— Такія рэчы лепш рабіць у цемры, без лішніх вачэй...

У службовым бараку, які быў недалёка ад хлявоў, Рэйзе накармілі. Было ўжо блізка да вечара: на захадзе, за бярозамі, палала барвовае сонечнае зарыва.

## Раздзел VI

### 1

Клава апрытомнела ў нейкай незнаёмай цемнаватай каморцы. Яна ляжала на ложку, накрытая да шыі коўдраю.

Калі Клава расплюшчыла вочы, яна ўбачыла перад сабою незнаёмую жанчыну, — перш за ўсё маршчыністыя рукі, якія папраўлялі падушку пад яе галавой, ды латку знізу кофтачкі. Клава крыху павярнула галаву: у жанчыны з-пад хусткі выбілася пасма цёмнарусых, з сівізною, валасоў.

— Прачнулася, дачушка!..— прамовіла пяшчотна тая, нахіліўшы галаву над дзяўчынаю, і дакранулася мяккаю рукою да Клавінага ілба.— Не бойся, гаротніца. Мы свае...

Клава не баялася: яна цяпер нічога не баялася, была абыякавая да ўсяго. Нейкі няцямны позірк яе вачэй безуважна прайшоў па вопратцы жанчыны, утаропіўся ў бярвенні сцяны, на якой блізка вісела амаль пустая торба.

Жанчына павярнула Клаву на спіну. Клавін позірк на хвіліну прыпыніўся на маленькім акенцы, за якім віднелася ціхае шэра-блакітнае неба. Набліжаўся вечар. Блакітны водбліск неба на міг успыхнуў у дзявочых вачах і згас.

Прачнулася яна ўжо ўраніцу. На рамцы маленькага акенца цяпер ясна ружавела сонца, а ў куточку шыбкі весела звінела муха.

Дзяўчына ад яркага прамяністага святла прыплюшчыла вочы і раптам у першы раз за гэтыя дні ўсміхнулася. Яна з цікавасцю прыслухалася да звону мухі,— гэты гук здаўся ёй радаснай музыкай, і Клава, не варушачыся, нейкі час слухала яго. Калі ж з намаганнем павярнула галаву і ўбачыла на сцяне сонечны зайчык, на бледных шпаках яе затрапяталі ямачкі, а поўныя, без крывінкі губы самі сабой засмяяліся.

Але ўсмешка хутка занямела, і твар спахмурнеў. Дзяўчына, перастаўшы заўважаць усё вакол, доўга ляжала нерухома, тады як памяць нагадвала ёй забытыя на той час падзеі перажытага. Як гэта - страшна!— не падумала, а адчула Клава цяпер, халадзеючы, калі пачала ўспамінаць апошні досвітак. Яна хутчэй расплюшчыла вочы, каб адагнаць прывіды-ўспаміны. Няўжо тое ўсё была праўда?

А што, калі яно зноў вернецца?! Гэты непакой зусім абудзіў Клаву і як бы вярнуў яе да жыцця. Дзяўчына трывожна падумала — дзе яна?

Як яна сюды трапіла?

Яна прыслухалася, нібы чакаючы, што нехта адкажа. Пустая каморка маўчала, але гэтая маўклівасць не толькі не палохала, а нават спакваля супакойвала знясіленую дзяўчыну.

Дзверы ціха расчыніліся, і ўвайшла жанчына, якая была тут учора. Але Клава не пазнала яе ці, можа, не помніла ўчарашняга, бо зірнула насустрач ёй насцярожана і трывожна.

— Прачнулася, дачушка?— дайшоў да Клавы голас, пяшчотны і спачувальны.

Ёй здалося, быццам яна ўжо не раз недзе чула гэты голас, толькі не магла прыгадаць дзе; ад яго ў Клавы ажыло штосьці вельмі

шчаслівае. Ах, вось дзе яна чула: гэтак калісьці пыталася маці, будзячы ісці ў школу...

Жанчына, як бы размаўляючы з сабою, прызналася з палёгкай:

— Я ўжо думала, што ты і не прачнешся... Баялася я вельмі за цябе, ой, як баялася... Такая ты кволая была... А. ты вось, глядзі,— ажыла! Ажыла, мая ластаўка, гаротніца мая!..

2

На другі дзень жанчына села каля Клавы на ложак, разгаварылася.

Яна расказала, як знайшла Клаву ў тую раніцу ў жыце, схавала, а ўвечары прынесла дамоў. Потым пачала апавядаць пра сваё гора, пра тое, што журыцца, жыве адна: дачку Зосю і сына малога, Паўліка, забралі ў Германію. Ёй прыйшло адтуль тры кароценькія, з прытоенымі намёкамі лісты.

Яна прынесла гэтыя лісты Клаве, пажоўклыя, пацёртыя на загінках, і, калі тая стала моўчкі, аднымі вачыма, чытаць, тлумачыла:

— Пішуць: «Жывецца нам тут вельмі добра, аж хочацца скакаць, як удава Аляксеіха». А гэтая Аляксеіха скочыла летась у раку, утапілася! Знайшлі яе на другі дзень у чароце, каля «Гала»,— кіламетры чатыры адсюль. Каваль Сямён знайшоў... Яшчэ і жанчына была маладая. Не вытрымала, гаротніца, бяды: сына яе Пятра паліцаі павесілі. Партызанам быў яе хлопец, ну і, вядома, калі-ні-калі заходзіў у сяло, а паліцаі неяк падсачылі яго ды і схапілі... А то яшчэ, як там?— «Уся надзея на нашага бацьку ды яго таварышаў». То ж ба на Чырвоную Армію, бо іх бацька ў арміі,— яшчэ ў першы год пайшоў...

Яна гэтыя лісты ведала ўжо, мусіць, напамяць.

Праз дзень Клава не ўтрывала і паспрабавала падняцца з ложка. Яна скінула з сябе коўдру і, перасільваючы нязвыклую слабасць у руках і ва ўсім целе, села на ложку, спусціўшы ногі.

Ёй неспадзявана вельмі захацелася пахадзіць! Яна спусціла ногі ніжэй, але, як толькі Клава ступіла на падлогу, перад вачыма яе ўсё адразу захісталася, паплыло, аслабелыя ногі самі сабою падагнуліся. Яна ўпала.

З сянец, пачуўшы стук, трывожна ўбегла Кацярына. Яна спалохалася, убачыўшы, што дзяўчына ляжыць на падлозе, спрабуючы падняцца.

— Што з табой, дачушка? Як гэта ты ўпала, гаротніца? Ты ўставала? Чаму ты ўставала?

— Хацелася пахадзіць...

— Мала што хацелася,— табе няможна яшчэ гэтага!.. Трэба ляжаць, Клаўка! Ляжаць спакойна і не думаць ні пра што, калі хочаш паправіцца хутчэй.

Клава няўпэўнена абаперлася рукой аб падлогу і села. Кацярына, узяўшы дзяўчыну пад рукі, дапамагла ёй устаць. Падняўшыся, трымаючыся за плячо Кацярыны, Клава прайшла некалькі крокаў, потым нечакана папрасілася:

— А цяпер я адна паспрабую...

— Няможна, Клаўка. Не трэба высільвацца...

— Я трошкі! Зусім трошкі!..

Яна зняла сваю руку з Кацярынінага пляча, ступіла яшчэ тры крокі, няцвёрда, хістаючыся, як травінка ад ветру. Дзяўчына спынілася каля акенца, якое было на вышыні яе вачэй, і, абапёршыся аб сцяну, пачала ўзрушана пазіраць на двор. Яна ўбачыла куст бэзу, дарожку, акаймаваную зялёнаю-зялёнаю травою, далей — учарнелы зруб калодзежа; вочап ёй быў відаць толькі да сярэдзіны, — па траве цягнуўся даўгаваты цень ад яго. За калодзежам расло некалькі маладых яблынь...

— Ну, хопіць, хопіць ужо, Клаўка. Не высільвайся...

У Клавы перад вачыма зноў пачынала ўсё плыць, і, каб Кацярына не падтрымлівала яе, Клава ўпала б у другі раз. Абняўшы дзяўчыну пад руку, Кацярына давяла яе да ложка і накрыла коўдраю.

Клава, пазіраючы ў столь, задуменна слухала, як недзе ўгары нясціхна шчабечуць, калышацца ластаўкі.

За мінулыя дні яна прыкметна змянілася. Вясёлая, непаседлівая, гаваркая калісьці, Клава цяпер цэлымі гадзінамі ціха ляжала, думаючы і думаючы пра штосьці сваё, толькі ёй вядомае. На запытанні Клава адказвала коратка і неахвотна; рухі яе, раней хуткія, парывістыя, сталі стрыманымі і павальнейшымі. Нейкі новы выраз з'явіўся і на яе твары, дзе каля рота не сыходзілі дзве строгія складкі.

Увесь дзень яна ціха спявала сумную, задушэўную мелодыю. Цётка Кацярына, прыслухаўшыся, разабрала словы:

...Там ляжыць ў зямлі сырой зарыты,
Пахаваны смелы партызан...

Але Клава больш спявала без слоў. Жанчына, слухаючы гэты спеў, неўпрыкметку выцірала вочы.

Увечары, праходзячы паўз каморку, цётка Кацярына пачула, як Клава непрывычна хутка і аднастайна, звяртаючыся да кагосьці, гаварыла:

— Ты ляжы ціха... Моцна яны пабілі цябе!.. Але ты, Аленка, не паддавайся,— далей Клавін голас пацішэў, перайшоў у неразборлівы

шэпт. Неўзабаве яна загаварыла зноў галасней: — Мяне ўжо чатыры разы цягалі, пячонкі, здаецца, адбілі, а я нічога! Не здаюся!

Яна дзіўна, нядобра засмяялася. Той яе смех быў падобны на стогн. Кацярына слухала яе, адчуваючы, як замірае сэрца тужліва,— яна хацела б перапыніць гэтае трызненне, але не наважвалася будзіць.

— Ты, напэўна, першы раз? Калі цябе ўкінулі сюды? Учора?.. А я тут ужо цэлых пяць дзён...— Потым загаварыла гнеўна: — Эх ты, атопак фашысцкі! Думаеш, баюся? Бі, бі, вылюдак!.. спяшайся!.. Нядоўга яшчэ засталося!.. Бі, бі, гад!..— і ўслед за гэтым лагодней: — Тут на мяне дзівяцца — кажуць, шчаслівы характар у мяне. Нібы мне менш, як другім баліць... Проста я стараюся прыцішыць, адолець боль! — Клава зноў засмяялася.

Раптам з каморкі пачуўся прыдушаны, жахлівы стогн. Цётка Кацярына не магла больш трываць,— яна ірванула дзверы і падбегла да ложка. Схіліўшыся над Клавай, Кацярына ўбачыла, што тая ўжо не спіць.

— Што з табой, Клаўка?.. Што, дачушка мая?

— Нічога... Рознае глупства чаўпецца. Прыснілася, нібы «сонны» мяне б'е — наглядчык такі быў...

Цётка Кацярына дакранулася да Клавінага твару,— ён быў халодны і запатнелы...

— Перакіпела, ластаўка мая... Супакоіцца б табе трэба...

Жанчына, вобмацкам паправіўшы на Клаве коўдру, заклапочана затупала ў хату. Адтуль яна прынесла шклянку з нейкім настоем з зелля:

— Выпі, дачушка,— гэта добра супакойвае. Я, калі ператрывожуся, заўсёды п'ю. Яно нібы трошкі непрыемнае, але ж лякарствы ўсе, пэўна, нясмачныя...

Клава выпіла. Цётка Кацярына да світання не адыходзіла ад дзяўчыны, ціха размаўляла з ёю. Калі ў акенцы пачало спакваля шарэць, Клава нарэшце заснула, не даслухаўшы да канца нейкага апавядання.

## 3

Дзень адышоў. Неба ў пройме акна пазелянела, потым паступова пачарнела. Запалілася электрычная лямпачка.

Ноч пайшла яшчэ павольней. На падлозе драмалі або часам перагаворваліся людзі, поблізу Ніны трызніла і стагнала жанчына, якую гестапаўцы прывезлі з «апрацоўкі».

— Хутка прыдуць зноў — «адпраўляць у дарогу»...— сказала Красуцкая.

Так, хутка прыдуць браць: або ў лагер, або ў Трасцянец. Яны з'яўляюцца сюды звычайна ў гэты час.

— Дык не забудзьце ўгавор,— зашаптала Ніна Красуцкай.— Калі вы застанецеся жыць, раскажыце пра мяне Аляксею. Знайдзіце яго і раскажыце ўсё. І Тураўца знайдзіце,— ён будзе, мусіць, у Мінску. Скажыце, што я не ашукала яго... А калі я выратуюся, я абяцаю вам...

— Добра, Ніна... Раскажы маім хлопцам, як я тут гаравала. Як гэтыя вылюдкі цягнулі з мяне жылы... Сэрца маё чуе, што ты выратуешся.

— Я не трачу надзеі! Але ўсяк можа быць... Вы тады толькі не гаварыце Аляксею жаласных слоў. Скажыце, што яна — я, значыцца,— была спакойная. Я, бачыце, такая і ёсць: спакойная. Я не баюся!.. Вы чуеце — не баюся!..

Ёй прыгадалася малочніца, якая пагражала паліцаю на рынку: гэтай, напэўна, было вельмі страшна. Папасціся так бязглузда, аддаць душу невядома за што...

— Шкада вось дачкі, што застанецца без маці... Хочацца, каб ёй ніколі не трапілася бяда. Мне так радасна, што яна ёсць, дачушачка мая! Вось я магу не вярнуцца, а яна будзе жыць! Мая кроў, мая ўцеха!.. Эх, каб вы бачылі, якая яна слаўная!..— Ніна ўсміхнулася, потым дадала задуменна:— Яна будзе помніць мяне? Праўда?

— Пра што пытаешся! Ды хто ж, Ніна, можа забыць маці!

— Скажыце Аляксею, каб ён вучыў яе помніць мяне без гора, без слёз. Не люблю слёз!.. Вось — цэлы запавет вам дала. І запомніць усё нялёгка... Гэта я так, на ўсякі выпадак...

Ніна ўзяла Красуцкую за локаць і моцна, да болю, сціснула.

— Не, я яшчэ паспрабую выратавацца! Як бы ні было, паспрабую! Хоць на дрот электрычны пабягу. Хоць на што!..

...Гестапаўцы ўвайшлі ў камеру пад поўнач. Пачалі выклікаць прозвішча за прозвішчам: так, як і ўчора, яны вельмі спяшаліся,— падганялі зняволеных лаянкай і кулакамі. «Мяне, мусіць, таксама возьмуць»,— думала Ніна. Але і на гэты раз яе не выклікалі.

Праз гадзіну прыблізна гестапаўцы зноў з'явіліся і вывелі яшчэ адну групу.

Пасля поўначы ўварваліся ў трэці раз: чатыры п'яныя ўзброеныя аўтаматамі эсэсаўцы. Адзін з іх, у чорным бліскучым дажджавіку і ссунутай набок фуражцы, выняўшы паперку, крыкнуў:

— Лакуновіч...

Ніна не пазнала свайго прозвішча, яно ўпершыню здалося нібы чужым.

«Каго гэта? Мяне?.. Ну так, мяне». Яна ўзнялася, нахіліўшыся да Красуцкай, папрасіла ціха:

— Глядзіце ж, не забудзьце... угавор...

Гестапаўцы адразу схапілі яе, сталі штурхаць да выхаду.

— Родныя мае... бывайце!— крыкнула яна людзям.— Чакайце нашых!.. Нашы ўжо блізка!..

Апошнія словы яна сказала з радасцю: не на іх, гэтых паганцаў, баку сіла, а на яе... Гестапавец злосна таўхануў яе ў калідор.

Услед за ёй з камеры вывелі яшчэ некалькі чалавек.

Па калідоры зняволеных, груба лаючы і б'ючы, вывелі на двор. У твар Ніны ўдарыла халаднаватай свежасцю начнога паветра. Закружылася галава, і Ніне здалося, што яна задыхаецца ад гэтай свежасці: даўно-даўно яна не дыхала такім паветрам.

Тут стаяла грузавая машына з адкінутай задняй сценкай кузава. «Добра, што грузавік някрыты»,— падумала Ніна. Адзін з канваіраў кішанёвым ліхтарыкам асвятліў жалезную драбінку, што была падстаўлена да кузава, і загадаў па ёй падымацца:

— Нінэль... ауф!

Жанчына, якая ўзыходзіла трэцяй, раптам пахіснулася і ўпала б, але да яе падскочыў адзін з турэмшчыкаў, падхапіў і падтрымаў, пакуль узнялася на дзве ступенькі.

— Ты — руская дрэнь! Паўзеш!..

Ён узлавана піхнуў яе наперад. Жанчына ўпала на дно кузава...

4

Эсэсаўцы прымушалі ўзыходзіць па драбінцы амаль уподбег. Падганялі, білі і тых, хто марудзіў, і тых, хто слухаўся загадаў, спяшаўся. Ніну таксама, перад тым, як яна ступіла на драбінку, нечым балюча выгнулі ў спіну.

Яна пастаралася ўзняцца адной з першых, каб сесці каля барта. Поруч з ёй апынуліся дзве жанчыны з той жа камеры.

Кузаў набілі поўна... Апошнімі ўзабраліся некалькі эсэсаўцаў з аўтаматамі. Яны селі ззаду...

— Генц, чаго марудзіш, як... ксёндз на імшы! — нецярпліва крыкнуў адзін з кузава.

— Управіцеся!..

Той, хто адказаў, курыў. Зацягнуўшыся яшчэ некалькі разоў, ён кінуў цыгарку і палез у кабінку. Матор загурчаў, то ўзмацняючыся, то слабеючы, потым пачулася роўнае гуркатанне.

Вось і настаў той час, пра які яна столькі думала ў камеры. Калі іх павязуць у лагер, то трэба пакуль пачакаць: там будзе час агледзецца, можа ўдасца прыдумаць што-небудзь для ратунку. А калі ў Трасцянец, за горад,— трэба вырывацца цяпер. Інакш — будзе позна...

Грузавік выехаў з варот турмы. Па абодвух баках пабеглі назад нязграбныя шкілеты дамоў, горы ламачча, якія сумна чарнелі ў цемры. Навокал было пуста, мёртва. Нідзе ніводнага агеньчыку.

Машына павярнула ўправа, на Чэрвеньскі тракт. Яны едуць не ў лагер, бо лагер у іншым баку, на Шырокай вуліцы... Ну так, іх вязуць у бок Магілёўскага шасэ, каля якога Трасцянец.

— У Трасцянец едзем...— шапнула яна знаёмай жанчыне, што была каля яе пляча.

Яна адчула, як тужліва, самотна зрабілася ў грудзях. «А можа, яшчэ не ў Трасцянец, а можа, куды-небудзь у іншае месца»,— паспрабавала яна супакоіць сябе. Ад гэтай думкі ў яе на душы адразу палягчэла: і смерць, і такая вялікая рызыка адыходзілі, аддаляліся. Але, як ні супакойвала гэтая падманка, Ніна цешылася ёй нядоўга... Не, у Трасцянец,— нашто ж яна ашуквае сябе, заплюшчвае вочы перад праўдай, непрыемнай, але — праўдай...

Значыцца, марудзіць нельга.

— Я ўцяку! З машыны... Скочу,— шапнула Ніна суседцы ціха. Раптам прамовіла да яе:— Хочаце — разам?

Жанчына некаторы час думала. Потым Ніна адчула поціск яе рукі. Разам! Не можа быць, што ні адной не ўдасца вырвацца.

Ніна зірнула ўперад, на чорнае, як невядомасць, неба: сярод важкай чарнаты гарэла далёкая адзінокая зорка. Ад яе дзіўна маркотнага і вясёлага бляску сум падступаў мацней і трывожней; але ў Ніңіным сэрцы цераз гэты сум прабівалася, трапятала іскрачка, зорка, якая не хацела ні гаснуць, ні слабець, яе надзея... Можа, гэта яе, Ніны, зорка?..

Насустрач ляцеў вецер, які лашчыў твар. Ад гэтай пругкай плыні ветру яе цела станавілася дужэйшым...

Машына мінула горад. Па тым, што машыну перастала трэсці і колы мякка зашуршэлі, Ніна здагадалася: скончыўся брук і пачаўся асфальт. Хутка поле. Вось ужо вецер памацнеў. Наперадзе будзе злева ельнічак, ён падыходзіць да самага шасэ.

Там... Там трэба кінуцца...

Тое месца хутка набліжаецца. Як імчыць насустрач шасэ! Гэта добра — не адразу спыняцца. Толькі б скочыць удала, не разбіцца, не вывіхнуць нагу. Скочыць на зямлю і — адразу ў ельнік...

— Хутка скочу. Каля ельнічку,— шапнула суседцы.

Няўжо ж пападуць яны з аўтаматаў! Цёмна. Але ў іх многа аўтаматаў. Як моцна стукае сэрца! Эх, чаго гадаць — пападуць, не пападуць. Смялей!..

Штосьці, імкліва насоўваючыся, зачарнела наперадзе. Плямы фар, што хутка беглі па асфальту, прабіваючы цемру, рабілі ноч чарнейшай, і абрысы гэтага невядомага «штосьці», якое ляцела насустрач, ледзь-ледзь значыліся, бясформныя, таямнічыя. Але яна ведала,— гэта магло быць толькі адно тое, на што яна яшчэ магла спадзявацца...

Ельнік!..

Ельнік!

Як толькі цёмны абрыс наляцеў, пабег міма,— яна, нічога больш не думаючы, не разважаючы, не гадаючы, не трывожачыся, чуючы нейкую незвычайную лёгкасць у целе, ускочыла, хутка павярнулася, ступіла на дошку барта. У той момант, калі яна, ускінуўшы рукі, адчула, што ўжо ляціць, да слыху яе дайшло ў віхурнай мешаніне раскіданых уражанняў— крык, пагрозны крык тых, што везлі на гібель...

Крык гэты ў наступны міг прапаў з яе слыху. Яго змяніла новае: балюча ўдарыла ў рукі, у калені зямля, незвычайна цвёрдая, як камень.

Абапершыся колькі сілы на рукі, Ніна з намаганнем усхапілася, узбегла, успаўзла па травяністаму адхону за кювет, задыхаючыся, кінулася ў ратоўную цемру ельніку.

Цяпер яна нічога не чула вакол — ні свісту ветру, ні стрэлаў, якія загучалі ззаду, нават болю ад куль, якія, здагнаўшы, упіліся, пранізалі яе. Не зразумела, чаму раптам аслабела, звяла без сілы...

Як горача, як цяжка становіцца ў сярэдзіне. А галава нібы напаўняецца змрокам, чорным, асеннім.

Ярка ўспыхнула ў грудзях, якія гарэлі, поўніліся нясцерпным, жахлівым полымем, радасць, апошняя радасць яе жыцця.

— Люда... Дачушка мая, уцеха мая мілая!..

І тут жа ўсё згасла — і радасць, і жыццё...

## Раздзел VII

### I

Недалёка ад Талачына лейтэнант Клямт і яго салдаты разам з усёй дывізіяй сышлі з шасэ на поўдзень.

Калона была яшчэ вялікая; гледзячы на яе, яшчэ можна было ўспомніць былую моц дывізіі. Але — толькі ўспомніць.

Хто, хто, а Клямт добра ведаў, як многа страціла яна: гэта была ўжо быццам іншая дывізія. Не было ў ёй вельмі многіх ветэранаў-афіцэраў і вопытных салдат. Усе яны палеглі за Оршай.

Між грузавікоў можна бачыць яшчэ нямала гармат. Толькі якая з іх карысць, з гармат, калі ў большасці з іх няма снарадаў. Артылерысты ўсё спадзяюцца, што снарады падвязуць, але снарадаў тых няма ды няма. І калі будуць,— невядома...

Не хапае таксама гаручага. З-за нястачы яго кінулі ўжо некалькі аўтамашын, хоць яны былі не лішнія. Уцалелыя транспарцёры і грузавікі перапоўнены салдатамі і ўнтэр-афіцэрамі.

У роце Клямта — розны зброд, як і ў батальёне, і ва ўсёй дывізіі. Тут можна сустрэць салдат з рознымі пагонамі, «прадстаўнікоў» усялякіх часцей. Усе перамяшаліся.

Настрой у большасці салдат узбуджаны, неспакойны — увесь час ходзяць то абнадзейлівыя, то панічныя чуткі, якія наводзяць трывогу:

— Рускія «панцэр»... Наперадзе, справа... сто «панцэр»!..

— О, так многа? Хлусня!

— З імі — кавалерыя. Дывізія Казакаў... Напэўна, сталі ў засаду. Чакаюць, калі падыдзем...

— Чорт пабяры! Я ўсё менш веру, што можна адсюль выбрацца жывым!..

— Батальён сапёраў ішоў справа ад нас... Учора наляцелі рускія казакі,— пасеклі ўсіх...

— Палавіну ў палон забралі. Мне гаварыў лейтэнант з трэцяй роты...

— Гавораць, да нас ідзе корпус. На дапамогу. Фюрэр паслаў... Яны ўжо каля Барысава...

— Пад Барысавам многа войск. Чакаюць толькі, калі рускія падыдуць. Дадуць бальшавікам!..

— Кацёл рускім зробяць...

— Мне казалі, што фюрэр даў загад ужыць новую зброю. Сакрэтную... Першага ліпеня!..

— Ну? Гэта — здорава.

Яны занепакоена паглядваюць у блакітнае высокае неба. Там амаль бесперапынна гудуць і звіняць чародкамі і вялікімі групамі савецкія самалёты. Праўда, яны звычайна ідуць на нейкія іншыя цэлі, але некаторыя з іх абстрэльваюць калону, кідаюць бомбы.

Учора адна бомба ўцэліла ў кузаў грузавіка, пашматаўшы і машыну, і ўсіх, хто там быў...

Ад самалётаў няма нідзе ратунку.

«Адкуль у рускіх столькі самалётаў?! І чаму мала відаць нашых? Куды яны падзеліся? Што з імі?..»— здзіўляецца Клямт.

Снарадаў так і не дачакаліся. Гаручае таксама не падвозілі, і таму амаль усе гарматы прышлося кінуць. Іх кінулі надвячоркам на ціхім узлессі. Некалькі гармат артылерысты ўзарвалі: зарадзілі ў апошні раз і, насыпаўшы ў ствалы пяску, стрэлілі.

— Што гэта?— запытаўся адзін салдат, пачуўшы недалёкія выбухі.

Другі адказаў абыякава:

— Гарматы ўзрываюць... Каб ісці было лягчэй.

— Так, чаго добрага, станем хутка гэткімі лёгкімі, што і паляцець зможам...

— ...на неба!

Назаўтра калону абстралялі з ляска: білі з кулямётаў і дробных мінамётаў. Міны выбухалі проста на дарозе. Вялікі ўзброены натоўп раптам звярнуў з дарогі ў поле, топчучы тых, хто ўпаў.

Потым высветлілася, што гэта была групка партызан. Калі адзін батальён, у якім быў Клямт, арганізаваўшыся, перайшоў у контратаку, партызан адбілі.

Клямт, як і некаторыя іншыя салдаты і афіцэры, быў нямала ўсцешаны гэтай «перамогай».

Салдаты вярнуліся да машын. Дзе-ні-дзе ўжо чуліся павесялелыя галасы, і Клямт слухаў гэтыя галасы з ахвотай.

Паехалі далей, уздымаючы пыл на дарогах, перасохлых ад спёкі.

Недзе збоку, ззаду, як відаць было з тапаграфічных карт, засталіся Крупкі. Набліжаўся Барысаў. Ён быў цяпер ужо недзе на сярэдзіне паміж захадам і поўначчу.

На беразе невялікай рэчкі калона спынілася.

— Што там, гэр лейтэнант? Чаму сталі?..— запытаўся ў Клямта руды, даўгарукі салдат Трэйдэ.

— Прыпынак, відаць.

Клямт рашуча падаўся наперад, каб даведацца, што здарылася. Перад ім была нізкая лугавіна, засеяная безліччу купін, пасярэдзіне якой цягнуўся невысокі насып, што раптам абрываўся каля вады. Справа і злева на беразе віднеліся дзе-ні-дзе зараснікі чароту.

Блізка ад рэчкі Клямт убачыў групу афіцэраў і падышоў да іх. Наводдаль была яшчэ адна групка, у якой Клямт лёгка пазнаў доўгага, з вялікай галавой генерала, камандзіра дывізіі. Клямт запытаўся ціха ў знаёмага афіцэра, чаму стаіць калона.

— Не бачыш?.. Мост узарваны! Партызаны пастараліся!..

Два салдаты, не раздзяваючыся, хадзілі ў вадзе, якая дасягала ім шыі,— мералі глыбіню.

— Пракляцце! Прыдаецца, відаць, пакідаць нам гэтыя цацкі,— прамовіў адзін з афіцэраў, кіўнуўшы на грузавікі.

Клямт абнадзейліва адказаў:

— Яшчэ невядома!

— Чаго невядома?! Ясна, як божы дзень!..

— Не хныкайце! — сказаў Клямт.

Афіцэр узлаваўся на Клямта за гэтакі тон размовы. Ён змераў лейтэнанта позіркам і абазваў яго крыўднай клічкай «грыб». Лейтэнанта называлі і раней «грыбам», падсмейваючыся над яго ростам і фуражкай.

Клямт зрабіў выгляд, што гэта яго ніяк не абразіла. Ён глядзеў, як яшчэ некалькі чалавек накіроўваліся абследаваць берагі і рэчку па другі бок ад насыпу. Спачатку яны пахадзілі крыху па беразе, штосьці абмяркоўваючы. Клямт і яшчэ адзін афіцэр падаліся да іх: тут выбіралі найбольш трывалы грунт. Такога грунту, каб па ім свабодна маглі прайсці машыны, на беразе не было. Дзе-ні-дзе тут нават уздыхала пад нагамі дрыгва. Выбралі проста больш сухое месца...

Тады тры салдаты раздзеліся і падаліся ў ваду. Рэчка тут аказалася акурат неглыбокай. Можна было б перапраўляцца, толькі ці вытрымаюць берагі.

— Ну што ж, паспрабуем! — рашыў маёр, які кіраваў пераправаю, і загадаў, каб падалі першую машыну. Яна прайшла амаль да рэчкі, але тут угрузла. Па камандзе маёра дзесяткі два ці тры салдат акружылі яе, выцягнулі на сваіх плячах і пераправілі на той бок... Другая таксама засела і яшчэ больш.

— Ну, тут работы да раніцы! — сказаў поблізу Клямта хтосьці з салдат.

Нечспадзявана каля пераправы, каля калоны і ў калоне пачалі ірвацца міны.

— Рускія, рускія... прарваліся! — пайшло трывожнае.

Клямт адразу подбегам заспяшаўся да сваіх. Настрой быў тут такі ж трывожны, як і на пераправе. Лейтэнант, заўважыўшы гэта, пачаў лаяцца:

— Хто балбоча, што рускія прарваліся? Трусы! Гэта — партызаны! Іх невялічкая групка!..

Але міны лажыліся так часта, што словы Клямта не заспакойвалі нікога: усе, хоць і страляючы, адыходзілі з дарогі ў поле. Далей ад выбухаў.

Клямт пачуў, што яго кліча незнаёмы салдат:

— Лейтэнант Клямт. Дзе лейтэнант?

— Я тут. Што там такое? — Да Клямта падбег сувязны ад капітана Штаме, камандзіра батальёна. Ён перадаў загад — перапраўляцца ўброд.

— Адным? А як жа машыны? — захваляваўся Клямт.

— Машыны кінуць.

2

Адстрэльваючыся і стрымліваючы партызан, групкі пачалі перапраўляцца. Вада Клямту даходзіла да шыі. Ён не скідаў вопраткі — навошта, высахне!..

Ад таго берага ад рэчкі ішлі пехатою. Рух цяпер стаў зусім марудны,— дарога паўзла насустрач павольна-павольна. Да якой-небудзь бярозы ці хвоі, што віднелася ўдалечы, прыходзілася тупаць цэлую гадзіну. Многія салдаты без прывычкі хутка стамляліся. Зброя, якую яны неслі на плячах, станавілася ўсё больш важкай. Гадзіны праз чатыры некаторыя пачалі ўжо адставаць, — калона ўсё расцягвалася і расцягвалася. Клямта гэта злавала:

— Хто там паўзе ззаду, чорт пабяры? Гэй, Трэйдэ, хутчэй! І вы, іншыя,— падцягнуцца! Раскіслі...— Дзе ваш кулямёт? — накінуўся ён зноў на даўгарукага Трэйдэ.

— Обер-ефрэйтар Келер узяў.

Клямт убачыў на плячах Келера кулямёт, загадаў зараз жа аддаць назад салдату. Обер-ефрэйтар хацеў быў запярэчыць, але Клямт асек яго:

— Зараз жа! Гэта што — патворства распушчанасці?!

Келер паслухаўся яго неахвотна, пры гэтым Клямт улавіў ледзяны выраз яго вачэй. Мімаволі мільганула ў галаве разважліва: гэтага ефрэйтара трэба асцерагацца. Клямт успомніў мінулыя спрэчкі, якія раздзялілі іх мяжой непрыязнасці, а можа, і варожасці.

«Сачыць за ім трэба, — падумаў пра Келера. — Першы зручны выпадак і ён — здрадзіць...» Каб Клямт не пабойваўся салдат, якія любілі Келера, ён пастараўся б зняць яго з камандзіраў і далажыць пра яго размовы каму след. Але цяпер пакуль не выпадала... «Нічога, — суцяшаў сябе лейтэнант, — прыдзе час: я яму ўсё прыпомню!..»

Хутка лейтэнанту давялося затрывожыцца пра іншае: выявілася, што батальён адарваўся ад штаба палка!

Усім, што засталося ад батальёна, камандаваў цяпер капітан Штаме. Ранейшы камандзір загінуў яшчэ на другі дзень рускага наступлення. Штаме, заўсёды п'яны і злосны, часта крычаў на ўсіх, пагражаў пісталетам. Нават Клямт пабойваўся яго, але лейтэнанта

супакойвала думка, што такі чалавек не падвядзе ў цяжкую хвіліну ў баі.

— Дзе гэты пракляты штаб? — падышоўшы да Клямта, запытаўся капітан.

— Не ведаю, гэр капітан... Відаць, адстаў.

— Дурань! «Адстаў»! Гэтыя чысцюлі знарок адсталі і — пайшлі ў палон да бальшавікоў!.. Зразумела?

— Так, капітан.

Клямту нічога не было зразумела. Начальства няма, і што робіцца навокал, невядома. Куды ісці — ніхто не ведае, нават Штаме. Многія лічаць, што трэба хутчэй дабірацца да Барысава, але хто скажа, што там, у Барысаве, чакае? Можа, там бальшавікі?

Можна зняверыцца, паддацца адчаю. Некаторыя салдаты, відаць, ужо і зняверыліся: ёсць такія і сярод унтэраў. Але Клямт не з гэтакіх: ён не з ныцікаў, не паддасца. Цвёрдасць неабходна цяпер больш, чым калі-небудзь, асабліва камандзіру...

Трэба было б адпачыць, але ўсе, хто можа ісці, стараюцца не спыняцца. Хутчэй прабіцца б да сваіх.

Ужо быў блізка канец доўгаму дню, калі дарогу наперадзе перасеклі тры танкі. Спачатку ніхто не ведаў, чые гэта машыны, — салдаты спрачаліся: савецкія ці нямецкія.

— Нашы, — іранічна сказаў адзін. — Снарады ў іх для нас...

Два з танкаў развярнуліся, не спяшаючыся, навялі свае гарматы і ўдарылі з іх па калоне, а за гарматамі залескаталі кулямёты...

Салдаты — хто куды — рассеяліся па полі, па хмызняку.

Танкі павярнулі ў бок ад дарогі і неўзабаве схаваліся за ўзгоркам. Наступіла цішыня, і салдаты паступова пачалі збірацца зноў. Яны былі трывожныя: чакалі, што гэтыя танкі прывядуць за сабой другія. Нямала хто з салдат не вярнуўся сюды, і, што асабліва ўразіла Клямта, — невядома куды знік капітан Штаме!

Трывожна было і на душы Клямта. Але ён не паддаваўся бязвер'ю: ён наогул не быў схільны тлуміць сабе галаву рознымі сумненнямі.

Гэтая прыродная ўпэўненасць у тым, што ўсё будзе, нарэшце, добра, заўсёды вельмі падтрымлівала Клямта.

Ён не разгубіўся і цяпер. Заўважыўшы, што ён стаў у батальёне бадай што старшым камандзірам, лейтэнант пачаў збіраць усіх салдат і так-сяк арганізоўваць іх. Клямт быў службістам, і тое, што яму дастаўся батальён, нямала цешыла яго.

Ён адчуваў, калі пачаў весці салдат, што лёс усклаў на яго нейкую асаблівую місію. Клямт выбраў абходны шлях, каб абмінуць тое месца, адкуль білі танкі і куды яны пайшлі.

Танкі больш не паяўляліся,..

Ужо ў вячэрнім змроку да Клямта, які ўсё ішоў наперад са сваім «батальёнам», пад'ехаў на кані сувязны афіцэр ад штаба палка.

— Дзе камандзір батальёна?— запытаўся сувязны.

Клямт адказаў:

— Я ўзяў на сябе абавязкі камандзіра батальёна.

— А што з капітанам Штаме?

— Знік... у час атакі рускіх танкаў.

Клямт усміхнуўся.

Ён бачыў, што сувязны зразумеў усё. Афіцэр перадаў лейтэнанту загад камандзіра палка: хутка весці батальён да рэчкі.

Афіцэр сказаў, што штаб палка знаходзіцца адсюль за тры кіламетры. Паказаўшы на карце месца, дзе іменна Клямту трэба быць, сувязны паехаў назад...

Значыцца, штаб жыве! Усё, выходзіць, наладжваецца, як лейтэнант і спадзяваўся. Усё будзе добра. Клямт думаў пра Штаме: уцёк, у цяжкую хвіліну здрадзіў. Хто б мог чакаць гэтага ад яго? Свіння. Баязлівец.

Ён, Клямт, будзе да канца помніць пра свой салдацкі абавязак.

3

Клямт са сваім батальёнам рыхтаваўся да бою. Салдаты капалі на беразе ракі акопчыкі, капалі неахвотна і ляніва, бо лічылі, што робяць лішняе.

Калі яны, аднак, зрабілі ўсё як належыць, то ў гэтым заслуга Клямта. Лейтэнант прымусіў іх.

Абарону батальёна праверыў сам камандзір дывізіі. Генералу спадабаліся акопы і стараннасць цяперашняга камбата, і ён намякнуў Клямту, што пры належным выпадку пастараецца аддзякаваць яму.

Клямт быў усцешаны генеральскаю міласцю. Нягледзячы на цяжкую абстаноўку, ён адчуваў сябе некаторы час як імяніннік. Лейтэнанту малявалася прываблівая будучыня: пасля таго, як установіцца парадак, — а чакаць гэтага не прыдзецца доўга, — ён, Клямт, будзе камандаваць батальёнам. Яго, вядома, не здымуць з пасады, якая даверана яму лёсам, на якой ён ужо цяпер працуе ды яшчэ з такім поспехам. Падумаць толькі, ён адразу стане камандзірам сапраўднага батальёна! А Штаме зробіцца нікчэмнасцю: яго перавядуць у радавыя і асудзяць. Ён будзе зайздросціць Клямту!

— Ну, грымім!..— прагаварыў генерал. Ён пачуў, як у раптоўным, на секунду, зацішку прашалясцела ўгары некалькі снарадаў,— у наступны міг блізка і злосна зацыркаў нямецкі кулямёт, потым на тым баку сталі выбухаць снарады.— Цяпер да гэтага грому прыслухоўваецца ўвесь свет...

— Што кажаце, таварыш генерал? — нахіліўся да камандзіра дывізіі доўгі Паўлоўскі, думаючы, што генерал дае распараджэнне.

— Кажу, што... за нашай бітвай сочаць усе... увесь свет... Спачатку — за Сталінградам... потым за Курскай дугой... за пераправай цераз Дняпро... А цяпер за намі, за беларускай бітвай... За вось гэтай Бярэзінай...

— Гэта точна. Толькі ім не ў навіну — сачыць...

— Не ў навіну?.. Так, не ў навіну. Даўно слухаюць — ад першага стрэлу з «Аўроры»... Даўно сочаць. Адны — з надзеяй, другія — са страхам...

Ён зірнуў на камандзіра палка, потым на камбата, збіраючыся, відаць, адыходзіць.

— Цу што ж, тварцы сусветнай гісторыі, рыхтуйцеся! Падвядзеце — літасці не прасіце.

Вяртаючыся ў штаб дывізіі, генерал-маёр заўважыў, што пяхоты пабольшала. Ён бачыў, як між дрэваў размяшчаюцца купкі пехацінцаў, якія толькі што падышлі, бачыў, як тыя, якія прыбылі раней, ядзяць сухары, кураць, аб нечым мяркуюць.

У адным месцы пілавалі дрэвы, абчышчаючы іх ад сукоў.

— Што збіраецеся майстраваць? — запытаўся генерал у пажылога салдата.

— Плыты, таварыш генерал-маёр...

Крыху далей на паляне салдаты ўстанаўлівалі палкавыя гарматы, расчышчалі сектары абстрэлу, капалі раўкі. На траве каля раўкоў шарэла сыпучая лясная зямля. Група афіцэраў рабіла нейкія запісы ў кніжачках і сшытках.

Побач з «Кацюшамі» асталяваліся танкі, да якіх падыходзіла некалькі новых. Поблізу дамавога дымелі дзве кухні. Кухар сыпаў у кацёл белыя бульбіны.

Чапляючыся за галлё, з-за павароту выплылі няўклюдныя машыны з пантонамі... Войскі прыбывалі.

## 4

Насустрач імчала шасэ.

Яно часта было забіта калонамі машын, павозкамі, і тады пярэдняму бронетранспарцёру прыходзілася сігналіць, каб расчыс-

ціць дарогу. Так было ўвесь час — то шлях вольны, і ўсюдыход, беручы разгон, ляціць наперад, то зноў на дарозе ўзнікне затор, і прыходзіцца прабівацца, паўзці з хуткасцю пешахода.

Ледзь толькі абагналі некалькі важкіх грузавікоў і цыстэрн, як бронетранспарцёр, які ішоў наперадзе, падляцеўшы да групы машын, што сабраліся на дарозе, зусім спыніўся.

— Даведайся, чаго сталі? — павярнуўся незадаволены Чарняхоўскі к Камарову.

Паручэнец вылецеў з машыны і, прытрымліваючы планшэт, з выглядам рашучым і строгім, пабег туды. Чарняхоўскі нецярплівым позіркам сачыў за ім.

Камароў неўзабаве, бегам жа, вярнуўся і далажыў, што дарогу перасякае група немцаў.

— Вялікая?

— Не, з папярэдніх дадзеных, таварыш генерал, невялікая. Але дакладна пакуль цяжка сказаць.

— Вышлі два бронетранспарцёры, разведай, мабілізуй на дапамогу салдат з грузавікоў і — расчысць дарогу!

— Ёсць, таварыш камандуючы,— прывычна казырнуў Камароў, ён намерыўся бегчы, але прыпыніўся на міг у роздуме.— А вы пакуль... вярніцеся, таварыш камандуючы...

— Не затрымлівайся!

Камароў кінуўся зноў к бронетранспарцёру. Чарняхоўскі, выгнаўшы з машыны, бачыў, як дзве зялёныя браніраваныя машыны пачалі прабівацца праз затор.

Да Чарняхоўскага падышлі тры грузавікі з працітанкавымі гарматкамі на прычэпах, і ён загадаў ім ісці таксама туды.

Чарняхоўскі стаяў з членам Ваеннага Савета Емяльянавым і прыслухоўваўся да гукаў бою, сярод якіх вылучалася знаёмая скорагаворка кулямётаў з бронетранспарцёраў.

Ён нецярпліва чакаў, калі наперадзе сціхне і можна будзе ехаць далей. Ледзь страляніна спынілася, ён сеў у машыну.

Камароў, якога яны падабралі з бронетранспарцёра, што ішоў насустрач, седзячы ў машыне камандуючага, увесь час насцярожана азіраўся па баках, непакоячыся, як-бы немцы не паявіліся зноў.

Але да ВПУ дабраліся без прыгод. Сяло, у якім падрыхтавалі домік для камандуючага, здалося незвычайна ціхім і спакойным; яно ўсё зелянела садамі, імёнамі і ліпамі. Домік стаяў недалёка ад ускраіны, за якой бегла дарога і віднелася некалькі жоўта-зеленаватых палосак збажыны.

На двары і на ганку было чыста падмецена.

— Тэлефоны ўстаноўлены? — запытаўся Чарняхоўскі ў юнага лейтэнанта, які выбег з хаты насустрач яму.

— Так точна, устаноўлены, таварыш генерал!

У першым пакоі справа стаяла руская печ з адбітай на вуглу пабелкай.

Генерал, не спыняючыся, увайшоў у свой пакой, хутка азірнуўся: чыста, светла, на вокнах кветкі ў гліняных гаршках.

Зняўшы трубку тэлефона, звязаўся з начальнікам штаба і начальнікам аперупраўлення, запытаўся пра абстаноўку.

Вышаўшы зноў на двор, гукнуў ардзінарца, зняў кіцель і з асалодай змыў густы пласт дарожнага пылу. І тут, калі паружавелы, вясёлы, адзяваў кіцель, выбег з хаты ўзрушаны Камароў.

— Радыёграма ад Абухава, таварыш камандуючы!.. Толькі што атрымалі. Танкісты ўжо за Бярэзінай!

Чарняхоўскі, не зашпільваючыся, узяў радыёграму.

У ёй гаварылася, што з поўначы возера Палік партызаны збераглі мост цераз Бярэзіну, і абухаўцы, не спыняючыся, адразу пераправіліся на другі бераг і вядуць баі ўжо на заходнім беразе.

— Вось і пераскочылі, Лёша! — Чарняхоўскі стаў паспешліва зашпільваць кіцель.

Гэтая ўдача вельмі ўзрадавала камандуючага, таму што Бярэзіна была вялікім водным рубяжом, зручным для абароны ворага. Заходні, вышэйшы бераг ракі, якая звілістай істужкай цягнулася з поўначы на поўдзень не адну сотню кіламетраў, быў загадзя немцамі ўмацаваны і падрыхтаваны да баёў. Як казалі палонныя, немцы збіраліся тут затрымаць наш наступ на Мінскім напрамку.

Чарняхоўскі з удзячнасцю падумаў пра партызан: дапамаглі! У гэтыя дні ён яшчэ больш палюбіў сваіх «памочнікаў», што праводзілі многія часці ў абход немцаў, цераз балоты, гушчары, папярэджвалі пра засады фашыстаў, зберагалі масты...

Камандуючы звязаўся з генералам Крыловым, пяхота якога хутка падыходзіла да ракі, прыспешыў:

— Крылоў?.. Чарняхоўскі. Толькі што атрымаў радыёграму — Абухаў за Бярэзінай. Так, перабраўся... Паўночней возера Палік... Адстаеш! Як жа — не адстаеш? Ужо адстаў... Хутчэй прабівайся і фарсіруй!..

Трэба было замацаваць тое, што зрабілі танкісты, утрымацца на занятай на другім баку тэрыторыі. І не толькі ўтрымацца, але і пашырыць яе.

У той жа дзень Крылоў далажыў, што пяхота падышла да Бярэзіны ўсцяж на шэсцьдзесят кіламетраў і пачала з боем перапраўляцца цераз яе.

— Які настрой у пяхоты? — запытаўся камандуючы.

Крылоў сказаў, што байцы проста ірвуцца на заходні бок ракі. Хто не можа плаваць, набіваюць палаткі сенам, збіваюць плыты — і на той бераг, у бой!..

Немцы контратакуюць па многа разоў, але вымушаны ўсё ж адступаць.

Так, настрой быў выдатны і ў пяхоты, і ў танкістаў, і ў сапёраў, у афіцэраў, у салдат — ва ўсіх. Чарняхоўскаму мімаволі прыгадаліся тыя дні, калі яго армія перапраўлялася пад Кіевам цераз Дняпро. Тады войскі вёў таксама такі ж нястрымны парыў, які рабіў тысячы звычайных людзей героямі.

Пазней Чарняхоўскі загадаў танкістам Абухава, прарваўшыся ў глыбіню нямецкіх пазіцый на правым баку Бярэзіны, павярнуць на поўдзень і рэзаць варожую абарону ўсцяж па фронту. Такі манеўр танкавых войск паставіць пад удар з поўначы варожыя часці ў Барысаве...

У той час каля Мінскай магістралі немцы вялі баі яшчэ далёка на ўсход ад Барысава. Яны тут супраціўляліся больш, як у якім-небудзь іншым месцы...

5

Чарняхоўскі вышаў з хаты. У галаве пасля бяссоннай ночы пабольвала. Ён пастаяў на ганку, жмурачыся ад яркага святла, прайшоўся па двары. Абапёршыся аб плот, паглядзеў у недалёкі канец вуліцы, за якой, адразу за купкай дрэваў, пачынаўся выган. З двара аперупраўлення высунуўся і паімчаў за сяло бранявік.

«Бобр... Бобр...» — засела ў галаве назойлівае, неадступнае.

Ён пагладзіў далонню лоб, пачаў пахаджваць па двары. Заўважыўшы след аўтамашыны, успомніў, што раніцай кудысьці пайшла адна машына. Яна дасюль не вярнулася.

Камандуючы папрасіў ардзінарца, які стаяў каля хаты, паклікаць падпалкоўніка Камарова.

— Камароў, дзе машына?

Паручэнец — заўважыў Чарняхоўскі — збянтэжыўся, але «ўзяў сябе ў рукі» і бадзёра адрапартаваў:

— У раз'ездзе, таварыш камандуючы.

— Куды паслалі?

— У Маскву, таварыш камандуючы.

— У Маскву?! Чаго?

— Так што...— паручэнец змоўк, відаць, разважаючы, што казаць.— Дзяцішкам вашым тое-сёе, таварыш камандуючы... З трафеяў...

— Што адправілі?

— Дваццаць банак кансерваў, таварыш камандуючы... І дзесяць банак Джэма... Дзяцішкам. З трафеяў, — ухапіўся паручэнец за зачэпку. — Не з ваенторга.

— Ну, заладзіў — з трафеяў! — паморшчыўся Чарняхоўскі.— Чаму не параіўся са мной?

— Так што не хацеў непакоіць цераз такую дробязь...

— Дробязь... Вось што, Камароў, вярніце зараз жа машыну.

— Вінават...

— Што яшчэ?

— Яна далёка, таварыш камандуючы.

— Усё роўна. Паслаць «ПО-2», дагнаць і вярнуць!

Чарняхоўскі, даючы знак, што размова скончана, павярнуўся да генерала Івалгіна, які ўваходзіў на двор.

— У праціўніка выяўлена свежая дывізія,— паведаміў начальнік аперупраўлення.— Пятая танкавая дывізія,— перакінулі з-пад Ковеля...

— Зойдзем у дом,— Чарняхоўскі першым ступіў на ганак.

— З-пад Ковеля... Далёка прыйшлося ёй ехаць! Як вы думаеце, для чаго яе кінулі сюды?

Генерал-маёр сказаў, што каля станцыі Бобр гітлераўцы сканцэнтравалі многа танкаў і пяхоты: ён назваў, колькі там войск.

Было відаць, што немцы намерваюцца ўдарыць у фланг нашаму войску, каб перашкодзіць развіццю наступлення. Выбралі яны гэтае месца для ўдару таму, што фронт тут, у раёне магістралі, урэзаўся клінам у нашы пазіцыі.

— Так, клін... У іх клін, а што ў нас? У нас, можна сказаць, сякера. Сякера, вядома, у нас, Пётр Іванавіч... Ну, а калі яна ў нас, то мы можам выбіць іх клін, а то і проста адсекчы... Што ж, пабачым — хто каго! — прамовіў генерал арміі, быццам спрачаючыся.

Чарняхоўскі выклікаў па тэлефоне камандуючага арміяй і стаў абмяркоўваць з ім план разгрому нямецкай групіроўкі каля Бабра.

У той дзень камандуючага фронтам некалькі яго таварышаў віншавалі з днём нараджэння.

Увечары прыехаў з адной часці, якая вяла баі, член Ваеннага Савета Емяльянаў. Павіншаваўшы Чарняхоўскага, які толькі што

чытаў нейкае данясенне, ён сказаў, узняўшы здзіўлена бровы над пукатымі вачыма і разводзячы рукамі:

— Штосьці я не бачу, каб імянінпік збіраўся адзначаць сваё свята. Ці вы, таварыш камандуючы, рашылі ігнарыраваць такую відную дату?..

— Не, чаму ж? — Чарняхоўскі скупа ўсміхнуўся.— Я святкую. У баях. Военачальніку паложана ў баях святкаваць!

— Не заўсёды, таварыш камандуючы...

— Ну, хоць бы тады, калі яго салдаты вядуць баі,— адказаў Чарняхоўскі ў тон Емяльянаву.— Скончым вайну, тады будзем святкаваць інакш. Па-мірнаму!.. Пасля якіх-небудзь, скажам, камандзірскіх заняткаў, у акружэнні сям'і — з жонкай, з дзецьмі! Я ўсіх бы сваіх сяброў запрасіў: прыходзьце, не крыўдзіце імянінніка... І пастараўся б, каб было ўсім весела і добра, усім сябрам! І песень паспявалі б мы тады, на тым зборы, уволю, аж пакуль, ліха пабяры,— не ахрыплі б!..

Ён неяк адразу, рэзка, як часта рабіў, перамяніўся.

Камандуючы прыпомніў такі ж дзень чэрвеня сорак першага, калі яго дывізіі давялося цэлыя суткі весці бой з нямецкімі танкамі. Гітлераўцы тады рваліся на ўсход, самаўпэўненыя, нахабныя... Цяжка было іх стрымліваць...

Тры гады, тры гэтакія гады. Бітва пад Ноўгарадам, дзе ён са сваёй дывізіяй некалькі месяцаў стрымліваў нецярплівы націск фашысцкай погані, бітва пад Варонежам, дзе ён ужо камандаваў корпусам, а вельмі хутка і арміяй. Пераправа праз асенні сцюдзёны Дняпро каля Дымера, без меры шчаслівы, узрушаны Кіеў... Нарэшце, аколіцы Тарнопаля, адкуль яго выклікалі ў Маскву, пасылаючы сюды...

— Так, трыццаць восем! — прамовіў Емяльянаў, пазіраючы на Чарняхоўскага з нейкім здзіўленнем.— Малады вы, Іван Данілавіч!

— Што гэта вы раптам, таварыш член Ваеннага Савета, загаварылі пра маладосць?! Малады!.. Вайна, здаецца, падбавіла нам не толькі працы, але і гадоў...

Ён памаўчаў, Емяльянаў заўважыў, што ў куточках вузкага рота камандуючага ўзніклі ямкі, якія надалі твару строгасць.

Ён яшчэ адну справу павінен зрабіць. Чарняхоўскі папрасіў да тэлефона начальніка інжынерных войск. Загадаў выдзеліць некалькі спецыяльных падраздзяленняў сапёраў, якія займаліся б размініраваннем будынкаў.

— Для работы ў Мінску. Зрабіце гэта сёння ж.

— Зараз жа зраблю, таварыш генерал.

— Сапёры павінны ўвайсці ў горад разам з першымі салдатамі.

— Зразумела...

Чарняхоўскі паклаў трубку тэлефона.

Позанім вечарам выклікаў паручэнца, запытаўся:

— Вярнулі машыну?

— Так точна!

— Эх, Лёша, як жа ты гэта? Не чакаў! Столькі гадоў разам, а сюрпрыз такі падарыў...

— Дык з трафеяў жа...

— Зноў старая песенька. Шчасце тваё, што вярнуў... Ну ды і дзень харошы — не варта яго табе псаваць...

Ён звязаўся з Масквой, з сям'ёй,— у гэты дзень асабліва хацелася, каб былі разам з ім. Анастасія Грыгор'еўна — жонка — прывітала з днём нараджэння.

— І я віншую, папа!— пачуўся нецярплівы голас дачкі. Было чуваць, што Алік, сын, поблізу таксама дабіваецца, каб яму далі сказаць слова: «Мама, ну, мама...»

— Дзякую,— адказаў бацька.— Настрой у мяне, Тася,— загаварыў ён да жонкі,— як ніколі. Эх, якія зараз дні ў нас!

6

Гітлераўцы яшчэ раз паспрабавалі затрымаць нашых танкістаў і пяхоту, каля Крупак, але і тут вымушаны былі адступіць.

30 чэрвеня танкісты маршала Ротмістрава і пехацінцы генералаў Галіцкага і Глаголева падышлі да ўскраіны Барысава і пачалі бой за горад.

Барысаў стаяў на подступах да Мінска. Чарняхоўскі надаваў гэтаму бою важнае значэнне: ён ведаў, што гітлераўцы тут яшчэ раз паспрабуюць затрымаць наша наступленне.

Камандуючы паставіў задачу: да раніцы Барысаў вызваліць. Горад павінны былі браць камбінiраваным ударам танкаў і пяхоты, наступаючы адначасова з двух кірункаў,— з поўначы і поўдня, каб узяць немцаў як бы ў ціскі.

Трэба было хутчэй ачысціць шлях на Мінск.

Мінск... Чарняхоўскі думкамі быў ужо ў Мінску. Там завершыцца другі этап бітвы. Развіўшы наступленне, яго войскі сустрэнуцца з войскамі Ракасоўскага і закончаць акружэнне 4 нямецкай арміі. Акружэнне ў ходзе развіцця наступлення. Новае слова ў савецкай ваеннай навуцы... Будзе зроблены «кацёл», у якім «пераварацца» многія нямецкія дывізіі, не адзінкі іх, а дзесяткі...

Чарняхоўскі папрасіў, каб паказалі даныя авіяразведкі ў Мінску. Яму прынеслі некалькі здымкаў, зробленых з самалёта на невялікай вышыні, і зводку.

Камандуючы, схіліўшыся над сталом, моўчкі стаў разглядваць здымкі. На ўсіх іх былі відаць, як у разрэзе, аднастайныя лабірынты сцен, між якіх страшэнна ззяла пустэча колішніх пакояў, вялізныя пустыры з уцалелымі дзе-ні-дзе рэшткамі будынкаў; над зломамі кварталаў то там, то тут курыліся, цягнуліся ўгару чорныя дымы пажараў...

За гэтым заняткам яго ўбачыў генерал-маёр Івалгін.

— Калі глядзіш на гэтыя дымы, здаецца, што ідзем марудна,— сказаў Чарняхоўскі.

Ён парывіста ўстаў і звёўшы бровы, ад чаго між іх выразаліся дзве рэзкія маршчыны, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні, пачаў неспакойна, шырока крочыць па пакоі.

— Што ў вас?

Генерал-маёр прынёс данясенні: войскі вядуць у Барысаве моцныя баі. Эсэсаўцы, ахоўнікі і нямецкія танкавыя часці супраціўляюцца вельмі ўпарта...

— Упарта?.. Нічога, я думаю, што перад такімі ціскамі яны нядоўга ўтрымаюцца.

— Супраць Галіцкага, Глаголева ды Ротмістрава — цяжкавата!..— згадзіўся генерал-маёр.

Тым не менш, Чарняхоўскі за ноч некалькі разоў звязваўся з камандуючымі злучэнняў, высвятляў абстаноўку і даваў парады.

Не выпусціць бы гітлераўцаў, хутчэй бы закрыць шляхі іх адыходу, а пакуль — каб не затрымацца тут, пад Барысавам!..

## Раздзел I

### I

Усю ноч дывізія рыхтавалася да пераправы цераз Бярэзіну. Генерал-маёр з КП сачыў, як падцягваюцца да берага роты і палкі, як рыхтуюць яны сродкі для пераправы.

Усталёўвалася артылерыя, якая таксама падыходзіла да ракі.

Шчарбацюк з начальнікам артылерыі абмеркаваў размяшчэнне яе пазіцый, паставіў задачы.

Для таго каб адцягнуць увагу ворага ад пераправы, Шчарбацюк рашыў паказваць пераправу ў іншым месцы, куды ён паслаў адзін батальён і некалькі батарэй артылерыі.

Калі ён перадаваў распараджэнні назаўтра, прынеслі вячэру. Генерал, паклаўшы трубку тэлефона, паморшчыўся незадаволена.

— Чаго тут не хапае?

Пажылы, вусаты ефрэйтар выцягнуўся, казырнуў:

— Вам не паложана, таварыш генерал!

— Як не паложана?! — не ўпершы раз з гэтага поваду абурыўся камандзір дывізіі.— Усім паложана, а мне — не?..

— Самі ведаеце, таварыш генерал!

— Нічога я не ведаю!

Шчарбацюку даводзілася пакутаваць ад дыэты — у яго быў парок сэрца. Жонка ў кожным лісце пыталася, ці трымаецца ён дыэты, і наказвала не свавольнічаць і слухацца ардзінарца...

Убачыўшы, што генерал сёння жартаваць не збіраецца, ефрэйтар падаў фляжку.

— Губіце вы сябе, таварыш генерал. Ні сябе, ні дзяцей не шкадуеце...

Ён са строгім асуджэннем паглядзеў, як камандзір дывізіі наліваў у чарачку. «Нібы жыць без гэтага яму нельга. Як дзіця».

Шчарбацюк, выпіўшы павольна, смакуючы, чарачку, павесялелы накінуўся на вячэру. Чорт пабяры, як ён прагаладаўся!

— Не судзі строга, дарагі,— жартаўліва прагаварыў ён.— Заўтра справа важная — пры такім выпадку грэх не выпіць...

З ахвотай павячэраўшы, ён завярнуўся ў бурку і паваліўся на ложак спаць.

Генерал любіў паспаць. Ён казаў, што перад справай вельмі карысна паспаць,— без сну чалавек тупее.

Спаў ён мірна і бесклапотна, як дома.

На світанні батальён завязаў бой, а крыху пазней два палкі пачалі пераправу.

Шчарбацюк, які стаяў на беразе, накінуўшы на плечы бурку, бачыў, як у тумане салдаты неслі плыты і бярвенні да вады. Немцы, якія частку сваёй артылерыі і пяхоты перакінулі супраць батальёна, хутка заўважылі, што пачалася пераправа і тут,— сталі шалёна абстрэльваць раку і бераг.

Ракеты і агонь асвятлялі ваду, дрэвы, хмызняк, постаці людзей, якія беглі да ракі і плылі на той бок.

Наша артылерыя амаль безупынна біла па варожых гарматах і кулямётах. На тым баку наводдалек і блізка ўзніклі пажары. Штосьці гарэла каля самага берага.

— Акопы гарацъ...— здагадаўся генерал-маёр.— Прыпякае гітлераўцам...

— Выдумалі, дубцамі аплятаць акопы...

Дубцы высахлі і цяпер лёгка загараліся.

Неўзабаве полк Сібірака пашырыў плацдарм,— страляніна стала адыходзіць ад берага. Пераправа пайшла хутчэй, але праціўнік яшчэ абстрэльваў з гармат берагі і раку.

Абстрэл гэты чыніў то там, то тут замінкі. Неспакойны, нервовы камандзір палка бегаў па беразе, выклікаў афіцэраў, пагражаў, лаяўся.

Генерал загадаў ад'ютанту перадаць яму, каб ён падышоў да камандзіра дывізіі.

— Ты што, друг мой, нервознасць разводзіш? Гэта не работа. Так працаваць нельга.

— Вінават, таварыш генерал... Але як тут інакш можна, як тут стрымлівацца!

— А ты ўсё ж спакайней, спакайней. І без лаянкі! За ласку табе кожны зробіць у сто разоў больш, як за крыкі. Страху ім і без цябе досыць, а разумнае слова — у сэрца!.. Аж ахрып! — з дакорам паківаў галавой камандзір дывізіі.

Пантанёры ўвішна будавалі мост. Яны ўжо дайшлі да сярэдзіны ракі, калі наляцелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі.

У рацэ ўскінуліся стаўбуры вады. Некалькі бомб з грукатам узарваліся на беразе,— на акоп, дзе стаяў цяпер камандзір дывізіі, пасыпалася зямля.

Па самалётах білі зеніткі і кулямёты, але бамбардзіроўшчыкі ўсё кружыліся над пераправай.

Шчарбацюк убачыў, што адна бомба выбухнула каля самага моста...

Генерал-маёр звязаўся з камандзірам авіячасці.

— Зараз жа дапаможам,— адказаў лётчык.

Сапраўды неўзабаве прыляцелі знішчальнікі. У небе завязаўся бой: кружыліся, раўлі знішчальнікі, скрыжоўваліся лініі трасіруючых куль, час-ад-часу скрозь роў матораў прарываўся зацяты трэск кулямётаў.

Раптам адзін з самалётаў выпаў з гэтага люта вірлівага, поўнага рову, клубка і, бязладна перавальваючыся то на крыло, то на нос, паляцеў к зямлі. Шчарбацюк з крыўдай пазнаў: наш.

Самалёт упаў за ляском, на тым баку.

Прасачыўшы за гэтым боем, які ішоў, здалося яму, бясконца доўга і за час якога было збіта яшчэ два нямецкія і два нашыя самалёты, Шчарбацюк выклікаў свайго намесніка па тылу і папрасіў далажыць, дзе цяпер яго машына і абозы. Аказалася, адзін абоз наткнуўся на групу гітлераўцаў, і яны захапілі некалькі павозак...

Генерал-маёр пры гэтай вестцы густа барвова пачырванеў, жылы на яго твары набухлі. Ён кіпеў ад гневу,— пачынаўся «выбух».

— Шляпы! — вылаяўся генерал-маёр. Рэзка прайшоўшы тудыназад па беразе, ён загадаў: — Усе тылы падцягнуць да моста і' да дванаццаці трыццаці пераправіць.

— Ёсць, таварыш генерал.

Панура маўклівы, з намаганнем стрымліваючы гнеў, генерал пайшоў да ракі. Ён сеў у рыбацкую лодку,— салдаты адразу ўзмахнулі вёсламі.

2

Калі дывізія пераправілася цераз Бярэзіну і прарвала ўмацаванні гітлераўцаў, Шчарбацюк павярнуў яе на поўнач і павёў усцяж ракі. Такі быў загад камандуючага арміяй.

Дывізія павінна была як мага хутчэй прабівацца да Барысава.

Ад камандуючага арміяй Шчарбацюк ведаў, што з поўначы да Барысава падыходзяць танкі і пяхота.

— Шчарбацюк, я зноў баюся за цябе! — далікатным, уедлівым голасам паведаміў разам з гэтым камандарм.— У цябе назіраюцца некаторыя трывожныя сімптомы...

Камандзір дывізіі пакрыўджана, гнеўна пачырванеў: «Зноў сімптомы!.. Зноў баіцца, вечна баіцца! Адна песня...»

— Паспяшайся, Шчарбацюк,— дадаў яму напаследак камандуючы.— А то паспееш — к самаму канцу!..

— Не спазнюся,— адказаў генерал-маёр.

Дывізія рушыла да Барысава. Збіла некалькі варожых заслонаў. Байцы, стомленыя бяссоннай ноччу, ішлі па гарачай пыльнай дарозе, неслі на сабе мінамёты, бранябойкі, кулямёты, скрынкі з мінамі і патронамі...

Перад вечарам пераправіліся з боем цераз рэчку Плісу, якая недалёка ад горада ўліваецца ў Бярэзіну, а ў прыцемку наблізіліся да Барысава.

У горадзе ўжо ішлі баі. Яны ішлі і ў старой частцы горада, і ў Новым Барысаве, якія падзяляла Бярэзіна. Дывізіі Шчарбацюка выпала вызваляць паўднёвую частку Нова-Барысава, раён вакзала.

Дывізія пачала бой без перадышкі, адразу, як толькі падышла да першых хат. Гітлераўцы, што заселі ў прывакзальных пабудовах, дотах, руінах, спаткалі пехацінцаў вельмі моцным агнём.

У сасняку, дзе выбраў генерал-маёр камандны пункт, раз-по-раз ірваліся снарады і міны, але камандзір дывізіі не звяртаў на гэта

ўвагі,— яго непакоіла тое; што батальёны, штурмавыя групы запыніліся.

Стоячы з групай афіцэраў на ўскраі, сасняку, генерал-маёр пазіраў на горад, у якім уздымалася некалькі пажараў. За цёмнымі будынкамі чулася страляніна, выбухі, гурчанне машын. Страляніна даходзіла і здалёку, з другога боку горада.

За Бярэзінай таксама не сціхаў бой.

— Нашы падышлі да ракі...— прамовіў, як бы адгадваючы думкі генерала, ад'ютант.— Эх, шкада, што гітлераўцы ўправіліся ўзарваць мост.

— Так... шкада...

Шчарбацюк сказаў гэта такім тонам, што адчувалася — камандзір дывізіі нечым вельмі занепакоены.

Ад'ютант раптам заўважыў, што генерал штосьці мармыча,— ён прыслухаўся і разабраў:

А канагона маладога вязуць з разбітай галавой...

Генерал яшчэ прамармытаў-праспяваў некалькі слоў, потым плюнуў, нібы адплёўваючыся ад назойлівай мелодыі.

Ён быў незадаволены, і ад'ютант добра ведаў чаму: прыходзіцца стаяць на месцы.

А тут якраз пазваніў камандуючы арміяй, просячы паведаміць, як справы ў дывізіі. Шчарбацюк далажыў, што пачаў бой за горад, але пакуль дзейнічае на подступах да станцыі, дзе гітлераўцы трымаюцца асабліва моцна. Камандуючы не сказаў ні слова незадавальнення за тое, што дывізія затрымліваецца,— нават пахваліў, што хутка пераправіліся і падышлі да горада. Гэтая пахвала падзейнічала на генерала, як папрок.

Шчарбацюк папрасіў выклікаць да тэлефона Сібірака.

— Ну што ў цябе? Усё па-ранейшаму?

Камандзір палка адказаў, што гітлераўцы не адыходзяць.

— І што ты думаеш, сэрца маё, рабіць? Страляць датуль, пакуль адступяць?

Ласкавасць зараз у яго была такая, што ўсе, хто ведаў натуру генерала, адчувалі, што вось-вось можа зноў пачацца выбух гневу.

— Хачу паспрабаваць абыйсці іх злева...— адказаў падпалкоўнік.

— Ты ўсё спрабуеш?

— Там у мяне ўжо дзейнічае штурмавая група.

— Падварушы. Ды хутчэй. Не марудзь!

Задачу гэту камандзір палка даў штурмавой групе Праворнага,

Малодшы лейтэнант з чатырнаццаццю байцамі, сярод якіх быў і сержант Туравец, зайшоўшы на левы фланг палка, паўзком прабі-

раўся цераз насып, цераз рэйкі. Не вельмі далёка палаў пажар, але святло яго закрывала нейкая разбураная сцяна, ад якой на насыпе ляжаў шырокі цень.

Праворны сказаў, каб усе трымаліся ў ценю.

Перапаўзалі па адным. Тыя, што сядзелі перад насыпам, стаіўшы дыханне, сачылі за таварышамі, якія перапаўзалі па насыпе.

Усё-ткі ў гэтым ценю змрок быў рэдкі.

Над насыпам раптам прайшлася чарга з кулямёта. Усе насцеражыліся: няўжо іх заўважылі? Праворны пачакаў крыху і загадаў паўзці наступнаму. Гітлераўцы не стралялі,— значыць, яны не заўважылі.

Падабраўшыся да сцяны, Праворны ўзняўся на коленцы і ўважліва аглядзеўся, выбіраючы шлях. Тут камандзір пачуў, як непадалёк зноў коратка ўдарыў кулямёт. Ён быў у руінах. Малодшы лейтэнант загадаў Тураўцу і Шарыфутдзінаву прабрацца туды і «зрабіць цішыню».

Шарыфутдзінаў поўз наперадзе. Ён амаль зліваўся з зямлёй, так-што нават зблізку яго цяжка было адрозніць ад камення і травы. Кулямёт цяпер страляў часта, і месца яго было добра прыкметна.

— Чакай...

Ефрэйтар папоўз паўз каменні; Юрый сачыў за ім, гатовы ў кожную хвіліну дапамагчы, падтрымаць. Але падтрымка яго не спатрэбілася. Шарыфутдзінаў, улучыўшы зручны момант,— калі кулямёт застракатаў,— націснуў спускавы кручок аўтамата.

Ён вярнуўся назад, трымаючы ў руках нямецкі кулямёт.

Адсюль штурмавая група прабралася да будынка, які затрымліваў батальён. Ірвануўшы дзверы, Юрый проста перад сабой убачыў спіну гітлераўца. Не ўправіўся той азірнуцца, як сержант ударыў яго аўтаматам па галаве. Гітлеравец асунуўся на зямлю.

Праворны, абагнаўшы Юрыя, штурхнуў другія дзверы і кінуў наперад гранату. Калі ён убег, у пакоі слаўся дым, у якім валяліся двое забітых.

За чвэрць гадзіны дом быў ачышчаны.

— Ну, можна даць зялёную ракету!

Расшпіліўшы запацелую гімнасцёрку, Праворны нервова выхапіў з кішэні ракетніцу, уклаў у яе патрон.

Хутка тут быў ужо амаль увесь батальён.

Хвілін праз дваццаць генерал-маёру далажылі, што батальён, ударыўшы з левага фланга, уварваўся на станцыю і што там ідуць рукапашныя бойкі.

Генерал-маёр, ціха мармычучы неадступную песню пра канагона, прыслухоўваўся да стралянiны, якая даходзiла адтуль, углядваўся ў праймы мiж будынкаў. Ён убачыў у тым баку ў святле пажару некалькi постацей, што прабеглi i схавалiся за домам...

З палка, што наступаў правей Сiбiрака, прывялi дзесяткi два палонных. Шчарбацюк загадаў iх дапытаць.

— Адкуль iх перакiнулi сюды, даведайцеся,— сказаў ён капiтану-перакладчыку.

Аказалася, яны з эсэсаўскага батальёна, пераведзенага два днi назад з Гродна. Яны паведамiлi, што ў Барысаве б'юцца рэшткi танкавай дывiзii i эсэсаўскiя ахоўныя часткi, спешна перакiнутыя з розных месц.

Неўзабаве генерал-маёр, сваёй звычайнай цяжкаватай i павольнай хадой, iшоў ужо цераз пуцi, якiя цьмяна паблiсквалi. Каля спаленага будынка ляжала i сядзела некалькi параненых байцоў, аднаго з якiх перавязвала поўная, здаровая санiтарка.

— Ну, што, творцы гiсторыi, арэшак моцны дастаўся?

— Нiчога, мы прывыклыя...— адказаў той, якога перавязвалi.— Не такiя трушчылi...

— Шкада з паўдарогi саступаць, — адгукнуўся другi.

— Чаму з паўдарогi?

— Ды далей бы iсцi... Эх!

— А вы не гаруйце, другi мае, да часу. Дарога няблiзкая... Яшчэ, можа, i дагонiце...

Генерал-маёр, хрупаючы бiтым шклом, пайшоў далей. Шкла насыпана тут было вельмi многа, ад бляску пажараў яно зыркала. Насустрач генералу зноў правялi вялiкi гурт палонных. Тут жа камандзiр дывiзii i яго афiцэры спаткалi некалькi жанчын i дзяцей, якiя кiнулiся iх абдымаць.

Адна з жанчын расказала пра страшныя расправы гiтлераўцаў з людзьмi ў канцлагеры на лесапiльным заводзе.

— А пазаўчора адзiн, калi павялi на расстрэл, схапiў цаглiну i кiнуўся на салдат. I iншыя людзi кiнулiся, ды так, што салдаты пачалi ўцякаць...

— Выратавалiся нашы, значыцца?

— Некаторыя выратавалiся. А другiх фашысты здагналi i пастралялi...

Генерал, распытваючы, спачувальна кiваў галавою,— Шчарбацюк быў жаласлiвы. Вiнавата моргаючы вачыма i ўздыхнуўшы, ён супакоiў жанчыну:

— Нічога, любая мая, не бядуй!.. Не перажывай марна. Мы ў іх за ўсё спытаемся, будзь пэўна.

Бой не сціхаў. Гітлераўцы біліся за кожную вуліцу і завулак. Асабліва ўпарта яны трымаліся ў каменных будынках, страляючы з вокан, з дахаў. З-за будынкаў часта выпаўзалі нямецкія танкі, спрабуючы затрымаць нашу пяхоту.

Некаторыя з гэтых танкаў неўзабаве змаўкалі, прабітыя навылет або ахутаныя агнём.

Назіраючы за боем, генерал-маёр заўважыў, што полк Сібірака прыпыніўся.

— Чаму затрымліваешся? — запытаў яго незадаволена камандзір дывізіі.

Падпалкоўнік адказаў, што яго затрымлівае батальён Паўлоўскага, які вядзе бой з гітлераўцамі, што заселі ў вялікім доме.

— Дом добры...— нечакана пачуў генерал.— Паўлоўскі не хоча разбіваць яго снарадамі...

Шчарбацюк хвіліну маўчаў. Потым папрасіў, каб яго звязалі з Паўлоўскім.

— Ну, раскажы, што там за дом? Добры!.. Ну, што ў ім добрага? Колькі, скажы, паверхаў? Тры паверхі?.. Школа была? Адкуль гэта ведаеш, друг мой? Па выгляду? Што, вокны шырокія?

У твары Шчарбацюка паявілася штосьці дзіцячае, цікаўнае.

— Значыць, дом добры і школа?

Ён задумаўся.

— А зможаш ты ўзяць дом так, каб... не разбіваць снарадамі і людзей не загубіць марна?

— Думаю, што вазьму...

Генерал-маёр запытаў, колькі на гэта патрэбна будзе часу, і дазволіў. Толькі загадаў, каб не марудзілі.

Прайшло, мусіць, з паўгадзіны, як генерал-маёру далажылі, што дом выратавалі, што забітых у штурмавой групе няма. Байцы, сказаў Сібірак, узлезлі па вадасцёкавай трубе на трэці паверх і адтуль пачалі спускацца ўніз, ачышчаючы дом ад нямецкіх кулямётчыкаў і аўтаматчыкаў...

— Хто там з іх асабліва?.. Павіншуй ад мяне са «Славаю», а камандзіра са «Звёздачкай».

Яшчэ ішоў бой, а Шчарбацюк, выклікаўшы да тэлефона свайго намесніка па тылу і камандзіраў палкоў, загадаў падрыхтавацца да «дарогі».

— Адразу, як толькі скончым, выступаем. Без затрымкі!..

## 3

Паўдня перабіраліся цераз балотца. Увесь вечар, зрэдку спыняючыся, хутка ішлі. Толькі пад поўнач, калі прыехалі ў вялікае маўклівае сяло, прышла каманда зрабіць прыпынак, адпачыць, і малодшы лейтэнант спыніў узвод.

Юрый з асалодай выпрастаў налітае стомаю цела. Нарэшце, ён можа паспаць. Паспаць спакойна цэлую гадзіну, ды яшчэ на саломе ў хаце.

Сержант узбег на ганак, адчыніў дзверы. Пасвяціўшы запальнічкаю, ён акінуў позіркам пакой. Тут было пуста і няўтульна, але Юрыю вельмі хацелася спаць, ён ведаў, што і камандзір, і байцы хочуць толькі аднаго — хутчэй паваліцца спаць. Што яму да ўтульнасці!

Сержант загадаў салдату, які ўвайшоў пасля яго, пашукаць саломы ці сена:

— Хутка. Як куля!

Праз хвіліну салдат унёс у хату абярэмак сена: яно было ў хляве на палацях.

Сержант запаліў баначку з гаручым рэчывам, якая цьмяна асвятліла пакой, і, падгарнуўшы пад галаву сена, разаслаў шынель.

Праворны, які ўвайшоў неўзабаве, быў таксама змораны і, ступіўшы ў пакой, не здымаючы ботаў, адразу зваліўся на сена.

— Пабудзі, Шарыфутдзінаў, праз гадзіну,— сказаў ён ефрэйтару, прызначанаму ў варту.— Ды глядзі, каб на пасту не драмалі! Эх, ногі гудуць!..— ён соладка пазяхнуў і прыкрыўся палой шыняля.

У гэтую хвіліну ў пакой ускочыў салдат.

Ён падышоў да Шарыфутдзінава і трывожна выдыхнуў:

— Немцы!..

— Дзе?! — ціха, але ўстрывожана запытаўся ефрэйтар.

— Тут — у суседнім пакоі...

— За сцяной?

— З двара ўваход...

— Што яны... робяць?

— Спяць.

— Дык чаго ж ты крычыш? — незадаволена прамовіў ефрэйтар.— Эх ты!.. Чалавек — галава, два вухі!

Ён спакойна зняў з пляча аўтамат і, рашуча бліснуўшы вузкімі вачыма, падаўся да дзвярэй; салдат кінуўся за ім. Але на парозе ён прыпыніўся, падумаўшы, што трэба папярэдзіць камандзіра ўзвода.

Ён азірнуўся і ўбачыў, што малодшы лейтэнант ужо не спіць. Пачуўшы хуткія, неспакойныя крокі салдата, Праворны, адольваючы

санлівасць, мімаволі прыслухаўся: ці не да яго? Можа, распараджэнне якое? Ён улавіў словы: «Немцы!.. Тут...»

Праворны парывіста ступіў да салдата:

— Дай аўтамат! Скажы Шарыфутдзінаву, каб не спяшаўся!..

— Вы б не ішлі, таварыш малодшы лейтэнант... Мы самі!

Праворны не адказаў. У хвіліны, калі пагражала небяспека, ён станавіўся маўклівым і хуткім.

— Колькі іх? — запытаўся Юрый у аўтаматчыка.

— Не разгледзеў... Чалавек, думаю, сем...

Праворны і Юрый выйшлі на двор, дзе іх чакаў

Шарыфутдзінаў. Навокал, як і раней, панавала цішыня і цемра, але цяпер яны быццам таілі ў сабе штосьці пагрознае. Усе мімаволі насцеражыліся. Каля дзвярэй стаяў яшчэ адзін салдат. Праворны, запытаўшыся, ці не заўважылі тут поблізу нямецкіх вартавых, падышоў да дзвярэй і першым ступіў у цёмныя сенцы, левай рукой звыкла вымаючы з кішэні ліхтарык. Следам за ім увайшлі Юрый, Шарыфутдзінаў і салдат.

Праворны ірвануў сенечныя дзверы да сябе. Яркі прамень яго ліхтарыка пабег па падлозе, потым пераляцеў на бочку, абмацаў куты. У сенцах было пуста.

Яны ўвайшлі ў пакой. Ліхтарык зноў пабег па падлозе, выхапіў з цемры лаўку, стол, ложак. Немцы спалі на ложку і на падлозе, падаслаўшы сена, мусіць, з тых самых палацей, адкуль прынеслі і для нашых. Іх было шасцёра.

— Спакойна заваёўнікі размясціліся! Як дома! А ну, Шарыфутдзінаў, падбяры цацкі іх ды пабудзі...

Ефрэйтар стаў будзіць. Ён наском бота штурхнуў аднаго, другога з тых, што былі на падлозе. Немцы прачыналіся неахвотна, і Праворны злаваўся:

— Гэй вы, — устаць! — скамандаваў рэзкім голасам ён.

Усе, хто яшчэ спалі, заварушыліся, паслухмяна ўсталі, выцягнуліся, сонна лыпаючы вачыма. Салдат у вязаным світэры кінуўся было да месца, дзе стаяла зброя, але Юрый так даў яму ложам аўтамата, што той адразу застыў...

На іншых не было відаць ні перапалоху, ні здзіўлення ад таго, што яны бачаць савецкіх салдат.

— Мы чулі ноч нейкі танкі...— загаварыў адзін з іх, з намаганнем падбіраючы рускія словы.

Аказалася, некаторыя з іх чулі, як увайшлі ў сяло і прайшлі першыя танкі, але не ведалі, чые гэта. Гітлераўцы супакойвалі сябе, што гэта нямецкія. Нікому з іх не хацелася тады ўставаць, бо яны

вельмі змарыліся за дзень, ідучы пеша. Рашылі перачакаць да раніцы, махнулі рукой на ўсё і леглі спаць.

Праворны загадаў аўтаматчыку пакуль павартаваць іх, а Юрыю — выклікаць канваіраў.

Малодшы лейтэнант вярнуўся ў свой пакой, лёг на разасланы шынель і праз хвіліну ўжо спаў.

4

Побач са штабнымі машынамі было відаць некалькі непрыкметных гарбкоў зямлянак, амаль схаваных густым купчастым зелянівам агародаў. Сярод іх самотна тырчалі сухія, не па-летняму голыя ігрушы і яблыні, якія, здавалася, раслі сярод поля. На карце, што ляжала на стале ў крытай штабной машыне камандзіра дывізіі, гэта вёска называлася Паплавы.

Ехаць далей нельга было: за суседняй вёскай, кіламетраў праз чатыры, два палкі наткнуліся на адступаючую гітлераўскую часць і цяпер вялі бой. Трэці полк з боем перапраўляўся цераз балота...

— Прыдзецца пастаяць... Высветліце, як там справы ў Скорабагатага,— сказаў камдыў падпалкоўніку,— а я выйду... Змарыўся...

Машына генерал-маёра стала каля зямлянкі. Грузна і мякка спусціўшыся са ступенькі машыны, Шчарбацюк убачыў на двары двое дзяцей. Дзяўчынка год адзінаццаці, трымаючы за руку малое хлапчанё, пазірала на машыну. Шчарбацюку, які даўно не бачыўся са сваімі дзецьмі, што жылі цяпер у Казані, захацелася падысці да малых. Ён ступіў на двор.

— Як цябе зваць, дзяўчынка?

— Воля.— Гэта была Волька, дачка Шабуніхі.

— А дзе твая мама?

— На агародзе...

— А ты хто? — вырвалася ціха ў Волькі.— Чырвонаармеец?

— Чырвонаармеец,— усміхнуўся генерал-маёр.

— А тут ужо былі чырвонаармейцы. Толькі яны адразу паехалі...

Волька азірнулася ў той бок, дзе быў агарод, і, убачыўшы, што маці ўжо ідзе сюды, шчаслівая кінулася насустрач ёй.

— Ма-а-мка!

Шабуніха, у выцвілай хустцы, абшарпаным андараку апусціла падгарнуты край фартуха, заспяшалася. Даўно-даўно не ступала яна так лёгка, радасна, усхвалявана, як у гэты дзень,— нібы памаладзела адразу.

— Браток ты мой! — голас Аўдоцці, басавіты, глыбокі, уздрыгнуў і абарваўся. Яна пяшчотна абняла Шчарбацюка.

— Усё-ткі і я шчаслівая!— з нейкай урачыстасцю ў голасе вымавіла яна.— Прыйдзе і да мяне шчасце! Не абмінула!..

І неспадзеўкі на яе нахлынуў такі нядаўні, неперажыты яшчэ трывожны настрой. Колькі перайшло ўсяго за гэтыя суткі! Ці праўда, што яно было ўсё, што мінулася. Яшчэ ўночы і ўранку тут былі немцы, і яна хавалася ў хмызняку за агародамі, тулячы да сябе перапалоханых малых. Уранку яна чула непадалёк вялікую страляніну...

А праз паўгадзіны Аксіння, суседка яе, сказала, што ў сяле ўжо нашы, і яна, ускінуўшы на плечы лёгенькі клунак з рэчамі, з акрайцам хлеба, узяўшы на рукі малога Валодзьку, з Волькай пайшла ў Паплавы...

Шабуніха схамянулася, выцерла рукі аб фартух.

— Божа мой, чаго ж я стаю! Завітаў такі чалавек, а я... Мо ў каморку зайшлі б! Ці тут пасядзіце? — абвяла вачыма двор, які зелянеў дробным падарожнікам, крапівою і травой, развяла рукі.— Няма дзе... Была хата, дык спалілі... Цяпер вось дзе гнемся, як краты ў нары. Ліхадзеі ўсё папалілі, усё, што было, каб яны свету не бачылі... Заходзь, браток, хіба ў каморку.

Шчарбацюк зняў фуражку і, сагнуўшыся, асцярожна, па земляных сходках спусціўся ў цёмны паграбоў у якім ён пасля яркага святла спачатку нічога не бачыў. Дзеці падаліся следам за ім.

— Пасядзі, браток, тут... на лаўцы... Ай, які дзень! Які дзень!.. — загаманіла яна, штосьці шукаючы каля печкі.

Генерал-маёр сеў і тады змог выпрастацца. Шабуніха неспадзявана паставіла на стол пляшку, сказала Вольцы, што сядзела на сходках, каб нарвала радыскі. Волька ахвотна ўскочыла.

— Не трэба, сястра, я зараз павінен ісці...

— Управішся,— сказала Аўдоцця ўпэўнена.— Без пачастунку — нягожа...

Волька выбегла. У каморцы трохі пашарэла ад святла, што прабівалася ў пройму дзвярэй, якую раней затуляла Вольчына постаць. Генерал-маёр мог цяпер разглядзець каморку. Печ так-сяк зляпіў нейкі дамашні майстар. Каля стала былі палаці з розным рыззём, якія, відаць, замянялі і ўслоны.

— Паглядзі, паглядзі, браток, на нашу дамоўку. І то яшчэ дзякуй, што паграбок быў,— нябожчык-чалавек выкапаў...

Волька прынесла жменю радыскі. Шабуніха выцерла старанна ручніком карэц з кансервавай банкі, наліла з бутэлькі. Дзеці, стоячы каля палацей, нязводна сачылі за госцем.

— Чым багаты, тым рады: лепшага ў мяне няма. Не пагневайся.

У Шчарбацюка на хвіліну зацяло дых — самагонка была вельмі моцная. Волька, убачыўшы, як госць заплюшчыў вочы ад гарэлкі, засмяялася.

— Пякучая? Мамка з самай зімы беражэ яе. Аж з Азяранаў прынесла.

— Ат, якая гэта гарэлка — слёзы! І то, можа, нішто б, каб закуска. Не было ў нас яшчэ такой нішчымніцы... Бывала, гасцей наедзе са ўсяго свету — у нас радня багатая. Каб хто калі пакрыўдзіўся! Змітро мой вельмі быў гасцінны — каб усім хапіла і піць і есці. Каб не то што сказаць, але і падумаць ніхто кепскага не мог...

Твар яе спахмурнеў, як ад болю, а вочы часта-часта заміргалі.

— Плакаць чагосьці захацелася... — прамовіла яна,— не з гарэлкі, а з радасці. І ад думак... Што мы тут перажылі, перацярпелі за гэтыя гады! Ніколі зроду не было ліхалецця, як гэта... Пабачыла я такое, што не думала, не гадала, і нікому не жадаю бачыць — ні брату, ні свату.

— Так, сястрыца, гора паспыталі вы многа...

Памаўчаўшы хвіліну, Аўдоцця не ўтрывала, загаварыла зноў.

— Бяда, кажуць, адна не ходзіць. У блакадзе чалавек мой — Змітро — загінуў. Партызанскі камандзір быў... Гаравала я страшэнна, як даведалася.

А тут яшчэ, як вярнулася я на селішча — з лесу, з партызан,— дык і следу не знайшла ад хаты сваёй, адзін попел ад усяго. Заламала я рукі, паваліласяя, як непрытомная, на зямлю... Ой, нацярпеліся! А пазалетась і самі ледзь не загінулі ад фашыстаў праклятых. Я тады ўжо думала, што смерць будзе майму Андрэю. Сама з малымі была акурат на полі, то нам нішто, удалося ўцячы... А Андрэю толькі шчасце дало выбрацца, не інакш.

— Андрэй наш тады ў хаце быў,— загаварыла Волька.— І дзед Хведар таксама. Як фашыст стрэліў у дзеда, дык Андрэйка адразу скочыў за грубку. Тады ён, гэты фашыст, кінуў услед гранату,— толькі наш Андрэйка паспеў схавацца. Граната як бухне, дык на Андрэйку як пасыплецца каменне... ён адразу ўпаў, перапужаўся — страх... дым па хаце круціцца, дыхнуць няможна... Выбег наш Андрэйка, скочыў з акна ды ў агарод. А тут гітлеравец за ім — тр-тр з аўтамата ўслед. Убачыў, зараза! Тады Андрэйка ўпаў, нібы нежывы, а сам паўзком-паўзком хутчэй. Праз гарбузнік хутчэй у поле. Уцёк ад яго! Проста з-пад носа ўцёк! Ён смелы ў нас, Андрэйка! Такі смелы!..

— Адлей нась смелі,— адгукнуўся Валодзька.

— Вялікае сяло было. Тут над нашымі Паплавамі і сёл не было большых... А з усіх Паплавоў толькі чалавек пяцьдзесят, можа, засталося...

Шчарбацюк быў чалавекам уражлівым. Ён добра ўявіў ясны летні дзень і дым, што чорнай хмарай уецца над хатамі, постаці гітлераўцаў, якія ганяюцца за перапалоханымі жанкамі, за старымі і дзецьмі.

Аўдоцця наліла шклянку. Генерал-маёр убачыў у цьмяным святле яе худую, але моцную, з напятымі жыламі руку, што дрыжала. Такая рука, звыклая да працы, была калісьці ў яго маці,— і такія ж чорныя драпіны на пальцах...

Шабуніха папрасіла выпіць яшчэ, але Шчарбацюк не дакрануўся да шклянкі. Нізкая столь зямлянкі пачынала гнясці, гарэлка пякла ў сярэдзіне. Угадаўшы, што яна можа пакрыўдзіцца за тое, што ён адмаўляецца, Шчарбацюк мякка сказаў:

— Не магу.

Яна зірнула на яго недаверліва.

— Словы вашы, дарагая, паляць у мяне ў сярэдзіне горш за агонь...

— А ты не думай, браток, лішняе! — перабіла яна ўладна.— Тое, што было, прайшло,— не трэба зводзіць сябе марна. Я вось таксама было па Змітру свайму гаравала страх, а што з таго?.. Хоць яно, праўда, сэрца не слухаецца, не выходзіць у мяне з душы Змітро... Але не трэба бедаваць, не трэба...

5

Аўдоцця хацела яшчэ штосьці сказаць, аднак замест слоў пачуўся глухі, прыдушаны ўсхліп. Шчарбацюк падумаў, што яна зараз пачне ўспамінаць свайго мужа і будзе плакаць. Гэта яму было не ў навіну. Але ён памыліўся: Аўдоцця ні слова не прамовіла больш пра сваё гора.

— Аж не верыцца, што сагналі ліхадзея. Не дай бог, яшчэ вернецца зноў. Загубіць тады ўсіх... Скажы, родны, ты чалавек вучоны і, відаць, з камандзіраў — будзе яшчэ яна тут, вайна?

Генерала апошнія словы жанчыны не здзівілі, ён не раз чуў такое пытанне ад байцоў.

— Не будзе.

Яна паківала галавою.

— На маім вяну тут ужо трэці раз...

— Не будзе! — сказаў ён цвёрда, з упартай ноткай у голасе.

— Каб жа не было... Каб сынкі былі дужыя. У мяне цяпер толькі і думак, што пра іх. Кожную ноч яны сняцца. У мяне ж два ваююць — Андрэй у партызанах, а другі — Лявон — той на фронце. Сённачы бачыла яго, Лявона — нібы ішоў ён па зялёным полі ў белай доўгай сарочцы... Гэта на добрае, кажуць, радасць нейкая будзе: можа вестачка ад яго. Каб хоць даведацца, што жывы ён!.. А можа, сам зазірне, дай бог, дадому.

— От было б добра! — вырвалася ў Волькі,

— Былё б добля.

Генерал падзякаваў за пачастунак.

Яркае святло летняга сонечнага дня ўдарыла ў вочы, асляпіла яго, і Шчарбацюк заплюшчыўся на хвіліну. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў перад сабою некалькі дручкоў, па якіх, абвіваючыся, паўзлі ўгару ніткі фасолі, дзесятак зялёных кіяхоў, далей — сінаваты лясок і над ім спакойнае, з высокімі клубістымі воблакамі неба.

Шабуніха праводзіла яго да вуліцы, трымаючы на руках Валодзьку.

Па вуліцы, поўнячы яе, ішла кавалерыя і працітанкавая часць, прыданая дывізіі Шчарбацюка. Шабуніха пільна ўзіралася ў твары тых, што праходзілі.

— От, каб Лявон быў жывы. Каб прышоў дадому. Мо прыдзецца дзе спаткаць — Шабуня па прозвішчу,— то перадай яму паклон. І накажы яму, калі, значыцца, убачыш часам, каб напісаў, ці дужы, ці як, бо я тут марнею па ім. Так і накажы.

— Так і наказі! — паўтарыў Валодзька.

— Перадам.

Увайшоўшы ў машыну, генерал-маёр нейкі час сядзеў задумлівы і ўзрушаны. Ён думаў пра дзяцей, з якімі ўжо больш за год не бачыўся. Люся ў гэтым годзе скончыла дзесяты клас. Як яна здала экзамены? Ну, за сыноў, асабліва за Валодзю, можна быць спакойным — выдатнік усе гады... Успомнілася Саша, Аляксандра Сяргееўна,— жонка. Недзе чакае яго, хвалюецца за яго, а ён так рэдка радуе яе лістамі.

Трэба будзе сёння ж напісаць ёй яшчэ ліст. Ён ужо даўно не пісаў ім,— сухар, бюракрат!..

Шчарбацюку ўспомніліся словы Шабунiхі: «Ці будзе тут вайна яшчэ?» І ў яго строга падціснуўся рот, як заўсёды, калі ён чаго-небудзь вельмі хацеў дамагчыся. «Мы зробім так, каб тут больш ніколі не было такога».

Потым думкі яго непрыкметна змянілі кірунак.

— Што з палкоў? — запытаўся ён у падпалкоўніка, які моўчкі паглядваў на яго,

## Раздзел IV

### I

Ужо каля двух гадзін кіпеў бой у пасёлку, а гітлераўцы ўсё не здаваліся. Ермакоў быў пахмурны і ўзлаваны. Слухаючы частую перастрэлку, якая не толькі не сціхала, а яшчэ мацнела, ён нецярпліва кінуў Габдуліну:

— Ну, ліха, колькі нам з гэтым сялом валаводзіцца!.. На што яны, гэтыя недабіткі, спадзяюцца?! Думаюць адсядзецца ці баяцца здацца?

— Здадуцца, нідзе не дзенуцца,— спакойна адказаў Габдулін.

— Яшчэ што, не здадуцца! — Ермакоў прамовіў так, нібы інакш і быць не можа: — Гэта ім не красавік — не блакада!..

Ермакоў з Габдуліным стаялі ў гарбузніку, каля нейкай драўлянай пабудовы. Недалёка палаў дом, падпалены фашысцкімі мінамётчыкамі, і сюды, ледзь Ермакоў высоўваўся з ценю, патыхала гарачынёй.

— Перадай камандзіру атрада, хай зноў атакуе,— сказаў камбрыг сувязному.

Сувязным быў Андрэй Шабунёк, які здаваўся сабе адным з віднейшых воінаў у гэтым баі,— вядома, пасля камбрыга, Тураўца і Басі Крайко. Андрэй быў бязмерна горды сваёй роляю і шчаслівы.

Ён адразу кінуўся выконваць загад камбрыга.

То там, то тут, наперадзе і з бакоў успыхвалі чэргі аўтаматаў, выбухалі гранаты... Ермакоў, які быў амаль у самым пекле бою, бачыў, як поблізу паўзком пачалі прабірацца цераз грады і гарбузнік, паўз будынкі яго людзі. Яны зніклі па той бок пабудоў, адкуль цяпер ужо даносіліся выбухі гранат і стрэлы.

Прыбег сувязны з «Радзімы» і далажыў, што нямецкі кулямёт падавіць не ўдаецца і што роты залеглі. Камандзір атрада просіць дапамогі — мінамётчыкаў...

— Скажы, мінамётаў не дам. І наогул — хай пакуль не атакуе. Не трэба... Хай толькі так, для выгляду, шуміць, каб гітлераўцы пабойваліся...

Прытуліўшыся да сцяны, Ермакоў напісаў на лістку некалькі слоў. Сувязны свяціў яму.

Ледзь сувязны знік за плотам, Габдулін перадаў узрадавана:

— Школу ўзялі, Ярмак!

Гэтая школа непакоіла камбрыга. Адтуль быў добры абгляд навокал для назіральнага нямецкага пункта. Перад домам быў кулямёт: ён цяпер маўчаў...

Ермакоў перайшоў з Габдуліным і трыма сувязнымі наперад. Яшчэ некалькі дамоў узялі — дом за домам. Марудна...

Але нічога, Ермакоў выкіне, абавязкова выкіне гэтых нягоднікаў адсюль. Праўда, іх сюды нашылася ў апошнія дні многа, але ён выб'е іх! Пасёлак невялікі, напалову разбураны, аднак стаіць на шляху. Калі брыгада зойме яго, яна адбярэ ў гітлераўцаў важную дарогу.

Ермакоў загадаў перанесці мінамёты да школы, павярнуць у бок парку, каб падавіць там кулямёт і аўтаматчыкаў.

Ён сам сачыў, куды трапляюць міны. Сэрца артылерыста не вытрымала, калі ён пабачыў, як мінамётчыкі прамахнуліся.

Зноў злева ірвуцца. Куды яны садзяць?.. Правей, правей трэба!..

Ён стаў камандаваць сам. Перабраўся праз некалькі двароў наперад, бліжэй да парку.

— Правей нуль-нуль дваццаць, агонь! Батарэяю агонь! Яшчэ па міне, сябры! Хутчэй, хутчэй!..

Міны выбухалі зусім непадалёк...

Кулямёт хутка сціх, але праз некалькі хвілін ён абазваўся з другога месца. Каля мінамётчыкаў пачалі ірвацца варожыя міны. Ермакоў загадаў змяніць пазіцыю, а потым даў новы прыцэл і вугламер.

Камбрыг увесь захапіўся стральбою,— ён страляў да таго часу, пакуль кулямёт не сціх.

Калі Ермакоў вярнуўся да Габдуліна, прыбег задаволены сувязны і перадаў — нашы ў парку!..

Стрэлы сціхлі. Над хатамі і садамі, над вогнішчамі паволі раставалі дым і ранішняя шэрань.

Партызаны вышуквалі ў сховішчах і выводзілі на вуліцу прыцішэлых салдат з узнятымі рукамі. «Гітлер капут! Гітлер капут!» — аднастайна шапталі збялелымі губамі палонныя.

На перавязачным пункце, які асталяваўся ў хаце з разбітымі шыбамі, па-ранейшаму быў заклапочаны настрой.

Марыя Андрэеўна, абвязаўшы марляй чорныя валасы і малы, лагодны рот, аперыравала маладзенькага русявага хлопца. У яго была куляй разбіта косць крыху ніжэй каленнага сустава.

Марыя Андрэеўна, нахіліўшыся, выймала пінцэтам з акрываўленага парванага мяса белыя абломкі касці. На твары хлопца, побач з крапінкамі вяснянак, уздрыгвалі мутныя кроплі поту. Ён час-ад-часу стагнаў.

— Пацярпі яшчэ крыху, любы, харошы мой... Ужо небагата засталося... Хутка ўжо, зусім мала...— шаптала яна пяшчотна і зноў схілялася з пінцэтам у тонкіх пальцах.

На твары яе, у прытоеных цёмных вачах, між бровамі, былі то непадступная ўвага, то спачувальная, мацярынская ласкавасць.

— Ну, вось, бачыш, не так страшна, як здавалася!..

У такія хвіліны асабліва выяўлялася тое, што гэтак падабалася ў ёй Тураўцу,— цудоўная жаночая мяккасць, чуласць, якія віднеліся, здаецца, у кожным яе руху.

Марыі Андрэеўне дапамагала Валя Залеская. Яна рабіла ўсё, што трэба было ёй, з нейкім ганарлівым выглядам, але на дзіва спрытна, загадзя здагадваючыся пра жаданні і загады доктара.

Да раненых Валя адносілася інакш, чым Марыя Андрэеўна: яна была, можна сказаць, сваявольнай і нават дэспатычнай. Валя магла загадаць раненаму, каб ён зараз жа сціх, а не стагнаў, як баба, магла строга, грубавата адрэзаць, калі хто прасіў аб недазволеным — і яе слухаліся. І не толькі слухаліся, а любілі і паважалі, невядома за што,— мусіць за тое, што яна дзяўчына, прыгожая, спрытная, такая маладая.

Яна добра адчувала гэтую сваю ўладу і сілу і камандавала, як хацела.

Ледзь Марыя Андрэеўна скончыла бінтаваць нагу, дзяўчына, не чакаючы просьбы, паднесла ёй шыну.

Марыя Андрэеўна стала прыладжваць шыну да забінтаванай нагі,— Валя звыкла дапамагала ёй, усё з тым жа ганарлівым выглядам.

— Ну-ну, застагні!— строга зірнула яна на хлопца, які паморшчыўся ад болю.

Марыя Андрэеўна, прыматваючы шыну, шапнула суцешліва:

— Пацярпі, харошы мой... Ужо канчаем!..

Скончыўшы, нарэшце, перавязку, яна стомлена выпрасталася, адышла ад стала, з якога толькі што знялі хлопца, пачала скідаць абпрысканы крывёй фартух.

Прыслухалася да шуму, што плыў у пустыя вокны.

На невялікай брукаванай плошчы, пасярэдзіне якой, задраўшы ствол, стаяла зенітка, вакол якой чарнелі сцены і печы спаленых дамоў, віравалі шумлівыя, гаваркія групкі — жыхары і партызаны двух брыгад, якія разам бралі пасёлак. Узносіліся над плошчай вясёлыя прыпеўкі. Хтосьці гарэзна, скорагаворкаю вывеў:

У пасёлку ля варот Сабіраецца народ.

Пруць фашысты ў наступленне, Толькі... задам напярод!..

— Вось цяпер і на вочы нашым не сорамна паказацца! — задорна крыкнуў адзін з хлопцаў камбрыгу, які ішоў непадалёк.

Ермакоў задаволена адказаў:

— Ёсць з чым сустракаць. Не з пустымі рукамі!..

2

Радасць перамогі была ў камбрыга агорнута непакоем. Пасёлак узялі, але хіба гэта ўсё? Утрымаць яго ў сваіх руках будзе цяжэй, чым давялося ўзяць. Ці ж гітлераўцы прымірацца адразу з тым, што дарога перарэзана? Будзе бой, ды і не абы-які. Ермакоў ведаў гэта і таму адразу пачаў рыхтавацца да новага бою.

Большасць сваіх рот і амаль усе мінамёты і трафейныя гарматкі ён паставіў на ўскраіну, з боку якой да пасёлка падыходзіла шырокая істужка шляху. Тут, меркаваў ён, давядзецца цяжэй за ўсё, бо гітлераўцы колькі змогі будуць ірвацца вярнуць дарогу... Другая брыгада мелася абараняць пасёлак з паўночнага боку і з працілеглай ускраіны, дзе шлях выходзіў у поле.

Камандны пункт Ермакоў зрабіў у каменным пакойчыку нейкага напаўразбуранага магазіна. Камбрыг і Туравец, прысеўшы на пустыя скрынкі, падсілкоўваліся.

Перад імі на скрынцы, акурат такой жа, як і тыя, на якіх сядзелі, была банка трафейных кансерваў. Адсюль у пралом акна віднеўся шлях, што бег дугою да ляска, цьмяна шарэючы між зеленаватых лапік бульбы і жоўта-шызых палосак жыта.

У далечыні была яшчэ чуваць мінамётная страляніна. Гэта вёў бой з гітлераўцамі заслон, якім камандаваў Дрозд і ў якім быў са сваім узводам Васіль Крайко. Ад самай поўначы, калі пачаўся наступ на пасёлак, яны біліся пры шляху з гітлераўцамі, што стараліся прарвацца.

— Горача Дразду! — прамовіў Ермакоў, дастаючы лыжкай мяса з кансервавай банкі.

За час ад блакады Ермакоў папаўнеў, і на твары яго з'явіўся неўласцівы яму раней выраз нейкай мяккасці.

Туравец хмурыў бровы над цыганскімі вачыма так, нібы хацеў штосьці зразумець, але не мог.

— Цісняць іх гітлераўцы моцна... І, ведаеш, мне здаецца, фашысты абыходзяць нашых. Акружыць, відаць, хочуць...

— Не акружаць! — але ў голасе Ермакова, хоць камбрыг і глушыў гэта, чулася трывога.

— Не акружаць? Ты ўпэўнены?

Туравец, перапытаўшыся, як звычайна, угледзеўся ў Ермакова, нібы ацэньваючы яго словы.

— Можа, і не акружаць, а можа?.. Крута ім будзе, калі акружаць! Там у гітлераўцаў можа падабрацца вельмі многа рознага зброду. Мяшок зробяць Драздy... Трэба вывесці «старшыню», пакуль не позна... Што ж гэта...

У пакой убег Ляхора, які адразу адрапартаваў, што яго прыслаў Дрозд.

— Вось добра! Якраз успамянулі вашага камандзіра. Ну, што там у вас?

Ляхора адказаў, што гітлераўцы стараюцца акружыць роту, што стрымліваць больш іх адной роце немагчыма.

— Я згодны з табой, камісар...— Ермакоў зашпіліў гузікі на тугім каўняры, зноў павярнуўся да Ляхоры, рашучы, хуткі: — Ляці туды і перадай: няхай адыходзяць, зараз жа адыходзяць! А фрыцаў — прапусціць. Я іх сустрэну!.. Зразумеў? Паўтары! Правільна...

Ляхора выбег з пакоя. Ермакоў у акно бачыў, як ён ляціць на кані па мосце, потым па зялёным выгане за рэчкай назад да лесу.

Ермакоў акінуў позіркам свае пазіцыі, дапаўняючы ўяваю тое, чаго не бачыў.

Партызаны былі абапал шляху ў акопах пры ўскраіне. За крайнімі пабудовамі тут вілася вузкая рачулка, каля якой у прыбярэжных кустах і на дварах маўчалі тры замаскіраваныя гарматкі. Яны стаялі на прамой наводцы. Непадалёк, на двары, уздымалі свае трубы нявідныя адсюль мінамёты. Гэта ўсё добрыя памочнікі камбрыга, ён іх заўсёды шануе...

Ермакоў крыкнуў сувязных.

— Перадайце камандзірам, зараз будуць «госці»... Няхай падрыхтуюцца прымаць. Сустракаць, скажыце, па ўсіх законах, не шкадуючы дабра! Няхай чакаюць хуткага сігналу. Сігнал яны ведаюць — стрэл з гарматы. Вось усё! Ідзіце!..

Ермакоў упіўся вачыма ўдалеч. Нарэшце, камбрыг убачыў, як з-за дрэваў паявіліся на дарозе некалькі машын. Яны пачалі ледзь прыкметна набліжацца... Хутка можна было ўжо добра разабраць, якія з іх грузавікі, якія бронетранспарцёры...

Ермакоў узяў трубку адзінага тут тэлефона, які звязваў яго з мінамётчыкамі і гарматамі. Калі пярэднія машыны наблізіліся метраў на дзвесце да рэчкі, ён скамандаваў коратка:

— Давайце! Агонь!..

Непадалёк адразу разложнага грымнула гармата. Яе падтрымала другая, трэцяя...

Пачалося!

3

— Усе вярнуліся? — запытаўся Туравец у Дразда.

Камісар і камандзір роты былі на двары, абсаджаным старымі клёнамі, непадалёк ад брыгаднага КП. Каля хаты і пад клемамі тут сядзелі і ляжалі дзесятка паўтара партызан, якія займаліся рознымі справамі. Гаварылі, курылі, прыслухоўваліся да страляніны, аглядалі зброю. Адзін з іх, пажылы чалавек з малінавым загарэлым каркам, драмаў. Групка толькі што пераправілася ў зацішным месцы ўброд цераз рэчку і далучылася да сваіх. Камбрыг трымаў яе да пары ў рэзерве.

— Забітых няма...— Дрозд паправіўся:— Пакуль не было. Не магу дакладна сказаць, не ўсе яшчэ вярнуліся.

Дрозд незадаволена пакасіўся на Ляхору, які стаяў непадалёк, прыслухоўваючыся да іх гаворкі.

— Хто не вярнуўся?

— Крайко і тры байцы,— адказаў за Дразда пануры Ляхора. Умяшаўшыся ў размову, ён схамянуўся і казырнуў вінавата: — Прабачце...

— Чаму? Што з імі?

— Засталіся... прыкрываць...

Дрозд расказаў, што, каб вырвацца ім з ледзь не поўнага акружэння, трэба было пакінуць заслон, які б адцягваў увагу гітлераўцаў на сябе. Кіраваць гэтым заслонам папрасіўся Крайко. З ім засталіся яшчэ тры хлопцы.

Дрозд дамовіўся з імі, колькі ім трэба трымацца, дзе адыходзіць і перапраўляцца цераз рэчку. Яму шкада было даручаць гэтую небяспечную ролю хлопцу, аднак ён супакойваў сябе тым, што Крайко можа справіцца з ёю лепш за іншых.

Адыходзячы, Дрозд чуў там, дзе застаўся Васіль, страляніну... Потым, ужо калі яны пераправіліся на гэты бераг, іх дагнаў адзін партызан з таго заслону. А Васіль і два другія не прышлі. Вось і ўсё, што можа сказаць Дрозд. Дзе Васіль і дзе іншыя два, што з імі,— невядома.

— Шкада, калі прападуць хлопцы,— прамовіў Туравец. Яму чамусьці згадалася, як некалькі дзён таму Крайко перадаў спраўную рацыю. Хлопец прызнаўся, што біўся амаль месяц, пакуль не разабраўся ва ўсім, знайшоў патрэбныя дэталі...

— Як толькі будзе можна, пашлі на пошукі іх... Можа, паранены...

Ляхора нібы чакаў гэтага:

— Дазвольце мне з аддзяленнем, таварыш камісар!..— Яму нядаўна далі аддзяленне.

Ляхора трымаў руку ля казырка, чакаючы з такім выглядам, нібы гатоў быў зараз жа кінуцца туды. Туравец ведаў, што гэта не рысоўка: Ляхора паказаў сябе вельмі смелым хлопцам, да таго ж яны з Васілём былі добрымі прыяцелямі.

Туравец не адказаў. Ён заўважыў, што да двара падыходзіла Валя Залеская. «Ведае яна, што з Васем, ці не?» — мільганула ў галаве камісара.

Валя, прыціскаючы да грудзей маленькі кулачок, амаль бегла, белая хусцінка на яе галаве збілася на шыю, і вецер калмаціў валасы. Туравец здагадаўся, што яна вельмі ўстрывожана.

Валя падбегла да Дразда, узрушана паправіла хусцінку.

— Гэта праўда... што пра Васю кажуць?

— Што пра яго кажуць? — запытаўся спакойна Дрозд.

— Быццам ён застаўся ў лесе?

— Праўда.

Валя прыкусіла пунсовыя губы і з роспаччу зірнула на Тураўца. У яе запалых вочках віднеліся такі непакой і гора, што Тураўцу стала шкада яе.

— Як жа гэта, таварыш камісар, яго аднаго пакінулі?

Дрозд адказаў першы, стомлена прыплюшчыўшы вочы:

— Не аднаго, а з групай партызан... Трэба было, дык пакінулі, у цябе не спыталіся...

— Трэба было! Пакінулі! — Валя да болю сціснула кулачок.— Загубілі!

— Чаму загубілі? Гэта ж няпраўда, Валя! — коса зірнуўшы на Дразда, мякка сказаў камісар.— Нашто ты выдумляеш такое? Ну, няхай, яшчэ нічога невядома. Але мне здаецца, што ён жывы. Вось адчуваю, упэўнены — ён жывы! Такі хлопец, Валя, не можа прапасці!

— Кулі, яны не разбіраюць...

— Кулі не разбіраюць. Затое чалавек разбірае... Там і пакінулі такога чалавека, які ўмее перахітрыць кулі. Смелага і разважлівага...

— Які ж ён разважлівы! Ён часам такі неасцярожлівы, ну аж страх! Як загарыцца, дык нічога не асцерагаецца...

— Неразважлівы?! Ты не ведаеш яго, Валя... Ён у баі вельмі разумны і знаходлівы вельмі. Вось пабачыш, вернецца,— камісар гаварыў так упэўнена і сардэчна, што дзяўчына мімаволі паддавалася яго перакананню.— Вася не вернецца? Выдумаеш жа!

Валя паспакайнела. Але, калі яна ішла назад да медпункта, трывога зноў пачала агортваць дзяўчыну. Няўжо цяпер, калі ўсе блізка адчуваюць найвялікшае шчасце, да яе прыдзе такое гора? Няўжо ён, адчайны, раўнівы і самы любы, загіне?! У гэтыя апошнія дні!

Не, не павінен ён загінуць! Яна ж так любіць яго. Хіба можа сонца ўзыходзіць, калі яго не будзе. Хіба можа дзень быць светлым, калі з Васем станецца няшчасце: усё пацямнее навокал для яе. Не, яму трэба жыць! Яна ж гэтак любіць яго. Хіба яшчэ хто любіць так, як яна Васіля,— ніхто ў свеце. І, мусіць, нікому не баліць так сэрца па ім, як ёй...

На медпункце трывога не пакідала яе. Валя не магла нічога рабіць, бо за што б дзяўчына ні бралася, яна думала пра Васю. Ён увесь час быў з ёю, як ніхто, блізкі; увесь час не выходзіла з галавы: што з ім? дзе ён? як яму?

Яна ўспаміналa спатканні з ім, размовы.

Згадалася, як яны ішлі па ціхай лясной дарозе, плячо каля пляча, і Вася, пазіраючы на каляіны, апавядаў...

Цяжкія былі для яго першыя дні. Гітлераўцы на вачах Васі расстралялі бацькоў, а сястру і яго кінулі ў лагер...

Ён некалькі дзён хадзіў як непрытомны, раптам перастаў пазнаваць знаёмых людзей. Ад таго часу ён стаў заікацца...

Ніхто не бачыў, як і куды Васіль знік з лагера; цёмнай ноччу ён прабраўся пад агарожай і ўцёк у лес.

Хлопец стаў бадзяцца па лесе. Сувязі з таварышамі ў яго тады не было, а ісці ў горад ён асцерагаўся. Але яму хацелася ваяваць з гітлераўцамі, і ён рашыў дзейнічаць адзін. Яму пашанцавала высачыць падвыпілага паліцая, які прысеў адпачыць ля дарогі за сялом. Прытаіўшыся ў блізкіх кустах, Васіль аж гарэў ад нецярплівасці: ах, каб як-небудзь прыдбаць яго вінтоўку. Ён гатоў быў кінуцца проста на паліцая,— ледзь стрымаўся. Яму ў той дзень на дзіва пашанцавала. Паліцай, прыгрэўшыся на вераснёвым сонцы, задрамаў: Васіль падкраўся да яго, схапіў вінтоўку і што духу кінуўся ў хмызняк, у лес.

З гэтай вінтоўкі Васіль потым падбіў гітлераўца, які ехаў у легкавіку. Ён не раз выходзіў на «працу», цікаваў з хмызняку за дарогай...

Каб пракарміцца, у маўклівыя слотныя ночы капаў бульбу, пёк яе, забраўшыся ў асенні гушчар, збіраў грыбы...

Аднойчы ён натрапіў на незнаёмых хлопцаў. Ён нырнуў у хмызняк, намерыўся адстрэльвацца, але спрытныя хлопцы схапілі яго, абяззброілі ды яшчэ прыгразіліся пабіць...

Тады Васіля прывялі да Тураўца.

У якіх толькі баях ён ні быў пасля, колькі смяротных небяспек абмінуў, і вось у апошнія дні — такая бяда...

Валя не ўтрывала: яна пойдзе шукаць яго. Можа, яму якраз патрэбна дапамога — ці ён б'ецца ў лесе, ці ранены ляжыць... Яна распытае партызан, дзе ён застаўся,— і пойдзе!

— Марыя Андрэеўна, пусціце! — папрасілася Валя ва ўрача.— Можа, ён там ранены... Яго трэба хутчэй знайсці...

— Куды ты пойдзеш, Валюша? Ты сама загінеш — там фашысты...

— Не загіну... Марыя Андрэеўна! Адпусціце! Не бойцеся за мяне! Усё будзе добра.

— Не магу, Валюша...

4

Валя недарэмна трывожылася. Нібы чула яе сэрца, як цяжка даводзіцца любаму хлопцу.

Адразу пасля таго, як Дрозд са сваёй ротай адышоў, гітлераўцы адрэзалі невялічкі заслон, які яшчэ біўся з імі, і сталі акружаць яго. Партызаны паступова адступалі, перабягаючы ад дрэва да дрэва, збочваючы,— яны спрабавалі вырвацца з пятлі, якая ўсё сціскалася. Лес поўніў трэск аўтаматаў.

Лясное рэха падвойвала, разносіла гукі стрэлаў.

Слухаючы гэтыя гукі, можна было падумаць, што тут б'ецца не адзін узвод. Васіль ледзь не наткнуўся на гітлераўца, які забраўся ў тыл ім, але хлопец у час заўважыў аўтаматчыка і адскочыў за дрэва: чарга аўтамата прайшлася вельмі блізка. На траву пасыпалася кара. Праз міг аўтаматчык сам валяўся на палянцы, лемантуючы на ўвесь лес ад болю...

Пазней чаргой быў забіт адзін з заслону. Хлопец памёр адразу: яму ў лоб папалі дзве кулі.

Цяпер яны адбіваліся ўтраіх. Але ў альховым гушчарніку іх неяк раздзялілі, і Крайко застаўся адзін.

Перад Васевымі вачыма з-за алешніку неспадзеўкі выбліснула чыстая палоска. Вада. Ён здагадаўся: гэта — рэчка! Хлопец прагна агледзеўся: за рэчкай слаўся голы куп'істы выган, на якім віднелася толькі некалькі чэзлых кусточкаў.

Куды ж цяпер адыходзіць? Туды — да рэчкі, на выган?.. Не, туды не трэба бегчы. Нельга туды. Там пагібель... Калі гітлераўцы і не застрэляць, пакуль ён будзе прабірацца праз гэтую праклятую рачулку, то куля здагоніць яго на тым куп'і.

Эх, ліха, што ж рабіць? Ён зноў азірнуўся — улева кінуцца, можа? Але там, ён добра ведаў, гітлераўцы. Направа? Там ён чуў аўтаматныя стрэлы. Чаго ж ён стаіць марна? Хутчэй трэба рашаць!

Быццам падганяючы Васіля, зблізку з-за лазняку дайшлі да яго нямецкія воклічы.

Хлопец нацэліўся ў гэты бок з аўтамата і націснуў спускавы кручок. Воклічы сціхлі. Адтуль адказалі двума чэргамі. З вяршынкі куста пасыпалася на Васю, на вільготную траву лісце...

Патронаў ужо мала. Хлопец з тугою паглядзеў на свой трафейны аўтамат.

Вася неадступна шукаў выхад, але прыдумаць нічога не ўдавалася. Няўжо ж няма выхаду?.. Толькі адно: страляць, пакуль ёсць лічаныя патроны? А потым ляжаць тут на траве, не бачачы ні яе, ні блакітнага неба. Не спаткацца ніколі з сябрамі, з Валяю...

З гэтым Вася ніяк не мог пагадзіцца. Яму нават думаць не хацелася аб смерці. Небяспека выклікала ў ім такую прагу жыць, што ён гатовы быў на любы ўчынак...

І раптам ён знайшоў выхад. Гэта быў нечаканы і рызыкоўны план, але Вася ўхапіўся за яго. Што ж, яму не было чаго іншага выбіраць. Хлопец акінуў вачыма чужы шэра-блакітны мундзір, які насіў на сабе. Зняў пілотку з вішнёва-чырвонаю зоркаю, згарнуў і паклаў у кішэню.

Ён яшчэ паспрабуе вырвацца! Вось калі не ўдасца гэта, тады не застанецца ніякай надзеі — тады апошні патрон у аўтамаце — сабе...

Хлопец, прыгінаючыся, кінуўся ўсцяж берага. Адбегшы крокаў пяцьдзесят, ён спыніўся і выглянуў з лазняку.

Проста ў кірунку яго ішоў гітлеравец. Салдат быў блізка.

Далей, у баку ад яго, Вася заўважыў яшчэ дзве постаці.

Гітлеравец, убачыўшы Васю, насцярожана ўзняў аўтамат.

Вася адразу выпрастаўся. «Не трывожыцца, не трывожыцца... Спакайней, спакайней!..» — стукала ў грудзях сэрца.

І ён стараўся быць спакойным, непаспешлівым. Цяпер, калі яму было добра вядома, што рабіць, ён дзейнічаў з незвычайнай развагай. Ён добра адчуваў, чым зараз рызыкуе. Блакітныя вочы яго былі незвычайна халодныя.

Немец, які быў гатовы крыкнуць — «хальт!», убачыўшы перад сабой шэра-блакітны мундзір, завагаўся. Але яшчэ больш падзейнічала на салдата тое, што гэты загарэлы, без пілоткі, бялявы хлопец быў зусім спакойны. На яго твары няма нават адзнакі непакою ці спалоху. Так упэўнена можа ісці толькі свой.

Гітлеравец, аднак, штосьці запытаўся.

Васіль зразумеў толькі адно слова: «warum». Ён амаль не ведаў нямецкай мовы.

Не гаворачы нічога, хлопец па-ранейшаму набліжаўся да немца. Салдат адступіў крок назад, пагрозна крыкнуў:

— Wer ist du?!. Halt![2]

— Іх бін... — стукнуў сабе ў грудзі хлопец, але што далей сказаць, ён не ведаў.

Гітлеравец быў поруч: стомленыя, злыя вочы, аброслы, няголены падбародак, раскрыты, ашчэраны ад крыку рот.

Больш марудзіць нельга было. Крайко, які да гэтага здаваўся бесклапотна-спакойны, ураз перамяніўся. Ён ірвануўся да гітлераўца, з усёй сілы ўдарыў па аўтамату.

Адным стрэлам са свайго аўтамата Васіль прыкончыў фашыста.

Цяпер — бегчы.

Хлопец схапіў аўтамат забітага і колькі сілы, прыгнуўшыся, пятляючы, паімчаў далей, у рэдкі лясок.

Ён, як праз сон, чуў ззаду страляніну, крыкі. Васіль адчуваў, што гэта гоняцца за ім.

«Толькі б не паранілі ў нагу», — праплыло ў галаве. Ён на момант прыпыніўся і пусціў насустрач гітлераўцам чаргу.

Яму хутка прышлося збочыць. Наперадзе ў прагалінах завіднелася дарога, а па ёй паўзлі фурманкі. Гэта былі немцы. Хлопцу нічога не заставалася, як пабегчы ўсцяж дарогі.

Але і тут ён неўзабаве вымушан быў спыніцца. Наперадзе хлопец убачыў некалькі грузавых машын, якія стаялі між дубоў і ляснога дробнага хмызнячку.

Каля грузавікоў тупалі, перагаворваліся немцы.

Вася адразу стаў.

Адчуваючы, як тужліва сціскаецца сэрца, ён азірнуўся ўправа, улева. Справа лясок канчаўся, віднелася запусцелае, зарослае свірэпіцай поле, па якім наводдаль ішла дарога... Уцякаць няма куды.

Вася прытуліўся да шурпатай кары дуба. Нарыхтаваў аўтамат.

## Раздзел V

### I

Абапал дарогі ішлі палоскі жаўцеючых жытоў. Калі набягалі павевы ветру, па верхавінні жытоў хадзілі шызыя хвалі, нібы на рачулках.

---

[2] Хто ты?!. Стой!

За гусеніцамі віхурыўся бялесы надакучлівы пыл, уздымаўся хмараю над дарогай, асядаючы на браню наступных машын, забіваючы танкістам і аўтаматчыкам вочы і вушы.

Аляксей, выбіраючы чысцейшае месца на хусцінцы, зрэдку выціраў ёю павекі, якія ад тоўстага пласту пылу рабіліся цяжкімі. Хусцінка была шэраю ад пяску і пылу.

Да гарадка, у якім напярэдадні авіяразведка знайшла многа нямецкіх танкаў і артылерыі, заставалася не больш пятнаццаці кіламетраў. Калі б усё было добра, батальён праз паўгадзіны падышоў бы да ўскраіны. Але кожнаму цяпер было зразумела, што бой і, мусіць, нялёгкі, — немінучы.

Аляксею прыгадалася размова з Гогабярыдзе, які ўчора сказаў старшаму лейтэнанту:

— Цяпер, Аляксей, да Мінска рушым, як па асфальту з гары. Без прыпынкаў, і ўсё — хутчэй, хутчэй!.. Ведаеш, як ехаць уніз па асфальце, калі вецер свішча ў вушах? І шыны свішчуць. Цудоўна! — Вочы Сандро заблішчалі ад захаплення.

— Кажуць, тады трэба добра сачыць за дарогай і... трымаць тармазы.

— Канешне! — не зразумеў Сандро. — А-а, гэта каменьчык у разведку?! Не захапляцца?! Сачыць і быць напагатове? Будзь спакойны, дарагі Аляксей, буду сачыць усімі вачыма майго ўзвода!

— Во-во! Сачы!.. Бо каб не прыйшлося тут тармазы ўключаць...

Наперадзе, там, дзе ішла галаўная паходная застава, загучалі частыя выбухі. Старшы лейтэнант адразу прыслухаўся, з гукаў выбухаў ён пазнаў, што страляюць палявыя гарматы.

— «Навальніца»!— пачуў ён у шлемафон паспешлівы голас. — Я — Гогабярыдзе!.. З ляска б'юць гарматы. Пакуль выявіў чатыры гарматы. Спыняюся... «Навальніца», які будзе далейшы загад? Які будзе загад?

Камбат загадаў яму заняць зручны рубеж і разведаць праціўніка боем.

Іншыя роты па камандзе старшага лейтэнанта адразу пачалі перастройвацца ў баявы парадак і прадаўжалі, не спыняючыся, набліжацца да галаўной паходнай заставы.

Кіламетры праз паўтара камбат прыпыніў і іх...

Трэба было перад тым, як рынуцца ў бой, добра выведаць, якая наперадзе ў гітлераўцаў сіла. Старшы лейтэнант і цяпер, пасля гэтакіх поспехаў, хацеў быць стрыманым. Ён прадчуваў, што гітлераўцы тут, на подступах да Мінска, відаць, яшчэ раз паспрабуюць прыпыніць нашы войскі.

Ён выклікаў па рацыі Гогабярыдзе:

— «Маланка, маланка»... Далажы, што там у цябе?

Гогабярыдзе паведаміў, што на ўзлессі ён ужо выявіў каля дзесятка гармат, некалькі танкаў; у немцаў ёсць тут і пехацінцы, не менш роты; праціўнік заняў падрыхтаваныя загадзя акопы...

Старшы лейтэнант намерыўся паехаць да Гогабярыдзе, пабачыць усё сваімі вачыма, каб потым рашыць, як наступаць далей. Перад ад'ездам ён далажыў абстаноўку Бяссонаву.

— Чакай. Хутка буду сам у цябе! — прамовіў у адказ камбрыг, змяніўшы намер Аляксея зараз жа ехаць да разведчыкаў. — Дарэчы, старшы лейтэнант, навіна ёсць для цябе.

— Якая навіна, таварыш гвардыі палкоўнік?

— Добрая. Прыеду — перадам...

Што за навіна? Мусіць, што-небудзь пра яго батальён, — можа ўзнагародзілі каго-небудзь. Добра было б — якраз перад боем за Мінск!..

З таго, што камбрыг перад боем едзе не да іншых камбатаў, а сюды, старшы лейтэнант зрабіў вывад, што яго батальён, напэўна, будзе наносіць асноўны ўдар.

Поблізу недзе закукавала зязюля: «Ку-ку, ку-ку». Касцючэнка пачаў лічыць:

— Адзін, два... пяць...

Аляксей успомніў, як сам калісьці маленькім хлапчуком з затоенай увагай лічыў такія «ку-ку».

Калі на «трыццацьчацвёрцы» пад'ехаў камандзір брыгады, зязюля яшчэ лічыла Касцючэнку гады — бач ты, якая шчодрая! Невядома, колькі яна налічыла б яму, але як толькі камбрыг вышаў з танка, непадалёк у ляску гупнула некалькі моцных выбухаў.

— Што тут за шум без бойкі, гвардыя?

— Ёсць шум, мусіць, будзе і бойка, — адказаў Аляксей,

— Відаць, не мінуць гэтага. Але нам, камбат, здаецца, не прывыкаць... Так, адчуваю, — сёння тут можа быць горача. Спякотна! Авіяцыя зноў перадала, што тут у іх не малая група танкаў і многа артылерыі. Відаць, збіраюцца затрымаць нас перад Мінскам!..

Ён зірнуў на Аляксея быстрым позіркам і раптам запытаўся:

— Нябось, чакаеш навіну? Магарыч належыць з цябе. Загад атрымалі, таварыш гвардыі... капітан! Перадалі сёння са штаба корпуса. Віншую!..

— Дзякую, таварыш гвардыі палкоўнік!

— У цябе сёння, выходзіць, свята!.. Шкада, святкаваць няма калі! Ну што ж, у баі адзначым!.. — Ён кіўнуў галавой на машыну: — Паедзем, паглядзім бліжэй, што там робіцца...

Камбрыг і Аляксей на сваіх танках падаліся наперад.

Праехаўшы кіламетр-паўтара, камбат і камбрыг спынілі «трыццацьчацвёркі» ў невялікай лагчынцы, каля дарогі. Тут расло некалькі тоненькіх востраверхіх бярозак з бліскучым лісцем, зялёным дыванам слалася трава, над якой усюды ўздымаліся клетачкі мятлюку. Блізка, крыху ўбаку і наперадзе, вялі перастрэлку з немцамі танкі.

Бяссонаў з Аляксеем, ад'ютантам і аўтаматчыкам пеша ўзышлі на ўзгорак. Аўтаматчык зняў са зброі перасцярожнік — тут можна, чаго добрага, наткнуцца ў жыце на якога-небудзь фашыста; хлопец пільна азіраў поле поблізу, аберагаючы камбрыга, які ішоў спакойна і ўпэўнена.

Аляксей добра ведаў адвагу Бяссонава. Аднойчы, калі на полі ў самы разгар бою пехацінцы пачалі адставаць ад танкаў і ліпнуць да зямлі, Бяссонаў вылез са сваёй камандзірскай машыны і, размахваючы пісталетам, стаў уздымаць салдат:

— Устаць!.. Устаць!.. Наперад, за мной!

Пехацінцы, падбадзёраныя яго смеласцю, засаромленыя, па адным адрываліся ад зямлі. Палкоўнік сам бег між салдат. Кулі яго міналі, нібы заваражанага.

За ўсю вайну ён быў толькі раз паранены, яшчэ пад Масквой.

Смеласць Бяссонаў лічыў першай якасцю ў салдата: баязліўцамі ён пагарджаў больш за ўсё на свеце, смелых вельмі любіў і цаніў. Наогул, Бяссонаў цаніў людзей па тым, якія яны салдаты. Камбрыгу — як бацьку — у гэтым, можна сказаць, не пашанцавала: усе яго шасцёра дзяцей былі дочкі. Аляксей чуў, як Бяссонаў, расказваючы пра іх, паскардзіўся: «Не пашанцавала — ніводнага салдата! Заб'юць — і замяніць няма кім!..»

З узгорка быў відаць наводдаль лясок. Ён здаваўся чорным, з сіняватым адценнем і быў зацягнуты лёгкім мярэжывам сонечнага дня. На полі дзе-ні-дзе вытыркаліся маладыя дрэўцы.

— Зарастае поле. Дзічэе... — нечакана прамовіў Бяссонаў.

— Гаспадароў няма...

Палкоўнік, які стаяў у жыце, што даходзіла яму да пояса, хуткім позіркам акінуў мясцовасць, потым пачаў назіраць за ляском і палоскамі, якія падыходзілі да ўзлесся. Адсюль да лесу было менш за тры кіламетры.

Капітан, вывучаючы позіркам прасцяг, мімаволі звыкла адзначыў, дзе і як трэба будзе весці машыны, калі прыдзецца тут наступаць...

Угары пачуўся, хутка набліжаючыся і мацнеючы, свіст снарада.

— І-і-і-в-ва-а! в-ва-а!..— выбухнула поблізу два разы амаль адначасова.

Ад'ютант камбрыга азірнуўся: каля таго месца, дзе яны нядаўна праходзілі, кусціліся два сіняватыя дымы, якія паволі паўзлі ўбок і радзелі. Ад'ютант занепакоена падумаў, што немцы заўважылі людзей на ўзгорку, і хацеў сказаць Бяссонаву, каб той адышоў з такога віднага месца, але стрымаўся. Палкоўнік ўсё роўна не паслухаецца.

— Значыцца, твае разведваюць тут, злева, — прамовіў задумліва Бяссонаў, не пазіраючы на камбата. Палкоўнік загадаў ад'ютанту падаць карту, разгарнуў яе, пачаў вывучаць. — Перадай, лейтэнант, — кінуў ён ад'ютанту, — няхай мае разведчыкі абмацаюць шляхі ў абход лесу — справа...

Ад'ютант уподбег падаўся да «трыццацьчацвёркі» палкоўніка.

— Вось мы і пачынаем бой за Мінск, — ля вачэй камбрыга сабраліся маршчынкі. — Я думаю, капітан, што ў іх тут абарончы рубеж. У лоб на іх ісці бязглузда, трэба ўдарыць збоку ці з тылу. Сілы ў іх, здаецца, не так многа, каб добра ўмацаваць флангі... Калі гэта так, то я, можа быць, цябе і пашлю туды ў абход. Ну, што ж, пачакаем — што разведка скажа.

Ён сарваў яшчэ недаспелы каласок, пачаў мяць яго на шурпатай далоні, спрабуючы выцерушыць — зярняты былі вадзяністыя.

— У першае лета, у сорак першым, багаты хлеб быў! Золата, а не хлеб! На таках, памятаю, цэлыя залатыя горы, а вывозіць няма як... Табе не даводзілася бачыць, як гарыць хлеб?

— Бачыў, таварыш гвардыі палкоўнік... Страшна глядзець.

— Крыўдна...

Бяссонаў, нібы схамянуўшыся, што гаворыць не тое, раптам перамяніў гаворку.

— А Саркісяна з самаходкамі пастаўлю там... — ён павярнуў чырвоны, з шырокім носам і ўпартым падбародкам, абветраны твар да поля, што было на другі бок дарогі, дзе віднелася некалькі палосак зялёнага бульбяніку і жоўтым возерам красавала свірэпа.

Саркісян быў камандзірам дывізіёна самаходак, прыданага брыгадзе.

Палкоўнік стаў спускацца ў лагчынку да сваёй «трыццацьчацвёркі». Тут цяпер была яшчэ адна машына, напэўна, штабная, і дзесятак аўтаматчыкаў.

— А ну, давай Саркісяна!.. — папрасіў Бяссонаў радыста.

Аляксей, падышоўшы да свайго танка, запытаўся, што новае перадалі разведчыкі. Быстроў, які стаяў каля люка вадзіцеля, сказаў, што яны выявілі ў лагчыне ля лесу моцны танкавы заслон. Гогабярыдзе заўважыў у бінокль некалькі машын, якія стаяць замаскіраваныя і пакуль не адказваюць на агонь з нашых танкаў...

— Ну, што ў тваіх разведчыкаў? — запытаўся Бяссонаў.

Пачуўшы адказ, ён загадаў Аляксею прадаўжаць разведку:

— Перадай Гогабярыдзе, каб узяў яшчэ лявей ад дарогі. Абмацай там подступы да вёскі Карзюкі. Пабачым, як яны сябе там пачуваюць. А батальён збяры ў кулак,— будзь напагатове...

Хвілін праз пяць Аляксей убачыў прыземістыя, з квадратнымі вежамі і важкімі ствaламі самаходкі, што ішлі полем. Саркісян выходзіў на агнявы рубеж.

Неўзабаве камбат пачуў блізкую страляніну — самаходкі завязалі з нямецкімі батарэямі, што стаялі да ўзлессі, дуэль.

Бой мацнеў.

## 2

Дзень выдаўся ясны, сонечны. Аляксей неспадзявана пачуў, што над жытам недзе спявае жаваранак. Ён не паверыў, прыслухаўся: у прамежкі між выбухаў у вышыні рассыпаўся серабрысты званок...

Бач ты, які смелы!

У небе стаялі белыя ватныя воблакі. Сонца, якое пачало сыходзіць на захад, яшчэ моцна паліла. Каля Аляксея нядружна ўздымаліся белаватыя сцяблы жыта, між якіх вілася дзе-ні-дзе павітуха, лезла з зямлі living рознае дробнатраўе; пад нагамі адчувалася пульхная, падатная, высушаная сонцам глеба.

Гэтая мяккая зямля, паўзучая павітуха, белаватыя вусатыя сцяблы, песня ўпартага жаваранка былі яму бязмежна любыя і родныя. Ён весела запытаўся ў Касцючэнка колькі таму накукавала зязюля гадоў.

— Ды нешта каля сотні, — уставіў Быстроў.

— Ого, праправўнукі будуць на руках насіць,— Аляксей усміхнуўся.

На душы яго было светла. Нават калі ён думаў пра Мінск, то трывога, наперакор звычайнаму, не даходзіла да яго, — ён чамусьці быў упэўнены, што ўсё будзе добра.

Як ён цяпер блізка да Мінска. Здаецца, што абрысы роднага горада схаваны адразу там за ляском, які зазабліва сінее перад вачыма. Толькі мінеш яго, той лясок, убачыш такія знаёмыя вуліцы і

дамы. Пры Маскоўскім шасэ, пад Мінскам ёсць якраз такі сасновы лясок, як родны брат, падобны да гэтага.

Камбат увесь час сачыў за сваёй разведкай, трымаў сувязь з ротамі, што напагатове стаялі ззаду.

Вось-вось Бяссонаў можа даць загад — пайсці ў атаку. Пачнецца бойка. Яна, напэўна, будзе нялёгкай...

Гэта будзе першы бой, у які капітан павядзе не адну роту, а цэлы батальён. Аляксей кіраваў батальёнам на маршы, але весці бой батальёнам яму яшчэ не даводзілася.

А бой — гэта выпрабаванне. Экзамен. Цяжкі экзамен.

Ці справіцца ён, Аляксей? Ці хопіць у яго ўмельства і вопыту? Галоўнае — трымаць пад увагай усе роты, сачыць за імі, накіроўваць іх... Правільна выбраць месца для асноўнага ўдару...

Каб не памыліцца ў чым-небудзь, зберагчы людзей і не загубіць марна машын!..

Не, ён не можа не справіцца. Ён не мае такога права...

Было вельмі млосна і душна, — думкі варушыліся важка і марудна...

Ад спёкі ў горле перасохла. Аляксей азірнуўся на Сонцава, які з санлівым выглядам сядзеў поблізу на броўцы дарогі, абыякава аглядваючы, як трымаецца падэшва на боце.

— Дастань бачок з вадою.

Вадзіцель, залезшы да пояса ў люк, выцягнуў пляскаты, з падрапанай афарбоўкай бачок для вады і падаў капітану.

Аляксей паднёс бачок да рота, — вада была непрыемная, цёплая і, здавалася, пахла фарбай. Выпіўшы два глыткі, Аляксей стаў закручваць корак.

У гэтую хвіліну радыст крыкнуў яму:

— «Бура» выклікае, таварыш камбат!..

Бяссонаў загадаў адвесці батальён назад, да развілкі дарог, дзе ён пакажа далейшы маршрут...

На скрыжаванні Аляксей сустрэўся з палкоўнікам. Тут стаяў крыты грузавік з брыгаднай рацыяй, два танкі і «газік» камбрыга. Поруч з Бяссонавым быў другі палкоўнік, начальнік штаба, высокі, стройны, з прыгожай чорнай барадой.

— Адсюль адразу павернеш крута ўправа, — пачаў Бяссонаў, ледзь толькі Аляксей падышоў да яго. — Дастань карту. Вось твой маршрут... — ён тоўстым пальцам пачаў паказваць, дзе трэба весці Аляксею танкі, скупа, але дакладна расказаў пра вынікі разведкі.

Не мінула і пятнаццаці хвілін, як танкі Аляксея імчалі па вузенькім «прасёлку», па полі. Аляксей вёў іх амаль усцяж лесу, якога

адсюль не было відаць. Вёў на трэцяй скорасці. Хацелася абыйсці месца, дзе ўмацаваўся праціўнік, хутка і непрыкметна...

Першай пачала бой трэцяя рота. Некалькі танкаў роты наскочылі на варожых пехацінцаў, якія сядзелі ў траншэях, прыхаваных маладзенькім сасоннічкам-пасадкаю. Гітлераўцы паспрабавалі адбіць атаку: сасоннічак раптам загрымеў, залескатаў стрэламі з мінамётаў, кулямётнымі чэргамі... Але танкістаў гэта не магло спыніць,— іх, здавалася, нішто не магло затрымаць. Яны так імкліва і смела рушылі да пасадкі, так секлі з кулямётаў, з гармат, што немцы не вытрывалі.

Траншэі пачалі хутка пусцець...

Калі танкі ўвайшлі ў сасоннічак, тут было толькі некалькі трупаў і параненых ды валяліся кінутыя мінамёты.

Аляксей адразу паслаў машыны далей, каб не даваць праціўніку перадышкі. Неўзабаве камандзір трэцяй перадаў, што ён атакаваў батарэю гаўбіц і што засціг яе знянацку. Немцы, вядома, чулі стрэлы, якія ўзніклі блізка з боку ў пасадцы, але, мусіць, не ведалі, што там робіцца; яны, як і раней, прадаўжалі біць па нявіднай дарозе. Калі танкі неспадзявана паявіліся, жарластыя, кароценькія гаўбіцы глядзелі స్тваламі не насустрач ім, а ў іншы бок.

Камандзір трэцяй гаварыў, што гітлераўцы не паспелі нават развярнуць гаўбіцы, калі танкі, што высунуліся з зарасніку на палянку, зблізку застракаталі з кулямётаў. Артылерысты, кінуўшы гаўбіцы, пачалі разбягацца, хто куды, некаторыя перапалохана ўздымалі рукі.

Аўтаматчыкі, саскочыўшы з танкаў, сталі адбіраць у іх зброю...

3

Камбат ішоў з ротаю Аліева, што наступала лявей ад трэцяй.

Тут бой быў цяжэйшы. Гітлераўцам не толькі ўдалося ўтрымацца на сваіх месцах, але яны ледзь не прымусілі роту адысці назад.

Калі адзін узвод наблізіўся да пазіцый гітлераўцаў, завязалася такая перастрэлка, што ў ёй амаль не можна было разабраць стрэлаў танкаў. Між рухавых машын то тут, то там ускідваліся дымы выбухаў; паветра пранізвалі трасіруючыя снарады...

У першыя хвіліны бою адна з «трыццацьчацвёрак» замерла і задымілася...

Капітан бачыў, як з верхніх люкаў на зямлю спрытна пасыпаліся тры чорныя постаці, яшчэ адна выбегла з-за танка. Яны кінуліся назад, то ўскокваючы, то падаючы...

Іншыя два танкі прыпыніліся. Яны, праўда, часта білі па нямецкіх гарматах і манеўравалі, але наперад не ішлі.

— Чаго ж яны стаяць, Аліеў?! — крыкнуў амаль гнеўна Аляксей. — Чаго яны топчуцца!.. Трэба атакаваць! Атакаваць трэба!!! Зразумеў? Прыём, — а праз хвіліну, пераключыўшы рацыю зноў на перадачу, камандаваў Аліеву:— «Шторм», «Шторм»! Уводзь у бой усе «каробкі»... Заходзь лявей за прагаліну. Прагаліна, бачыш? Не марудзь! Крышы іх, гадаў!..

Так, нельга марудзіць, трэба імчаць туды, адкуль равуць пагрозна гарматы, — біць, крышыць трэба, пакуль гітлераўцы не сціхнуць, пакуль не пачнуць, молячы аб літасці, падымаць рукі!

Страляючы пры кароткіх супынках і без супынкаў, «трыццацьчацвёркі» ўпарта рушылі наперад.

Машына камбата ішла разам з усімі. Быстроў, прыпадаючы вачыма да акуляра прыцэла, амаль не адымаў рук ад паваротнага і пад'ёмнага механізмаў. Ляцелі ўніз, цьмяна паблісквваючы, дымныя гільзы. Пахла моцна газамі. Па твары зараджаючага ручаём ліўся пот...

Агонь з таго боку пачынаў слабець. Некалькі гармат ужо змоўклі. Але і танкістам дасталася: яшчэ дзве машыны замерлі.

Быстроў, не зважаючы ні на што, цэліўся, — то павяртаў вежу, то круціў пахапліва ручкі механізмаў і, нарэшце, улучыўшы зручны момант, націскаў педаль гарматы, зноў цэліўся, круціў ручкі, страляў. Ён быццам зліўся з гарматай. Стрэл. Стрэл.

Яшчэ стрэл...

Аляксей у перыскопе бачыў, як насустрач ляцяць дзве разлапістыя хвоі — вялікая і малая. Ляціць насустрач зямля.

Раптам ногі і рукі капітана асыпала веерам іскарак, і пачуўся моцны ўдар. Непрыемна запахла дымком... Капітан устрывожана азірнуўся.

Што такое? Падбілі?!

Ён убачыў, як зараджаючы Касцючэнка, схапіўшыся рукою за бок, ціснучыся спіною да брані, бязвольна асядаў на касеты. Твар яго, кінулася Аляксею, шпарка бялеў, станавіўся бяскроўным. Каля яго ног Аляксей убачыў невялікую, гладка адпаліраваную балванку. Вось што трапіла сюды!..

Быстроў, распалены боем, стрэліў яшчэ раз. Толькі тады ён азірнуўся на зараджаючага, яшчэ трымаючыся за ручку пад'ёмнага механізма.

Капітан рухам рукі паказаў Быстрову:— Дапамажы!

Тут капітан заўважыў, што і яго раніла ў правую руку, вышэй локця, мусіць, асколкам брані. Рука пачала бязвольна звісаць і

цягнуць уніз, нібы да яе прывязалі груз. Рукаў напаўняўся ліпкай, пякучай крывёю.

— Сонцаў, жывы? — трывожна запытаўся ён. Той, не гаворачы пра сябе, сказаў, што забіты радыст...

«Утраіх засталіся».

Трэба было зараз перавязаць рану, а можа, і вывесці машыну з бою. Аднак Аляксей не падумаў пра гэта: як ён можа выйсці з бою, калі бой не скончыўся? Хіба ён можа кінуць справу, пакуль не дарабіў яе? Тут да таго ж гэтакае становішча, што і думаць аб сабе некалі. Самае галоўнае: давесці бой да поспеху,— зламаць упартасць гітлераўцаў. Адолець, перамагчы іх...

Вось толькі: што з машынай?

Ён акінуў позіркам вежу — ці не гарыць што-небудзь. Не, машына не падпалена. Невядома адно: чаму яна яшчэ стаіць? Няўжо сапсаван матор або гусеніцы?

— Сонцаў, чаму спыніўся?

— Іншыя машыны сталі... Адыходзіць, ці што, збіраюцца?

— Хто?!

Капітан прынік вокам да перыскопа. Гітлераўцы былі блізка. Іх аддзяляла ад Аляксея, напэўна, менш за трыста метраў. На шчасце, бліжэйшая гармата, якая, можа, і прабіла танк Аляксея, змоўкла.

Прыслуга яе разбеглася. Каля гарматы віднеўся толькі адзін немец, які размахваў рукамі і штосьці крычаў, склікаючы, мусіць, сваіх салдат, але да яго ніхто не вяртаўся.

Аляксей павярнуў перыскоп і ўбачыў, што танкі спыніліся; адна машына стаяла нерухома, дзве густа дымілі, іншыя тапталіся на месцы, абстрэльваючы варожых артылерыстаў і не наважваючыся рушыць далей.

Наступіла замінка.

Тры машыны, якія былі непадалёк ад камбата, пачалі нават пакрыху адпаўзаць назад.

«Вось як, на задняй перадачы наступаем!» — мільганула ў галаве камбата крыўднае.

Ён адчуў, што рота ў гэтую хвіліну страціла ўпэўненасць, усумнілася ў поспеху...

Што ж гэта? Яны адыходзяць?! Нельга адыходзіць. І таптацца нельга! Трэба напорней прабівацца наперад, зараз жа наперад! Яшчэ хвіліна, і страцім зручны момант. Не трэба марудзіць!.. Дзе камандзір роты?

Камбат паспрабаваў выклікаць яго.

— «Шторм»! «Шторм»! «Шторм»!

Камандзір роты не адгукнуўся. Што з ім? Машыну спалілі ці забіты?

Камбат убачыў, што два — тры варожыя артылерысты, якія хвіліну назад кінулі былі гармату, цяпер пачалі нясмела вяртацца. Яны, відаць, заўважылі замяшанне ў танкістаў. Адзін з немцаў, гэта, мусіць, камандзір гарматы, размахваючы рукамі, штосьці крычыць, загадвае ім...

Калі яшчэ крыху прамарудзіць, яны апамятаюцца...

Камбат цяпер помніў і адчуваў толькі адно — нельга марудзіць! Ад гэтай думкі, якая захапіла яго, сцішыўся раптам боль у руцэ, забылася асцярожлівасць, што стрымлівае чалавека ў небяспецы.

— Я «Навальніца», я «Навальніца»! Хто там топчацца на месцы?! — амаль гнеўна крыкнуў капітан да ўсёй роты.— Наперад, наперад!

Ён даў Быстрову знак зарадзіць гармату, а тады, прыпаўшы да гумавага наканечніка прыцэла, здаровай рукой павярнуў вежу. Хутка прыцэліўся і стрэліў па гармаце. І тады ж адкрыў агонь з кулямёта. Першы ж снарад трапіў у шчыт гарматкі — недарма Аляксей быў некалі добрым вежавым стралком! Абслуга гарматкі збянтэжана прыпала да зямлі... Адзін адразу ўскочыў, — кінуўся прэч...

— Рабі, як я!— скамандаваў капітан усім экіпажам.

Пераключыўшы рацыю на ўнутраную сувязь, ён загадаў Сонцаву весці машыну на гармату.

«Трыццацьчацвёрка» ірванула так, што камбата кінула назад. Сонцаў па голасу Аляксея адчуў, што цяпер, як жыццё, дарагі кожны міг...

Капітан, сашчапіўшы зубы, адольваючы страшны боль і слабасць, стаў зноў разварочваць вежу, нацэльваючыся на другую гармату.

Машына ляцела праз ямы, падмінала кусты, і яе вельмі кідала з боку на бок. Прыцэліцца пры гэтым было немагчыма: у прыцэле паяўлялася то зямля, то неба, — капітан, злавіўшы больш зручны міг, націснуў на педаль спускавога механізма.

Бухнуў стрэл...

Аляксей цяпер нічога не адчуваў, акрамя жадання дасягнуць, дапасці да гарматы. На гэтай гармаце сканцэнтравалася ўся яго воля.

У нейкі міг камбат убачыў, што гармата разварочваецца... Каля яе завіхаліся постаці... Няўжо яна паспее стрэліць? Няўжо апярэдзіць яго?

Час пачаў вымервацца долямі секунды. Але гэтыя долі секунды здаваліся доўгімі, — усе падзеі адбываліся з вялікай, віхурнай хуткасцю і імклівасцю. Секунды рашалі зыход бою, лёс жыцця.

Уся воля Аляксея была да канца напружана. Самая маленькая маруда ці разгубленасць была для яго цяпер — што смерць...

Апярэдзіць гітлераўцаў, разбіць, сцерці! Інакш — смерць.

Ён колькі сілы націснуў правай нагой другі педаль — усё, што было ў дыску кулямёта, выпусціў на гарматку...

І вось гармата проста перад танкам... Яна знікла недзе ўнізе, яе Аляксею больш не відаць...

Сонцаў яшчэ ўбачыў, як ад яе кінулася апошняя постаць гітлераўца. Позна!..

У наступны міг камбат адчуў рывок. Танк падскочыў, як раз'ятраны звер, і асеў. Капітан ледзь утрымаўся на сядзенні, раненая рука аб нешта моцна ўдарылася.

Ён паглядзеў у перыскоп. Перад вачыма ішлі кругам кусты, сцяна блізкага сасняку, якая была ўжо не ўперадзе, а збоку. Сонцаў разварочваў машыну.

Салдаты ў зеленаватых мундзірах — і без мундзіраў — у паніцы ўцякалі. Следам за імі на акопы, да гармат урываліся, равучы, танкі. Яны дабівалі тых, хто спрабаваў яшчэ супраціўляцца, seклі з кулямётаў...

Аляксей загадаў Сонцаву весці танк далей, за пазіцыі, — трэба не даць уцячы гітлераўцам.

Яны прыпыніліся каля сасонніку, — цяпер пакуль, здаецца, усё. Парадак.

Сэрца Аляксея білася часта і ўзрушана. Ён не мог хутка астыць ад нядаўняга запалу. Так, гарачая выпала хвіліна і грозная. Тут, калі небяспека адышла, яго неспадзеўкі кранула запозненая трывога за сваё жыццё.

— Вы ж ранены, таварыш камбат! — заўважыў упершыню пануры Быстроў, які толькі што схіляўся над зараджаючым. — Дайце перавяжу!

— Што з ім?— Аляксей кіўнуў на зараджаючага. Той быў непрытомны.

Выціраючы спатнелы замурзаны твар, камбат зноў паклікаў па рацыі Аліева:

— «Шторм»! «Шторм»!

Аліеў адгукнуўся.

— Што было з табой? Спалілі машыну? Ты цяпер у іншай?.. Вядзі роту. Не адставай, — гані на дарогу. Ясна?

Ён даў Быстрову перавязаць руку. Выклікаў фельчара да зараджаючага; потым звязаўся з другой, трэцяй ротамі, даведаўся пра

абстаноўку. Далажыў Бяссонаву аб выніках бою, змаўчаўшы, што сам паранены.

Калі фельчар падышоў і Быстроў узяўся выносіць зараджаючага праз пярэдні люк, Аляксей устаў, каб дапамагчы сержанту. Але сценка баявога аддзялення, прыцэл, замок гарматы раптам пачалі ў вачах яго як бы плыць і засцілацца туманам. Ён абапёрся левай рукою аб сценку, каб устаяць на нагах.

— Сонцаў, на дарогу!.. За Аліевым... — выціснуў ён, апусціўшыся зноў на сядзенне. Эх, як хіліць убок, як слабее цела...

«Што гэта? Няўжо ў шпіталь! З карабля прэч? А Мінск?.. А заўтрашні бой за Мінск?

Без мяне?»

# КНІГА ТРЭЦЯЯ
# Будучыня з намі

## ЧАСТКА ШОСТАЯ
## Раздзел I

### I

Раніцай Клава прайшлася па пакойчыку. Прытуліўшыся плячом да сценкі, пазірала праз акенца на двор, сочачы з задуменнасцю за ўсім, што там адбывалася. На круглаватым ілбе яе хму рылася клопатная маршчынка, — у дзяўчыны быў такі выраз, быццам яна хацела штосьці ўспо мніць і не магла...

— Прынясіце мне, цётка Кацярына, галінку бэзу,— ціха папрасіла яна.

— Зараз прынясу. Толькі ты сядзь... Клава вярнулася да ложка і легла, тады Кацярына вышла з пакоя, а неўзабаве прынесла некалькі галінак. Яны даўно ўжо адцвілі, і нічога, здаецца, прывабнага не было цяпер у іх, але, калі Клава ўзяла гэтыя галінкі, у горле яе і радасна і горка зашчымела. Маршчынка на яе ілбе разышлася. Клава глядзела на галінкі так, быццам гэта было нешта жывое, вельмі дарагое і роднае, і Кацярына здзіўлена падумала: што яна знайшла ў звычайнай галінцы? Праўда, Клава і сама добра не ведала гэтага, яны, мусіць, былі такімі дарагімі таму, што з імі ўспамінаўся Клаве яе дом, каля якога пад акном рос таксама бэз, брат Сяргей, мама, аб якіх яна столькі часу нічога не ведае...

Сярожа, Сярожа, дзе ён, што з ім?..

Мінуў яшчэ дзень, і Клаве захацелася выйсці з каморкі на вуліцу, у поле, — адагнаць страшэнныя ўспаміны-прывіды, якія яшчэ гнялі яе, стаць спакойнай, як раней, і дужай. Як гэта, аказваецца, добра быць дужай і хадзіць колькі хочаш; нават патрошку ступаць таксама прыемна, куды лепш, як ляжаць.

Клава тупала з аднаго кутка каморкі, дзе стаялі дзежкі, да другога, да акенца; хадзіць ёй было не лёгка, але яна старалася не зважаць на стому. Усё ж яна ходзіць! Не, яна не такая кволая, як можа падумаць Кацярына.

— Ну чаго ты сябе мучыш? — аднойчы сказала ёй з дакорам жанчына. — Чаго? Спяшаешся куды-небудзь, ці што? Нібы на цягнік баішся не паспець... Усяму свая чарга, дачушка: паправішся, прыдзе час, — будзеш хадзіць.

— Я ўжо амаль паправілася, цётка Кацярына...

— Ну, сказала то ж ба — паправілася! Табе трэба ляжаць і ляжаць — месяц!.. Спакойна ляжаць, не марнуючы сябе дарэмна.

Клава ціха, але настойліва прамовіла:

— Я заўтра буду хадзіць — зусім лёгка!.. Пабачыце, цётка Кацярына. Ну, не заўтра, дык паслязаўтра. А там — праз дні два — змагу хоць танцаваць!..

На круглых яе шчаках, у кутках крыху шырокіх губ неспадзявана, упершыню за ўсе гэтыя дні, узніклі, гарэзна задрыжалі дзве смяшлівыя ямачкі. Клава раптам стала такой, якой была раней заўсёды: гарэзнай, вясёлай і ўпартай.

— Праўда, танцаваць!..

Цётка Кацярына, пазіраючы на Клаву, толькі галавой паківала з дакорам — такая непаседа; ужо і засмяялася — нібы забыла ўсе свае пакуты. Але гарэзны бляск у вачах дзяўчыны амаль адразу ж і згас; на лоб легла маршчынка, — Клава зноў-задумалася і насцеражылася...

Настрой у Клавы быў цяпер няроўны, — то яна хмурыцца, так горка штосьці перажывае, што Кацярыне аж шкада становіцца яе, то раптам павесялее і пачне смяяцца.

Жывучая, не схільная да смутку, натура яе паступова брала ўладу над прыгнечанасцю. Клава зноў станавілася сама сабой.

З кожным днём яна хадзіла ўсё лягчэй і смялей. Цяпер яна стамлялася ўжо менш, як у першыя дні, — і гэта яе вельмі радавала.

Ёй хацелася хутчэй вярнуцца ў Мінск, даведацца, што з маці, любай маці, з Сяргеем, зноў спаткацца з таварышамі: цяжкую і небяспечную падпольную работу яна ўяўляла як найлепшае шчасце. Ёй станавілася ўсё больш цесна ў каморцы.

Калі Кацярына прыходзіла дамоў з сяла, Клава звычайна пыталася:

— Што там кажуць, цётка Кацярына? Можа, што новае пачулі? Якую-небудзь добрую вестку?

— Нічога, Клаўка...

— Ці праўда, цётачка,— так і нічога?

— Вось якая ты, то ж ба, недаверлівая ды нецярплівая. Хіба ж я, дзівачка ты мая, стала б утойваць ад цябе, каб што-небудзь было добрае? Калі б толькі пачула, адразу прыбегла б да цябе і пераказала б слова ў слова. Толькі ж нічога асаблівага не чуваць.

Ціхай ноччу Клава пачула дзіўны гром. А раніцаю Кацярына прыбегла ў каморку шумлівая, узрушаная і сказала, што нашы занялі Віцебск.

— Віцебск?! Адкуль вы даведаліся?

— Партызан прыходзіў, казаў, што па радыё перадавалі — дзён чатыры, ці што, таму...

Клава адразу саскочыла з ложка, падбегла да цёткі і, абняўшы яе парывіста, пацалавала.

— Ой, цётачка, якая ж вы добрая і мілая!..

І весела засмяялася, бліснула белымі роўнымі радкамі зубоў. Кацярына, бачачы, як яна ажыла, пажвавела, — усцешылася так, нібы гэта радавалася яе дачка.

Увесь дзень Клава не знаходзіла сабе месца ад радасці. Яна проста не магла ўлежаць на ложку, тупала, тупала па каморцы, раз-по-раз падыходзіла да акенца і ўвесь час, амаль не сціхаючы, паціху спявала.

То песню пра Маскву, пра родную Маскву:

...Масква мая,
Ты самая любімая...

То павольную, шчырую:

Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты не поўная,
Чаму ж ты не поўная, з беражком не роўная...

Шчырая, журлівая песня, якую любіла Клавіна маці, гучала сёння незвычайна весела і радасна.

Многа песень успомніла, пераспявала Клава ў гэты дзень!

Пад вечар, як ніколі раней, разгаварылася, стала расказваць пра сваё жыццё ў Мінску. Смешным і вясёлым усё выходзіла ў яе, — цётка Кацярына то смяялася ўслед за Клавай, то ўздыхала. Нарэшце, з матчыным папрокам сказала дзяўчыне:

— І што гэта ты, дачка, над усім смяешся?

— Хіба ж я вінавата, — гарэзна адказала Клава.— У мяне і маці такая — любіла раней песні спяваць ды смяяцца. Відаць, праўда — «якая маці малася, такая і я ўдалася». Толькі я песні спяваю рэдка — хіба тады, калі надыдзе такое, як сёння. А вось пасмяшыць ці самой пасмяяцца вельмі люблю...

Што ёй скажаш на гэта?

— А хіба яно, цётка Кацярына, кепска? Калі б я не ўмела смяяцца, я даўно б ужо, можа быць, ссохла ад гора ці суму... А так — пасумую, пасумую ды і засмяюся, і самой весялей становіцца, і другім...

У той жа вечар яна сказала заклапочана:

— Ужо, здаецца, хопіць адлежваць бакі, трэба паспяшацца дамоў...

— Управішся!.. Нікуды твая дамоўка не ўцячэ.

Цётка Кацярына не звярнула на Клавіны словы асаблівай увагі — ці мала каму не хочацца хутчэй дамоў. Няхай пакуль ляжыць ды ачуньвае.

2

Днём у сяло прыехаў нейкі нямецкі атрад. Сяло стаяла ў баку ад шумлівага шасэ, і сюды ў апошнія дні немцы наязджалі не часта. Прыезд гэтых «гасцей» вельмі ўстрывожыў Кацярыну, — яна ўбегла ў каморку і, насцярожана зірнуўшы ў акенца, прамовіла спалохана:

— Фашысты! Што нам рабіць, дачушка?!

Клава заўважыла, што яе твар пабялеў, як крэйда. Дзяўчына гэтую падзею сустрэла спакайней. Падбегшы да акенца, за якім яна ўбачыла, як звычайна, ціхую вуліцу, Клава стала хутка, але разважліва абдумваць сваё становішча.

Няўжо яны даведаліся, што яе хаваюць тут? Можа, хто-небудзь данёс?.. А калі і не ведаюць пра гэта, то Клаве ўсё роўна трэба хавацца — яна чужая ў гэтай хаце, у яе паранена куляй шыя. Яны могуць западозрыць, што яна партызанка, і расстраляць...

— Божа мой, яны ўжо тут!

На вуліцы яшчэ нікога не было відаць, але сюды ўжо добра даходзіла галосная незразумелая гамонка. Цётка Кацярына адразу заспяшалася, кінулася адсоўваць вялікую дзежку і, паспешліва ўзняўшы века патайной схованкі пад падлогай, загадала:

— Лезь сюды, дачушка...

Кацярына зноў заставіла века схованкі дзежкай. Ледзь яна ўправілася ўсё гэта зрабіць, як на ганку затупацелі важкія крокі, і яна выйшла насустрач.

— Курка, матка, ёсць? — запытаўся перш за ўсё салдат, і Кацярына падумала, што гітлераўцы пра Клаву, напэўна, не ведаюць.

— Няма...

— Не-ма?! Шпэк? Сала?..

— Быў кавалачак, ад памазкі застаўся. Хадзем, аддам ужо... — няласкава адказала жанчына.

Праз хвіліну гітлеравец, жуючы сала і лаючыся, вышаў з хаты ў сенцы. Гэта быў чарнявы, з мясістай чырвонай шыяй, тоўсты ўнтэр у форме тэхнічных войск. У сенцах ён, павёўшы вачыма з кутка ў куток, раптам пацягнуў за дзверы ў каморку, але жанчына не пусціла яго,— засланіла сабой дзверы.

— Няма кажу... Усё, што ёсць, аддала, каб цябе!..

Унтэр, адпіхнуўшы Кацярыну, адкрыў дзверы сілаю і ступіў у каморку.

— Няма, кажу...— уладна прамовіла жанчына, цягнучы яго з каморкі. — Ідзі, ідзі!..

Клава, каторай уся гэтая спрэчка была добра чуваць, дзівілася смеласці Кацярыны, якая толькі што здавалася гэтакай спалоханай і разгубленай.

— А тут хто спіць? — неспадзявана запытаўся ўнтэр, і Клава мімаволі стаіла дыханне.

— Хто, ведама хто — я!..

— Ты? Няпраўда!..— прамовіў пагрозна ўнтэр.

Невядома, чым скончылася б гэта размова, але тут пачуўся голас другога немца: — Курт, коммт!.. — Гэты немец увайшоў пазней і хвіліну моўчкі сачыў за тым, што адбывалася. Курт незадаволена азірнуўся і, буркліва прамармытаўшы штосьці ў бок Кацярыны, падаўся з каморкі.

Немец правёў Курта на ганак, а сам нечакана вярнуўся ў каморку.

— Кроў!— сказаў ён па-руску, кіўнуўшы на пасцель. Кацярына, якая была супакоілася, пахаладзела: на падушцы, з другога краю, віднелася пляма засохлай крыві.

— Не бойся, матка, — неспадзявана супакойліва прамовіў немец. Ён быў паважны ў рухах, немалады. Жыццё на яго твары з рэзкімі рысамі і ўважлівымі сіняватымі вачыма спляло ўжо нямала маршчын. — Не бойся... Курта бойся, але ён не заўважыў. А я не хачу табе рабіць кепска... Бацька ці дачка? — кіўнуў ён на кроў.

Кацярына маўчала. Яна не разумела, чаго ён затрымаўся тут. Вядома, не на добрае! А немец раптам, нібы для таго, каб развеяць яе насцярожлівасць, сказаў, што рускія каля Барысава.

— Хутка буду дома, Германія. У мяне таксама ёсць жонка, сын, — ён выняў з нагруднай кішэні фатакартку, на якой быў зняты малы бялявы хлапчук, і паказаў Кацярыне. — Вось!.. Хутка буду разам! У забой вярнуся працаваць. Я ёсць вугальшчык, шахцёр!..

— У мяне пляменнік быў у Данбасе... — адгукнулася Кацярына, думаючы ўсё, чым гэта скончыцца.

— Рур... Эсен. Пауль, — прыклаў ён далонь да грудзей. «Паўлам зваць», — здагадалася Кацярына.

На двары зноў пачуліся крокі. Пауль сказаў Кацярыне, каб яна схавала падушку, а сам падаўся да дзвярэй. Пра што ён гаварыў з тымі, хто ішоў, Кацярына не зразумела, але яны, не заходзячы ў хату, адразу падаліся назад.

Пауль вярнуўся і сказаў, што немцы хутка паедуць, хвілін праз дзесяць.

— З фронта, матка, едзем. А куды — мусіць, сам бог не скажа, хоць ён і павінен усё ведаць.

Пауль развітаўся, вышаў, але Кацярына яшчэ і цяпер непакоілася, ці няма тут якога падману.

Толькі калі атрад выехаў з сяла, Кацярына ўздыхнула лягчэй.

— Ну, ператрывожылася я, — прызналася яна Клаве, якая цяпер моўчкі сядзела на ложку. — Асабліва, калі гэты першы прычапіўся: «хто тут ляжыць!» Добра, што ён хоць крыві не ўбачыў! Ды і Паўла, або як яго, баялася... А ён, бачыш, мусіць, не паганы чалавек!..

— Вядома, рабочы чалавек... А чулі вы, цётка Кацярына, ён сказаў, што нашы ўжо каля Барысава? Няўжо гэта мне здалося, ці ён так і сказаў: каля Барысава? Вы чулі пра Барысаў?

— А як жа, чула, дачушка. Каля Барысава, ён сказаў, — значыцца, тут хутка будуць. Нядоўга, Клаўка, засталося табе хавацца!..

«Ну, цяпер ты, непаседа, нікуды не будзеш ірвацца,— падумала Кацярына, прыгадваючы ўчарашнія словы Клавы, — куды табе спяшацца, калі яшчэ колькі дзён, і тут будуць нашы». Але Клава да гэтай весткі аднеслася інакш.

— Вось бачыце, цётка Кацярына, мне ўжо не можна больш ляжаць... Трэба ісці ў Мінск!..

— Чаго табе спяшацца ў Мінск? Не абыдзецца ён без цябе, ці што? — і, не даючы Клаве сказаць слова, перавяла гаворку на іншае:— Ты спачатку паабедай, а пра Мінск пасля пагаворым...

Кацярына прынесла з хаты гліняную місачку, у якой быў незабелены боршч са шчаўя, выняла з аднаго кубла прыхаваны акраец хлеба. Падпёршы рукой падбародак, стала моўчкі пазіраць, як дзяўчына есць. Так раней яна любіла паглядаць на сваіх дзяцей.

— Ты, можа, смяешся?.. — не ўтрывала жанчына, калі Клава аддала ёй пустую місачку. — Куды ты пойдзеш, нядужая? Можа, ты баішся, што фашысты зноў прыдуць сюды? То я магу захаваць у іншым месцы, так што ніхто не знойдзе.

— Не, я гэтага не баюся. Проста я ўжо ачуняла, цётка Кацярына, — чаго ж мне тут валяцца на ложку? І так колькі праляжала!..

— Колькі! То ж, здаецца, усяго тыдзень мінуўся...

— Ой, цётачка, добрая, мілая, не ўгаварвайце, усё роўна не адумаюся. Мне так хочацца хутчэй дамоў! Так хочацца!.. Нашы блізка ля Мінска, а я буду ляжаць тут?.. Не магу, ну проста — не магу застацца. Ці хаджу я, ці ляжу — сэрца маё ляціць у горад, да сваіх...

Увечары абедзве жанчыны вышлі з хаты. На двары было цёпла і парка, сагрэтае за дзень паветра яшчэ патыхала цеплынёю; на поўначы, ля захаду, тлела, патухаючы, блеклая жаўтаватая палоска.

Клава і Кацярына ціха дайшлі да хляўца, пералезлі цераз невысокі, амаль разламаны, плот і апынуліся на агародзе. Шоргаючы нагамі, паволі ішлі праз гарбузнік і бульбянік, сцяблы якіх чапляліся за ногі.

За агародам Кацярына расказала — не ў першы раз, — як Клаве лепш дабрацца да горада.

— А можа б, ты ўсё-ткі засталася? — не магла ніяк прымірыцца Кацярына з тым, што Клава зараз пойдзе,— неспакойна там дужа.

— Я ўжо казала, цётачка... Нашто нам паўтараць казку пра белага бычка?..

Яна засмяялася ціха, нутраным смехам, уткнулася галавою ў грудзі Кацярыны, праз хвіліну парывіста абхапіла за шыю і прагна раз, другі пацалавала.

Кацярына лагодна, з дакорам прамовіла:

— Ах ты, рагатуха, непаслухмяная!..

— Калі прыдуць нашы, прыязджайце да мяне. Добра, цётачка? — голас Клавы задрыжаў ад хвалявання. — Я і не ведаю, як аддзячыць за вашу ласку. Можа, каб не вы, дык я і цяпер ляжала б на полі...

— Няма за што дзякаваць, — Кацярына дадала тонам перасцярогі: — Глядзі ты, зноў не пападзіся да іх!..

— Цяпер не пападуся! Цяпер я — стрэлены верабей!..

Яна пайшла ў цемру. Кацярына, не варушачыся, пазірала ўслед дзяўчыне. Там, куды ішла яна, святлела палоска, і Клавіна постаць — галава і плечы — доўга акрэслівалася на ёй, паступова змяншаючыся. Кацярына пазірала туды, і на сэрцы яе было сумна і трывожна.

«Толькі б усё добра абышлося!..»

3

Клава дабралася да Мінска толькі перад досвіткам.

Горад гарэў. Дзяўчыне было вельмі горка і сумна, калі яна глядзела на гэтыя пажары, што лютавалі ў розных мясцінах Мінска. Асабліва жахлівыя пажары былі каля Акадэміі навук,— там палала адразу некалькі вялікіх будынкаў. Агромністае барвовае полымя трапятала і каля Дома Урада. Што гэта, якія-небудзь будынкі на Савецкай? Не, то ж гарыць універсітэцкі гарадок!

«Што яны робяць з Мінскам, нелюдзі!» — у нямым гневе сціскала Клава кулакі.

Па Чэрвеньскім тракце ў бок касцёла цягнулася, фыркаючы, некалькі грузавікоў, якія ішлі з патушанымі фарамі. «Уцякаюць, гады!» — падумала Клава і пашкадавала, што нельга іх затрымаць.

Клава, яшчэ лежачы ў Кацярынінай каморцы, калі яна многа думала пра зварот у Мінск, парашыла, што пойдзе не дамоў, дзе цяпер, мусіць, нікога няма, а да цёткі Залескай. Валіна маці здавалася Клаве вельмі надзейным чалавекам. Клава выбрала Залескую яшчэ і таму, што ў Залескай можна было хутчэй, як у каго іншага, даведацца, дзе цяпер маці і Сяргей.

Яна пералезла праз плот і, нарэшце, апынулася на тым двары, да якога прабіралася. Вось яны, знаёмыя кусты вяргінь, на якія Клава часта любіла пазіраць з акна,— як, здаецца, нядаўна яна была тут, а колькі перажыта за гэты час! Аж не верыцца. Праўда ж, ці не сон усё тое?

Прытуліўшыся зморана да плота, аддыхваючыся, яна дзіўна, бесклапотна засмяялася. Як жа добра, што яна ўсё-ткі вярнулася, нягледзячы ні на што, прыйшла!

Клава, азірнуўшыся навокал, асцярожна наблізілася да акна і стала ўзірацца праз цёмную шыбу ў сярэдзіну. Ці ёсць хто там? У цемры, што поўніла пакой, нічога нельга было разабраць.

Яна пачала лёгка стукаць у шкло, як стукала раней, калі часам заходзіла сюды ноччу, але ніхто не адгукаўся. Неспадзявана яна пачула ззаду ціхі, падкрадлівы шорах і насцярожана азірнулася.

— Хто гэта? — пазнала Клава голас Валінай маці.

— Я, Клава...

— Клава?.. Якая... Клава?

— Ну вось жа, дзіўная! Пытаецеся, якая Клава. Нібы забыліся... Гэта я, цётачка!..

Залеская выйшла з-за кустоў смародзіны і, не пытаючыся больш нічога і нічога не гаворачы, пацягнула Клаву за руку. Клава пайшла следам за ёю. Яны прабраліся паўз гарбузнік, і, калі Залеская спынілася, Клава апусцілася ў разору. Яна так знясілела, так аслабела за дарогу, што ў яе проста самі сабой падгіналіся ногі...

— Мы цяпер сюды, у вішаннік перабраліся. Мы тут удваіх, з Наталляй,— ты яе не ведаеш. Небяспечна ў хаце — яшчэ падпаляць гітлераўцы... ці гранату шыбнуць... Божа мой! — пасля хвіліны маўчання сказала збянтэжана Залеская,— Клаўка, дык гэта ты?

Яна памацала Клавіны плечы, як бы не давала веры голасу.

— Тут жа аб'явілі, што расстралялі цябе. Значыцца, няпраўда.

— Праўда, цётачка,— спахмурнела Клава,— Расстралялі.

— Як жа праўда?.. Ты цішэй гавары...

Клава неахвотна і вельмі скупа расказала, як яе расстрэльвалі, як яна выратавалася і як яе выхадзіла невядомая жанчына.

— Клаўка!— жахнулася Залеская.— Дык чаго ж ты вярнулася? Ты ж магла наткнуцца на якую засаду, цябе маглі схапіць!

— А як жа мне было сядзець недзе, калі тут такое робіцца? Нашы так спяшаюцца, а мне што ж сядзець? А можа, тут чакае мяне справа? Я так хапалася, цётка, каб хутчэй вярнуцца. А што могуць мяне арыштаваць,— як жа мяне арыштуюць?.. Я ж расстраляная.

— Ты смяешся... Як ты можаш жартаваць?

Клава нічога ёй на гэта не адказала, а, раптам сціснуўшы руку Залескай у сваёй, трывожна і нецярпліва прашаптала:

— А што з маёй маці, цётачка?

— Арыштавалі яе, дачушка. А дзе цяпер,— не ведаю...

У грудзях Клавы штосьці балюча сціснулася, так балюча, аж хацелася застагнаць.

— А што з Сяргеем, не ведаеце?

— Што з ім? Жывы,— адразу супакоіла Залеская, здагадаўшыся, што Клава, напэўна, за ўвесь час ад свайго арышту нічога пра яго не чула.

— Жывы. Значыцца... не папаўся?

— Што ты! Гэтакі пападзецца?.. Жывы. І ўсё такі ж непаседлівы, як ты!

— Жывы! Хоць Сяргей жывы... А матачкі... Матачкі няма! Арыштавалі маму.

— Ды супакойся ты! Яшчэ ж невядома, што з ёй...

— Ой, я ведаю, што там робяць з людзьмі!..—

амаль са стогнам сказала Клава.

— У цяжкі час ты прыйшла, дачушка. Страшна тут, у горадзе,— загаварыла трывожна Залеская.— Гэтая нечысць задумала перад смерцю сваёй яшчэ адну бяду. Божа мой, што ж гэта будзе?! Калі ж ужо скончыцца гэта! Ім мала спаліць горад, ім хочацца яшчэ і смерці, крыві людзей. Учора тут наляпілі перад вечарам усюды загады, каб усім сабрацца ў адно месца. Сабяруць і — пад кулямёт! Усіх!..

На ціхай вуліцы затупала некалькі ботаў, пачуліся незразумелыя нямецкія воклічы. Залеская, адразу перапыніўшы гаворку, моўчкі слухала, аж пакуль крокі не сціхлі. Потым, уздыхнуўшы, паднялася і ўвяла Клаву, у якой кружылася галава, у вішаннік. Тут было цямней, як на агародзе, на якім ужо змрок пачынаў шарэць і святлець, але Клава адразу заўважыла жанчыну, якая, седзячы ўскрай ямы, трымала на руках дзіця.

— Гэта Клава, пляменніца мая,— сказала ёй Залеская.— Што, не заснула Людачка?

— Не... Здаецца, пачало развідняцца...

— Світае...— трывожна адказала Залеская.

За горадам, на ўсходнім баку, узнікла страляніна. Усе пачалі ўслухоўвацца: гарматныя стрэлы чуліся як ніколі яшчэ да гэтага блізка.

— Божа мой, няўжо яны, нашы, не ўправяцца?..

## Раздзел II

### I

Мінск дажываў апошнія дні няволі.

Адна за адной знікалі нямецкія ўстановы — розныя камендатуры, управы, упраўленні, аддзелы. Зачыняліся магазіны, рэстараны, майстэрні. Зусім апусцелі фабрычныя двары, куды яшчэ нядаўна гітлераўцы зганялі людзей.

Толькі вакзал з кожным днём усё больш перапаўняўся. Каля пакояў ваеннага і цывільнага камендантаў тоўпіліся, хваляваліся чэргі неспакойных немцаў. Сюды збягаўся, плыў гітлераўскі бруд, учарашнія «чыны» — і з Оршы, і з Магілёва, і з Беразіна — адусюль. Кожны хацеў хутчэй дабрацца да каменданта, амаль усе спрачаліся, тыцкалі ў твар сваім суседзям нейкімі даведкамі,— шчэрылі азвярэла зубы, пагражалі, лаяліся.

Касы былі зачынены, і, хоць усюды пры іх акуратна віселі абвесткі, што білеты не прадаюцца, тут таксама было тлумна. Многія тоўпіліся на пероне: між іх былі і немцы ў ваенных мундзірах, і цывільныя. З чамаданамі ды з клункамі і без чамаданаў і без клункаў — у чым стаялі.

Увесь час хадзілі чуткі пра тое, дзе цяпер камуністы, саветы. З кожным днём чуткі гэтыя былі ўсё больш грозныя: камуністы набліжаліся, як нястрымны акіянскі вал. У небе над Мінскам вельмі часта гулі савецкія самалёты...

Выязджалі розныя тылавыя арганізацыі, ехалі групкі, сем'і, адзіночкі. Гестапаўскія каты, шпіёны, здраднікі, наёмныя забойцы. Паязды, што адыходзілі ад вакзала, былі аблеплены імі, як падла мухамі...

Сюды прыгнала і зграю прывозных дзеячоў Рады разам з «прэзідэнтам» і двума намеснікамі. Апошняе пасяджэнне «кангрэса» так і не давялося скончыць — трэба было хутчэй збіраць манаткі. «Дэлегатам» сказалі, каб яны выбіраліся з Мінска так, як ім удасца: гітлераўцам ужо не былі патрэбны гэтыя адонкі. А аб «прэзідэнце» і яго «міністрах» гітлераўскі генераль-камісар фон Готберг усё ж «паклапаціўся», дазволіў, каб ім далі месца ў вагонах.

Ён яшчэ спадзяваўся, што «прэзідэнт», і яго «ўрад» могуць спатрэбіцца: Готберг стараўся заглядваць наперад...

Правесці радаўцаў на вакзал фон Готберг даручыў штурмбанфюрэру Рэйзе. Штурмбанфюрэру гэтае заданне прыйшлося не вельмі да спадобы,— падумаеш, трэба яшчэ праводзіць гэтых бяздомных, нікому цяпер непатрэбных дзялкоў, але загад Готберга ёсць загад.

Па знаку Рэйзе двое ефрэйтараў, што былі каля ўваходу на перон, прапусцілі іх да вагонаў.

Астроўскі ішоў ссутулены, увагнуўшы галаву ў плечы. Ён падышоў хутка да дзвярэй вагона і, як бы за ім хтосьці гнаўся, паспешліва схаваўся ў іх. Рэйзе праз хвіліну вярнуўся: яму трэба было рабіць іншыя справы.

«Багаж здадзен»,— падумаў ён, крывячы губы.

Каля будынка генералькамісарыята ён спаткаўся з Баумволем.

— Еду на фронт,— сказаў генерал.

— Чаму?

— Там патрэбен моцны чалавек. Фюрэр даверыў гэта мне.

— Але там цяпер — небяспечна...

— Я не баюся, Віллі.

Ён развітаўся.

— Жадаю ўдачы, мой генерал.

У горадзе пачалі паяўляцца салдаты с фронта, якіх з кожным днём станавілася ўсё больш. Яны былі абарваныя, стомленыя і злыя.

Адзін гурт з такіх салдат трапілася ўбачыць Вольфу. Гэта было каля Заходняга моста: яны цягнуліся пасярод вуліцы не як салдаты, а як дзікі табун — панурыя, абыякавыя да ўсяго, брудныя. Адзін з іх быў нават без мундзіра.

Некалькі мінчан, што ішлі па вуліцы, прыпыніліся, сталі назіраць за гэтым натоўпам, і Вольф заўважыў у іх вачах радасць і пагарду...

Да салдат у гэты час падбег нейкі абураны гестапавец, які стаў крычаць і пагражаць:

— Свінні... Суд!.. Расстраляць!

Вольф кінуўся на дапамогу яму, але тут здарылася нечаканае: коратка трэснула чарга з аўтамата, і гестапавец, пахіснуўшыся, як лазіна, асеў. Вольф адразу застыў на месцы.

Хутка зразумеўшы, што здарылася, салдаты з нечаканай для іх порсткасцю пачалі разбягацца хто куды. Калі Вольф падбег да гестапаўца, той быў мёртвы.

Гэты выпадак вельмі ўразіў маёра. Яму стала боязна. Ён упершыню бачыў такое злое непаслушэнства...

Вольф тры дні завіхаўся на Таварнай, куды яго пасλалі, каб ён дапамог эвакуіраваць розную каштоўную ваенную маёмасць.

Справа гэтая аказалася куды цяжэйшай, як здавалася спачатку Вольфу. Не было такога дня, каб не наляталі на станцыю савецкія самалёты. Яны плылі ў блакітным чэрвеньскім небе спакойна і ўпэўнена, як вестуны таго пагрознага фронта, які хутка набліжаўся. Са свістам падалі бомбы, карэжачы вагоны, раскідваючы зямлю, наводзячы страх на чыгуначнікаў.

Яшчэ горш было ўночы. Самалёты амаль увесь час кружыліся над горадам, яны ляцелі і ляцелі страшнымі чародамі.

У першы дзень Вольфу ўдалося пагрузіць некалькі каштоўных станкоў і многа рознага абсталявання, патрэбнага пры капітальным рамонце танкаў. Станкі прывезлі з майстэрняў, што былі каля купернага тэатра. Увесь састаў увечары ўжо быў гатовы да адпраўкі, калі ўгары пачалі гусці савецкія бамбардзіроўшчыкі. Яны скінулі ракету на парашуце, якая заліла святлом усю Таварную станцыю, і сталі бамбіць.

Калі Вольф вылез з бліндажа, што быў накрыты рэйкамі і бярвеннем у некалькі накатаў, на станцыі ў многіх месцах лютавалі пажары. Увесь састаў гарэў. Адна платформа была разнесена ўшчэнт,— відаць, ад прамога пападання бомбы, а з двух вагонаў выбуховай хваляй сарвала дахі. Паравоз быў увесь пасечаны асколкамі — каля яго ад водсветаў агню блішчала лужа вады.

Цэлую ноч, у перапынкі між бамбёжкамі, праваждаўся Вольф з саставам, пакуль удалося адцягнуць убок вагоны.

— Тут, бадай, не саладзей, чым на фронце,— сказаў Вольфу немец-чыгуначнік.

— Можаце лічыць, што фронт ужо тут,— панура адказаў маёр.

Удзень адна акалічнасць крыху палепшыла пануры настрой маёра. Палепшыў яго прадстаўнік фірмы «Ост», які папрасіў у маёра вагон, каб пагрузіць маёмасць фірмы. Як ні быў Вольф прыгнечан апошнімі падзеямі, ён, чалавек практычны, адразу зразумеў, што тут можна пажывіцца. Калі яшчэ будзе такая зручная сітуацыя?

Трэба сказаць, што маёр даўно збіраў капітал, употай марачы з часам пайсці ў адстаўку і купіць фабрыку,— таму ён быў рады кожнаму, хто дапамагаў яму пабагацець. Ведаючы, што прадстаўніку фірмы ўсё роўна інакш няма як выкруціцца, Вольф аднёсся да яго прапановы нібыта абыякава.

— Сто тысяч марак?..— Вольф высакамерна пакруціў галавою. Для такой сумы ён не стане бясчэсціць сябе — афіцэра — ды яшчэ браць гэтакія клопаты.

Не даў згоды ён і на сто пяцьдзесят і на дзвесце. Калі ж прадстаўнік фірмы назваў дзвесце пяцьдзесят, Вольф як бы завагаўся.

— Рэйхсмаркамі? — запытаўся ён.

— Палову рэйхсмаркамі, палову акупацыйнымі...

— Не, толькі рэйхсмаркамі, усё — рэйхсмаркамі.

Прадстаўнік сказаў, што гэта вельмі дарага, але рабіць не было чаго, прышлося згадзіцца.

— Ну вось, дамовіліся!..

Вольф, атрымаўшы грошы, пералічыў іх і паведаміў, калі будзе дадзен вагон для пагрузкі і калі ён павінен адправіцца.

— Я спадзяюся, што наша «ўмова» будзе між нас. Калі яе раскрыюць, вам прыдзецца расплачвацца не танен, чым мне...

Служачы фірмы паабяцаў, што ўсё будзе ціха і ніхто пра гэта не даведаецца.

Але Вольф не адчуваў вялікай радасці... Праз гадзіны дзве зноў пачалася бамбёжка. А ўночы самалёты прыляталі так часта, што ніхто ўжо не аб'яўляў трывогі.

Давялося амаль усю ноч сядзець у бамбасховішчы.

3

Першага ліпеня Вольф вярнуўся да Шульцэ. Ён далажыў палкоўніку, што прышоў у яго распараджэнне.

— Распараджэнне... Распараджэнне...— непрыхільна прабурчаў Шульцэ.— Нашто вы мне?

Вольф, які яшчэ не забыў першага знаёмства з ім, прамаўчаў. Але Шульдз -гэта, здаецца, таксама ўзлавала.

— Нашто?!.— паўтарыў Шульцэ.— Нашто, адкажыце? Га-а, маўчыце!..

— Вы ведаеце, гэр палкоўнік...

— Нічога я не ведаю. Я нават не ведаю, для чаго я тут! Так, так, не ведаю. І нашто я будаваў, галаву ламаў,— таксама не разумею.

— Як «нашто»?

— А так — нашто? Рускія ўжо занялі Барысаў. Яны каля Мінска, абыходзяць Мінск, а нашы грэнадзёры — асноўныя сілы — яшчэ па той бок Бярэзіны. Яны адсталі! Рускія апярэдзілі іх! — Шульцэ застагнаў ад ярасці: — Камуністы падступяць першымі да амаль пустых траншэй... О, пракляцце! Іх спаткаюць у горадзе — пустыя доты!.. Вы разумееце, што гэта, чорт вазьмі?

— Так, гэр палкоўнік! Гэта — страшна.

— Страшна?! Гэта — ганьба. Ганьба ўсёй германскай арміі. Дык вось я і пытаюся — для чаго вы вярнуліся да мяне, для чаго?

— Дазвольце быць свабодным?

— Так, так — выбірайцеся. І ад мяне, і наогул — з горада, пакуль не позна.

Увечары Вольф сабраўся ехаць з горада. Ашалелы Шульцэ, вядома, меў рацыю,— сапраўды, трэба спяшацца, бо рускія вось-вось могуць перарэзаць дарогі на захад.

Горад здаваўся зусім мёртвым. Дамы былі цёмныя і пустыя. Ніхто цяпер у іх не жыў, ніхто іх не ахоўваў. У кожным доме ляжалі без прыгляду каштоўныя рэчы, якія можна было лёгка ўзяць, якія, здавалася Вольфу, амаль належалі яму. Трэба толькі ўзяць ды пакласці ў машыну.

Ён даўно ўжо звык да лёгкай спажывы, да грабежніцтва, якое лічыў самай натуральнай справай. Пакідаючы гасцініцу, Вольф выцягнуў з лепшага нумара дыван і кінуў у машыну.

Ад'ехаўшы на Рэспубліканскую, ён спыніў машыну І забег у дом, які яму здаўся больш вартым «увагі». Адчыніў адны дзверы, а другія, якія былі замкнуты, выламаў, націснуўшы з усяе сілы плячом. Пасвяціў ліхтарыкам, пачаў абшукваць усе куткі. Узяў у рукі талерку,— убачыў, што гэта звычайная танная пасудзіна, кінуў на падлогу. У гардэробе выбраў некалькі плаццяў, ускінуў на руку.

Збегшы да машыны, перадаў іх шафёру.

— Вось, захавай... Ды глядзі, каб не папсаваліся, чуеш ты? А я яшчэ пашукаю; можа, вылаўлю што-небудзь яшчэ...

Ён зайшоў у другі дом, у якім не знайшоў нічога «цікавага», потым зазірнуў у невялікі драўляны асабняк. Вочы Вольфа разгарэліся ад прагі нажывы, рукі задрыжалі. Тут жыў, відаць, немец, які, уцякаючы, кінуў амаль усё на месцы. Ну, што ж, Вольф падбярэ за яго.

Прамень ліхтарыка заблішчаў на пазалочаным амуры: гадзіннік! Які дарагі гадзіннік! Вольф працягнуў растапыраную руку і паспешліва схапіў.

І тады ж нечакана бліснула полымя, ударыла ў галаву, у жывот, тузанула назад.

Калі сюды ўбег шафёр, Вольф быў мёртвы. Ён падарваўся на нямецкай жа міне...

4

З кожнай гадзінай у Мінску станавілася ўсё трывожней. Чым бліжэй падступаў фронт, тым больш звярэлі акупанты.

Яшчэ да таго, як быў вызвален Барысаў, гітлераўцы пачалі паспешліва мініраваць важныя пабудовы горада. Яны рыхтавалі да падрыву не толькі прадпрыемствы, якія ім удалося так-сяк наладзіць, але і амаль усе ўцалелыя вялікія жылыя будынкі. Мініравалі Дом Урада, Дом афіцэраў, карпусы Інстытута народнай гаспадаркі, Міністэрства лясной прамысловасці...

Пачынаючы з раніцы першага ліпеня — то ў адным квартале, то ў другім — удзень і ўночы сталі грукатаць моцныя выбухі. Уздрыгвала пакутлівa зямля. То над адным, то над другім будынкам ускідвалася чорная хмара дыму і попелу і пачыналі асядаць, абвальвацца сцены, рушыцца столі... Фашысты быццам помсцілі гораду за свае няўдачы на фронце, за паражэнні. З садысцкай лютасцю яны наносілі знявечанаму гораду новыя раны.

Многія будынкі падпальвалі. Усе тры апошнія ночы з вечара да світанку неба над Мінскам і вуліцы крывавіліся зарывамі пажараў. Днём над горадам, уздымаючыся высока ў блакіт, віселі, плылі жахлівыя чорныя хмары. І гэтыя зарывы, і хмары былі відаць на дзесяткі кіламетраў вакол...

— Эх, звяры! — шаптала з нянавісцю Наталля Міхайлаўна, пазіраючы на лютае полымя, якое толькі што ўзнялося паблізу.— Ні крыхоткі сумлення... нічога чалавечага... Звяры сапраўдныя.

— Фашысты праклятыя! — адгукнулася Залеская.

Яны былі ў маладым, падобным на хмызняк, вішанніку, што рос ускрай агарода за хатай Залескай. У вішанніку, дзе было гусцейшае галлё, Залеская выкапала, закідаўшы зямлю травою, неглыбокую яму, тут яны цяпер сядзелі. Было ўжо блізка апоўначы, але Людка, якая прымасцілася на каленях у бабулі, усё яшчэ не спала. Наталля Міхайлаўна паправіла накінутую на плечы ўнучкі хустку і лёгенька прыгарнула дзіця да сябе,

— Не спіць? — Залеская ўздыхнула.— Малая, а і то ўсё, здаецца, разумее. Мусіць, ёй таксама страшна...

— А то вы думаеце, не страшна?.. Другі дзень — заўважаю — яна нейкая асабліва ціхая. І цяпер за ўвесь вечар слова не сказала... Трывожыцца...

— З самага маленства!..— зноў уздыхнула Залеская.— Ды яшчэ каб ведаць, чым гэта ўсё скончыцца!..

Наталля Міхайлаўна нічога не сказала. «Каб ведаць!» У тым і гора, што невядома, як далей будзе. Трываць ужо, напэўна, мала,— яшчэ, можа, некалькі дзён,— але ці пашчасціць дажыць да лепшых.

Недалёка, лявей вакзала, пачало займацца яшчэ адно зарыва.

— Гэта, мусіць, ва ўніверсітэцкім гарадку... Божа мой, божа, ды яны ж, праклятыя, відаць, ніводнага дома не мінуць!

Залеская загаварыла пра іншае:

— Эх, Наталька, як я шкадую, што не ўдалося выбрацца з горада... І трэба ж было, каб гэтыя гестапаўцы-сабакі вярнулі нас назад?..

Наталля Міхайлаўна з Залескай і Людкай хацелі сёння ўдзень выйсці з Мінска, каб перабыць гэтыя страшныя дні ў Лошыцы. Яны ішлі быццам бы прадаць тое-сёе ды купіць хлеба, але наткнуліся на патруль з эсэсаўцаў, які затрымаў іх і загадаў вярнуцца. Аказалася, што вакол Мінска ўсюды на выхадах стаіць моцная варта.

А потым, калі яны ўжо вярнуліся, Залеская ад суседкі пачула, што эсэсаўцы пачалі акружаць горад. Што яны яшчэ задумалі? Мабыць, нейкую новую бяду, можа, горшую за тое, што было раней. Добрага ад іх чакаць не прыходзіцца.

— Званочак ты мой...— прашаптала Наталля Міхайлаўна, з пяшчотай і сумам прытульваючы да сябе Люду.

Сяргей у гэты час быў на «працы». Каля яго, тоячыся ў рэдкім чырванаватым змроку, ляжалі і сядзелі яшчэ некалькі хлопцаў, а вакол чарнелі, як помнікі, нейкія абгарэлыя каменныя слупы, гарбаціліся горкі бітай цэглы. Між цэглы ўжо густа буяў палын.

— Чаму яны не ідуць? — нецярпліва зашаптаў адзін з хлопцаў.— А можа, Сяргей, яны прайшлі дзе-небудзь у другім месцы...

— Нідзе не пройдуць,— супакоіў Сяргей.— Толькі тут...

Час поўз вельмі марудна. А немцы ўсё не паяўляліся. Ніхто, вядома, не хацеў, каб яны былі тут, але ўсе ведалі, што яны абавязкова прыдуць сюды, і таму іх чакалі і здзіўляліся, чаму дасюль няма. Сяргей непакоіўся аб тым, каб яны не прышлі вялікай купай, скажам, цэлым узводам, тады іх можа і не ўдасца адбіць, і ўся гэтая справа, для якой Сяргей сабраў сюды сваіх хлопцаў, сваю падпольную групу, скончыцца сумна...

Наперадзе за плотам то ярчэй, то цьмяна чырванелі маўклівыя цагляныя карпусы, у іх вялікіх, густа пераплеценых чорных вокнах бегалі неспакойныя водбліскі пажараў. Гэту фабрыку гарком даручыў Сяргею: фабрыку і яшчэ школу, якая ўзвышаецца вунь за хатамі. Іх даручылі выратаваць Сяргею і яго баявым таварышам... Там каля школы ёсць таксама яго людзі: два надзейныя хлопцы...

Недзе ў сярэдзіне горада, прымусіўшы зямлю здрыгануцца, грымнуў выбух.

— Гэта на вуліцы Карла Маркса... Мусіць — гарадская ўправа.

Толькі пасля паўночы з'явіліся тры салдаты, адзін з якіх нёс каністру, а другі мяшок за спіной. Сяргей, прыўзняўшыся на каленях, адразу пачаў уважліва сачыць за імі...

Хутка стала відаць, што яны ідуць не куды-небудзь, а якраз да прахадных варот. Яны спяшаліся.

— Факельшчыкі!..— шапнуў Сяргей. Ён цяпер ужо не сумняваўся, што гэта яны, подлыя падпальшчыкі.

Хлопец ускінуў аўтамат, прыцэліўся, адчуваючы, як лёгка, вольна зрабілася ў грудзях. Амаль разам з чаргой аўтамата гулка ляснулі два вінтовачныя стрэлы. Той, які быў з каністрай, адразу паваліўся, а два другія, ледзь толькі зразумелі, што здарылася, кінуліся назад. Але ім удалося адбегчы недалёка...

— Ляжаць! — прамовіў Сяргей. У гэтую хвіліну ён быў такі шчаслівы, як, мусіць, ніколі за ўсю вайну. Сяргей прыслухаўся: навокал усё здавалася такім, як і да стрэлаў. Было быццам бы спакойна,— відаць, немцаў не ўстрывожылі гэтыя некалькі стрэлаў...

Упэўніўшыся, што поблізу ўсё ціха, Сяргей, паставіўшы дазорных, якія сачылі б за вуліцай, з двума хлопцамі сцягнуў трупы з дарогі і схаваў у руінах.

— Так будзе лепш: ніякага знаку... Ну, што на вуліцы, ціха? — запытаўся ён, стараючыся быць спакойным, у аднаго дазорнага, які падпоўз сюды.

— Ды покуль ціха...

— Ну, то добра...

Адзін хлопец сказаў, што можна цяпер ісці дамоў. Але Сяргей не дазволіў.

— Пачакаем... Як бы яны сюды не паслалі яшчэ каго. А то зараз, чаго добрага, заўважаць «страту».

Адным словам, радавацца рана!..— А сам усё ж поўніўся радасцю.— Трэба быць напагатове.

Яны не адыходзілі да раніцы. І днём былі. Толькі не ўпяцёх, а ўдвух, і не каля слупоў, а ў кустах малінніку, на апусцелым агародзе. Назіралі...

## 5

Рэйзе спяшаўся. Ён меў весткі, што рускія ўжо абыходзяць горад і што, мусіць, хутка апошнія шляхі будуць перарэзаны.

Штурмбанфюрэр выцягнуў з-пад ложка тры напакаваныя чамаданы. Азірнуўся, ці не забыў чаго каштоўнага, забег у другі пакой, у якім каля століка па-ранейшаму вісеў фатаздымак — Готберг

у параднай форме. Хутка акінуўшы вачыма раскіданыя рэчы, Рэйзе сарваў з цвіка гумавы плашч і вярнуўся назад.

У пакой забег шафёр, Рэйзе загадаў яму ўзяць два чамаданы — ён паказаў якія. На хвіліну задумаўся, ці не прыдаецца яму адказваць заўтра як панікёру і баязліўцу, які дачасна кідае горад?

Не, ён не застанецца. Ён не будзе сядзець да таго часу, калі ўжо не стане куды ўцякаць. Праз дзень — два чырвоныя тут створаць, відаць, тое ж, што было ў Віцебску. «Кацёл»... А ён не хоча пападаць у «кацёл», не, не, чорт пабяры. Чаго ж ён яшчэ стаіць, як дурань, ды раздумвае?

Нечакана зазваніў тэлефон. Рэйзе падбег да яго.

— Штурмбанфюрэр Рэйзе? Гэта вы, гэр штурмбанфюрэр? Вы?

— Я, Рэйзе.

— Гэр штурмбанфюрэр! — без меры ўзрадаваўся ў трубцы тэлефона голас, які за гэтым назваў сябе начальнікам шпіталя,— У мяне ляжаць раненыя... Сто дваццаць чалавек раненых!..

— А мне што да гэтага?

Голас сказаў, што яму параілі пазваніць Рэйзе. Гэр штурмбанфюрэр быццам бы можа дабіцца для іх вагон ці два. Готберг даў яму вялікія правы. Акрамя таго, у Рэйзе — сказалі — ёсць некалькі машын у лагерах.

— Нічога ў мяне няма! — рэзка крыкнуў Рэйзе.— І мне няма калі гэтым займацца...

— Раненыя, гэр штурмбанфюрэр! Сто дваццаць чалавек!..

— Званіце каму след.

— Нідзе нікога не даклічашся. Я вас прашу. Сто дваццаць чалавек — салдаты, афіцэры... Адзін — палкоўнік...

— Я сказаў усё!..

Рэйзе кінуў трубку.

Ён схапіў чамадан і збег па сходках на двор. Шафёр ужо сядзеў за рулём «мерседэса». Рэйзе запаліў ліхтарык, праверыў, дзе пакладзены чамаданы, агледзеў замкі на іх. Усё ў парадку. Тады ўскочыў у машыну, паставіўшы трэці чамадан, самы важны, каля ног.

Шафёр, уключыўшы фары, пачаў ужо разварочваць машыну, як на святло з цемры выскачыла постаць. Рэйзе хапіўся за пісталет.

— Гэр штурмбанфюрэр... Адзін момант... Не трывожцеся, гэта я — Кухта... Памочнік прэзідэнта...— соладка і хутка запеў чалавечак.

— Што трэба? — нецярпліва перабіў Рэйзе.

— Прашу вас... Ратуйце — адно месца... Адно месца...

— Якое месца?

— У машыне... Падвязіце хоць бы да Баранавіч... Не мог сесці ў поезд... Буду дзякаваць бясконца. Век не забуду.

Рэйзе не адказаў. Ён крыкнуў шафёру: «ехаць», і машына адразу кранулася.

Памочнік «прэзідэнта» ў адчаі схапіўся за борт акенца і, не выпускаючы яго з рук, пацягнуўся следам. Рэйзе пачаў біць кішанёвым ліхтарыкам па яго руках, але той упарта не хацеў выпускаць борта. Нарэшце, войкнуўшы, шмякнуўся на зямлю.

Насустрач Рэйзе ляцела асветленая пажарам вуліца.

## Раздзел III

### I

Шабуніха амаль не звярнула ніякай увагі на легкавыя машыны, што спыніліся непадалёк. Столькі машын прайшло перад ёй за гэты дзень, за гэтую гадзіну, пакуль яна стаіць тут каля свайго селішча. Але яна раптам пачула незнаёмую, нібы нямецкую, гаворку і насцеражылася: «Хто гэта?»

Шарсцяныя фрэнчы колеру хакі, з адваротамі, з гальштучкамі, кароценькія куртачкі, фуражкі з нябачанымі раней кукардамі — каронамі, берэты, ссунутыя набок.

Шабуніха павяла позіркам па незнаёмых тварах, чакаючы, што будзе далей.

— Ма-ам, немці...— спалохана заныў Валодзька, якога Аўдоцця трымала на руках. Ён шчыльна прыціснуўся да яе грудзей.

«Няўжо?.. Але чаго з імі нашы камандзіры, ды яшчэ такія ветлівыя?» Яна кінула трывожны запытальны позірк на юнага русявага лейтэнанта, які быў пры іх: «Хто гэта?»

— Не бойся, малыш, мы не немцы.

Адзін з незнаёмых, з поўным, крыху бледнаватым тварам, з паголенай галавой, выняў з кішэні шакаладку і паказаў Валодзьку.— Вазьмі, гэта вельмі смачна,— афіцэр пры гэтым прыцмокнуў: — вельмі смачна!..

Але малы глядзеў на яго нахмурана, з-пад ілба, нібы не разумеючы.

— Вазьмі, сыночак,— пяшчотна сказала маці, і Валодзька, хоць і не зусім упэўнена, узяў. Незнаёмы даў шакаладку і Вольцы. Тады, пазіраючы то на Аўдоццю, то на Аксінню, якая падышла да яе, нагнаўшы на твар прасцяцкую ўсмешку, генерал растлумачыў:

— Мы вашы саюзнікі. Вялікабрытанія...

— А-а?! Англічане,— адгукнулася Аксіння.

— Англічане! Англічане!.. Ваша армія ваюе з немцамі на ўсходзе, а мы — на захадзе — Нармандыя... Другі фронт — чулі?

— Чулі,— адказала Аксіння, — як не чуць?

— Другі фронт! Разам!

— Разам,— згадзілася, аб нечым задумаўшыся, Шабуніха.— Чакалі мы яго. Доўга чакалі...

— Дачакаліся! — аптымістычна ўсміхнуўся адзін з англічан.

— Дачакаліся... Толькі... крыху позна...

— Позна? Чаму?

— Чаму? Ды як вам сказаць, дарагі... пан, ці што... не ведаю, як вас зваць...

— Можаце зваць, пан генерал... Дык я слухаю.

— У нас кажуць: дарагая лыжка к абеду.

— Дык яны ж, цётка Аўдоцця, з лыжкай якраз і прышлі к абеду,— горача, звонкім голасам падхапіла Аксіння.

— Што праўда, то праўда — к абеду...— задуменна згадзілася Шабуніха.

— Вы, місіс, рана сабраліся... святкаваць...

— Вы не крыўдуйце... Мы, жанкі, такія: што ў галаве, тое і на языку... Ляцяць, бачу, гітлерцы назад... Ні Масквы ўжо ім не трэба, ні Парыжа, нічога, абы толькі душу голую данесці... Тут, як той казаў, першы фронт, і другі, і пяты. Насыпалі гароху паганаму Атроху!

— Хвалю, місіс,— вы, аказваецца, не толькі маці, але і — палітык!

— Які я палітык,— хітнуўшы галавой, журботна адказала яна.— Вось мая палітыка,— яна кіўком паказала на Валодзьку, потым павярнулася да агарода,— і вунь.

Некаторыя з англічан засмяяліся. Пагалены таксама ўсміхнуўся нейкай няпэўнай, слізкай усмешкай. Калі ўсе сціхлі, азірнуўся навокал і сказаў тонам спачування:

— Відаць, вашы палітычныя справы, місіс, ідуць без поспеху. Бедна жывеце, місіс... Кепска.

— Адкуль жа яму, багаццю, быць? Папалілі фашысты ўсё...

Генерал абыякава зірнуў на нядаўна складзены на папялішчы падмурак хаты і свежаачышчаныя бярвенні, што яшчэ ляжалі на зямлі. Абышоў вакол паграбка, асцярожна спусціўся на некалькі ступенек уніз, зазірнуў у сярэдзіну яго, але ўвайсці не адважыўся. Падняўшыся ўгару, выцер хусцінкай рукі, нібы яны запэцкаліся, бегла акінуў позіркам новенькі выпрасаваны касцюмчык.

— Кепска, вельмі кепска жывеце...

Шабуніха прамаўчала.

— Але не трэба вешаць галавы, місіс. Ёсць многа людзей, якія схіляюцца з павагаю перад вашымі пакутамі і моляць неба пра шчасце для вас... Помніце, што вы не адзінокія,— супакоіў ён, падружбацку ўсміхаючыся.— Уся Вялікабрытанія, якая паслала нас сюды, шчыра спачувае вам і падзяляе ваша гора. Я ведаю, што яна хутка працягне руку дапамогі. Так, так, мы дапаможам... Верце майму слову.

— Дзякуй вам на добрым слове...

— Гэта, місіс, не толькі словы.

Уздыхнуўшы, яна прамовіла, нібы разважаючы сама з сабой:

— Бедна жывем, кажаце?.. Куды ж горш?..— яна сумна павяла позіркам па селішчы. — Нашчэнт вымеў, ірад!

— Нашчэнт. І не адну вашу вёску...

— Не адну. І гарады многія, мусіць?

— Усе гарады ад Масквы. Амаль палавіну Расіі. Найбольш важную частку... Мне здаецца, што становішча ваша вельмі цяжкае. Больш цяжкае, чым вы думаеце.

— Чаму гэта?

— Чаму? Я павінен прызнацца, што не гэтакі аптыміст, як вы. Я думаю са смуткам, місіс, пра тое,— колькі спатрэбіцца часу і сілы, каб вам зноў падняцца, вярнуць усё тое, што знішчыла вайна...

— Цяжка будзе, праўда. Але — што ж. Хіба гэта — у першы раз.

— Што — у першы раз?

— Ды тое, што цяжка нам. І што сілу напяць трэба...

— Але вы забываеце, місіс, як вы паслабелі?..

— Паслабелі? — перапытала яго Шабуніха.

— Не наадварот жа?

— Дзе паслабелі, а дзе, можа, і дужэй зрабіліся. За Масквой нашы, кажуць, сталі яшчэ мацней.

— Казала ліха, што не быць дабру,— адгукнулася Аксіння.— Эх, чаго плакаць! Пераб'емся як-небудзь. Не можа ж быць, каб не адужалі. Не калекі ж, і не паны, рукі ёсць, слава богу.

— Няхай не адразу, а адужаем. Быць не можа, каб не адужалі...

— Усё, як было, зробім. Адбудуемся. Праўда, цётачка?

— Дай бог,— пажадаў скептычна генерал і неспадзявана пачціва дадаў, зірнуўшы на юнага русявага лейтэнанта. — Мне падабаецца гэты... аптымізм вашых людзей, іх дзіўная, амаль фанатычная вера...

— Цяпер аб адным трывога,— сказала як бы з роздумам Шабуніха,— каб фашысты не вярнуліся...

— Не прыдуць, будзьце спакойны,— адказаў англічанін так, быццам лёс Шабунісі залежаў ад яго.

Генерал развітаўся з Шабуніхай і Аксінняю і рушыў са ўсёй світай на суседні двор.

2

Гасцей чакаў Шчарбацюк. Яму хацелася ехаць наперад, куды пайшла дывізія, а тут прыходзілася сядзець,— сядзець і чакаць, калі ў яго столькі клопатаў! Але разам з гэтым Шчарбацюка хвалявала і другое: цікаўнасць да будучай сустрэчы, бо як-ні-як гэта не звычайная справа, а дыпламатычная,— а яму такімі справамі яшчэ не даводзілася займацца.

«Дыпламат?..— падумаў ён пра сябе скептычна.— Які я дыпламат? Я нарадзіўся для таго, каб рубіць вугалёк ці войскам кіраваць...» Ён падаўся да радыста, які сядзеў у машыне, каб загадаць звязацца з палком Сібірака і даведацца пра абстаноўку.

Але тут яму сказалі, што едуць, напэўна, англічане. Шчарбацюк вышаў на вуліцу. Сапраўды пад'язджалі некалькі «вілісаў» з афіцэрамі ў англійскай форме і англійскімі сцяжкамі на радыятарах.

Шчарбацюк хутка, па-гаспадарску акінуў вокам групку сваіх афіцэраў, што стаялі побач, кінуў аднаму з іх незадаволена:

— Чаго сутулішся, Братко?..

Калі першая машына, віскнуўшы тармазамі, спынілася, Шчарбацюк ступіў да яе. «Гэты?» — запытаўся ён вачыма ў нашага капітана, які сядзеў поруч з англічанінам. Той кіўнуў на наступную машыну. Камандзір дывізіі падаўся да паўнатварага, пешчанага чалавека, які ўжо вышаў з «віліса» і набліжаўся да яго; Шчарбацюк заўважыў на выгнутым палявым пагоне англічаніна генеральскую зорку.

— Генерал-маёр Шчарбацюк,— сказаў камдыў.

Англічанін на чыстай рускай мове назваў сябе, і Шчарбацюк сваёй вялікай шахцёрскай рукой пацiснуў пухлую руку госця.

— Я, як і мае салдаты і афіцэры... вітаю вас...— загаварыў нязвыкла Шчарбацюк,— ...а таксама ваш народ, які змагаецца разам з намі... за адну, вялікую справу...

Англічанін, далікатна ўсміхаючыся, даслухаў да канца і адказаў. Так, ён таксама рады,— рады, што можа вітаць, што можа бачыць слаўных салдат рускіх саюзнікаў.

Шчарбацюк па чарзе прадставіў англічаніну нашых афіцэраў, назваўшы званне і прозвішча кожнага, пасля чаго госць пазнаёміў яго са сваімі.

Камандзір дывізіі запрасіў англічан у садок. Тут між двух немаладых яблынь было накрыта новымі прастынямі некалькі састаўленых у рад сялянскіх сталоў, на якіх цяпер узвышаліся густым строем

пляшкі гарэлкі. Закуска была простая, салдацкая — амаль усё кансервы, і гэты недахоп гаспадары спрабавалі, відаць, згладзіць, выставіўшы шчодра гарэлкі.

Шчарбацюк, паказаўшы месца генералу, папрасіў прабачэння за сціплы пачастунак:

— Цяжка сабраць што-небудзь лепшае, генерал,— увесь час на калёсах. Нават спаць, прызнаюся, прыходзіцца ў машыне...

— А гэта, калега, і добра, што стол такі строгі, строгі па-франтавому... Лепш за ўсё — проста пад небам...— генерал сеў, зняў фуражку, выцер хусцінкай бліскучую галаву.

Афіцэры — нашы і англійскія — сталі ўперамежку рассаджвацца таксама. Шчарбацюк не садзіўся, а па-гаспадарску сачыў, як уладжваюцца госці, ці ўсім хапае месца.

Першы тост Шчарбацюк сказаў за дружбу савецкага і англійскага народаў. Нашы і англічане, стоячы, працягвалі адзін да другога шклянкі, дзынкаў тонкі звон шкла. То там, то тут чуліся воклічы:

— За магутную Савецкую Расію. За Чырвоную Армію!

— За саюзную Англію!

— За дружбу!

Хутка Шчарбацюк адчуў, што за сталамі запанаваў дух узаемнай сяброўскай павагі, і сэрца яго, спачатку насцярожанае, нечакана размякла, падабрэла. Ён сачыў за ўсім ўжо амаль расчулена.

З кожным тостам, якія ішлі адзін за адным, гамонка і воклічы за сталом усё ажыўляліся і мацнелі. Узрушаны тостам і віном, малады капітан-пехацінец, што сядзеў насупраць Шчарбацюка, па-сяброўску абняў англічаніна і, усміхаючыся, пачаў штосьці яму гаварыць.

Устаў англійскі генерал і папрасіў выпіць за выдатнага савецкага камандзіра дывізіі Шчарбацюка. Шчарбацюк паружавеў: «выдатны!», — але нічога не сказаў.

— Я не выпадкова, калега, сказаў: за выдатнага, — загаварыў пасля тосту англічанін да Шчарбацюка.— Кожны, хто ўдзельнічае ў гэтай аперацыі, мае права на самую вялікую чэсць, — ён праслаўляе сябе не толькі перад адным сваім народам, а перад чалавецтвам. Ваша перамога здзівіла і ўразіла ўвесь свет. Яна настолькі бліскучая, што мы, сучаснікі і саюзнікі, ад душы захапляемся і ганарымся вамі...

Словы англічаніна ліліся лёгка, журчэлі, нібы лагодны ручаёк,— яны прыемна хвалявалі добрае, чулае да хвалы генеральскае сэрца. «Скажы ты, як вядзе, нібы вершы чытае»,— з прыхільнасцю падумаў Шчарбацюк.

Ён неспадзеўкі ўбачыў радыста, які дзяжурыў каля сваёй рацыі, і ўспомніў, што трэба ехаць, што, чакаючы гасцей, якія запазніліся, ён

адарваўся ад палкоў,— трэба было б звязацца з Сібіраком, каб даведацца, як у яго справы.

Але лагоднасць, расчуленасць, крыху захмараныя звыклымі клопатнымі думкамі, усё ж не пакідалі яго.

«Здаецца, атрымліваецца добра,— праплыло ў галаве. — Няхай ведаюць, як умеюць рускія сустракаць...»

«Камандарм будзе пытацца, як спаткаў іх»,— недарэчы ўзнікла думка і перарвалася. Яе перабілі. Англійскі генерал папрасіў расказаць пра Барысаўскую аперацыю...

Калі Шчарбацюк, апісаўшы аперацыю, адказваў на пытанні, добра п'яны ўжо капітан-англічанін, чарнявы, з вусікамі, ні то запытаў, ні то заявіў:

— Кажуць, тут зусім невялікія сілы немцаў...

— Гледзячы, хто кажа...— адразу ажывіўся Шчарбацюк, напаўняючыся баявым запалам.— Калі гітлераўцы кажуць, то яны могуць тое ж сказаць і пра ваш фронт з яшчэ большым правам...

— Так?! — здзівіўся капітан.

— Вам гэта здаецца дзіўным.

— Гэта — цікава.

— У Нармандыі ў іх усяго трыццаць дывізій — супроць армій двух дзяржаў, а тут, у адной Беларусі, яны маюць пяцьдзесят... ці лепш — было ў пачатку нашага наступлення... Пяцьдзесят — нязначныя? Яны скромнічаюць!..

Ветліва ўсміхаючыся, загаварыў англійскі генерал:

— Я не магу запярэчыць вам: даныя аб колькасці войск, вядома, няпоўныя і... недастаткова правераныя... Але мне таксама, прызнаюся, даводзілася чуць ад палонных — паўтараю: «чуць»,— бо мая думка пра майстэрства вашых войск самая высокая... Даводзілася чуць, што вы іх раздавілі колькаснай перавагай.

«Здаецца, ён трошкі сказаў з таго, што на душы»,— мільганула ў Шчарбацюка. Камандзір дывізіі хвіліну памаўчаў і, як бы раздумваючы, загаварыў павольна:

— Ясна, перавага і колькасная і матэрыяльная была...

— Брава! Гэта шчыра! Шчыра па-руску!— крыкнуў адзін з англічан.

— Так, так. Перавага была, інакш не было б чаго і сунуцца ў наступленне. Але адной колькаснай перавагі, я думаю, мала...

Шчарбацюк правёў позіркам па тварах гасцей, якія чакалі яго слоў. На хвіліну ў яго вачах з'явілася штосьці вясёлае і насмешлівае.

— Гэта добра відаць, напрыклад, з вашага вопыту...— За сталом зрабілася вельмі ціха.— Возьмем хоць бы Касіна[3]. Нядаўняе. Там у вас было, як я ведаю, дзве арміі — амерыканская і англійская. А немцаў у некалькі разоў менш. Ну, а як ішлі там справы?

— Гэта проста адна з нашых ваенных няўдач,— прамармытаў у адказ англічанін-генерал.

— Даруйце, генерал, што я напомніў. Мяне гэтая аперацыя зацікавіла толькі як прыклад. Як прыклад да размовы, што такое перавага...

У гэты час Шчарбацюку прынеслі радыёграму. Гэта было данясенне ад Скорабагатага аб тым, што яго полк заняў Беларэчча...

«Трэба ехаць. Пакіну за сябе начальніка палітаддзела і паеду. Хвіліна якраз зручная...»

Шчарбацюк устаў:

— Вельмі прашу прабачыць, сябры,— сказаў ён, устаўшы і заклапочана зірнуўшы спачатку на генерала, потым на іншых англічан.— Але мне трэба неадкладна ехаць... Мяне чакаюць неадкладныя справы.

— Разумею, перш за ўсё — вайна, — усміхнуўся англійскі генерал, падаючы руку на развітанне.

## Раздзел IV

### I

Вася стаяў каля дрэва, сціскаючы ў руках аўтамат, і чакаў гітлераўцаў. Што ж, ён жывым не дасца ім у рукі. Няхай паткнуцца сюды, ён сустрэне іх. Шкада толькі, што ў аўтамаце адзін дыск, ды яшчэ не поўны. Эх, і ніводнай гранаты не засталося! Непадалёк раптам пачуліся частыя гулкія выбухі гармат і страляніна з кулямётаў. Хто гэта страляе? Ермакоў?.. Не, не трэба прыслухоўвацца да гэтага. Вось-вось паявяцца з-за дрэў аўтаматчыкі, трэба сачыць за імі. Але што гэта яны марудзяць? Яны маглі ўжо быць тут. Можа, абыходзяць? Не, здаецца...

Нямецкія грузавікі выбіраліся з ляска. Вася ў прагаліны між дрэваў бачыў: на дарозе ўзнялася паніка. Павозкі спяшаліся абагнаць адна адну, салдаты з усіх сіл лупцавалі коней, крычалі, лаяліся. Там і тут грузавікі і павозкі зварочвалі з дарогі і ехалі проста па полі.

Неўзабаве сюды вылецела, страляючы з кулямётаў, некалькі танкаў. Немцы пачалі кідаць і павозкі і грузавікі, беглі куды глядзяць вочы. Дзе-ні-дзе салдаты ўздымалі рукі.

---

[3] Касіно — горад у Італіі, у раёне якога англа-амерыканцы ў 1944 годзе вялі баі з немцамі.

«Што гэта яны?.. Здаюцца?.. Што там за танкі? Нашы?.. Не, не можа быць. Яны ж учора былі далёка... А чые ж? Бач, што робіцца з гітлераўцамі?.. Няўжо нашы?!»

Вася, забыўшыся на ўсё, кінуўся да ўскраю лесу, упіўся вачыма, як зачараваны, у гэтыя страшныя для немцаў машыны. Цяпер было ясна — нашы танкі!

Але танкаў было няшмат: усяго пяць машын. Яны, амаль не спыняючыся, прайшлі наперад, і Васіль зноў астаўся адзін. Навокал, як і раней, былі гітлераўцы.

«Эх, чаму я не падбег адразу да танкістаў,— няхай бы ўзялі мяне! Правароніў, разявака!» Адчуваючы, што зрабіў вялікую памылку, ён, азіраючыся, пачаў пакрыху адыходзіць ад гэтай мясцінкі — ад зарасніку да зарасніку.

Праз паўгадзіны хлопец быў у полі. Ісці адсюль проста да пасёлка ён не мог, бо там можна было наткнуцца на немцаў,— ён нават бачыў недалёка ў тым баку невялікую групу. Стараючыся зайсці ў пасёлак з іншага кірунку, Вася прабіраўся па разоры між жыта, з якога ён час-ад-часу асцярожна вытыркаўся, каб агледзецца.

Калі ён наблізіўся да дарогі, то раптам убачыў на бульбяным полі некалькі чырвонаармейцаў. Васіль, не чуючы пад сабою ног, без меры ўзрадаваны, трывожачыся, што і гэтыя байцы, як раней танкі, могуць куды-небудзь знікнуць, адразу папраставаў да іх. Ён перш падбег да чарнявага, з мангольскімі вачыма, ефрэйтара, які здаваўся яму і героем, і ратаўнікам, і лепшым прыяцелем. Вася, задыханы ад бегу, шчаслівы, кінуўся было абняць па-сяброўску моцна, ад усёй душы гэтага невядомага раней, такога блізкага чалавека.

Але халодны, нават варожы позірк ефрэйтара спыніў яго. Вася збянтэжыўся: чаму ён так глядзіць? Ад чаго гэтая варожасць?

— Хэндэ ток! — скамандаваў знянацку ефрэйтар.

Васіль сумеўся ад нечаканасці.

— Д-ды што гэта ты?!

— Хэндэ гок! Ясна?— паўтарыў чырвонаармеец, пагрозна падымаючы зброю. Ён падступіў да хлопца.— Аўтамат — сюды!— Ефрэйтар палажыў руку на Васеў аўтамат.

Васіль не слухаўся.

— Аўтамат — сюды!

Хоць і вельмі не хацелася, а прыйшлося аддаць зброю. Вось дык сустрэча! Ніколі не чакаў, не гадаў, што яна выйдзе такой. Вася спахмурнеў: чаго ён, гэты пехацінец, так варожа абыходзіцца. Але хмурнасць была на Васіным твары нядоўга. Заўважыўшы, як непрыхільна акінуў ефрэйтар яго вопратку, хлопец здагадаўся: вунь

яно што, мундзір, відаць, ва ўсім вінаваты, — напэўна, палічылі за немца ці паліцая.

— Я — партызан, — паспрабаваў устанавіць справядлівасць Вася. — Я — не немец... Ну, праўда — партызан. З брыгады Ермакова. Разумееш?

Вася ў доказ выняў з кішэні пілотку з зоркаю, надзеў на галаву і ясна-блакітнымі вачыма даверліва паглядзеў на ефрэйтара.

— Ну, бачыш?

— Нічога не ведаем, — заявіў баец. — Камандзір разбярэцца.

Паклікалі камандзіра. Невысокі, чарнабровы сержант, кальнуўшы Васю суровым позіркам, загадаў паказаць які-небудзь дакумент. Хлопец, у якога іншых дакументаў не было, дастаў з кішэні даведку, загорнутую празрыстай, нібы са слюды, паперай.

Сержант разгарнуў паперку; спакойна прачытаўшы ўголас прозвішча і імя Васі, ён неспадзеўкі падняў на хлопца здзіўлены, чамусьці ўсхваляваны позірк. Вусны яго неспакойна прашапталі:

— Бацька?!

— Хто? — не адразу зразумеў Вася.

Сержант па-таварыску падаў руку, назваўся: — Туравец... Юрый.

— Вы Юрка?.. Юрка Туравец?!

Вася моцна, як даўняму сябру, паціснуў яго руку. Вунь да каго, аказваецца, папаў ён у «палон»! Вакол іх сабралася цяпер некалькі салдат, якія зацікаўлена сачылі за размовай.

— Вы яго даўно бачылі?

— Не, учора. Перад самым боем... — і ўсцешаны, што можа паведаміць такую добрую вестку, што прыкрая недарэчнасць так скончылася, дадаў: — Ён у тым пасёлку, адразу вось за гэтым узгоркам. Як уздымецеся на ўзгорак, адразу будзе пасёлак. Бацька там... Вы яго ну, праўда, хутка пабачыце!

Смуглы, не па гадах суровы, твар сержанта, засвяціўся радасцю.— У пасёлку?! У гэтым пасёлку? Няўжо тут, за ўзгоркам — аж не верыцца...

Юрыю прыпомнілася іх апошняя ростань. Бацька праводзіў яго за горад, да Магілёўскага шасэ. Каля апошніх дамоў ён абняў Юрыя, — Юрый заўважыў, што ён вельмі пастарэў у гэтыя дні.

Такім ён і застаўся ў памяці. Пастарэлы, нейкі прыціхлы. Адразу, як толькі Юрый паехаў, ён павярнуўся і пайшоў назад у горад, над якім лютавалі пажары.

Юрый застаўся з Хмялеўскім, другім сакратаром райкома, і яго сям'ёй. Хмялеўскі быў хворы, і яго пакінулі на тылавой працы, у

башкірскім гарадку. Юрый жыў разам з імі і вучыўся. У іх была вялікая сям'я — шасцёра дзяцей, але за Юркамі глядзелі, як за сынам.

Бацька праз паўтары гады неяк адшукаў іх, і Юрка стаў атрымліваць ад яго весткі аб жыцці на роднай зямлі. Ён ірваўся туды, дзе быў бацька, трызніў роднымі лясамі, партызанскімі паходамі...

Як толькі дзевяты клас застаўся ззаду, Юрка папрасіўся ў армію...

І вось яны хутка ўбачацца... І трэба ж, каб іх шляхі так добра сышліся!..

Сержанта паклікалі да малодшага лейтэнанта Праворнага. Вася застаўся цяпер адзін сярод салдат, якія сталі яго частаваць махоркай, распытваць аб партызанскім жыцці. Той, хто затрымаў Васю, — гэта быў Шарыфутдзінаў — аддаў яму аўтамат:

— Вазьмі назад сабе. На мяне не трэба крыўдзіцца — сам вінаваты. Носіш гэты фрыцаўскі мундзір!

Васю Крайко нечакана таксама папрасілі да Праворнага.

Камандзіры — афіцэры і сержанты — сядзелі ўскрай дарогі, пры кювеце і на сцежцы. Вакол іх чырванела і бялела прыцярушаная пылам густая канюшына, уздымаў сцяблы-хвосцікі над лапчатымі лістамі трыпутнік. Бегла ўтаптаная гладкая сцежка, пры якой з таго боку весела паблісквалі варухлівымі лісточкамі тры маладыя бярозкі. Камандзіры пазнаёміліся з Крайко. Тут былі і Праворны, і камбат Паўлоўскі.

Высокі камбат, спусціўшы ногі ў кювет, сказаў, што яго батальёну трэба адсюль павярнуць на поўнач.

— Ці не можаце вы, таварыш Крайко, правесці нас? — Паўлоўскі назваў сяло, куды трэба дабрацца яму з батальёнам.

— Чаму ж не магу, ну, праўда?! Я тут усе дарогі, як свае боты, ведаю... — нават узрадаваўся Вася.

— Значыцца, можаце. І згодны, так? Вось і цудоўна... Ну, калі так, то будзьце правадніком!

Паўлоўскі падняўся, атрэсваючы зямлю са штаноў. Падняўся і Праворны, які сказаў, што грузавікі будуць тут вельмі хутка,— каб усе былі напагатове,— і камандзіры пачалі разыходзіцца.

Вася запытаўся ў Юрыя, які ішоў маўклівы і задуменны:

— А як жа вы?

— Спаткання, бачыш, не будзе, — Юрый паглядзеў доўгім позіркам усцяж дарогі, якая бегла ў кірунку пасёлка. — Прыдзецца адкласці!

Вася не сказаў нічога: нашто трывожыць чалавека спачуваннем? Але ў душы ён вельмі шкадаваў, што Юрыю не ўдасца пабачыцца з бацькам.

Неўзабаве Юрый і Вася ехалі на машыне; з бакоў ад іх, кружачыся, адплывалі назад палі. Юрый амаль увесь час распытваў Крайко пра бацьку, насцярожана сочачы за дарогай, за наваколлем.

2

Шашура ў той дзень ішоў на «працу» з асаблівым настроем. А як жа ж інакш! Вельмі можа быць, што гэтая аперацыя — апошняя.

Тыя аперацыі здаваліся Шашуру звычайнымі, як праца ў будзённы дзень, — сёння ж яму належала зрабіць штосьці асаблівае. Шашура быў заўсёды ахвочы да эфектных учынкаў,— і сёння ён бачыў наперадзе нешта падобнае на апошнюю гастроль, аперацыю «на развітанне». Ён памятаў, што акцёры перад тым, як выехаць з горада, выступалі звычайна з развітальнымі гастролямі. Яго чамусьці ўражвалі словы — «апошнія, развітальныя гастролі: толькі два — ці тры — дні!» Шашура амаль заўсёды хадзіў на гэтыя гастролі. Дарэчы, ён вельмі любіў і паважаў артыстаў, якіх лічыў людзьмі незвычайнымі.

Шашура выбраў на гэты раз ціхую, мала аб'езджаную прасёлачную дарогу, да якой было кіламетраў так з адзінаццаць ад таго месца, дзе білася брыгада. Ён разважыў, што гітлераўцы, калі захочуць абмінуць заняты Ермаковым пасёлак, павернуць не інакш як сюды.

З ім ішло трынаццаць партызан. Толькі-толькі пачало світаць, калі Шашура дабраўся да «месца працы». Вось яно — дарога ўрэзваецца ў яловы лес,— тут зручны ўкрыты куточак: падступаючы да самых пясчаных каляін, густа расце цёмны малады ельнік.

— Спецыяльна, каліна-маліна, нарасло для нас!..

— Добрая мясцінка! — адгукнуўся адзін з памочнікаў.

— Тут мы і прызямлімся!.. Ну, хлопцы, паварочвайся жвавей ды — асцярожней... Каб... птушак лясных часам не патрывожыць.

Шашура, выглядваючы з ельнічку, акінуў позіркам абодва бакі дарогі. У ранішнім прыцемку яна нагадвала рэчышча, а купкі чорных дрэваў здаваліся падобнымі на скалы. На дарозе было пуста.

Шашура сабраўся ўжо выйсці на дарогу, але здалёк пачуўся шум машын.

— Ш-ш! — зашыпеў ён на таварышаў.— Едуць!.. Гэтых, хлопчыкі, пакуль прапусцім...

Праімчалі два грузавікі. Кузаў аднаго з іх быў адкрыты, і Шашура добра бачыў, як там, звесіўшы сонна галовы, дрэмлюць немцы; другая машына была крытая.

— Гэта — першыя птушкі, — супакойваў не так другіх, як сам сябе, Шашура.— Чарада яшчэ будзе... Не шкадуй, хлопцы!..

Ён выбраўся на дарогу і закапаў у лясной сыпучай, перамешанай з пяском зямлі некалькі націскных цяжкіх мін, акаймаваўшы дарогу з бакоў дробнымі пяхотнымі «хлапушкамі».

Хлопцы, якія не вытыркаліся з цёмнага ельнічку, ляжалі каля двух кулямётаў, рыхтавалі да бою аўтаматы, гранаты. Шашура, вярнуўшыся да іх, пад ахову елак, нецярпліва ўпіўся прыплюшчанымі кашачымі вачыма ў пасвятлелую дарожную далеч, стаў услухоўвацца.

Мінула паўгадзіны. Гадзіна, дзве...

— Эх, каліна-маліна, няўжо я схібіў? Няўжо не там выбраў? Быць не можа!

Поруч хтосьці з хлопцаў узлавана вылаяўся:

— Чаму яны, госпада бога, не едуць!

Хлопцы, сочачы за дарогай, пачалі паціху размаўляць, асцярожна курыць. Гэтае доўгае нуднае чаканне ўсім было не да спадобы. Паблізу нявідны ў іглістым галлі дзяцел старанна адлічваў — дук, ду-дук...

Мінула тры, чатыры гадзіны! Недалёка чулася страляніна, якая то ўзгаралася, то спадала, а на дарозе, як знарок, было пуста і ціха!..

Раптам Шашура перасцярожліва зашыпеў: «ш-ш!»

Усе адразу змоўклі. Падрыўнік пазіраў то на дарогу, то на таварышаў усхвалявана-бліскучымі вачыма:

— Едуць!.. Едуць усё-ткі «заваёўнікі свету». Ёсць каго, хлопцы, сустракаць!..

На дарозе, на павароце, завіднелася спачатку адкрытая легкавая машына, у якой сядзела некалькі салдат, за ёй крыху пазней — грузавікі, адзін, другі, трэці. Шашура, неспакойна азірнуўшыся на таварышаў, убачыў, што адны з іх як бы застылі, цэлячыся на дарогу, другія варушыліся, стараліся прыладзіцца ямчэй. Ну, быць бою!

Легкавая машына паволі набліжалася. За ёй ішла калона з чатырох грузавікоў, у адкрытых кузавах якіх былі відаць людзі. Шашура ўжо адцягнуў ручку аўтамата, каб сакануць па машынах адразу пасля таго, як грымнуць выбухі.

Але што гэта?! Шашура недаўменна апусціў аўтамат і, узрушана, прыўзняўшыся на калені, да болю ў вачах стаў узірацца: не нямецкі гэта ўсюдыход! І форма ў салдат не шэра-блакітная. А галоўнае —

маленькі чырвоны сцяжок на пярэдняй машыне... А можа, ён памыляецца? Ці можа, гэта правакацыя, ашуканства?!

Тады салдаты з гэтых грузавікоў самнуць, пераб'юць невялічкую жменьку партызан і самога яго, Шашуру, праніжуць чаргой. Ці для таго ён біўся столькі, каб загінуць так бязглузда! Хто-ж гэта, нарэшце? Як ні ўзірайся, не разбярэш нічога!.. На нядаўна рашучым твары падрыўніка была пакутлівая разгубленасць.

— Чакайце, хлопцы!..

Шашура ўстаў: трэба высветліць, хто гэта.

Калі гэта фашысты, тады — адна чарга з машыны, і яму канец, і многім таварышам смерць. Але гэта могуць быць і нашы, іх трэба спыніць, папярэдзіць! Адным словам, неабходна высветліць.

— Калі я дам чаргу па іх — значыцца, гэта гітлераўцы. Сячыце тады па ўсіх машынах. З усіх ствалоў! Ясна?

Шашура, трымаючы ў руцэ аўтамат, выгнаў на дарогу і непаспешліва, як бы спакойна, падаўся насустрач машынам. Хлопцы са сваёй укрытай мясцінкі напружана сачылі за ім. Не ўсе з іх разумелі, чаму Шашура ідзе не асцерагаючыся.

Ён, шыракаплечы, перакрыжаваны кавалерыйскай партупеяй, падняў руку, загадваючы машынам спыніцца.

Пад'ехаўшы бліжэй, легкавічок павольна затармазіў. І тут падрыўнік, які нейкую хвіліну стаяў нерухома, раптам парывіста ірвануўся з месца і кінуўся да машыны.

— Адставіць. Не страляць!— прыпыніўся ён на міг, павярнуўшыся да партызан. — Свае-е!!

Шашура крыкнуў так, што аж па лесу пакацілася: «э-э-э!» Ён абхапіў першага, бліжэйшага чалавека — чарнявага, смуглатварага сержанта, — гэта быў Юрый Туравец. Затым падрыўнік намерыўся прывітацца з Іншымі і неспадзявана ўбачыў перад сабою Ва'сю Крайко, пераапранутага ў салдацкую гімнасцёрку. Бровы Шашуры здзіўлена падскочылі.

— Вася?! Каліна-маліна, ці ты гэта? Адкуль ты? Як ты сюды зваліўся?

— Прыехаў в-вызваляць вас! — засмяяўся Вася.

— Ну, калі так, то дзякую, таварыш ба-ец... — і Шашура, парывіста адкінуўшы кепку на макаўку, так сціснуў «вызваліцеля», што ў таго костачкі затрашчэлі...

З ельнічку пачалі выбягаць другія партызаны, што таксама кінуліся да машын. Між тым спыніліся ўжо грузавікі. З кузава першага грузавіка саскочылі некалькі салдат у выгарэлых гімнасцёрках.

Партызаны іх адразу акружылі, выказваючы радасць кожны па-свойму.

Некалькі хлопцаў падхапілі пажылога вусатага байца і ўскінулі на руках; іншыя хто ціснулі, трэслі па-сяброўску рукі, хто, як браты, адбымаліся. Амаль усе радасна крычалі. Адзін рослы партызан, абдымаючы маладзенькага ефрэйтара, неспадзявана для сябе заплакаў ад шчасця, як дзіця.

Шашура перацалаваў усіх, хто быў у пярэдняй машыне, весела ссунуў кепку на лоб і пачухаў патыліцу.

— Эх, каліна-маліна, і не снілася — пад сваіх міны падлажыў! Яшчэ б крыху, і вы паляцелі-б на той свет. І — ад маёй міны, няхай мне рукі адсохнуць!..

3

— Разміні-і-ррваць! — загадаў ён хлопцу-падрыўніку. Шашура і сам падаўся з ім: відаць, камандаваў падрыўнік не толькі хлопцу, а і сабе: Яны пачалі разграбаць пясок каля мін, выкручваць запалы.

Хутка дарога была вольная, на ёй цяпер віднеліся' поблізу мелкія ямкі, у якіх жаўцеў сыпучы пясок. Збоку, каля самога ельнічку, ляжалі абы-як складзеныя міны...

— Шлях вольны! — хвацка казырнуўшы, далажыў Шашура малодшаму лейтэнанту Праворнаму.— Але далей мы вас, прасіце не прасіце, — не прапусцім. Не можам прапусціць! Трэба, каб вы абавязкова пагасцілі ў нас.

— Дзе гэта?

— У пасёлку...

— Ну, там цяпер і без нас даволі гасцей! — Праворны закла-почана азірнуўся ў бок грузавікоў. — Туды не мала, не многа, два наглыя палкі пайшло!..

— Нельга, — строга прамовіў сержант. — Мы маем заданне...

— Я і забыў вас пазнаёміць, — схамянуўся раптам Вася. — Гэта Юрый, камісараў сын.

— Юрый? Ну, тады, каліна-маліна,-і гаварыць няма чаго. Абавязкова заедзем. Не пабачыцца з бацькам пры такой сітуацыі? Гэта ж злачынства. Адказнасць перад вашым начальствам, калі на тое пайшло, бяру на аднаго сябе. Скажу, я вінават, толькі адзін я!.. Дамовіліся, таварыш камандзір? Едзем!

— Не магу. Спяшаемся!.. — і Праворны, павярнуўшыся да байцоў, што стаялі на дарозе, скамандаваў: — Па ма-шы-ы-нах!

— Значыць, канец, і няможна?! Ну, то хоць адзначым, каліна-маліна, на хаду. Як гэта кажуць — экспромтам!

Шашура спрытна адкруціў ад фляжкі алюмініевую чарачку і, наліўшы спірту, падаў чарачку лейтэнанту. Здабыў з палявой сумкі, дзе ляжалі і запалы, загорнуты ў некалькі лісткоў з кнігі кавалак тоўстага, яшчэ свежага сала, парэзанага на лустачкі, і акуратна паклаў на пярэдняе сядзенне. Потым наліў з фляжкі Юрыю, Васю, выпіў, задаволена крэпнуўшы, сам і стаў паспешліва, як прагаладалы, закусваць салам.

— Эх, размінаемся з бацькам! — не вытрымаў Юрый. — Вы яму хоць прывітанне перадайце!.. Так хацелася б убачыца! Ну нічога: можа яшчэ ў Мінску спаткаемся...

Праворны, які вельмі спяшаўся, даў знак шафёру заводзіць машыну. Шашура, Праворны і Юрый па-сяброўску, нібы даўнія знаёмыя, развіталіся.

— А ты, Вася, друг мой юны, таксама не вернешся?

— Вярнуся — пазней! Толькі правяду — бліжэй да Мінска!.. Ведаеш што, — голас Васі нечакана пацішэў і памякчэў. — Пабач...

— Валю, вядома, — падмігнуў здагадлівы падрыўнік.

— В-вядома. Скажы ёй, што са мной усё ў парадку. А то яна, мусіць, перажывае...

— Ёсць за каго перажываць!

— [1] Не вярзі. Перадай!

Машына ўжо кранулася. За ёй паволі паўз Шатуру і яго хлопцаў прабеглі ў ельнік грузавікі.

Вяртаючыся «дамоў», падрыўнік пашкадаваў ні то жартам, ні то сур'ёзна:

— Сарвалася, каліна-маліна, мая апошняя аперацыя!..

## Раздзел V

### I

Праворны не памыліўся — сапраўды ў пасёлку цяпер было поўна байцоў.

Па галоўнай, брукаванай, вуліцы рушыла артылерыя. На ўвесь пасёлак разносіўся моцны лязгат, скрогат і грукат цягачоў, востра пахла перагарам гаручага. На дварах стаялі павозкі са снарадамі і нейкімі мяшкамі, а ў некалькіх месцах грузавікі з зенітнымі кулямётамі, у чахлах і без чахлоў — нацэленыя ў неба.

Пасёлак віраваў, як у свята. Усюды на вуліцах віднеліся салдаты і партызаны — нібы адно войска; сярод іх часта бялелі, цвілі кветкамі, рознымі колерамі хусткі жанчын. Між дарослых усюды шмыгалі неспакойныя цікаўныя дзеці. Першая радасць сустрэчы яшчэ толькі

ўтаймоўвалася, пачыналіся роспыты, апавяданні. Бясконцыя роспыты!..

Хоць цікаўнаму Шашуру вельмі хацелася пастаяць у якім-небудзь гурце ды паслухаць, аб чым гавораць людзі, ён, апынуўшыся тут, на вуліцы, адразу пачаў шукаць Тураўца. «Вось жа ўзрадуецца камісар, калі скажу, што бачыўся толькі што з Юркам, — думаў Шашура. — Ці, чаго добрага, засмуткуе, што не ўдалося пабачыцца. Гм, гэта можа быць, вельмі можа быць... Усё роўна, трэба расказаць яму».

Камісар і Ермакоў, калі Шашура ўбачыў іх, якраз размаўлялі з генералам. Генерал, пажылы, крыху грузны, з рэдкімі запыленымі брывамі, з шырокім крутым ілбом, стаяў каля машыны і, відаць, збіраўся ад'язджаць.

Ермакоў быў у афіцэрскай форме, у хромавых ботах, з партупеяй і бліскучай пражкай, і трымаўся паважна і неяк інтымна з генералам, нібы паказваючы, што ён не абы хто, а таксама ваенны, кадравы.

— Дык я спадзяюся, другі мае, што вы правядзеце іх, — пачуў Шашура.

Стукнуўшы шпорамі, Ермакоў адказаў-адрапартаваў супакойліва:

— Можаце быць упэўнены, таварыш генерал! Мае хлопцы ўсё зробяць.

Генерал падзякаваў, па-таварыску пацiснуў камісару і камбрыгу рукі і важка сеў поруч з шафёрам у машыну.

— Шчасліва ехаць, таварыш Шчарбацюк! — пажадаў яму на дарогу Туравец.

Ледзь толькі машына, кінуўшы хмарку сіняга дыму, рушыла па вуліцы, Шашура падышоў да Тураўца.

— Таварыш камісар, дазвольце сказаць. Вестачка ёсць вам... ад вашага сына!

— Ад сына? Юрыя? — перапытаў Туравец.— Дзе ён?!

Падрыўнік парывіста, то кпліва, то расчаравана, то ў захапленні, аб'явіў пра падзеі сённяшняга дня, ад таго, як ён першы раз выбіраўся на дарогу, да развітання з Юрыем і Васем.

— Развітаўся?!— перабіў падрыўніка Туравец.— Дык што ж ён — паехаў далей? Як жа гэта?

— Камісар, ён, мусіць, у Шчарбацюка служыць! — адгукнуўся Ермакоў, які чуў усё, што гаварыў Шашура. — Папрасіць бы генерала, каб адпусціў! А? Ён адпусціць! Хочаш, камісар, я з ім звяжуся і пагавару.

— Цяпер позна! Юрка ўжо далёка... Размінуліся!

Туравец з такім жалем вымавіў апошняе слова, што Шашура, якога звычайна не вельмі разварушвала чыя-небудзь бяда, мімаволі пашкадаваў яго. Здаецца, упершыню падрыўнік бачыў камісара такім, што яго было шкада.

Туравец усхвалявана маўчаў.

— Тры гады чакаў яго, вось ён падышоў блізка, і на табе — размінуліся! Які, хоць скажы, ён, Юрка? Вырас, напэўна, а? Невысокі. Няўжо не вырас?.. Бацька вінаваты, — сам таксама не магу пахваліцца ростам. Ну, як ён — дарослы цяпер, сталы?

— А як жа, сталы чалавек! Салдат сапраўдны.

— Вось, брат, як мы, Тураўцы, — сказаў камісар задаволена, знарок, ад сваёй схільнасці хаваць ад іншых непрыемнасць, тоячы шкадаванне аб размінцы з сынам. — І на фронце, і ў тылу. З двух бакоў гітлераўцаў, прападзі яны пропадам, ціснем!.. Дык, кажаш, салдат сапраўдны?..

Туравец прагна распытваў і ўсё ніяк не мог супакоіцца, што не ўдалося пабачыцца з сынам.

2

У той жа дзень, пад вечар, камісару прыйшла тэлеграма здаць справы ў брыгадзе і падрыхтавацца да ад'езду ў Мінск.

Мінск яшчэ не быў вызвалены, а Туравец ужо толькі і думаў што аб горадзе, дзе яму належала працаваць сакратаром аднаго з райкомаў партыі.

Пачыналася новае, мірнае жыццё, паўставалі зусім іншыя, як дагэтуль, клопаты. З заўтрашняга дня ці з пасляззаўтра ён будзе знаёміцца з невядомымі сёння людзьмі, шукаць сцежкі да іх сэрцаў, згуртоўваць вакол райкома, вучыць. Партыя пасылае яго на новае месца, дае новую справу, — справу, якая так блізка яму да душы, аб якой ён так многа марыў за апошнія тры гады...

Яму ўспомніўся пачатак партызанскага жыцця, пануры маўклівы лес, які абступаў яго і тых, хто быў з ім, калі яны сядзелі на палянцы ў першы вечар. І першая, амаль без сну, ноч, у якую ён думаў, як будзе згуртоўваць людзей для баёў. Тады многае было незразумелым, няясным,— не тое, што цяпер. Цяпер, хоць і чакалі яго нялёгкія справы, ён добра ўяўляў мірную будучыню, уяўляў у канкрэтных дэталях, — яна здавалася падобнай на тое, з чым ён добра пазнаёміўся да вайны. Вядома, у цяперашнім будзе і многа непадобнага, — ён гэта мае на ўвазе. Ён падумаў пра гэта. Чаго толькі ён ні абдумаў у марах за доўгія лясныя ночы і дні.

Ён ішоў на новую працу не адзін, а з групаю надзейных, выпрабаваных людзей, і гэта Тураўцу асабліва падабалася. У яго было нямала памочнікаў і дарадчыкаў, на якіх можна будзе на пачатку, ды і пазней, абаперціся...

Ермакоў пакуль заставаўся па-ранейшаму камандаваць брыгадай, якая цяпер станавілася знішчальным атрадам.

Камбрыг вельмі шкадаваў, што яму не прыдзецца ўдзельнічаць у вызваленні Мінска: такая важная падзея абыйдзецца без яго! Яму ж даводзілася быць толькі, як ён гаварыў, «вартаўніком», «праваднікам».

Ермакоў ужо таксама ў думках развітваўся з брыгадай. Туравец гэта адчуў, калі яны селі ўдваіх, каб вырашыць некаторыя справы да ад'езду камісара.

— Пайду па старой спецыяльнасці — у «пушкары»...— Загаварыў да Тураўца камбрыг, ссоўваючы набок сваю артылерыйскую фуражку. Раптам ён выпрастаўся, строга ўскінуў галаву: — Па цэлі нумар чатыры! Гранатаю, узрывацель фугасны! Зарад першы!.. Вугламер — трыццаць чатыры! Узровень — трыццаць нуль!..— голасна скамандаваў ён, нібы для таго, каб давесці, што не забыўся.

— Ты цішэй, Ермак. А то — чаго добрага — нашы артылерысты ўздымуць трывогу.

— Ну, і няхай уздымуць!.. Развітальны салют зробім!..

Яны цяпер былі ў драўляным доме, побач з тым, які нядаўна называлі камандным пунктам; вокны былі расчынены, і з вуліцы ўрываліся грукат калёс па бруку і разнастайныя воклічы. Дом быў пусты: тут жыў нейкі немец, які невядома куды знік, — яму, відаць, прыйшлося ўцякаць нечакана, бо ў пакоі было прыбрана і чыста. На Тураўца і Ермакова пазіралі са сцен нейкія «фрау» з хітрымі прычоскамі, — пазіралі і, здавалася, дзівіліся.

Ермакоў раптам заклапочана задумаўся:

— Добра табе, Нічыпар, — усё ў цябе ясна. Вось і месца тваё ўжо табе вядома.

— Ну што ў мяне добрага? — запярэчыў няшчыра Туравец. — Гэта ж мне, можа, часова...

— Не хітруй. Не прыбядняйся... І наогул ты, Нічыпар,— мужык. Хоць і камісар, а з мужыкоўскай жылкай, — крыўдуй, не крыўдуй.

Туравец не пакрыўдзіўся.

— Можа быць, можа. З боку перажыткі відней, — ён яўна пасмейваўся.

— А я не ведаю, дзе буду праз некалькі дзён. Цікава, што мне цяпер дадуць — батарэю ці на дывізіён паставяць, а, як ты думаеш?

Туравец адказаў, што могуць паставіць камандаваць дывізіёнам ці назначыць начальнікам штаба палка.

— Наўрад. Са штабнай работай я, мусіць, не спраўлюся, ды і нешта не вабіць яна мяне — лепш камандавац бы. А на дывізіён не паставяць — званне малаватае... — Туравец улавіў у яго словах затоеную нецярплівасць: Ермакова прадставілі месяцы тры назад, амаль адразу пасля таго, як ён стаў камандавац брыгадай, да «маёра», а загаду з Масквы яшчэ не было...

— Прыдае званне, Мікалай. А не застане тут, дык у арміі здагоніць. У нас нічога не забываецца, — супакоіў яго Туравец.

Ён папрасіў пачаць перагляд спісаў, — на працу ў горад абком партыі вырашыў накіраваць адначасова з Тураўцом неабходных там партызан.

Спісы такіх людзей былі складзены даўно і нават зацверджаны абкомам. Тут былі перш за ўсё вопытныя партыйныя работнікі, асабліва камісары атрадаў, палітрукі, розныя спецыялісты-інжынеры, урачы, настаўнікі, чыгуначнікі. Праўда, частку з іх на некалькі дзён дазволілі затрымаць у брыгадзе, бо думалі, што ёй прыдзецца яшчэ ваяваць з гітлераўцамі, ачышчаць лясы. Выбраць, каго зараз паслаць у горад, а каго пакінуць тут, якраз і павінны былі Туравец і Ермакоў.

Калі абодва, седзячы плячо каля пляча, сталі чытаць лісткі-спісы, то ўзгарэліся раптам спрэчкі. Аказалася, што часта адзін і той чалавек быў «дазарэзу» патрэбны і Тураўцу, і Ермакову.

— Ну, гэта я не ведаю што!.. Усіх лепшых людзей забіраеш ад мяне, камісар,— не ўтрываў нарэшце камбрыг.— З кім я ваяваць буду?

Туравец, пасміхваючыся цыганскімі вачыма, спакойна, ласкава,— з той ласкавасцю, за якой Ермакоў чуў хітрасць,— адказаў:

— Э-э, камбрыг, якая тут цяпер вайна, скончылася тут, лічы, вайна...

— Каму скончылася, а каму — не... — Ермакоў, здавалася, не заўважаў, што камісар жартуе. Ён нецярпліва ўстаў з-за століка. — Слухай, Нічыпар Паўлавіч, гэтага трэба пакінуць! Ён жа камандзір. Правая мая рука.

— Каб ты, камбрыг, ведаў, які гэта да вайны быў інжынер! Па яго справе другога такога майстра ва ўсім Мінску не было, — акадэмік, а не інжынер! Талент!

Камісар, лагодна пасміхваючыся, пачаў запісваць прозвішча інжынера ў свой блакнот. Ермакоў жа спрабаваў яшчэ «адваяваць» камандзіра:

— А можа, усё-ткі абыйдзешся без яго, а, камісар?

— Ну і дзівак ты, Мікалай. Як жа я абыйдуся,— мякка, ужо без усмешкі, загаварыў Туравец,— калі, апрача яго, ні аднаго добрага спецыяліста на заводзе няма. Ні аднаго, разумееш?! Падумай, як я без яго буду пачынаць?..

Яшчэ праз тры прозвішчы камісар назваў Шашуру.

— Шашуру?! Нашто табе ён спатрэбіўся? Па якой спецыяльнасці? Ну, то ўсе, як ты кажаш, спецыялісты. Адзіныя, незаменныя, неабходныя! А Шашура па чым спецыяліст? Па чым?

— Шашура? — зноў усміхнуўся Туравец.— Ён таксама спецыяліст. Вялікі спецыяліст — на ўсе рукі. І, канешне, талент. Для яго будучай працы, брат, не толькі навуку, але і прыродны талент трэба мець. Нам цяпер такія вельмі патрэбны...

Камбрыг, хоць і стрымліваўся, ад гэтай размовы затаіў крыўду, — яму здавалася, што Туравец, які многіх узяў справядліва, усё ж дамагаўся большага, чым яму трэба. Думаў камбрыг раней, што Туравец такі патрыёт брыгады, як і сам ён. Быў час, калі камісар вельмі стараўся падбіраць на камандзіраў ці палітрукоў лепшых людзей, дбаў пра брыгаду, як гаспадар, калі, здавалася, нічога даражэй няма яму за партызанскую сям'ю. А наступіла іншая пара, усё забыў...

3

Уранку з лагера прыехала фурманка, нагружаная торбамі, чамаданамі, скрынкамі. Яе адразу акружылі і пачалі разбіраць кожны сваё. Ардзінарац камісара дастаў адтуль рэчавы мяшок, стрэльбу, кажух і, ускінуўшы іх на плечы, падаўся ў пакой камісара. Тут хлопец паставіў мяшок на падлогу, а кажух паклаў на лаўку.

— Я ўсе рэчы склаў сюды ў мяшок...

— Добра. Усім, хто едзе, прывезлі рэчы?

— Усім...

Туравец стаў збірацца ў дарогу. Ён перабраў, што было ў рэчавым мяшку: ношаную-пераношаную бялізну, новае верхняе абмундзіраванне, канспекты лекцый, планы гутарак — на асобных лістках, у сшытках, у блакнотах, пацёртыя, пажоўклыя ад часу выразкі з газет, карту, зарысаваную рознымі знакамі, томік В. К. Арсеньева «По Уссурийскому краю»...

Узяў у руку стрэльбу, пераламаў, паглядзеў у ствол, — нібы збіраўся на паляванне. Гэта было ружжо «Франкот», захопленае аднойчы разам з палкоўнікам СС. Хлопцы, што забралі ружжо, прынеслі яго Дразду, але той падарыў Тураўцу, заядламу паляўнічаму.

«Цудоўная штучка!» — Туравец пагладзіў адпаліраваную бліскучую ложу. Ён ужо не раз страляў з гэтай «штукі»: бой быў вельмі добры...

— Вось і ўсё... — камісар зірнуў на кажух: што з ім рабіць? Кінуць можа? Не, ён будзе патрэбны.— Пятро, а кажух прывязеш мне ў Мінск. Глядзі, каб не прапаў.

— Не прападзе, таварыш камісар...

Туравец вырашыў ехаць сёння ж, не марнуючы часу, хоць немцы можа яшчэ былі ў Мінску. Пакуль удасца дабрацца да горада, яго, напэўна, акурат вызваляць. А яму хацелася хутчэй вярнуцца ў горад, пабачыць, што там...

Туравец спяшаўся ў Мінск і таму, што спадзяваўся там спаткацца з Юрыем...

Трэба толькі яшчэ зазірнуць у шпіталь. Не, ён не можа пайсці адсюль, не пабачыўшы яе, Марыю. Шпіталь быў недалёка, у невялічкім парку, дзе ціха высіліся стагоднія ліпы і вязы.

На алейны Туравец спаткаў Валю, якая несла нейкую каструлю.

— А Марыі Андрэеўны няма,— сказала Валя.— Яна павезла раненых у вайсковы шпіталь. Там ім будуць рабіць аперацыю... У іх, казала Марыя Андрэеўна, ёсць вельмі добры хірург.

Туравец, нягледзячы на гэта, зайшоў у шпіталь, бо хацеў развітацца з раненымі. Вяртаючыся назад, ён усё ж вельмі шкадаваў, што з Марыяй Андрэеўнай не ўдалося пабачыцца.

Туравец напаткаў Шашуру і крыкнуў:

— Збірай сюды людзей! Зараз выступаем!..

Вышаўшы з хаты з рэчавым мяшком за плячыма, ён убачыў вакол сваёй групкі ледзь не ўсю брыгаду. Усе, хто быў у лагеры, выйшлі іх праводзіць, і Туравец амаль з кожным развітаўся за руку. Апошнім ён падышоў да Ермакова. Шчаслівы камісар крыху вінавата зірнуў на Ермакова, потым моцна-моцна, як лепшага сябра, абняў.

— Ну, бывай. Коля!.. Толькі — не сярдуй. Усяму, дарагі, свая пара...

— Ведаю, Нічыпар Паўлавіч.

— Ты хутка будзеш у Мінску — заходзь! Адрас просты — райком. А дзе яго шукаць, я і сам пакуль не ведаю...

— Знайду.

4

І хто б мог падумаць, што ёй, Аўдоцці Шабуністе, зноў прыдзецца ўцякаць з роднага селішча ды хавацца.

Цэлы дзень ішлі цераз Паплавы нашы і пехацінцы, і гарматы, і абозы. І, здавалася, што ўжо — усё, што цяпер можна жыць сабе у спакоі, жыць — нічога не баяцца. Але не так яно было. Апоўдні назаўтра ў Паплавы зноў прысунуліся нямецкія машыны.

Аўдоцця была тады ў полі. Яна палола з жанкамі калгасную бульбу і бачыла гэтыя машыны і пыл, які віўся за імі, аднак ёй не прыходзіла ў галаву, што гэта могуць быць не нашы.

Хутка прыбегла перапалоханая, задыханая дзяўчынка і крыкнула: — Ой, немцы!

Аўдоцця жахнулася: там жа Валодзя і Волька. Не думаючы ні пра што, нічога не страшачыся, яна пабегла туды, дзе стаялі цяпер ненавісныя машыны. Аўдоцця толькі адно ведала, адно помніла: там Валодзька і Волька!

Божа мой, чаму яна іх не ўзяла з сабою. Хіба ж яна магла забыцца на тое, што было ўсяго ўчора ўранку, хіба ж яна не павінна была асцерагацца, што вецер можа раптам перамяніцца, што яны, гэта варожае насланнё, зноў прыдуць. Яны маглі яшчэ ўсюды тут бадзяцца, па розных закутках, сцежках. Як жа гэта яна так кінула дзяцей адных у сяле?!

Адчуваючы, як халадзее ў грудзях, Шабуніха ўбегла на роднае селішча. Спусцілася ў зямлянку па сходках — там было пуста. І на селішчы іх яна не бачыла. Яна падалася да суседкі, да Аксінні, спадзяючыся, што можа тая што-небудзь ведае?

Але Аксінні дома не было.

Тут да Аўдоцці падступіла некалькі салдат і сталі штосьці патрабаваць на сваёй незразумелай мове. Яна здагадалася, што ёй загадваюць даць яек, малака, хлеба.

— Дзе я вам іх вазьму? — адказала яна са злосцю.— Дзе? Усё падмялі, як на таку, няма на вас зводу...

Яе прымусілі правесці на сваё селішча.

— Вось, усё тут, у гэтым склепе. Бярыце што знойдзеце, — няхай яно вам бокам вылезе!..

Адзін з салдат наставіў на яе аўтамат, штосьці яшчэ загадваючы. Але яна так без страху трымала сябе, што ён вылаяўся і апусціў зброю. Ёй цяпер нічога не было страшным у яе вялікай трывозе.

Дзе ж дзеці?!

Яна абышла ўсё сяло, то шукаючы дзяцей, то шукаючы, у каго б можна было даведацца пра іх. Нібы ў сне, яна бачыла каля сябе сіняшызыя машыны і постаці ў чужых мундзірах, якія нярэдка падыходзілі да яе, патрабавалі, пагражалі.

Яна нікога не знайшла, бо людзей ў сяле было мала, — амаль усе хаваліся недзе ў лесе ці на балоце. Аўдоцця старалася супакоіць сябе, што там жа, можа быць, і яе дзеці, але трывога не сыходзіла,

Шабуніха ледзь дачакалася ночы. Увесь час у ёй білася толькі адно жаданне: знайсці, знайсці дзяцей!..

Пад вечар у сяле немцаў яшчэ пабольшала. Яны атабарыліся і на яе двары, пад грушкамі стаялі дзве машыны. Выйсці з селішча было цяжка і небяспечна, але Шабуніха не вагалася. Як толькі ў сяле і на двары стала цішэй, немцы пакладліся спаць, яна, прыгнуўшыся, пачала прабірацца цераз агароды да хмызняку.

Ускрай агарода яна ледзь не наткнулася на немцаў, але ў свой час здалёк заўважыла, як мільгануў агеньчык схаванай цыгаркі. У хмызняку, дзе Аўдоцця бачыла ўжо свой прыстанак, яна неспадзеўкі пачула нямецкую гаворку. Значыць, немцы і тут.

І яна падалася далей, але не ў лес, збочыла ў балота.

На світанку, дабраўшыся да лазняку, у якім ёй даводзілася ўжо калісьці хавацца, яна знайшла, нарэшце, сваіх знаёмых. Адной з першых ёй трапілася Аксіння.

Аксіння сказала, што Валодзька і Волька тут, каля яе, спяць. Але Волечка з-пад лазовага куста запярэчыла шчасліва:

— Не, мамачка, я не сплю!..

І кінулася са слязамі да Аўдоцці.

— Дзяцінaчка ты мая,— прытуліла яе да сябе Шабуніха шурпатай далонню. Выцерла яе слёзы чысцейшым ражком хусткі.

Прысеўшы стомлена на пасланае Аксінняй завялае спрасаванае вецце, падумала заклапочана: колькі ж гэта бадзяцца яшчэ?

## Раздзел VI

### I

Гітлераўцы мелі на абарону ў раёне Мінска вялікую надзею. Яны спадзяваліся тут учапіцца за абарончыя збудаванні, як у горадзе, так і на падыходзе да яго, і затрымаць наступленне.

Але ўмелая тактыка нашых камандзіраў і хуткі, нявідана хуткі рух нашага войска зводзілі ўсе гітлераўскія намеры і спробы на нішто.

Дывізіі генерал-палкоўніка Глаголева, якія наступалі па Мінскай магістралі, грамілі варожыя часці і збівалі іх з магістралі на поўдзень. Трэба сказаць, — нашы войскі ішлі наперад так хутка, што гітлераўцы, якім прыходзілася адступаць па вузкіх, звілістых палявых дарогах, па палях, цераз балоты, не маглі наладзіць якія-небудзь захады абароны. Немцы не ўпраўляліся не толькі арганізаваць контр-

удары, а адставалі ад нашых не менш як на сорак — пяцьдзесят кіламетраў!

Стварылася вельмі арыгінальнае становішча, надзвычай выгаднае нашым часцям. Для таго каб затрымліваць адступаючых яшчэ больш, было нават вылучана спецыяльнае злучэннне, якім камандаваў генерал-маёр Олешаў.

У ноч на 3 ліпеня, калі нашы часці падыходзілі да Мінска, перадавыя падраздзяленні рэштак 4 нямецкай арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Мюлера былі яшчэ кіламетраў за пяцьдзесят ад Мінска. А ім па плану гітлераўцаў трэба было абараняць горад!

Нястрымная плынь наступлення набліжалася да Мінска, абцякаючы яго з усіх бакоў. Ужо 2 ліпеня пехацінцы генерал-палкоўніка Галіцкага і танкісты маршала Ротмістрава, што наступалі на поўначы ад Мінска, перахапілі дарогі на Вільнюс і Ліду, а часці, што былі з поўдня, занялі Стаўбцы, Нясвіж і Гарадзею. Галоўныя шляхі, якімі звязвалі гітлераўцы горад са сваім тылам, былі перарваны.

Вялікая сіла двух франтоў — Трэцяга Беларускага і Першага Беларускага — кіравалася проста на Мінск. Адлегласць адлічвалі па тым, колькі кіламетраў засталося да Мінска.

З усходу, разбіўшы нямецкія заслоны пад Смалявічамі, падыходзілі танкавыя брыгады і пяхотныя палкі Чарняхоўскага. З поўдня, ад Асіповіч, спяшаліся перадавыя часці Ракасоўскага, якія 2 ліпеня занялі Пухавічы. Яны ішлі і ўночы, і ўдзень, амаль без прывалаў, каб у час паспець да штурму.

Усе ішлі — на Мінск. Усё рушыла — на Мінск. Танкісты, пехацінцы, сапёры, разлікі палявых гармат і «кацюш», мінамётчыкі, зенітчыкі. Падыходзілі з розных бакоў партызанскія брыгады і атрады...

Камандуючы Трэцім Беларускім фронтам Чарняхоўскі паставіў на трэцяе ліпеня злучэнню генерал-палкоўніка Глаголева і танкістам Тацынскага корпуса генерала Бурдзейнага задачу, — узаемадзейнічаючы з танкавым злучэннем маршала Ротмістрава, узяць Мінск.

## 2

Вечарам Аляксей быў ужо недалёка ад Мінска.

Перавязаўшы сяк-так рану, ён па-ранейшаму ехаў са сваімі танкамі; імкнуўся не зважаць на цягучы боль, які, амаль не ўціхаючы, ірваў правую руку. Рапа гарэла, але гэты агонь не так даймаў Аляксея, як боль, — увесь час штосьці балюча тузала, прычым больш за ўсё тузанне чулася не ў тым месцы, дзе была рана, а каля локця. Ад кожнага штуршка машыны боль узмацняўся.

Як ні цяжка было Аляксею, ён не паказваў, што яму прыходзіцца пакутаваць. Калі Гогабярыдзе запытаўся, як камбат адчувае сябе, капітан адказаў:

— Парадак. Нармальна, Сандро!

Адно вельмі непакоіла і нават, можна сказаць, палохала Аляксея, — што ён з кожнай гадзінай слабеў, цела рабілася нейкім бязвольным, зморaным, пачынала кружыцца галава, хацелася легчы, заплюшчыць вочы...

Ён стараўся перамагаць прыкрую слабасць, трымацца, колькі можна. У гэты нялёгкі вечар яму прыдавала дужасці неспакойна-радаснае адчуванне, што ён ужо так блізка да роднага Мінска: застаюцца лічаныя кіламетры, якіх з кожнай гадзінай усё менш і менш.

Калі ён думаў, што хутка, вельмі хутка будзе ў Мінску, што яго аддзяляе ад роднага горада не месяц, не тыдзень і нават не суткі, а ўсяго якіх-небудзь некалькі гадзін, то і рана, здавалася, уціхала, супакойвалася.

Увечары ён ехаў толькі наверсе машыны, бо тут, дзе твар песціў ветрык, хоць і слабы і цёплы, не было так млосна, як у вежы. Аляксей пачуваў сябе дужэй.

У невялікім лясочку батальён спыніўся.

Лясок быў амаль увесь высечаны. Высокія гонкія дрэвы стаялі тут рэдка, акрэсліваючая сваімі тонкімі галінамі і шапкамі-вершалінамі на глыбокім зорным небе. Збоку ад гэтых дрэваў чарнеў ледзь бачны ў прыцемку нізкі густы ельнічак, над якім дзе-ні-дзе вытыркаліся вострыя зубы вяршынь. Адсюль горад быў ужо вельмі блізка. Аляксей думаў, што гэта, відаць, апошні прыпынак перад штурмам Мінска.

Камбат адразу, як толькі даведаўся, колькі тут прыблізна прыдаецца стаяць, папрасіў Быстрова, каб ён паклікаў ваенфельчара. Трэба было аглядзець і ачысціць рану і як належыць перавязаць. Вяртаючыся назад, Быстроў упоцемку не адразу знайшоў машыну. «Чорт ведае — заблудзіўся я, ці што, — пачуў Аляксей яго голас. — Ну, вось тут яна, здаецца, была...»

— Давай сюды, Быстроў!— аклікнуў яго капітан, углядаючыся ў прасветы між дрэваў.— Вядзеш?

— Точна так, таварыш капітан, удваіх!

Ваенфельчар, падышоўшы да камбата, не пытаючыся нічога, загадаў Быстрову, каб той пасвяціў кішанёвым ліхтарыкам.

Вакол камбата амаль адразу сабраліся танкісты, якія непакоіліся за Аляксея. Адзін з іх штосьці сказаў Быстрову, і фельчар строга

папрасіў або разысціся, або маўчаць. Ніхто не адышоў адсюль, але ўсе сціхлі.

Аляксей стомлена пазіраў, як пад жаўтаватым святлом спрытна ходзяць дзве кісці рук і кароткія жоўтыя пальцы, раскручваючы павязку. Потым фельчар вымыў рукі спіртам, пах якога раптам пачуўся сярод паху газойля і хвоі. Пінцэтам абарваў прышэрхлую да раны падушачку.

— Гм, н-да... Справы! Чаму вы, камбат, не выклікалі мяне адразу?.. — І, не чакаючы, што Аляксей скажа ў адказ, прамовіў: — Пашкоджаны мышцы, капітан...

Ён падняў сумку да святла бліжэй, дастаў адтуль флакон, зірнуўшы на ўсякі выпадак на этыкетку, асцярожна абмыў рану і старанна яе перавязаў. За ўвесь гэты час ён не прамовіў ні слова, і Аляксею здалося, што навокал наступіла бальнічная цішыня, хоць недзе блізка гурчаў танк.

— Трэба будзе, таварыш капітан, легчы ў санбат. Такія справы. Пакуль мы стаім, вы якраз управіцеся здаць камандаванне... — Ён гаварыў будзённа і нават нібы абыякава, тым часам звыкла закрываючы сумку. Быстроў па-ранейшаму свяціў на яго рукі, і яго твару Аляксею не было відаць.

— Здаць? З-за гэтай дробязі?! Ты што, жартуеш, Вітошка?

— Якія тут могуць быць, таварыш камбат, жарты? Гэта не дробязь, — абавязкова трэба рабіць аперацыю. Патрэбен таксама шпітальны рэжым... Хочаце ці не хочаце, а без санбата вам не абысціся.

Аляксей зазлаваў:

— Ну, што ты заладзіў — санбат, санбат!.. Не хачу я ў санбат, — але ўслед за гэтым, разважыўшы, што цяпер заядацца з фельчарам не варта, перамяніў тон гаворкі: — Ты разумееш — я амаль дома. Заўтра буду ў сваёй хаце — самае большае праз суткі. Ты разумееш?

— Але вам, камбат, трэба лячыцца. Можа раптам здарыцца гангрэна, я не магу гарантыраваць вас ад гэтага. Могуць быць іншыя непрыемнасці... Адным словам — трэба лячыцца.

— Лячыцца?.. Ну і добра. У Мінску я, калі ўжо на тое ідзе, акурат і падлячуся.

— Дома хутчэй зажыве!.. — уступіўся за Аляксея з цемры голас Колышава. — Ты разумееш, Вітошка, дома камбат ад аднаго дамашняга паветра паправіцца!

Але фельчар, звычайна, здавалася, мяккі, лагодны хлопец, упарта настойваў на сваім. Аляксей жа па-ранейшаму не здаваўся.

— Слухай, чалавек ты ці не чалавек? — Не вытрымаў Быстроў. — Ты разумееш чалавечую мову?

Фельчар, не слухаючы яго, запытаўся ў Аляксея:

— Значыцца, адмаўляецеся ехаць у санбат?

— Так, не хачу.

— А я не хачу, каб мяне за вас потым чысцілі! Ясна?!. Я перадам палкоўніку, калі майго слова мала, — прыгразіў фельчар. — Будзеце гаварыць з камбрыгам!

«Глядзі ты, які ўпарты!» — падумаў Аляксей. Хтосьці з танкістаў, раззлаваны, назваў фельчара і ветэрынарам, і бюракратам, і фармалістам, дадаўшы, што ён нічога не разумее ў чалавеку.

— Не трывожся, капітан, усё будзе добра,— спакойна прамовіў Быстроў. — Мы самі пагаворым з камбрыгам, ён зразумее цябе! Я ўпэўнены, што зразумее...

«Кепска, — пачаў непакоіцца Аляксей. — Калі Бяссонаў згодзіцца з Вітошкам, не браць мне Мінска, не быць дома...»

3

Непадалёк за некалькі хвілін перад гэтым спынілася легкавая машына. З машыны вышаў прысадзісты дужы чалавек, які запытаўся ў аднаго танкіста, як тут знайсці капітана Лагуновіча.

Прыезджы, убачыўшы каля чорнага абрысу «трыццацьчацвёркі» групку танкістаў, якія спрачаліся, і пазнаўшы сярод іншых галасоў капітанаў голас, прыпыніўся і стаў моўчкі слухаць. Ён вельмі хутка зразумеў прычыну перапалкі.

— Хто тут грозіцца гаварыць са мною? — нечакана пачуўся яго басок. — Бач, расшумеліся — на ўвесь лес!

«Камандзір брыгады!» — пазналі танкісты, і гамонка адразу сціхла.

Бяссонаў заехаў сюды для таго, каб праверыць, як батальён рыхтуецца да бою, даць танкістам парады і каб даведацца, як паранены капітан, як ён адчувае сябе. Але наблізіўшыся цяпер да камбата, палкоўнік спачатку загаварыў не з ім, а пачаў распытвацца ў фельчара, якая рана, ці перабіта косць. Паглядзеў уважліва і холадна на твар капітана, які здаваўся ад страты крыві і электрычнага святла ліхтарыка белым, заўважыў хмурны, упарты позірк. Не гледзячы на фельчара, запытаўся:

— Адправіць, значыцца, трэба?

«Усё. Загадае зараз ехаць у шпіталь, сухая душа...» — падумаў насцярожана Аляксей.

— Трэба, таварыш гвардыі палкоўнік.

— А ён — не хоча?.. Не хочаш, капітан, ехаць назад?.. Дарэмна...

— Я яшчэ магу ваяваць, таварыш гвардыі палкоўнік! З такою ранай жыць можна!..

— Жыць можна, капітан, а вось ваяваць наўрад.

— Таварыш гвардыі палкоўнік! Я кажу!..

— Не кажы!.. Я не дзяўчына,— прамовіў Бяссонаў рэзка.— Не хочаш, значыцца? Ну, што ж, калі ты. сам дабіваешся гэтага, капітан, дазваляю — заставайся. Да Мінска! Паваюй яшчэ суткі. Твая дапамога мне будзе, можа, нялішняя,— і мякчэй, па-таварыску: — я ведаю, чаго ты хочаш: хутчэй увайсці ў Мінск, салдатам!..

— Хочацца пабачыць, таварыш гвардыі палкоўнік, што там у горадзе, — праз тры гады... — Аляксей адчуваў сябе вінаватым. — Сям'ю не церпіцца хутчэй знайсці. Ды адтуль — і на фронт дабірацца будзе лягчэй: бліжэй!

Палкоўнік павярнуўся, як звычайна ўсім тулавам, да фельчара:

— Назірай за ранай, ды — уважлівей!..

У лясочку было цемнавата і вельмі цёпла, нібы ў куране. Нагрэтая за дзень зямля, дрэвы і паветра ніяк не маглі астыць, патыхалі цяплом, лагоднай цішынёю, спакоем. Стаяў такі сухмень, што на траву не лажылася раса.

У такую ночку добра спіцца ў лесе, асабліва пасля трывожнага гарачага дня. Але амаль ніхто не спаў, бо ўсе ведалі, што ўранні пачнецца бой за Мінск, і рыхтаваліся да яго. Камандзіры, якіх Аляксей сабраў на нараду, вывучалі падыходы да горада, маршруты па вуліцах, абмяркоўвалі розныя справы, звязаныя з блізкім боем, другія папаўнялі машыны снарадамі, гаручым, правяралі маторы, нацяжэнне гусеніц.

Панавала бадзёрая ўзрушанасць — ва ўсіх толькі і было размоў, што пра Мінск, пра штурм... Амаль перад самым выступленнем, калі танкісты Лагуновіча чакалі, што вось-вось будзе загад рушыць, прыехаў сюды на танку падпалкоўнік Семіжон.

— Як рука, капітан? — запытаўся ён у Аляксея.

Поблізу сталі часта біць гарматы. Аляксей перачакаў страляніну.

— Рука?.. Не чую, як яна...

— Душа баліць? Апошняя хвіліна заўсёды сцягваецца.— Семіжон загадаў сабраць усіх. Танкісты сыходзіліся, перагаворваючыся, смеючыся, зыркаючы іскрачкамі цыгарак. Твараў іх не было відаць, але па гэтай гамонцы, па агеньчыках адчувалася мноства людзей, якія стаялі тут, пад дрэвамі. Па тым, як яны задорна гаварылі, як смяяліся, Аляксей адчуваў, што настрой ва ўсіх найлепшы. Яму было радасна.

Пачуўся ціхі, сіплаваты голас падпалкоўніка, і ўсе адразу сціхлі.

Семіжон пачаў з таго, як ён гэта цяпер часта рабіў, што расказаў апошнія паведамленні. Нашы ўжо занялі Вілейку, перарэзалі чыгунку Мінск-Вільнюс.

— З'явіўся новы напрамак — Баранавіцкі! На гэтым напрамку ўжо вызвалілі Нясвіж, Гарадзею і Стаўбцы. — Семіжон гаварыў радасна-ўсхвалявана, адчуваючы, што гэтая ж радасць поўніць сэрцы ўсіх яго слухачоў.

Сонцаў, выказаўшы агульны настрой, крыкнуў:

— Эх, мама родная! Гітлераўцам цяпер, выходзіць, з Мінска драпаць некуды.

Аляксей падумаў — Мінск яшчэ не вызвалена а ўжо становіцца як бы тылавым горадам. Яшчэ не скончан Мінскі напрамак, а ўжо існуе Баранавіцкі...

— Таварышы! — узвысіў голас Семіжон. — Настала і наша чарга парадаваць Радзіму. Нам выпала чэсць, вялікая чэсць вызваліць адзін з важнейшых гарадоў нашай краіны, сталіцу Беларусі, гераічны Мінск!.. Радзіма, якая паслала нас сюды, даручыла нам гэтую вялікую справу, верыць, што мы апраўдаем яе надзею. Не толькі армія, але і ўся краіна, мільёны людзей, што глядзяць на нас з Урала, з Каўказа, з Паволжжа, чакаюць ад нас — вярніце Мінск!.. Нас чакаюць нецярпліва, як самых дарагіх людзей, там, у блізкім Мінску, які гітлераўцы паляць і падрываюць, дзе пакутуюць тры гады ў фашысцкай няволі, тры доўгія гады нашы маткі, дзеці, сёстры, нашы родныя!.. Крывавыя гітлераўскія каты акружылі горад і збіраюцца заўтра ўчыніць расправу над усімі, хто яшчэ дажыў да сённяшняй ночы. У горадзе вывешаны аб'явы, у якіх эсэсаўцы загадваюць сабірацца людзям на спецыяльныя зборныя пункты, сабірацца на смерць, на здзек. Не дадзім на здзек нашых людзей!

— Не дадзім! — адгукнуўся ўзрушана Колышаў.

— Смерць фашысцкай погані!

— За наш Мінск, за перамогу! За нашу вялікую Радзіму.

Пры апошніх словах падпалкоўніка выбухнула нецярплівае, напорыстае «ўра», якое рэхам пакацілася па ляску. Усе, было відаць, як і Аляксей, таксама ірваліся хутчэй у горад, на штурм.

Семіжон пасля мітынгу застаўся ў батальёне Аляксея. Ён уладзіўся ў роце Аліева і з гэтай ротай, якая павінна была падысці да Мінска адной з першых, чакаў, калі танкі рушаць...

Аляксей, які няспынна трымаў сувязь з Бяссонавым, перагнаўшы іншыя машыны, падляцеў да разведчыкаў. Яму трэба было перадаць Гогабярыдзе новыя весткі пра абстаноўку, хацелася асабіста

і падрабязна расказаць пра тыя мясціны, дзе зараз прыдзецца дзейнічаць разведчыкам. Эх, калі б Аляксей мог, меў права ісці ў горад разам з разведчыкамі, так, як і яны, першым ісці!.. Камбат, не прызнаючыся сабе, мімаволі зайздросціў Гогабярыдзе і іншым разведчыкам.

— Пакажы мне, Аляксей, калі ласка, дзе твой дом стаіць? — загаварыў Сандро, ледзь толькі ўважліва выслухаў парады і весткі Аляксея. — Каб не разбіць мне часам яго сваёй гарматай. А то — твой друг яшчэ стане тваім ворагам! Нашто мне гэта? Не хачу! — казаў ён з жартаўлівай трывогай.

Ён прыхіліўся да Аляксея і зашаптаў на вуха,

— Я, калі мы прыедзем туды, дзе стаіць твой дом, загадаю ўсім сваім хлопцам спыніць машыны на пяць хвілін і зраблю ў чэсць нашага камандзіра салют!

— І атрымаеш за гэта вымову ад мяне! — Аляксей засмяяўся.

— Ну, не. У крайнім выпадку можаш даваць — камбрыг мяне ўсё роўна апраўдае. А як жа. Заслужаны камандзір, герой, мой друг, вяртаецца ў родны горад — пасля трох год! І не адзін — з цэлым батальёнам! Ці ж можна без салюта?! Калі б другі час, трэба было б такую сустрэчу зрабіць, каб віно пяць дзён і пяць начэй лілося... Ах, шкада — цяпер нельга!

Гогабярыдзе абняў Аляксея па-сяброўску і папрасіў:

— Аляксей, будзь другам — пазнаёміш мяне з Нінаю? Я хачу, Аляксей, пабачыць, якая яна прыгажуня ў цябе.

— Пазнаёмлю, Сандро... Калі можна будзе...

— А чаму будзе няможна?

— Яны, Сандро, таксама на вайне. А на вайне, ты ведаеш, што можа быць за тры гады. Непакоюся я, дружа... Ну, давай, вядзі сваіх.

Аляксей, перадаўшы, каб батальён выступаў, пачакаў тут, пакуль падыдуць «трыццацьчацвёркі», і далей ішоў ужо разам з імі. Танкі ўсё набліжаліся да горада. Наперадзе Аляксей бачыў некалькі крывава-барвовых зарываў ад пажараў, што расцягнуліся па небасхілу. Яны то ўспыхвалі, уздымаючы высока ў неба варушлівыя водсветы, то спадалі, і неба тады як бы зніжалася і станавілася чарнейшым. Страшныя зарывы былі так блізка, што, здавалася, чуўся подых гарачыні ад іх.

Ён столькі марыў пра гэтую хвіліну, і вось яна надышла — блізка, як ніколі...

Пазіраючы на зарывы, што трапяталі над дарогаю і ўзгоркам, Аляксей заўважыў, як ім авалодвае ўсё большая нецярплівасць і трывога. Напэўна, ніколі ён так не трывожыўся, як цяпер.

Што там яго чакае?

4

Недалёка ад горада Лагуновіч збіў варожы заслон, павярнуў свае танкі на магістраль і павёў па асфальце проста на Мінск.

Аляксей увесь час бачыў наперадзе вялікія зарывы.

Калі пачало развідняцца, выслізганыя гусеніцы, ляскочучы, лічылі апошнія кіламетры магістралі.

Першымі да ўскраіны падыходзілі тры машыны, якімі камандаваў лейтэнант Гогабярыдзе. Большасць машын батальёна напагатове стаялі ззаду, на шасэ і ўзбочынах каля палосак спеючай збажыны. Аляксей сядзеў на вежы, нецярпліва прыслухоўваючыся да гукаў у шлемафоне. Ён чакаў вестак ад разведкі.

Усё, што ён бачыў навокал, было яму знаёмым. І лагчынка, у якой цяпер было некалькі танкаў, і лясок злева, і пляскаты роўны верх будынка метэастанцыі, які ўздымаўся з-за абрысу ўзгорка наперадзе. Ускраіну і сасняк гарадскога парку адсюль не было відаць, але Аляксей адчуваў іх побач.

Яго думкі былі разам з Гогабярыдзе, на гарадской ускраіне, і далей у горадзе, які ён ведаў, можа, больш, як сябе самога. Ён чакаў хвіліны, калі можна будзе рушыць са сваімі танкістамі туды — услед за думкамі, за жаданнем.

— Табе не здаецца, капітан, што мы ідзем марудна? — успомніліся яму словы Гогабярыдзе. Гэта Сандро сказаў, калі Аляксей даваў яму апошнія парады перад цяперашняй «працай». Лейтэнант тады, хітравата ўсміхнуўшыся, дадаў: — Ці, можа, ты не спяшаешся?

— Можа...

— Ой, не хітруй, друг, — бачу ўсё: стрымліваешся. Які ты, капітан, дзіўны! Па табе і не відаць, што ты хвалюешся, ірвешся туды. Скала — чалавек! А я, ручаюся, у такі час нарабіў бы якога-небудзь глупства... Узяў бы ўвесь батальён і паляцеў бы ў горад, як вецер, як бура!..

— Гарачая ты галава! — прамовіў Аляксей. — Нядобра: трэба, Сандро, мець сэрца гарачае, а галаву халодную. Хоць і я не такі каменны, як ты думаеш...

Аляксей узняў адзін навушнік і прыслухаўся, ці не чуваць гукаў бою наперадзе.

— Чаму ён маўчыць? — Быстроў, які сядзеў поруч з Аляксеем, нецярпліва пазіраў наперад.

— Рана яшчэ...

Танкі Гогабярыдзе ішлі абапал магістралі, адзін з левага боку, а два з правага. Прайшлі шырокую лагчыну, мінулі метэастанцыю і паволі па адным пачалі падымацца на прыгорак, на якім віднелася некалькі драўляных хатак. «Трыццацьчацвёрка» Гогабярыдзе ішла побач з шасэ, якое, выпінаючыся, імкліва бегла ўгару, прападаючы непадалёк за грэбнем пагорка. Асфальт, мокры ад ранішняй вільгаці, цьмяна блішчаў.

У гэты час па пярэдняй машыне, якая ўжо знікла за прыгоркам, ударылі раз, другі гарматы. Танкісты адказалі некалькімі стрэламі. Камандзір машыны перадаў, што гарматы б'юць здалёк. Гогабярыдзе загадаў весці з імі бой, а сам з другога боку шасэ ўсё ішоў наперад...

Узгорак, што хаваў ад вачэй горад, з кожнай хвілінай апускаўся ніжэй. І раптам у перыскопе перад вачыма з'явіўся малюнак горада — справа недабудаваны вялікі барвовы будынак і каля яго некалькі драбнейшых, злева — цёмны выносісты сасняк. «Мінск!» — мільганула ў галаве. Гогабярыдзе хутка, але пільна акінуў сцены будынкаў, асабліва бліжэйшага чырвонага дома, шырокае рэчышча шасэ, якое ўваходзіла ў вуліцу. «Можна праскочыць туды да чырвонага»,— загарэўся Сандро.

— Наперад, проста, да чырвонага!..— крыкнуў ён вадзіцелю.

Танк ірвануўся і хутка панёсся па ўзбочыне. Гогабярыдзе ўпіўся вачыма ў прасцяг — насустрач бегла пустая брукаваная вуліца і вялікі барвовы будынак.

«Як хутка развіднела!»

Нечакана лейтэнанта моцна кінула ўгару, потым ударыла аб бакавую браню. Ён удару не пачуў, як не чуў і болю. Толькі, нібы рэха, зноў празвінела ў галаве «развіднела», — цяпер нейкае вострае, гарачае. І ў той жа міг усё згасла — і трывога, і гарачы звон...

Танк, падкінуты выбуховай хваляю, адразу нахіліўся на правы бок і нерухома застыў. Пакарэжаныя каткі ўехалі ў зямлю, побач іх выцягнуўся абрывак сарванай гусеніцы, вакол якой валяліся раскіданыя выбухам тракі. На абпаленую траву, на машыну ападалі камякі зямлі і пясок.

— Міны. Гогабярыдзе падарваўся... — пачуў Аляксей усхваляваны голас.

## 5

Камбат загадаў разведчыкам павярнуць правей, на тэрыторыю Пушкінскага пасёлка. Ён паслаў туды ў дадатак узвод Колышава.

Прыкрываючыся ўзгоркам, машыны Колышава хутка папраставалі праз поле. Яны без аднаго стрэлу дайшлі да ўскраіны і ўпаўзлі ў

крывую вуліцу. Тут аўтаматчыкі саскочылі з машын і пачалі ступаць ззаду, прыціскаючыся бліжэй да ўчарнелых сцен і платоў.

Колышаў мінуў першыя будынкі ўскраіны. Драўляныя хаты стаялі адна пры адной нядружна, як прыйшлося. На вуліцы было пуста і маўкліва, аўтаматчыкі забеглі ў адзін двор, у другі — нікога няма. Як вымерла вуліца...

І ўсё ж думка пра тое, што гэта Мінск, радавала Колышава. Ён быў бы зусім шчаслівы ад таго, што ўваходзіць сюды з першымі, калі б не трывога за Гогабярыдзе.

Эх, як не пашанцавала Сандро! І трэба ж было так здарыцца — скласці галаву пад самым горадам... А можа, ён не забіты, а толькі паранены ці кантужаны,— няўжо ён на фугас наскочыў?

Тады, калі Колышаў думаў пра гэта, Гогабярыдзе ўжо апрытомнеў. Яго, відаць, толькі аглушыла выбухам. Цяпер у яго главе, у вушах надакучліва звінела, — Сандро паморшчыўся, агледзеўся вакол сябе. Ён убачыў камандзіра гарматы, які падтрымліваў яго, нібы збіраўся выносіць з машыны. Поруч ляжаў грудзьмі на замку гарматы зараджаючы.

Сандро, напружваючыся над сілу, абапіраючыся рукой аб сценку, падняўся і выглянуў у перыскоп. Вуліца, як і раней, была пустая. «Я, здаецца, на міну наскочыў?!» — не здзівіўся, не сумеўся, а проста адзначыў сабе ён. Павярнуў перыскоп — танкаў ззаду не было. Але Сандро ўбачыў іх лявей, наводдаль — яны падыходзілі да хат, хутка хаваліся за будынкамі, потым выглядалі і зноў знікалі за іншымі хатамі...

«Яны пайшлі адны? Адны, без мяне?» — нібы не паверыў сваім вачам Сандро. У яго адразу невядома адкуль прыбавілася сілы.

Ён павярнуў зараджаючага: той дыхаў. Сандро разам з башнёрам паднеслі яго к люку, палажылі, потым Сандро выбраўся праз другі люк і выцягнуў зараджаючага з машыны. Тут да яго падбег кулямётчык.

— Бяры,— скамандаваў Гогабярыдзе башнёру, і яны ўдваіх, прыгінаючыся, у кювеце, панеслі зараджаючага да сваіх.

...Тым часам Колышаў са сваімі «трыццацьчацвёркамі» паволі ўсё паглыбляўся ў горад. Абышоў па дварах, па ямах, некалькі двухпавярховых драўляных дамоў, злева ад якіх курэў, дагараючы, вялікі будынак з шырокімі пустымі вокнамі. Колышаў павярнуў у правулак і неспадзявана наскочыў на зялёныя постаці, якія цягнулі дзве працітанкавыя гарматы. Не прайшло хвіліны, як гарматы былі раздушаны, а іх разлікі разагнаны. Колышаў выскачыў на вуліцу.

На ўскраіне ўжо грукаталі іншыя машыны батальёна. Аляксея, які прагна пазіраў на гмахі і хаты, што былі яму знаёмымі, як людзі, поўніла адно адчуванне, — ён ідзе па мінскай вуліцы! Гэта рэальнасць успрымалася яшчэ нібы сон. Але і сон той хваляваў незвычайна.

Увесь час Мінск быў недзе далёка, у думках, а цяпер ён — вось. І Аляксееў батальён ідзе па ім адным з першых.

Бяжыць насустрач мінская вуліца... Аляксею здавалася, што ён не сядзіць на машыне, прытрымліваючы руку на марлевай касынцы, — а плыве, ляціць у паветры — ад шчасця і нецярплівасці...

Колышаў павярнуў ужо на другую вуліцу. Над лейтэнантам пранеслася некалькі снарадаў, але яму не было чуваць іх, пакуль снарады ляцелі. Выбухі грымнулі непадалёк ззаду, выламваючы брук, раскідваючы асколкі. Калі Колышаў пачуў гэтыя выбухі, стала як-бы спакайней. Стрэлы разбілі зманлівую цішыню і адагналі напружанасць і насцярожанасць, што пачалі гнясці яго, пакуль ён ішоў па маўклівых вуліцах, якія нібы нешта хавалі, небяспечнае і невядомае. Танк скрыгануў па бруку так, што з-пад яго паляцелі іскры, і, ляскаючы тракамі, пабег наперад, дзе ў прасвеце між двума спаленымі каменнымі гмахамі віднеліся на ўзгорку абрысы шматпавярховых будынкаў. Там быў цэнтр Мінска.

Раптам на вачах Колышава дамы ў перыскопе радасна заяснелі, зазіхацелі шыбамі. Яны перамяніліся так хутка і так неспадзявана, што Колышаў здзівіўся: чаму яны такімі сталі?

Гэта ж узышло сонца!

Глядзі ты, якім радасным зрабілася ўсё навокал.

Зранены, скалечаны, са страшнымі знявечанымі сценамі, горад увесь праменіўся, нібы хацеў, каб тым, хто ішоў сюды, не было сумна ад яго ран...

Колышаў падвёў танк за край дома, асцярожна выглянуў з вежы і акінуў позіркам лагчыну, што ляжала поблізу. Праз лагчыну, на якой — амаль у сярэдзіне горада — зелянелі палосы бульбы, агароджаныя не плотам, а спінкамі спаленых паржавелых ложкаў, цякла павілястая нешырокая рэчка. Першае, што заўважыў лейтэнант, было тое, што найбольш карцела, — мост. Мост быў узарваны, — Колышаў бачыў, што краі перабітага пасярэдзіне пралёту патанулі ў вадзе... Блізка за мостам дзесяткі два гітлераўцаў, азіраючыся, перабягалі вуліцу. Злева, куды яны беглі, віднеліся будынкі з заводскай трубой — гэта быў Эльвод, — і на ўзгорку купчастыя высокія дрэвы. Між дрэваў таксама мітусіліся постаці.

Знянацку Колышаву ўдарыла ў твар са сцяны каменным крупіннем і чырвоным пылам. Ён мімаволі прыгнуўся. Над галавой па каменні прайшлася наўскася кулямётная чарга...

— Асколачны! — Колышаў, упаўшы на сядзенне, скамандаваў арыенціры цэлі. Камандзір гарматы адразу падаў ручку рэастата ўлева. Вежа павярнулася ў кірунку дрэваў.

Гармата адскочыла назад, бліснуўшы кідкім белым полымем, і праз міг на травяністым адхоне, ля дрэваў, выскачыў сінявата-шызы куст. За ім услед вырас другі. Гітлераўцы рассыпаліся, прыпалі да зямлі. Насустрач ім, страляючы на хаду, ужо беглі нашы пехацінцы...

6

Колышаў павёў танкі ў напрамку опернага тэатра, адкуль павярнуў па спаленай вуліцы ўніз да Свіслачы, дзе, як гаварыў яму камбат, быў яшчэ адзін мост, прыдатны для танкаў.

уіедзь Колышаў намерыўся паслаць да моста сапёраў — агледзець яго,— з двара, наперарэз ім выскачыла пажылая жанчына з хусткай, якая збілася на шыю, з ускалмачанымі валасамі, — яна занепакоена махнула рукамі. Танк спыніўся. Адзін з аўтаматчыкаў, якія сядзелі на «трыццацьчацвёрцы», падбег да жанчыны.

— Стойце!. Стойце... Куды вы, родненькія, — яна кінула рукой у бок моста. — Там жа міны.

— Дзе?

— Пад мостам... Учора палажылі...

Колышаў, спыніўшы танк каля сцяны спаленага дома, выбраўся з вежы і, агледзеўшы ўважліва супрацьлеглы бераг, паслаўшы туды аўтаматчыкаў з некалькімі сапёрамі, наблізіўся да рэчкі. Спусціўся ўніз да масляністай вады, у якой было добра відаць неглыбокае цёмнае дно, а наверсе плавала, варушылася купка водарасляў з выцягнутымі ўсцяж плыні расчэсанымі зялёнымі косамі. Колышаў убачыў пад мостам мяшочкі з толам.

Ён сказаў двум сапёрам, якія сышлі да рэчкі следам за ім, каб яны зараз жа размініравалі. На другім баку ў гэты час ужо гаспадарылі аўтаматчыкі. Адзін сапёр, пажылы, з падстрыжанымі вусамі, адразу спакойна палез пад мост, а другі падышоў да насцілу, пачаў аглядаць уздоўжныя масніцы і парэнчы. Неўзабаве ён перарэзаў і асцярожна выцягнуў абрывак провада. Жанчына стаяла каля моста і са страхам пазірала то на іх, то на танкістаў.

— Божа мой, як жа гэта яны так пайшлі? Яны ж зараз падарвуцца?.. Скажыце, каб беглі назад. Хай уцякаюць адтуль хутчэй!..

— Нічога кепскага не здарыцца, — супакоіў яе Колышаў.

Сапраўды, мост быў хутка размініраваны. Колышаў развітаўся з жанчынаю і, пераправіўшы танк па грымотных масніцах на другі бок, перадаў Аляксею:

— Пераправа ёсць, таварыш гвардыі капітан.

Калі да моста наблізіўся са сваімі машынамі

Аляксей, тут ужо быў цэлы натоўп. Людзі, якія стаялі абапал бруку і на дарозе, — жанчыны, дзеці, старыя, падлеткі, хлопцы, — убачыўшы грукатлівыя машыны, не толькі не сышлі з дарогі, а, цягнучыся да танкаў, якім прыйшлося адразу замарудзіць хуткасць, падступаючы да самых гусеніц, штосьці радасна крычалі, размахвалі рукамі, ускідвалі шапкі. Аляксей спыніў машыну, і натоўп адразу нахлынуў яшчэ бліжэй з. усіх бакоў. Хтосьці кінуў да Аляксея жмут кветак, якія рассыпаліся на вежы.

Не паспеў капітан, саскочыўшы з машыны, прывітацца, як яго схапілі, сціснулі ў моцным абдымку. Ён убачыў перад сабою шчаслівыя, бліскучыя вочы пажылой жанчыны, пачуў гарачы шэпт: «Сонейка ты маё!» Яго замурзаны пылам твар апаліў пацалунак.

Ён, стараючыся не павярэдзіць раненую руку, аберагаючы яе, папрасіўся:

— Асцярожна... Чакайце!.. Чакайце...

Але дзе там — хіба яны маглі чакаць! І так колькі чакалі.

Ён апынуўся ў другім абдымку, трэцім, пятым. Усе цягнуліся, усе, колькі тут поблізу было, ірваліся да яго. Адна маленькая, бялявая жанчына, як абняла яго за шыю, дык усё цалавала і цалавала, — нібы забыўшыся на ўсіх, на ўсё на свеце, аніяк не хацела адпускаць. Другая, што стаяла каля яе, не ўтрывала:

— Ну, хопіць, хопіць ужо! Дай і другім падступіцца!.. вось жа захапіла — як свайго мужа!

— А што! Ён мне, можа, даражэй за мужа...

Вакол засмяяліся. Засмяяўся і Аляксей. Пад гэты смех яна пацалавала Аляксея яшчэ раз і выпусціла, сказаўшы штосьці жартаўліва-незадаволенае суседцы, папраўляючы бялявыя валасы, што выбіліся на лоб. Радасць сустрэчы, якой жылі людзі, перапаўняла і Аляксея. Ён з захапленнем пазіраў у твары незнаёмых людзей, якіх, здавалася, ведаў даўно, помніў, чакаў бачыць. Вось яны, мінчане, землякі дарагія.

Сам, напэўна, таго не заўважаючы, ён шукаў вачыма кагосьці ў натоўпе. Каго? Нініну маці з яго сынам. Ён нецярпліва шукаў іх, хоць і думаў, што іх, напэўна, тут не ўбачыць, бо ён жыў да вайны далёка ад гэтага месца.

— Каго вы выглядаеце? — запыталася адна жанчына.

— Пра што вы? А-а, каго шукаю? Сына свайго... Ці дачку.

— Як сына ці дачку?

— Я ж мінчанін. Я цяпер — дома...

— Дома? Вось шчасце будзе малым! — пазайздросціў і парадаваўся хтосьці.

Аляксей устрывожана падумаў, ці ўдасца пабачыцца з Нінаю. А можа, яна затрымаецца ў атрадзе? Ды і наогул ён не ведае, што з ёю. Чаму ад яе не прышло ніводнай весткі? Калі б з ёю было ўсё добра, няўжо яна не напісала б...

Хутка ён пра ўсё даведаецца... Вось ужо злева пайшлі першыя, перажыўшыя многа вякоў і многа войн, асеўшыя ў зямлю камяніцы вузенькай Нямігі,— адсюль Аляксей павярнуў на вуліцу Астроўскага. Танкі пачалі ўзбірацца ўгару, на Юбілейны пляц.

...На пляцы Аляксея дагнаў хуткі газік, з якога раптам саскочыў, апрануты ў камбінезон, чарнявы танкіст, вельмі падобны да Гогабярыдзе. Неспакойна махаючы рукой — спыніся, кульгаючы, ён подбегам падаўся да Аляксеевага танка.

— Ты? Сандро?— здзівіўся і ўзрадаваўся Аляксей, падаўшы Гогабярыдзе здаровую руку і дапамагаючы ўзабрацца на машыну. — Значыцца, жывы?

— Эх! Не пашанцавала, — расчаравана выпаліў Сандро.— Перад самым горадам — трах! Узарваўся!.. Скажы, куды пайшлі разведчыкі? І загадай, каб мяне туды хутчэй падкінулі. Будзь другам, Аляксей, загадай!..

Праз хвіліну ён ужо ляцеў на Апанскую...

## Раздзел VII

### I

Неўзабаве пасля таго, як танкісты і пехацінцы ўварваліся ў горад з боку Маскоўскай магістралі, да Мінска падышлі нашы часці і з поўначы.

На паўночнай ускраіне таксама пачаліся баі. Выбіваючы ворага з дотаў і дамоў, нашы салдаты пачалі ачышчаць і гэтыя кварталы горада.

З поўначы ж за горадам танкавае злучэнне маршала Ротмістрава, якое заняло Лагойск, абыходзіла нямецкія пазіцыі, пераразаючы апошнія шляхі адыходу ворага з Мінска.

Амаль тады ж танкі ўвайшлі і на паўднёва-ўсходнюю ўскраіну. Разам з пехацінцамі яны рушылі па вузкіх вуліцах, расстрэльваючы нямецкія заслоны і агнявыя кропкі.

Пад ударамі з трох кірункаў нямецкі гарнізон вымушан быў кідаць адну пазіцыю за другой. Варожыя салдаты разбягаліся або здаваліся ў палон. Многія з іх спрабавалі хавацца ў руінах і сутарэннях.

Не зважаючы на страляніну немцаў з парку, Юрый Туравец разам з другімі пехацінцамі з дывізіі Шчарбацюка пераправіўся ўброд цераз Свіслач.

Узняўся на круты, высокі адхон...

Вось і цэнтр Савецкай. Горы камення і пустыя каробкі. Юрый мімаволі сціснуўся і нахмурыўся, нібы ад болю. Яму адразу прыпомніўся далёкі чэрвеньскі дзень, блакітны дзень, у які першы раз бамбілі горад. Юрыя бамбёжка застала ў прыяцеля. Вяртаючыся дахаты, ён убачыў на месцы дома высокую дзікую строму сцяны і гару камення.

Адтуль, з-пад абломкаў, адкапалі нежывую маці...

Адсюль зусім недалёка тое месца... Тут думкі Юрыя ўраз пераменіліся, бо, як толькі ён і іншыя пехацінцы вышлі з-за будынка, што побач з Домам Чырвонай Арміі, і падаліся паўз скверык і між дрэваў далей, спераду аднекуль ударыла кулямётная чарга.

Прынікшы да дрэва, сержант стаў узірацца ў прагаліну, у якую віднеліся руіны дома на рагу Энгельса і Савецкай і прамавугольныя абрысы кінотэатра «Чырвоная зорка». Кулямёт біў, відаць, адтуль, ад кінотэатра.

Ад гэтага кулямёта затрымліваўся не толькі ўзвод Праворнага, а, напэўна, увесь батальён, усе, хто ішоў па абодва бакі Савецкай.

Пяхоты было тут многа, і ледзь толькі здарылася затрымка, увесь скверык стаў вельмі хутка запаўняцца байцамі. Падышоў сюды і Паўлоўскі, які адразу, разабраўшыся ў чым справа, загадаў Праворнаму з узводам абыйсці кінотэатр злева і «вымесці» кулямётчыкаў...

Юрый адным з першых прабіраўся між гор камення, паўз абломкі сцен. Ён цяпер тут амаль нічога не пазнаваў, такім гэта было непадобным на тое, што ён помніў.

Усё-ткі да кінотэатра ён падвёў добра.

Будынак «Чырвонай зоркі» гітлераўцы спалілі, але каменная лесвіца і бетонныя столі, якія выгнуліся ўніз, былі цэлыя. Юрый, нарыхтаваўшы аўтамат, разам з Шарыфутдзінавым і іншымі стаў уздымацца па лесвіцы.

У калідоры яны сустрэліся з трыма гітлераўцамі, якія беглі насустрач. Адзін з іх, маленькі, шыракатвары, адхіснуўшыся назад, раптам выхапіў з-за пояса гранату і замахнуўся.

Але яго папярэдзіла аўтаматная чарга — спрытны, быстры Шарыфутдзінаў, амаль не цэлячыся, выпусціў некалькі патронаў.

Гітлеравец пераламаўся ў поясе і асеў на пачарнелы, патрэсканы бетон. Яшчэ адзін гітлеравец узняў рукі, а трэці кінуўся наўцёкі, але не паспеў прабегчы і дзесятка крокаў, як упаў мёртвы.

Калі рабаваты сібірак Пятых высунуўся ў пакой, з якога толькі што чулася кулямётная страляніна, яму адразу ж прыйшлося адскочыць.

Адтуль некалькі разоў запар стрэлілі з пісталета.

Маленькі чарнавокі Шарыфутдзінаў прамармытаў на сваёй мове нешта пагрознае, уставіў у гранату запал, улучыў зручную хвіліну і шыбнуў гранату ў пакой.

Услед за імі Юрый зазірнуў у пакой: адзін кулямётчык ляжаў нерухома і ціха на бетоне, падвярнуўшы пад сябе рукі, другі, што быў з пісталетам, знік.

— Чорт, дзе ж ён мог падзецца?

Але шукаць яго не сталі, спяшаючыся хутчэй выбрацца адсюль, каб не адстаць ад сваіх. Справа і злева мноства пехацінцаў прайшлі ўжо наперад.

На Ленінскай вуліцы Юрый убачыў тую сцяну, якая засталася ад дома, дзе была калісьці іх кватэра.

Сцяна стаяла, як і тады, тры гады назад. Як яна выстаяла? Што гэта там, на другім паверсе, на іх балкончыку? Вазон! Той, які маці вынесла з пакоя ў свой апошні дзень? Няўжо той самы?!.

Кожны куток тут што-небудзь прыгадвае... Але мацней усяго быў успамін пра гібель маці. Быццам яна загінула толькі некалькі хвілін таму...

Мінуўшы Ленінскую, Юрый перайшоў на другі бок Савецкай. Па вуліцы, па руінах ланцужкамі, россыпам ішло многа пехацінцаў.

Іх бачыў Юрый і на пляцы Волі, які быў добра відаць адсюль цераз руіны. Адтуль, з пляца Волі, на Савецкую выпаўзлі дзве «трыццацьчацвёркі», якія ўпэўнена і непаспешліва пасунуліся ў бок універмага.

Калі пехацінцы падышлі да высачэзнага сіняватага будынка ўнівермага, ва ўзводзе Праворнага паявілася некалькі незнаёмых. У іх былі чорныя пагоны. Па мінашукальніках, якія неслі два з іх, Юрый здагадаўся, што гэта сапёры.

— Мы да Дома Урада... Спецыяльнае заданне...— растлумачыў сваю місію адзін з іх, старшына з вострымі вусамі.

Яны перайшлі з другой роты, якой, аказалася, давядзецца наступаць крыху лявей Дома Урада.

Неўзабаве пехацінцы падышлі да вастраверхай цаглянай будыніны касцёла. Ababегшы паўз агароджу, паўз каштаны, касцёл і

драўляную хатку, якая стаяла побач з касцёлам на ўзвышшы, Юрый і Праворны з двума байцамі апынуліся перад Домам Урада.

Юрыю да гэтага прыходзілася па ўсёй Савецкай бегчы адно паўз руіны. Гмах Дома Урада, велічны і стройны, паўстаў перад ім, нібы добры, даўно чаканы прыяцель.

«Цэлы!»

Насупраць Дома Урада, цераз вуліцу, пачынаў гарэць будынак. З ніжніх паверхаў, дзе раней размяшчаліся магазіны, клубамі шыбаў дым…

Юрый, трымаючыся на ўсякі выпадак бліжэй да сцяны хаткі, каля якой яны стаялі з Праворным, не вытыркаючыся вельмі, акінуў вачыма частку плошчы, што трэба было ім зараз перабегчы: перад Домам цягнулася высокая, густа пераплеценая дротавая агарожа.

Наперад прайшло два танкі, лязгаючы па бруку і пыхкаючы сінім дымком.

Праворны загадаў урывацца ў Дом. Але як толькі некалькі пехацінцаў выткнулася на плошчу, з-за Дома Урада — зблізку — разанула доўгая кулямётная чарга. Байцы адбеглі назад.

2

Праворны, каб не губіць марна людзей, парашыў абыйсці Дом Урада з тыльнага боку, з двара. Байцы па-за касцёлам хутка і непрыкметна падабраліся да высокіх стромкіх сцен. Старшына з адным сапёрам узбеглі на круты ганак прыбудовы. Яны пачалі аглядаць дзверы, правяраючы, відаць, ці не мініраваны.

Следам за імі ўзняўся дужы, рабаваты Пятых. Прыкладам аўтамата ён высадзіў аконную раму побач з дзвярамі і кінуўся ў сярэдзіну пакоя. За ім ускочыла яшчэ некалькі чалавек, Між якіх быў і Юрый.

Ён падаўся ў дзверы, сарваныя з верхніх петляў, гатовыя, здаецца, упасці, і апынуўся на вузкай лесвіцы, што падымалася ўгару. Некалькі байцоў кінуліся па лесвіцы, але Юрый спыніў іх. Ён загадаў павярнуць у дзверы, што былі насупраць на пляцоўцы. Дзверы былі прыадчынены.

Перад Юрыем адкрылася вялікая паўкруглая зала з мармуровымі калонамі і радамі драўляных крэслаў, якія стаялі таксама паўкругам. Гэта была зала пасяджэнняў.

Мінуўшы ружовыя калоны, — там, дзе ідуць лесвіцы ўгару і ўніз, пехацінцы неспадзеўкі наткнуліся на чалавека ў цывільнай вопратцы, які бег з цокальнага паверха.

Байцы пагрозна ўзнялі аўтаматы. Чалавек жа невядома чаму з палёгкай шумна ўздыхнуў,— было відаць, як з яго хударлявага, жаўтаватага твару, з запалых строга-шэрых вачэй адразу спаў цень насцярожанасці.

— Ну, нарэшце! Дачакаўся!

— Вы хто?

— Я? Электраманцёр... — і дадаў, што ён падпольшчык, прабраўся сюды па заданню камандзіра партызанскага злучэння. — Адным словам, маю загад ахоўваць Дом...

— Дом мініраваны? — коратка кінуў старшына-сапёр не так тонам запытання, як допыту.

— Мініраваны.

— Чым?

— Авіябомбы. Тол.

— Ведаеце сістэму праводкі?

— Так, але не ўсю. Частку правадоў я толькі што перарэзаў.

— Пакажыце, дзе яны, — сапёр, махнуўшы сваім, каб ішлі следам, падаўся разам з манцёрам. На хвілінку затрымаўся: — Лейтэнант, загадай ачысціць паверхі!.. Можа гітлераўцы дзе зашыліся. Ды скажы сваім, каб хадзілі асцярожна, калі хочуць быць цэлымі!

Ціха і мёртва было на лесвіцах і ў калідорах, па якіх ішлі за сапёрамі насцярожаныя, незвычайна маўклівыя пехацінцы.

Усе сачылі з надзеяй і трывогай за кожным рухам якога-небудзь сапёра, які тупае тут жа. А раптам не ўдасца там размініраваць? І зараз, праз момант... Не, не — не трэба думаць пра гэта. Ім удасца, удасца.

Гулка тупаюць боты па дубовым паркеце, у пустых калідорах. Эх, якая даўкая, важкая гэтая цішыня! Ідзеш нібы не па калідоры, а па мінным полі.

Доўга ішлі яны так, правяраючы пустыя калідоры, лесвіцы, аглядаючы незлічоныя пакоі, то са сталамі, з канторскімі шафамі, то з радамі нар і ложкаў. Па-ранейшаму панавала цішыня, і па-ранейшаму не адыходзіла ад людзей трывога.

Толькі на сёмым ці на восьмым паверсе прыйшло заспакаенне: прыбег знізу сапёр і сказаў, што Дом будзе жыць, што правады ўсе перарэзаны і міны цяпер не ўзарвуцца...

Як тут узрадаваліся гэтай вестцы! Некалькі байцоў падхапілі сапёра і ўскінулі ўгару. Радаваліся і за сябе, за сваё шчасце, і за тое, што Дом — цэлы.

— Ну, цяпер стаяць яму, стаяць. Мільён гадоў!

— Выжыў, прыгажун!..

Агледзеўшы іншыя пакоі, яны апынуліся на даху будынка.

Тут, убачыўшы перад сабою вялікае неабсяжнае мора нябеснага блакіту, лагоднага, празрыстага, з рэдкімі, лёгкімі воблачкамі, Юрый спыніўся, як зачараваны.

Горад ляжаў унізе, быццам на рэльефнай карце. Дзе-ні-дзе ўзнімаліся ўгару дымы — адны заспакоена, на зыходзе, другія густымі панурымі вірамі. За горадам Юрыю віднеліся зялёныя і жаўтаватыя ўзгорчатыя палі, сіняваты лес, далёкая воданапорная вежа, агорнутая гарачай смугою.

Грудзі яго захлыналіся ад шырыні, ад прастору

«Нашае!..» — падумаў ён задаволена.

Пазіраючы адсюль на горад, Юрый можа ўпершыню ў гэты дзень адчуў радасць новай, вялікай перамогі. Радасць яго была шырокая, як гэтая залітая сонцам неаглядная прастрань, што адбірае вочы.

Поруч затрашчалі аўтаматы, якія прымусілі яго азірнуцца, — ён убачыў узрушаных сваіх салдат з узнятымі ў руках аўтаматамі.

«За наш Мінск!» — сказаў, усміхаючыся, чарнавокі Шарыфутдзінаў. Юрый таксама падняў свой аўтамат.

На плошчу паміж Домам Урада і домам насупраць увайшлі самаходкі.

Яны ішлі адна за адной на адлегласці, спакойна і ўпэўнена...

3

Калі больш за палову горада было ўжо ў нашых руках, да Мінска падыходзіла група немцаў, чалавек трыста. Яны рушылі не па шасэ, а цераз поле — па дарожцы, абапал якой ціха варушылася жыта.

У іх быў загад заняць акопы і падрыхтавацца да абароны горада.

Немцы ішлі спакойна. То адзін, то другі паглядаў на сонца, якое пачынала паліць усё мацней, і думаў, напэўна, аб адным: каб хутчэй дабрацца да месца! Гугнела спакойная гаворка... Толькі, падышоўшы блізка да Мінска, з якога ўсё ясней даходзілі гукі бою, пачалі насцярожвацца; потым яны ўбачылі на шасэ, што было ўжо недалёка, войска, якое таксама набліжалася да горада.

— Хто гэта?— зацікавіўся обер-лейтэнант, камандзір групы. Ён загадаў паслаць разведку...

Калі разведчыкі падаліся жытамі ў кірунку шасэ, обер-лейтэнант загадаў групе спыніцца. Стоячы на дарозе, немцы сачылі за невядомым войскам,— некаторыя зморана садзіліся на гарачую зямлю.

Там наводдаль раптам пачулася страляніна. Потым адтуль са свістам прыляцеў снарад і выбухнуў за дарогай. За ім — другі, бліжэй.

— Рускія, рускія!— усе адразу заварушыліся, захваляваліся, забегалі. Над ціхімі жытамі загаркалі каманды,— гітлераўцы сталі хутка займаць абарону...

Ад савецкай часці павярнулі сюды чатыры бронетранспарцёры і тры грузавыя машыны з салдатамі. Падышоўшы бліжэй, грузавікі проста сярод поля спыніліся, і з іх пачалі саскокваць байцы. Адзін бронетранспарцёр, на якім было, напэўна, не менш за дзесятак байцоў, пачаў абыходзіць левы фланг. За бронетранспарцёрам падскоквала гарматка. Другая група з трыма бронетранспарцёрамі пайшла проста на гітлераўцаў.

Прагучала некалькі стрэлаў, і бронетранспарцёры спыніліся.

Байцы сталі штосьці крычаць. Страляніна на нейкі час сціхла.

— А-а-я... ы-ы... — паплыло адтуль неразборлівае. Потым павеў гарачага ветру данёс:— Здавайся-а-а!.. Здава-айся, гітлерцы!

Зноў залескаталі, захлопалі стрэлы. Байцы пачалі жвава саскокваць з бронетранспарцёраў,— яны спрытна адчапілі гарматы і сталі біць прамой наводкай. Між тым правей іх, подбегам, прыгінаючыся, сюды набліжаліся пехацінцы...

Гадзіны праз дзве аўтаматы і вінтоўкі зноў сціхлі, але цяпер было чуваць, як у жыце стогнуць параненыя. Тыя з гітлераўцаў, што засталіся жывыя, уставалі і, кідаючы зброю, мармычучы — «Гітлер капут!», здаваліся; іх зводзілі на дарогу, блізка ад месца, дзе яны пачыналі бой.

— Што гэта — засляпіла ім: горад мы занялі, а яны — ідуць, быццам дадому... — прамовіў адзін з байцоў, што ахоўвалі палонных, — малы, белабровы, з наіўнымі вачыма.

— Куды павядзем? — запытаўся ён, памаўчаўшы, у камандзіра роты.

— Куды яны хацелі, — у Мінск.

Салдат засмяяўся:— Усё-ткі пападуць у Мінск, хоць палоннымі!..

Калі гэты натоўп палонных падышоў да гарадской ускраіны, у Мінску было ўжо ціха. Разрозненыя групкі варожых аўтаматчыкаў, кулямётчыкаў, артылерыстаў, страціўшы сувязь, надзею, здаваліся...

Нашы пехацінцы выцягвалі з сутарэнняў, з розных схованшчаў тых, хто спрабаваў схавацца.

Тым часам да Мінска падыходзілі войскі Першага Беларускага фронта. Наперадзе былі танкісты Бахарава і Панова, якія дзень назад занялі Пухавічы.

З ліпеня яны падышлі да паўднёвай ускраіны Мінска. Тут генерал-маёр Шчарбацюк спаткаўся з чарнявым усмешлівым палкоўнікам-танкістам.

— Адкуль?— запытаўся генерал-маёр.

— Ад Пухавіч, простым кірункам...

— Першы Беларускі... — генерал-маёр парывіста і моцна абняў танкіста.

— А мы — ад Барысава.

Байцы і камандзіры з многіх палкоў, брыгад і дывізій Трэцяга Беларускага святкавалі сустрэчу з войскамі Ракасоўскага.

Гэта была вялікая падзея. Два франты закрылі круг вакол нямецкіх часцей, што былі ў Беларусі, адрэзалі ім апошнія шляхі адступлення...

Так утварыўся «Мінскі кацёл».

4

Дзень гэты быў адным з самых шчаслівых у жыцці Чарняхоўскага.

Са сціплай сялянскай, хацінкі ён пільна сачыў за тым, як ідуць баі ў горадзе, мімаволі ўспамінаючы тыя дні, калі даводзілася праездам быць у Мінску.

Генералу арміі было мала скупых ваенных данясенняў,— ён звязаўся з камандзірам стралковага злучэння, які быў ужо ў горадзе.

— Якое ваша ўражанне ад Мінска? Што — балюча? Адны руіны? А што выратавалі? Дом Урада размерваюць? Праверце. І ўсе іншыя будынкі — праверце,— каб былі размініраваны...

Яму не цярпелася: хутчэй бы ў Мінск самому. Пабачыць бы горад сваімі вачыма...

Вельмі ўзрадаваўся ён, атрымаўшы вестку, што яго войскі і войскі Ракасоўскага сышліся. Тое, чаго ён чакаў, пра што непакоіўся, спраўджана. Гітлераўцы акружаны, — цяпер толькі пастарацца не выпусціць ніводнага адсюль.

Адразу пасля гэтай падзеі Чарняхоўскі выклікаў паручэнца:

— Высветлілі гатоўнасць новага ВПУ?

— Так точна. ВНУ гатова, таварыш камандуючы.

Чарняхоўскі пазваніў члену Ваеннага Савета:

— Васіль Макаравіч, збіраюся ў Мінск. Як вы — паедзеце цяпер са мной? Едзеце? Ну, вельмі добра!.. Тады я чакаю вас.

Неўзабаве машына ўжо імчала іх у Мінск. Камандуючы сядзеў з членам Ваеннага Савета на заднім сядзенні. Камароў, які быў поруч з шафёрам, трымаў на каленях два тэлефоны.

Дзень зіхацеў яркім святлом, дыхаў летняю спёкаю.

— Якое супадзенне: Мінск вызвалілі амаль у тыя ж дні, калі і пакідалі,— сказаў ён да Емяльянава.— Роўна праз тры гады...

— Супадзенне цікавае, — адгукнуўся генерал-лейтэнант.— Такое ж, здаецца, лета, такая ж спякота, тыя ж людзі, толькі абстаноўка, паветра зусім іншыя.

— Гэта цудоўна. У чацвёрты год вайны мы не толькі не паслабелі, а сталі ў многа разоў мацней! І армія стала мацней, і народ як бы памацнеў, узмужнеў.

— Так,— задуменна прамовіў Емяльянаў.— Памацнелі, мужнейшыя сталі. Адпакутаваўшы, вытрымаўшы, выстаяўшы. Узмужнелі ў бядзе і ў пакутах...

Чарняхоўскі змяніў размову:

— Мінск ужо наш! Цяпер хутка — Вільнюс, Нёман, Гродна...

Хвіліну памаўчаўшы, ён дадаў з пагрозай:

— А там — і Прусія, бярлога разбойнікаў...

— Вось мы, Іван Данілавіч, і на парозе новага этапа — хутка пачнём вызваляць Еўропу. Прыдзем у Польшчу...

— Што мне здаецца асабліва значным і цікавым, Васіль Макаравіч, дык гэта тое, што мы, толькі мы, можам прынесці і прынясем вызваленне і немцам. Амаль парадокс. Не няволю, як было б у любой іншай арміі, а волю, жыццё!

— Мы — гуманісты, і гуманізм наш стаў душою і арміі, створанай і выпеставанай камуністамі... Толькі такая армія і можа несці сапраўднае вызваленне.

— Савецкая армія!..— Чарняхоўскі запытаўся:— Што сёння перадавалі з другога фронта? Чулі?

— Чуў...

Паслухаўшы зводку, якую перадаваў член Ваеннага Савета, Чарняхоўскі прамовіў:

— Яны яўна нервуюцца! Іх вельмі трывожыць лёс Еўропы. Баяцца яны за старую Еўропу!..

— Бясспрэчна...

— Невыпадкова яны адкрылі другі фронт іменна цяпер, — калі пачынае вырашацца лёс Еўропы! Калі б Чырвоная Армія вызваліла ўсю Еўропу і перад народамі стаў свабодны выбар — куды і як ісці, я ўпэўнены; — песенька буржуазіі была б спета!

— Еўропу, я таксама думаю — можна вярнуць на ранейшы шлях толькі гвалтам...

— Іменна — толькі гвалтам! Або ашуканствам... Але ж, гэта значыць, — павяртаючыся ўсім целам да Емяльянава, прамовіў Чарняхоўскі,— гэта значыць, што тыя «вызваліцелі» могуць у будучым засядзецца... ўссесці, на карак вызваленых!

— Ну, я думаю, народы не прымірацца з гэтым...

— Добра, калі яны добраахвотна вернуцца туды, адкуль прышлі, — а калі не захочуць?

— Пажывем-пабачым!.. Абстаноўка, вядома, можа ўскладніцца...

— Не, усё-такі вайна не пройдзе дарма і там! — памаўчаўшы ў роздуме, узрушана сказаў камандуючы.— Многае-многае, відаць, пераменіцца ў Еўропе. Цікава, Васіль Макаравіч, паглядзець, як яна будзе выглядаць, Еўропа!

Ён змоўк, пазіраючы наперад, дзе тоўпіліся машыны, гарматы,— дарога была забіта. Шафёр увесь час сігналіў.

Яны пад'язджалі к Мінску.

## Раздзел VIII

### I

Пасля таго як батальён Аляксея выбіў гітлераўцаў з Кальварыі, брыгада зрабіла прыпынак. Горад ляжаў ззаду. Стрэлы і выбухі заціхлі, але чорныя злавесныя хмары дыму віселі над кварталамі.

Вуліцы, нядаўна пустыя, цяпер віравалі, шумелі, спявалі.

Па Пушкінскай, па Савецкай, праз плошчу Леніна, па Маскоўскай безупынна рушылі войскі. У кузавах зялёных машын плылі па гораду загарэлыя пехацінцы з аўтаматамі і букетамі кветак. За машынамі, падскокваючы, каціліся прыземістыя доўгія працітанкавыя гарматы. Праходзілі крытыя брызентамі славутыя гвардзейскія мінамёты, якія, як заўсёды, выклікалі да сябе асаблівую ўвагу. Ішлі «зісы» з завялым галлём маскіроўкі, нагружаныя боепрыпасамі і мяшкамі з мукою. Важка несучы выносістыя ствалы з тоўстымі надульнікамі, грымелі самаходкі...

Мінчане, якія стракатымі радамі тоўпіліся ўсцяж тратуараў, з абодвух бакоў гэтай плыні, глядзелі на ўсё з гордасцю і захапленнем.

Дзяўчаты выбягалі да машын, працягвалі байцам кветкі. Калі падступіцца да машын не было як, кветкі кідалі ў кузавы ці на вежы, — салдаты на ляту лавілі іх... Кабінкі многіх грузавікоў і гарматы былі цяпер упрыгожаны вяргінямі і ружамі. Кветкі трымалі ў руках байцы, кветкі чырванелі на кішэнях гімнасцёрак, каля ордэнаў, кветкі віднеліся ўсюды. Нельга было не здзівіцца, як у гэтым знявечаным горадзе магла знайсціся такая безліч кветак, — напэўна, усе кветкі, што раслі на дворыках, на агародчыках, у той дзень былі сарваны і раздораны...

Усе, хто застаўся ў Мінску, хто дажыў да гэтага дня, былі цяпер у кіпучым, захмялелым ад шчасця людскім віры. Радыёруп ары з ваенных агітмашын разносілі перадачы з Масквы, — каля іх збіраліся цэлыя натоўпы, прагна ловячы кожнае слова, кожную мелодыю.

На адной з вуліц, абняўшыся, брылі трое падвыпілых смуглявых італьянцаў. Іх прывезлі сюды салдатамі. Пасля капітуляцыі Італіі большасць іх сяброў, з якімі яны папалі ў нямецкія душагубкі-лагеры, загінулі. А гэтым тром пашанцавала: сёння нашы пехацінцы іх вызвалілі.

Яны ішлі, трошкі хістаючыся з боку на бок, у абшарпанай адзежы, схуднелыя, змарнелыя, але таксама без меры шчаслівыя. Яны спявалі, — старанна вымаўляючы словы, заўзята, на ўвесь голас:

Смьело ми в бой пойдьём<br>За власть Совьетов<br>И как один умрём<br>В борьбе за это!

Дзе і калі яны пераанялі гэту песню? Хто навучыў іх спяваць яе? Па тым, як яны спявалі, было відаць, што яна ім вельмі падабалася...

Танкі Бяссонава стаялі каля агародчыкаў і хатак ускраіны, прыціснуўшыся да платоў, выстаўляючы гарматы, выглядвалі з-пад цёмнага запыленага галля вішняку і клёнаў. Многія танкісты корпаліся каля «трыццацьчацвёрак» — чысцілі машыны, перацягвалі гусеніцы, запраўлялі бакі гаручым з бензацыстэрн. Бяссонаў загадзя наказаў камандзірам, што хутка будзе загад выступаць. Нямала каго з танкістаў можна было бачыць і дзе-небудзь каля веснічак з дзяўчатамі. Тут размова ішла вясёлая, з жартамі, звінеў малады смех. Некаторыя паважна гаманілі з пажылымі людзьмі, слухалі іх горкія апавяданні аб трох страшных гадах няволі, расказвалі самі — пра Маскву, пра свае ваенныя прыгоды.

Было ўжо каля поўдня. Сонца зіхацела, здавалася, проста над горадам. Высока ўздымалася яснае блакітнае неба, на якім толькі дзе-ні-дзе бялелі недасяжныя воблачкі.

## 2

Аляксей увайшоў у светлы, з пафарбаванымі охраю аканіцамі дамок, у якім пасяліўся цяпер камандзір брыгады. Палкоўнік быў без кіцеля, у нябеснага колеру шаўковай споднай сарочцы з кароткімі рукавамі, якая шчыльна абліпала поўныя моцныя плечы, круглыя, крутыя грудзі. У выразе над каўняром віднелася белая, тонкая, як у жанчыны, скура. Яна рэзка адрознівалася ад тоўстай, барвовай, загарэлай і абветранай скуры твару.

— Заходзь, заходзь, капітан,— сказаў Бяссонаў Аляксею, які, парыўна казырнуўшы, запыніўся на парозе. Палкоўнік крыкнуў у бок акна:

— Гатовы?

— Гатовы, таварыш гвардыі палкоўнік, — пачуўся са двара голас ардзінарца.

Бяссонаў зняў сарочку, узяў салдацкі вафельны ручнік, што ляжаў на стале, закінуў яго на плячо і вышаў. На двары ён доўга мыўся, расплёскваў ваду, са смакам пырхаючы. Калі палкоўнік вярнуўся, то выціраў ручнікам грудзі. Скура на яго целе паружавела. Дужы, без гімнасцёркі, з ручніком, ён здаваўся ў тую хвіліну падобным да нейкага барца ці цяжкаатлета, які рыхтуецца да блізкага выступлення.

— Прыемна. Вада — што лёд. Як нованароджаны адчуваю сябе,— гурчаў яго голас.— Сядай. Чаго стаіш!

Усцягнуўшы на поўнае цела нябеснага колеру сарочку, запытаўся:

— Як рана? Дапякае?

— Трываць можна, таварыш гвардыі палкоўнік...

— А ваяваць — не воін ты цяпер, капітан... Не падабаецца мне — яшчэ аднаго камбата трачу. А ў мяне вас, камбатаў, сам ведаеш, лішніх няма. Няма — ніводнага... Глядзі, каб хутчэй папраўіўся! Ваяваць трэба!— раптам сказаў ён так, нібы рабіў вымову капітану.

Лагуновіч выпрастаўся.

— Колькі будзеш лячыцца?

— Дзён шэсць, сем...

Ардінарац, жвавы, быстры хлопец з Чарнігаўшчыны, унёс на талерцы закуску, алюмініевы корчык і фляжку ў чахле.

— Сем дзён мала. Інваліды мне не патрэбны... У санбаце камісія колькі табе дала — тры тыдні? Ну, вот, так бы і казаў. Пакажы іх заключэнне, што яны там напісалі?.. М-да-а, менш як двума тыднямі гэта, ясна, не абыдзецца. Пападзешся ў рукі якому-небудзь фармалісту, дык ён цябе на два месяцы затрымае. Глядзі, каб не залежваўся вельмі, ну і не ехаў назад інвалідам! Ясна?.. Добра папраўляйся, уладзь справы. — Палкоўнік загадаў ардзінарцу, які пры словах камбрыга адразу ўстрапянуўся:

— Яшчэ шклянку прынясі. Давай сюды, капітан.

Ардзінарац адразу шмыгнуў у дзверы.

Бяссонаў чокнуўся з капітанам, які сеў побач з ім, прамовіў:

— За наш Мінск! І за тваю блізкую сустрэчу, Лагуновіч, таксама. — І, выпіўшы, дадаў: — Я тут пад Мінскам хрысціўся ў сорак першым. Толькі што з-пад Смаленска, з лагераў, прывёў батальён. Землякі, выходзіць.

Аляксей, заўсёды нецярплівы, быў цяпер думкаю далёка, — палкоўнік хутка адчуў, што Лагуновічу не сядзіцца.

— Ну, што-ж, капітан, не затрымліваю. Ідзі. Скажы ў штабе, няхай аформяць усё. Батальён перадасі Аліеву... Пачакай,— успомніў ён раптам. Вышаў з пакоя і неўзабаве вярнуўся з пакункам, загорнутым у газету. — Вот, жонцы ад мяне. Калі быў у Маскве, купіў на плацце — думаў Ірыне, дачцы, пашлю... Вазьмі. Нельга вяртацца дадому пасля такой разлукі без падарунка.

— Дзякую. Перадам... Хоць яна і так будзе рада, таварыш гвардыі палкоўнік.

— Рада, то рада, але ёй прыемна будзе падарунак атрымаць. Жанчыны любяць, каб ім на справе даводзілі пашану. Я ведаю іх.

Працягнуў шырокую шурпатую далонь. На вуліцы Аляксей спаткаў Гогабярыдзе, які чакаў капітана каля веснічак. Гогабярыдзе быў чыста паголены, у новай, недзе ўжо выпрасаванай чысценькай гімнасцёрцы.

— Значыцца, развітанне? Ах, Аляксей, як я рады, што ты будзеш дома! Дома, пасля такіх баёў, пасля такой вялікай дарогі!.. Помніш, як ты чакаў пісьмо ад Ніны, а яго ўсё не было. А цяпер яно і не патрэбна... Шкадую, што мне не прыдзецца ўбачыць гэтую сустрэчу...

— Я — каб ты не шкадаваў — пастараюся ўявіць тады, быццам ты стаіш поруч з намі. Добра?

— Ты, Аляксей, забудзеш пра гэта... Ты, як усе вельмі шчаслівыя людзі, станеш на той час эгаістам. Я толькі адно папрашу — не забудзь перадаць ад мяне прывітанне Ніне і малому. Не забудзеш? І наогул пра нас ўсіх не забывай!..

— Буду помніць, Сандро, — жартаўліва-ўрачыста пакляўся Аляксей.

3

Дом, у якім некалі жыў Аляксей, быў недалёка ад таго месца, дзе спыніліся танкі. Здаўшы камандаванне, развітаўшыся хутка з афіцэрамі і байцамі, Лагуновіч накіраваўся дадому. Гогабярыдзе. праводзіў яго да канца вуліцы, штосьці гаварыў, але ўсё, што ён казаў, амаль не даходзіла да Аляксея. Ён і слухаў, і нешта адказваў, але не ведаў і не помніў што. Ён цяпер жыў адным — будучаю сустрэчаю, — пачуццём, у якім перамешваліся чаканне радасці і халодная трывога, няўрымслівая нецярплівасць і стрыманасць. Думкі блыталіся і былі нібы агорнуты туманам.

— Я разумею цябе, Аляксей. Табе не да таго, каб слухаць маю пустую балбатню, — схамянуўся Гогабярыдзе. — Калі ў сэрцы поўна, хочацца маўчаць... Не буду перашкаджаць табе, вярнуся назад. Мы

будзем цябе, дружа, помніць і чакаць! Дамовіліся? Бывай, Аляксей!.. Жадаю, каб дома ўсё шчасліва было!..

Ён па-братэрску абняў капітана.

Аляксей кепска заўважаў тое, што акружала яго. Дамы, узрушаныя шумлівыя людзі, аўтамашыны, панурыя натоўпы палонных — усё гэта праходзіла перад ім, нібы ў сне...

Ён не заўважаў, што ўвесь час паскарае хаду. Павярнуўшы на «сваю» вуліцу, пайшоў амаль уподбег. «Цэлая»,— бліснула ў галаве заспакойлівая думка, калі перад вачыма ўзніклі два рады дамочкаў. Ён нецярпліва глядзеў наперад, дзе з-за павароту павінен вось-вось з'явіцца знаёмы абрыс яго дома.

Дом быў таксама цэлы! Аляксей убачыў гэта здалёк, яшчэ крыху не дайшоўшы да павароту. Праз некалькі крокаў ён заўважыў, што плот і веснічкі ляжаць на зямлі. Аляксей цяпер нічога не думаў. Ён толькі глядзеў нязводна, пільна і ляцеў, не заўважаючы перад сабою ні бруку, ні ям.

Пераступіў праз слупок ад веснічак, зірнуў на дзверы і раптам разгублена спыніўся. Замок! Як бы не верачы, Аляксей падышоў да дзвярэй і пакратаў яго. Замок быў замкнуты.

Падышоў да акна, скінуўшы фуражку, прыціснуўся тонкім, з гарбінкаю носам да шыбы, зірнуў у сярэдзіну — там было пуста; у адным пакоі стаяў толькі знаёмы голы стол, з меднай жоўтай клямкаю на скрынцы, і валяліся шматкі газет, у другім — ложак з нікелевымі папярэчынамі, таксама голы. У кутку каля акна стаяў высокі шыракалісты фікус. Аляксей успомніў, што Ніна любіла, каб у яе пакоі былі фікусы.

Пабелка на сценах пацямнела ад даўнасці. Пакоі мелі нежылы выгляд, нібы іх даўно-даўно пакінулі. Яны здаліся чужымі, — такімі незнаёмымі былі запусценне і бязладдзе ў гэтых руплівa прыбраных калісьці пакоях. Толькі ў кухні на століку ляжаў нейкі клуначак, і па ім Аляксей здагадаўся, што нехта ўсё ж тут быў. «І замок, напэўна, нядаўна павешаны, бо інакш дасюль ён не вісеў бы». Яму не цярпелася хутчэй даведацца, хто тут быў, — Ніна ці маці. Куды яны пайшлі, што з імі?

Ён вышаў на вуліцу. Мяў рукамі фуражку, якую забыўся надзець. Куды б пайсці, каго спытацца?

На вуліцы наводдалек стаяла тры ваенныя грузавікі, каля аднаго з якіх былі салдаты, — выгружалі нейкія скрынкі. Ішоў у гэты бок пажылы кульгавы чалавек з рыдлёўкаю — невядомы. Аляксей, агледзеўшыся навокал, рашыў пайсці да суседзяў: хто-хто, а яны могуць

ведаць, куды пайшлі Ніна ці Наталля Міхайлаўна, або хоць дзе яны былі ў гэты час.

Ён перш за ўсё ўспомніў старога, які да вайны працаваў вагонным майстрам у чыгуначным дэпо. Майстар быў дабрадушным, гаваркім старым і любіў выпіць. Ён калісьці часта заходзіў да Аляксея, расказваў пра сваё дэпо, пра маленькія спрэчкі на працы, доўга гаманіў са старою.

Вокны ў хаце старога былі выбіты, дзверы выламаны. Каля дзвярэй ляжала распораная падушка, вакол якой на ступеньках і на ўсім двары бялела пер'е. На навалачцы віднеўся брудны след бота.

Аляксей пастаяў некалькі хвілін моўчкі і павярнуў да другіх колішніх знаёмых Карповічаў — жонка бухгалтара Карповіча калісьці сябравала з Наталляй Міхайлаўнай. У доме Карповічаў цяпер жыла нейкая невядомая сям'я. На двары Аляксей спаткаў маладую жанчыну, якая сядзела на ганку і штосьці з дакорам гаварыла бялявому хлопчыку гадоў чатырох. Заўважыўшы Аляксея, яна ўзрушана ўзнялася, і ў блакітных яе вачах мільганулі цікаўнасць і надзея. Але калі Аляксей спытаўся пра Карповіча, яна адразу змянілася, стала абыякавай...

Карповіч, аказалася, з пачатку вайны ў арміі, а жонка яго недзе ў эвакуацыі, — пасля іх тут жыла сястра Карповіча, але яе з паўгода таму арыштавалі гестапаўцы. Новыя жыхары перабраліся сюды ўжо некалькі месяцаў.

— У мяне да вас просьба. Скажыце... Ці не ведаеце вы штонебудзь пра сям'ю Лагуновічаў? — запытаўся Аляксей.

— Лагуновічы? А ў якім яны доме жывуць?

Аляксей паказаў.

— Там?.. Хто ж гэта там жыве? А-а! — бачыла я там, каб не зманіць, некалькі разоў нейкую старую жанчыну...

— А пра маладую нічога не чулі? У той старой ёсць дачка? — Аляксей кінуў на яе нецярплівы пільны позірк.

— Не, не чула... І не бачыла там маладой, ні разу не бачыла. Дзіця там — ведаю — яшчэ жыве. Гадоў трох, — паведаміла раптам жанчына.

— Дзіця? — перапытаў узрушана Аляксей.— Даўно вы бачылі?

— Ды не, колькі дзён таму...

— Дзяўчынка ці хлопчык?

— Дзяўчынка.

«Дзяўчынка, тры гады», — праплыла ў грудзях Аляксея цёплая, радасная хваля. На строгім, пахудзелым ад бяссоння твары заяснела ўсмешка. «Бацька, мусіць», — падумала жанчына і, зірнуўшы на

свайго малога, які сачыў за кожным рухам вайсковага чалавека з перавязанай рукой, уздыхнула.

Але трывога ўсё ж замуціла Аляксею светлую хвалю радасці. Чаму ж іх цяпер няма дома? Развітаўшыся з жанчынай, Аляксей затрымаўся і запытаў:

— Дык вы сёння ці ўчора не бачылі іх?

— Не бачыла... Тут такі жах быў, што, здаецца, свету белага не бачыла. Думала, што і выжыць не давядзецца. І цяпер страшна падумаць...

Апошнія словы жанчыны ўзмацнілі трывогу Аляксея: ці шчасліва Наталля Міхайлаўна з дзіцём перабылі гэтыя дні?

Ён вярнуўся дахаты, сеў на ганку, палажыўшы поруч рэчавы мяшок, выняў з партабака сігарэтку, бо згортваць папяросу было нязручна. Прыкурыў ад запальнічкі. З-пад цёмных ламаных брывей акінуў адрэзак вуліцы, які віднеўся адсюль, — ці не ідзе хто-небудзь з іх?..

Ён паспрабаваў разабрацца ва ўсім тым, што давялося пачуць. Ніна, мусіць, яшчэ ў партызанах, — яна не магла вярнуцца так хутка, — але дзе Наталля Міхайлаўна і дачка? Ці былі яны дома ўчора і пазаўчора? Можа, гэты замок вісіць на дзвярах ужо двое сутак?

Дзе яны? Чаму іх няма дома?

## 4

Ён ускінуў за плячо рэчавы мяшок, падаўся на вуліцу, аглядзеў яе ў адзін бок, у другі. Аляксей больш не мог сядзець ды цярпліва чакаць. «Пагляджу, што робіцца вакол... Ды і час хутчэй пойдзе...»

За рогам вуліцы Аляксей убачыў мужчыну з нямецкім аўтаматам за плячом, які вуглем пісаў раскідзістымі літарамі на дзвярах будынка, наўкось, як рэзалюцыю: «Занята пад магазін».

«Глядзі ты, які порсткі!» — не так здзівіўся, як пахваліў у думках Аляксей.

— Эй ты, кааператар! — крыкнуў весела рослы, распаўнелы, з тоўстымі шчакамі, пехацінец, што праходзіў міма. — Што ж ты, душа з цябе, пішаш — «занята», тавару ж няма. Чым ты будзеш займаць яе, гэтую сваю «магазею»?

«Кааператар» азірнуўся — у яго быў малады, гладка паголены твар — і аптымістычна супакоіў салдата:

— Тавар будзе! Было б толькі месца для яго...

— Ну, што вы скажаце ім, таварыш капітан? «Будзе, будзе»! Калі гэта будзе, праз месяц? Ці два?..— загаварыў ён раптам да Аляксея.— Яшчэ нідзе нічога не працуе, а ўжо, душа з яго, не менш як паўгорада

занята! То «пад магазін», то «для міліцыі», то «аддзел кадраў завода», то «сталовая», — усё распісана!..

Аляксей, прайшоўшы некалькі кварталаў, яшчэ заўважыў два ці тры такія надпісы.

Яму карцела вярнуцца дахаты. Але, калі ён увайшоў на двор, там па-ранейшаму нікога не было. Каб чым-небудзь заняцца, ён, знайшоўшы цагліну, прысеў на ганку і пачаў прыбіваць да слупкоў адной ступенькі адарваную дошку. Праз некаторы час, ён заўважыў, што з вуліцы да яго павярнула чарнявая, з даўгаватым тварам жанчына.

— Аляксей!— ускрыкнула раптам яна, падбегла, абняла капітана і тройчы пацалавала. — А я думаю, хто гэта тут сагнуўся ды майструе, што за гаспадар такі знайшоўся. Аж і праўда, гаспадар. — Твар яе быў капітану знаёмы — гэту жанчыну ён да вайны бачыў не раз, але цяпер не мог прыпомніць, ні хто яна такая, ні як яе прозвішча.

Аляксей усё ж вельмі ўзрадаваўся спатканню з ёю: як-ні-як, гэта знаёмы чалавек, першы знаёмы.

— Ну, які я гаспадар?.. Дзе Наталля Міхайлаўна, — вы не ведаеце?..

— Яны тут... Толькі што былі тут... Вы, значыцца, размінуліся! Яны ж начавалі ў мяне, мы разам хаваліся — разам і страх перабыць лягчэй... Вельмі ўсё баяліся, што гэтыя ірады пачнуць усіх забіваць... І дачушка твая жывая!

— Жывая?!— Аляксей, быццам не верыў, запытаўся ў другі раз. Твар яго заззяў радасцю. — Ну, значыцца, дачакаліся... Як жа яе... зваць?

— Люда... Такі дачакаліся! Вось жа будзе радасць... Мы з Наталляй больш за ўсё і непакоіліся за яе, за Людачку. Сядзім надоечы з Наталляй у вішанніку, каля ямы, чуем, як грымяць выбухі — Наталля паправіла хустачку на дачушцы тваёй, каб, значыцца, не стыгла, і кажа: «Божа, колькі пакуты дзіцяці, ніводнага дня спакойнага не ведае за сваё жыццё!»

— Так, — Аляксей насунуў бровы на вочы. — Паспытала гора больш, як трэба...

Капітан запытаўся, ці не ведае яна, што з Нінаю.

— Ніна ў партызанах. Яна ўжо даўно пайшла... І Валька мая — ты, пэўна, яе помніш — там таксама... — жанчына раптам азірнулася. — Чаго ж мы стаім тут? Хадзем да мяне, пасядзім.

Праз некалькі хвілін Аляксей быў у яе хаце, што стаяла недалёка ад таго месца, дзе жыла Наталля Міхайлаўна, але на другой вуліцы. Капітан цяпер успомніў прозвішча жанчыны — Залеская; гэта была маці Валі Залескай. Аляксей прыгадаў і Валю, яе дачку, худую

чарнявую дзяўчынку, якая калісьці паўз яго вокны хадзіла з партфелікам у школу.

Старая Залеская пачала было рыхтаваць яму абед, аднак, Аляксей папрасіў яе:

— Не турбуйцеся, калі ласка. Я паабедаў, а вячэраць нешта і не хочацца.

Надыходзіў вечар. Сонца, вялікае, вогненна-барвовае, паволі хавалася за дах бліжняга будынка, падпаліўшы яго край. Здавалася, што дах вось-вось зоймецца агнём. Водсвет сонца лёг чырвонымі квадратамі на сцяну, абклееную старымі квяцістымі шпалерамі. Залеская сказала, што старая пайшла пашукаць каго-небудзь з таварышаў Ніны, дапытацца, калі яна прыдзе. Ведама, матчына сэрца неспакойнае.

— Я і сама хадзіла на Маскоўскую — думала, можа, хто-небудзь з партызан раскажа пра маю Вальку... Як пабачу партызана, падыду ды — адно: «Ці не ведаеце Валю Залескую!» — «Не, не ведаю». Ніхто не бачыў яе. А так хочацца дачуцца хутчэй, што з ёй...

Аляксей шчыра спачуваў Залескай. Можа, яго так хвалявалі словы Валінай маці таму, што і ён адчуваў тое ж самае, бо яму хацелася хутчэй даведацца, што з Нінаю. Цяпер ён быў амаль спакойны за Люду і Наталлю Міхайлаўну, з якімі не цярпелася хутчэй убачыцца, і толькі думка пра Ніну прымушала біцца сэрца трывожней.

А можа, Наталля Міхайлаўна ўжо вярнулася ў хату? Нават, калі яна яшчэ і не прыйшла, то яму лепш за ўсё чакаць яе там, — як толькі яна вернецца, Аляксей убачыцца з ёю. Акрамя таго, седзячы тут, ён увесь час будзе думаць, што яны, мусіць, ужо дома...

Аляксей падняўся. Залеская, здагадаўшыся аб яго намеры, сказала:

— Ды вы не хвалюйцеся. Яна не абміне мяне. Вось у мяне ключык ад таго замка: яна прасіла, каб я назірала за хатай. Каб сустрэла як належыць, калі раптам зойдзе хто з вас... Асабліва спадзявалася, што Ніна сёння вернецца. А можа, і, праўда, прыдзе. Ды каб удваіх з Валяю! Вось было б добра!..

Ён мімаволі прыслухоўваўся да крокаў, да галасоў, якія чуліся звонку. За хатай, па вуліцы, увесь час праходзілі, размаўлялі людзі, і галасы за акном то набліжаліся і мацнелі, то пачыналі сціхаць, зноў набліжаліся і зноў адыходзілі. Аляксей не пераставаў прыслухоўвацца.

Калі ён пачуў, што ў сенцах бразнула клямка, то адразу ўвесь насцеражыўся і стаў нецярпліва пазіраць на дзверы. У пакоі было яшчэ светла. Ён убачыў, як расчыніліся дзверы і ўвайшла жанчына з дзіцём на руках. Аляксей адразу пазнаў — яна, Наталля Міхайлаўна! У

першую хвіліну, мімаволі ўзняўшыся насустрач увайшоўшай, ён востра адчуў, як яна сумна змянілася, незвычайна пастарэла...

Позірк яго вачэй прыкаваўся да маленькай маўклівай дзяўчынкі, якую яна паставіла на падлогу. Дзіця, ледзь толькі кранулася ножкамі падлогі, ступіла некалькі крокаў да Залескай, але раптам спынілася і стала цікаўнымі, шырока раскрытымі вачыма нязводна глядзець на незнаёмага вайскоўца. Люда. Гэта Люда!..

— Божа мой! Хто гэта? — прамовіла Наталля Міхайлаўна нейкім здушаным голасам; было відаць, што яна ўжо здагадалася, пазнала, хто гэта. Сутаргавым рухам рукі яна дакранулася да шыі, расслабіла вузялок збітай з галавы хусткі, як бы ён цісну ў горла. Узрушана, нібы не верачы сабе, паглядзела на Залескую, потым на Аляксея, на яго раненую руку.

— Ты? Аляксей!

Ён пайшоў насустрач ёй, парыўна абняў левай рукой, прыціснуў яе пабялелую галаву да сваіх грудзей. Нічога, нічога не сказаў. Дачка сачыла за імі ўважлівым неразумеючым позіркам, ціхая і крыху напалоханая.

— Колькі мы чакалі, Аляксей... — прамовіла горка старая, узняўшы галаву. У гэтых простых словах было столькі пачуцця, столькі гаркаты, што Аляксея, як агнём, апаліла.

— Добра, што ўсё гэта скончылася! — уздыхнула яна з палёгкай, кінула ўстрывожаны позірк на нерухомую Аляксееву руку, на марлевую касыначку.

— Што з рукою?!

— Так сабе — дробязь.

Наталля Міхайлаўна раптам схамянулася, узняла дзіця і з гонарам, з любоўю, як найдаражэйшы ў свеце падарунак, паднесла да яго.

— Вось дачушка твая... Люда.

Яна падала Аляксею дзяўчынку. Бацька нязграбна ўзяў дзяўчынку да сябе на руку і стаў прагна, з цікаўнасцю ўзірацца ў яе тварык. Усё гэта было для яго незвычайнае — і словы «вось твая дачушка», і сама яна, дачушка, бялявая, маўклівая, насцярожаная. Люда трывожна і даверліва чакала далейшага.

А ў яго на змену першай простай цікаўнасці прыйшло ўжо новае пачуццё — пяшчоты і нейкага бацькаўскага жалю да гэтага роднага, кволага стварэння. Аляксей бачыў у ёй самага блізкага чалавека і ўсё ласкавей і гарачэй прыціскаў да сваіх грудзей.

Ён узняў Люду да твару і пацалаваў шчочкі. Яна паморшчылася, паварухнулася, даючы знак, што ёй хочацца на волю, і сказала:

— Колецца...

— Патрывай, дачушка, — засмяяўся капітан і пацалаваў у другі раз.

Грудзі яго поўніліся любоўю да гэтай незнаёмай істоты, якую ён упершыню ўбачыў, але якую любіў даўно. Колькі дзён ён марыў пра гэтую хвіліну!

Вось і спаткаліся!

## ЧАСТКА СЁМАЯ

### Раздзел I

### I

Выявілася, што дабрацца да Мінска — задача нялёгкая. Кіламетраў праз сем ад брыгады іх грузавік, — гэта была папутная машына з дывізіі Шчарбацюка — абстралялі з мінамётаў. Каб абмінуць небяспечнае месца, прышлося звярнуць з дарогі і прабірацца не малы час полем, па пратаптанай нядаўна грузавіком сцежцы, праз разоры і ямы.

Выбраўшыся зноў на торны шлях, яны пад'ехалі да рэгуліровачнага паста. Дзяўчына ў вайсковым адзенні, якая стаяла сярод дарогі з карабінам за плячыма, узняўшы руку, загадала спыніцца.

Шафёр, рэзка націснуўшы на педаль, затармазіў. ён зірнуў на грузавікі, якія ўжо тоўпіліся нерухома тут, і незадаволена кіўнуў галавою. Туравец, што сядзеў поруч, не зразумеў, чаго іх затрымліваюць, — напэўна, будуць дакументы правяраць. Ён убачыў, як да машыны, лянiва перавальваючыся з боку на бок, ішоў ефрэйтар.

— Эй, начальнік, ты чаму гэта семафор закрыў? — запытаўся шафёр у байца, выскачыўшы з кабінкі і вымаючы з кішэні штаноў капшук.

— Таму, што трэба! Часовая затрымка! Наперадзе перарэзана дарога.

— Дарога перарэзана...— шафёр спакойна насыпаў махоркі на цыгарку. — Эх ты, семафоршчык!

Значыцца, гэтыя грузавікі чакаюць, калі будзе вольны шлях. Туравец падышоў да ефрэйтара:

— Ну, а можа, ёсць які другі, вольны шлях... Ну, скажам — у аб'езд?..

— Няма.

— Эх, каліна-маліна!.. А калі ж яна, гэта дарога, будзе свабодна?— пацікавіўся Шашура, які, вядома, не мог не ўмяшацца ў такую падзею. Цікаўны і здагадлівы падрыўнік яшчэ адразу, як толькі спынілі машыну, адчуў, што тут здарылася нядобрае.

— Калі адгоняць фрыцаў.

— А хутка іх адгоняць? — не адставаў Шашура.

— Пабачым...

Рэгуліроўшчык не стаў тлумачыць, абыякава адышоў убок, паказваючы сваім выглядам, што такое пытанне чуе не ўпершыню і што яму ўжо гэта надакучыла.

— Эй, браты-мсціўцы, прышоў загад — загарацы!— крыкнуў Шашура таварышам, якія яшчэ сядзелі ў кузаве.— Можна прызямляцца!..

Ён расшпіліў пояс і лёг у прыдарожную канаву, у якой расла высокая, прыпыленая, сакавіта-зялёная трава; цяпер яго амаль не было відаць у траве. Туравец прысеў на жытнім узмежку, спусціўшы ногі ў баразну. Жыта ўсюды пры дарозе было змятае, збэрсанае. Поблізу прайшла, відаць, танкетка, — на зямлі віднеліся частыя вузкія раўкі ад гусеніц, у якіх ляжала ўціснутае калоссе і сцяблы. Сагнутыя ў прамежку між гусеніцамі сцяблі́ны ўпарта напружваліся, імкнучыся выпрастацца. Каласы цягнуліся ўгару, да блакітнага неба.

Жыта даспявала. Яно жаўцела мноствам тонкіх сцяблоў, між якіх дзе-ні-дзе зелянелі павітуха і гарошак. Зямля была белай, прыбітай і абмытай дажджамі, высушанай сонцам.

Ад лёгкіх павеваў цёплага ветру жыта ледзь прыкметна шархацела. Шорхат гэты быў ясны, сухі, не такі зусім, як раней, калі жыта стаяла зеленаватае, — у ім цяпер адчувалася спёка і зморанасць...

Пад гэты знаёмы шорхат, вечны і спакойны, слухаць які было асалодай, Туравец нейкі час зноў думаў пра першыя справы ў вызваленым Мінску... Але думаць сёння пра гэта не хацелася. Чаго думаць? Цяпер ужо трэба пачынаць працу, усё даўно абдумана, а ён вымушан сядзець. Сядзець, — калі Мінск ужо зноў наш, калі ён, нарэшце, зноў вольны! Эх, бяда.

Што там цяпер робіцца ў Мінску? Толькі ён уявіў, як кіпяць пасвяточнаму мінскія вуліцы, як ідуць па Савецкай войскі, уявіў тое, аб чым столькі марыў і якое мог бы ўжо сёння ўбачыць,— сэрца яго зашчымела ад крыўды. Тураўцу, калі ён раней думаў пра свой зварот, чамусьці заўсёды здавалася, што ён будзе ў гэты дзень у Мінску. А ён, нібы знарок, не ў горадзе, тырчыць тут, на нуднай, санлівай дарозе... Ён аж сціснуў зубы. І трэба ж, каб гэтак не пашанцавала.

Час цягнуўся марудна. Паліла моцна сонца. Туравец расшпіліў каўнер гімнасцёркі і лёг на спіну, накрыўшы твар, каб сонца не біла ў вочы, фуражкай. Спераду, куды бегла дарога, была чуваць нядружная страляніна.

Непадалёк у кювеце ляжаў Шашура. Каб не марнаваць час, ён скінуў пінжак і сарочку і падставіў палючаму сонцу сваю шырокую спіну. Лежачы поруч з шафёрам, ён апавядаў нейкую гісторыю з баявога ляснога жыцця. Шашура пры гэтым вельмі многа выдумляў, — але гаварыў ён так складна, што Туравец, які звычайна не любіў хлусні, падумаў з адабрэннем: «Як выдумляе, нягоднік!»

Туравец праляжаў з гадзіну. Потым не ўтрываў, зноў падышоў да рэгуліроўшчыка, што сядзеў на ўзбочыне, па другі бок дарогі, і нешта абыякава вырэзваў складаным ножыкам на дручку.

— Ну, што, таварыш ефрэйтар, новага? Няўжо ніякіх змен?.. Не ачысцілі яшчэ дарогу?

— Пакуль усё па-ранейшаму...

— Эх, якая чартаўшчына! Колькі ж яшчэ тут валяцца!.. Да ночы, ці што?.. — Туравец перайшоў на сяброўскі тон; — а можа, у аб'езд усё-ткі можна прабіцца? А?

— У аб'езд — рызыкоўна...

— А ўсё-ткі можна?

Рэгуліроўшчык з павагай зірнуў на гэтага рухавага нецярплівага чалавека. Хоць Туравец гаварыў лагодна, па яго паводзінах, па голасу, у якім гучалі ўладныя ноткі, адчувалася, што гэты чалавек прывык кіраваць людзьмі.

— Паспрабуйце. Гадзіны дзве таму праскочыла адна група... Як ім удалося, — не ведаю: немцы там, хоць і не пры самай дарозе, ды вельмі прыстраляліся. Адным словам, гэта рызыка, зараней кажу...

— Рызыка, але, значыць, усё-ткі ж можна? Адна група прабілася, кажаш? А чаму ж другая не можа? Чаму ж ёй хоць бы не паспрабаваць, а?

2

Шафёр згадзіўся ехаць. Ён таксама спяшаўся дабрацца да Мінска, каб далучыцца да іншых машын дывізіі. Хлопец падружыўся з партызанамі, асабліва з жартаўлівым вясёлым Шашурам, які цішком ад Тураўца пачаставаў яго «партызанскім зверабоем». Гэты «зверабой» аказаўся звычайным самагонам, але дружба Шашуры з шафёрам была замацавана. Да Тураўца, якога яшчэ ўсе звалі па прывычцы то камісарам, то падпалкоўнікам, які ведаў добра генерала Шчарбацюка, шафёр адносіўся нібы да свайго камандзіра.

Туравец распытаўся дакладна пра дарогу, пра небяспечнае месца. Сядаючы ў машыну, ён загадаў усім быць напагатове.

Свой аўтамат ён палажыў на калені. Грузавік крануўся і павольна пабег па дарозе. Туравец спакойна прыслухоўваўся да гукаў, пазіраў вострымі чорнымі вачыма на дарогу, на поле.

Раптам грымнулі два блізкія выбухі. Снарады ці міны разарваліся на палосцы бульбянішча, за хмызняком, які бег поруч з дарогай, — там падняліся дзве хмаркі дыму. Мінула секунда — і снарад выбухнуў ужо на дарозе, зіхнуўшы агнём, што ўскінуўся зусім блізка наперадзе грузавіка. Машына, як бы наскочыўшы неспадзеўкі на сцяну, адразу стала. Людзі спрытна пасыпаліся з кузава на дарогу, на якой пачалі азірацца, чакаючы, што будзе далей. Туравец і шафёр выскачылі з кабінкі.

Камісар загадаў залегчы ўсім пры дарозе і падрыхтавацца да бою. У партызан, якія ехалі з ім, яшчэ была зброя.

Стралялі аднекуль здалёк і, як цяпер было ўжо відаць, — мінамі. Яны са скрогатам лажыліся наперадзе, пры самай дарозе; адна міна ўпала метраў праз восем у кювет, — асколкі з фырканнем разляталіся ва ўсе бакі. Страляніну вялі, напэўна, з ляска, што віднеўся справа, кіламетры за два адсюль.

— Дарогі, здаецца, яму не відаць за кустамі. Пабачыў, мабыць, пыл ад машыны, — пачуў Туравец поруч з сабою разважлівы голас Шашуры. — Яна такую хмару тут падымае, што не толькі ў Мінску, а і ў Лепелі відаць. Сухмень які!

— Адным словам, павяртай аглоблі, — адгукнуўся скупы на словы шафёр, акідваючы вачыма поле пры дарозе, мусіць, глядзеў, дзе тут зручней развярнуцца.

«Няўжо і праўда, прыдаецца вярнуцца? — думаў Туравец. — Эх, шкада, тут сілы ў нас мала — не могуць вытурыць фрыцаў з ляска. Калі б сюды маю брыгаду ці хоць адзін атрад!»

А немцы, відаць, перарэзалі дарогу толькі тут, — далей шлях, напэўна, вольны. Такая бяда — аб'ехаць гэтае месца на машыне нельга, бо злева забалочаны лужок падыходзіць да самай дарогі... Шкада, машыну прыдзецца вярнуць...

— Будзем прабівацца пеша, — сказаў рашуча камісар.— Ён зірнуў на шафёра. — А табе, крыўдуй, не крыўдуй, прыдзецца, браток, паехаць назад...

— А можа, таварыш камісар, паспрабаваць яшчэ раз...— нечакана запярэчыў шафёр. — Няўжо так і нельга прарвацца? Быць не можа!

— Прарвёмся, таварыш камісар,— горача падтрымаў шафёра Шашура. — Вы толькі разведайце дарогу, а мы тады, каліна-маліна, — ірванем! Праскочым, клянуся! Дазвольце толькі мне, таварыш камісар, — з шафёрам, а?

Шашура быў хуткі ў рашэннях, як заўсёды, калі ішоў насустрач небяспецы.

— Добра, заставайся, Шашура... Усе іншыя — за мной! — падняўшыся, скамандаваў Туравец.

Яны прайшлі ў баку ад дарогі з кіламетр, калі ад сустрэчных байцоў даведаліся, што далей дарога вольная. Туравец пачаў размахваць рукою, даючы знак, што можна ехаць.

Шафёр ускочыў у машыну, націснуў нагой на старцёр:

— Ну, трымайся, Шашура!..

Немцы на гэты час спынілі абстрэл. Але як толькі машына ўзняла пыл, міны зноў пачалі выбухваць на дарозе. Аднак шафёр не зважаў ні на што, ведучы і ведучы машыну праз гэты грымотны заслон... Прыгнуўшыся да руля, ён упіўся вачыма ў дарогу, якая развіналася, ляцела насустрач,— узіраўся, ці няма варонкі, каб уберагчыся ад аварыі.

Вось і свае! Машына прабегла яшчэ метраў сто, віскнула тармазамі і стала, тады на яе паплыла, асядаючы, хмара пылу. Партызаны ўслед за Тураўцом адразу пабеглі да грузавіка і сталі забірацца ў кузаў.

Праехаўшы яшчэ кіламетраў сем, Туравец убачыў у бярозавых прысадах некалькі грузавікоў, каля якіх сядзелі байцы.

Наперадзе, вельмі блізка, за ўзгоркам, на якім цягнуліся палосы жыта, гухала і лескатала бойка. Шафёр спыніў машыну.

— Што, на Мінск? — запытаў Тураўца, які падышоў, каб даведацца пра абстаноўку, адзін з байцоў, што сядзелі пры машынах. — Эге, яшчэ адзін таварыш па няшчасці! Прыбывае нашых! Няможна на Мінск: дарога тут закрытая... Чуеце, як немцы чапляюцца за яе?

Ён кіўнуў у той бок, дзе чулася страляніна.

— Не шанцуе нам, сёння, Шашура, — сказаў Туравец, нявесела ўсміхаючыся падрыўніку.

Баец, пазіраючы на ўзброеных цывільных людзей, якія ішлі ад машын, запэўніў:

— Хутка ачысцяць... Да вечара будзе вольна...

3

— Ты Аляксей, так? — запыталася нечакана Люда.

— Аляксей...

Яна ўвесь гэты час спярша крыху насцярожана, а потым з цікаўнасцю пазірала сінімі вочкамі на свайго не бачанага ніколі бацьку. Найбольш прыцягвала яе ўвагу белая марлевая касынка, на якой вісела перавязаная рука, ды бліскучыя зорачкі на палявых паго-

нах. Да гэтых зорак ёй вельмі хацелася дакрануцца рукой, але яна стрымлівалася.

— Не Аляксей, а бацька, Людачка,— паправіла бабуля. — Гэта яна чула, што я цябе называла Аляксеем... Татка твой, унучка.

— Татка... — прамовіла Люда ўслед.

Аляксей узяў яе на свае рукі, пяшчотна прыціснуў і асцярожна, каб не дакрануцца калючай шчакой, пацалаваў.

— Ух ты, маленькая мая, дачушка ты мая!

Заглядзеўся, якія светлячкі вясёлыя ў вачах дачушкі пабліскваюць, пераліваюцца. У гэты час яна засмяялася, моршчачы кірпаты носік, і ў яе ўсмешцы Аляксей улавіў характэрную рысу Ніны. У той таксама — казала Наталля Міхайлаўна — у малой моршчыўся носік, калі яна смяялася.

— Дачушка... — вымавіла Люда і засмяялася зноў.

Але хутка ўсмешка знянацку сышла з яе твару, маршчынкі на пераноссі разгладзіліся, і яна, нецярпліва варухнуўшы рукамі і ножкамі, заявіла рашуча:

— Хачу да бабулі.

Люда зноў сядзела на каленях у бабулі, прыціскаючыся шчочкаю да старой або тручыся аб яе руку, як кацяня, і амаль нязводна сачыла за Аляксеем. Ён заўважыў, што ў гэтым позірку не было ні любові, ні пяшчотнасці, адно дзіцячая цікаўнасць і час-ад-часу насцярожанасць. Не такімі вачыма яна глядзела на Наталлю Міхайлаўну.

— Дзічыцца... Не прывыкла да цябе... І да таго ж яшчэ напалоханая. Чаго тут ёй толькі ні прыйшлося пабачыць апошнімі днямі! А так яна вясёленькая і гаваркая таксама. У Ніну, напэўна, удалася.

Старая прытуліла да сябе бялявую Людчыну галоўку.

Аляксей, паклаўшы партабак на стол, узяў з яго папяросу, потым пстрыкнуў запальнічкай, але не закурыў, — нельга, дым папяросы зашкодзіць Людзе.

Ён вышаў на ганак. У твар павеяла мяккай ласкавай цеплынёй пагоднай летняй ночы. Акінуўшы позіркам знаёмыя, паўзабытыя абрысы дамоў, дрэваў на вуліцы, зірнуўшы цяпер на слупы веснічак, каля якіх ён упершыню абняў Ніну, Аляксей падумаў радасна і нібы недаверліва:

«Няўжо я дома? У Мінску?» Ён прыгадаў сваіх таварышаў і здзівіўся, што яны сёння ідуць недзе без яго...

4

Аляксей прачнуўся і па сваёй звычцы намерыўся адразу ўскочыць, але ўспомніў, што сёння спяшацца няма куды. Можна крыху

паляжаць. Сонца было яшчэ невысока, аднак Наталля Міхайлаўна ўжо гаспадарыла ў кухні, адкуль чуўся трэск палаючых дроў. Аляксей не ведаў, калі яна легла і калі ўстала,— можа, яна і наогул не лажылася.

Аляксей бачыў, як Наталля Міхайлаўна, вышаўшы з кухні ў суседні пакойчык, дзе была некалі спальня, стала цішком пераглядаць Ніціна плацце, якое дастала са сховішча з-пад падлогі. Гэтае светла-зялёнае плацце, на якім, нібы вясною ў садзе, весела цвілі бялюткія кветачкі і якое асабліва любіла Ніна, яна зберагла праз усю вайну, быццам самы дарагі скарб, марачы аб тым дні, калі Ніна зможа надзець яго зноў.

Маці пяшчотна разгладзіла тканіну маршчыністаю рукою, уздыхнула і павесіла плацце ў шафу.

Раптам Наталля Міхайлаўна ўбачыла, што паўз акно прайшла Залеская. Старая вярнулася на кухню, каб спаткаць яе. Ступіўшы ў хату, Залеская прывіталася з сяброўкаю і павяла, як бы кагосьці шукаючы, нецярплівым позіркам у расчыненыя дзверы пакоя, дзе цяпер спалі Аляксей і Люда.

— Ніны вашай яшчэ няма?..

Даведаўшыся, што Ніна не вярнулася, Залеская паспакайнела.

— І Валькі маёй таксама няма! Відаць, пакуль не адпускаюць. У іх цяпер там начальства, — як скажуць ім, так яны і робяць. Хоць і партызаны, а парадкі ўсё-ткі — ваенныя...

— Няхай бы жанчын ужо не затрымлівалі! Мужчыны — тыя яшчэ могуць застацца, а нашто жанчын трымаць?.. Асабліва тых, у каторых дзеці дома... Ды і дзяўчат таксама! — папраівілася Наталля Міхайлаўна, падумаўшы пра Валю.

— Ох, мая Валька, напэўна, засумавала па мне! Яна ж яшчэ дзіця, не раўняць з тваёй...

Пагаманіўшы некалькі хвілін пра тое, пра сее, перш як развітацца, папрасіла:

— Калі, Наталля, прыдзе ваша, перадайце мне адразу...

— Добра. Перадам...

Наталля Міхайлаўна вышла разам з ёю на двор. Аляксей, адразу ўстаўшы, падцягнуў да ложка боты, каб абуцца, але аказалася, што анучы некуды зніклі,— ён надзеў боты на голыя ногі і падаўся ў кухню.

— Што ж ты так рана ўстаў?— запыталася, вярнуўшыся, Наталля Міхайлаўна. — Мусіць, я цябе разбудзіла?..

— Не, я ўжо выспаўся...

— А я табе вось анучкі памыла і высушыла. На, вазьмі, — яна зняла з вяровачкі пабялелыя, чыстыя анучы. — Я табе яшчэ сякую-

такую бялізну сабрала,— на акне там ляжыць. Ты пераадзенься, а я тым часам тваю памыю.

Аляксей убачыў на акне старую, але чыстую бялізну. Ён успомніў, што Наталля Міхайлаўна, колькі ён ведаў, толькі тым і жыла, што клапацілася пра ўсіх, перш за ўсё пра Ніну і яго. Без гэтых клопатаў нельга было ўявіць яе жыцця.

Неўзабаве яна прынесла снеданне і запрасіла Аляксея за стол.

— От толькі Ніны не хапае... — прамовіла яна, пазіраючы на Аляксея.

Аляксей таксама чакаў Ніну. Ён, праўда, думаў, што Ніна, можа, і не прыдае сёння, на другі дзень пасля вызвалення горада: яна чалавек амаль ваенны, і яе могуць затрымаць у атрадзе.

Калі паснедалі, Аляксей заўважыў, што старая пакінула частку снедання ў печы, прыгарнуўшы каструльку жарай.

Наталля Міхайлаўна раз-по-раз пазірала ў акно, з якога быў відаць адрэзак вуліцы, яе позірк быццам магнітам прыцягвала да шыб. Калі на дашчаным тратуары пад акном чуўся стук крокаў, яна насцярожвалася.

Дзяўчынка рэзка павярнулася і скінула з сябе коўдру, палажыўшы на яе маленькую ножку. Аляксей яшчэ раней заўважыў, што спіць яна вельмі неспакойна. Ён схіліўся над яе ложкам і паправіў коўдру, баючыся якім-небудзь неасцярожным рухам разбудзіць.

Дачушка спала на баку, выставіўшы наперад круглы падбародачак і кірпаты носік; твар яе з паўадкрытымі пухлымі губкамі быў бесклапотна-спакойны. Аляксей заўважыў цяпер, што шчочкі яе нездарова блеклыя, быццам яны не ведалі сонца ці паветра; рука, што ляжала каля шчакі, была худзенькай, локцік завостраны, пальчыкі тонкія.

«Трэба падправіць дзяўчынку», — падумаў ён з пяшчотаю і з жалем.

Люда ў гэты час пачала прачынацца. Павярнуўшыся, яна паспрабавала адкрыць вочы, але ад яркага святла адразу прыйшлося заплюшчыцца. Відаць, яна ўсё ж заўважыла каля сябе Аляксея, бо даверліва, шчасліва ўсміхнулася; цёмныя доўгія вейкі ледзь прыкметна затрапяталі.

Бацька мякка дакрануўся да яе бялявых валасоў рукою, бязмерна ўсцешаны яе ўсмешкаю. А Люда павярнулася на другі бок, потым на спіну, адкінула рашуча нагою коўдру і, нарэшце, прачнулася. Яна пацерла кулачком павекі і стала пазіраць на Аляксея, але цяпер ужо незадаволена, хмурачы ледзь прыкметныя залацістыя броўкі. Яна паклікала ўстрывожана:

— Баб...

Наталля Міхайлаўна была яшчэ на двары. Аляксей нахіліўся да дачкі.

— Што табе, Люда?

— Баб! — паклікала дачка мацней, і тут бацька заўважыў, што яна пазірала на яго цяпер са спалохам, як на незнаёмага чалавека. «Забыла», — здагадаўся Аляксей.

— Што з табою, унучка?!— убегла ў пакой Наталля Міхайлаўна.

Ледзь толькі яна, схіліўшыся над ложкам, пяшчотна прыгарнула малую да сябе, Люда адразу супакоілася.

— Нічога, — адказала яна і строгімі няласкавымі вачыма зірнула скоса на бацьку.

— Не прывыкла яшчэ...

Старая сказала Аляксею такім голасам, нібы прасіла ў яго прабачэння.

А Аляксей і не думаў крыўдзіцца: як жа інакш яна павінна адносіцца да невядомага чалавека? А ён пакуль для яе невядомы...

## 5

Неўзабаве пасля гэтага Аляксей вышаў з хаты,— хацелася паглядзець, якім стаў цяпер цэнтр Мінска. Учора ў баі яму быць у цэнтры не давялося.

Аляксею адразу кінулася ў вочы, што каля дамоў тут і там працавалі старанныя асцярожныя сапёры: выносілі з дамоў, з сутарэнняў бомбы, міны, скрынкі з толам.

Перад Домам Урада, што быў агароджаны калючым дротам, ляжаў цэлы штабель толу і гара бомб, выцягнутых з будынка. Каля іх Аляксей сустрэў групку ўзрушаных мінчан, — адзін з іх сказаў, што вынеслі ўжо сто восемдзесят бомб і шэсцьсот пяцьдзесят кілаграмаў толу.

Тут жа капітан пачуў, што ў горадзе ўзарвалася за гэтыя суткі некалькі дамоў, замініраваных мінамі замаруджанага дзеяння. У немалых дамах — гаварылі — баяцца людзі сяліцца.

Амаль на кожным пакінутым фашыстамі будынку чарнелі перасцерагальныя надпісы сапёраў: «Увага! Мініраваны», «Мінны каранцін».

Тое, што Аляксей пабачыў за гэтым, яго ўзрушыла яшчэ больш. Яму прыйшлося прайсці нямала разбітых, знявечаных гарадоў, але Мінск усё ж усхваляваў асабліва, бо такіх разбурэнняў Аляксей не бачыў нідзе, акрамя хіба Смаленска. Уся Савецкая вуліца, калісьці самая шумлівая, прыбраная і жывая, на якой амаль бесперапынку

зіхацелі з двух бакоў шырокія вітрыны і шыльды, цяпер ляжала ў жахлівых руінах. Яе абступалі пустыя, мёртвыя, абадраныя каробкі дамоў, кучы запляснелага камення, адзінокія каміны; на ўсім працягу яе ўцалеў, акрамя Дома Урада, яшчэ толькі адзін вялікі будынак — Дом Чырвонай Арміі.

У сярэдзіне цэнтральнага ўнівермага ў пустыя вялізныя праломы вокан віднеліся жалезабетонныя столі, якія прагнуліся і абвіслі важкімі глыбамі і былі гатовы вось-вось рынуць уніз.

У Аляксея, калі ён бачыў усё гэта, рос даўкі смутак, а разам з ім уздымаўся гнеў. Гады, нелюдзі, што яны зрабілі з Мінскам, як яны знявечылі, разбурылі цудоўныя кварталы!.. Але і гэтага ім было мала,— што ж яшчэ гэтае звяр'ё намервалася зрабіць?.. Гады, гады,— нібы кляўся ў думках Аляксей,— я вам не дарую гэтага. Я вам прыпомню кожную вуліцу скалечаную, кожны разбіты дом, кожны каменьчык руін. Усё прыпомню. Вось толькі вярнуся ў брыгаду.

Усюды яшчэ былі відаць чужыя надпісы і шыльды; Аляксею хацелася ўзяць якую-небудзь дошку ды пачаць сашкрабаць гэтыя ненавісныя надпісы, зрываць і кідаць шыльды.

Адзіным, што ажыўляла гэтую вуліцу, былі рухавыя, неспакойныя натоўпы людзей ды вайсковыя машыны, што каціліся па бруку, амаль усе на захад...

На вуліцах грымелі гучнагаварыцелі, — трансліравалася перадача з Масквы, у якой дыктар расказваў пра баі за Мінск.

Аляксей прыглядаўся да твараў сустрэчных, спадзеючыся ўбачыць каго-небудзь са знаёмых. Але яму пападаліся толькі невядомыя людзі. Раней у Мінску ў яго было многа знаёмых, адных ён добра ведаў, а другіх толькі дзесьці бачыў — ці на сходзе, ці проста на вуліцы. У такім горадзе, як Мінск, сустрэць знаёмага калісьці было лёгка. Цяпер жа ніхто з іх не сустракаўся!

Дзе яны цяпер? Адны, вядома, так, як і ён, на фронце, — на розных франтах, іншыя ў эвакуацыі, многія, як і Ніна, у лясах. Нямала хто з тых, што вымушаны былі застацца тут, мусіць, загінулі як падпольшчыкі...

Усё-ткі, хоць многае ў горадзе наводзіла на сумныя ўспаміны і горкія думкі, Аляксею было радасна: што ж, галоўнае — Мінск жыве! Яго ўжо ніхто больш не будзе раніць.

Ніколі, ніколі.

## Раздзел II

### I

Да бярозавых прысад пачалі раптам падыходзіць машыны. Яны ішлі не па адной, а адразу цэлым патокам, і Туравец, убачыўшы іх, здагадаўся, што дарога каля лесу цяпер вольная...

— Выгналі фрыцаў з лесу! — праз момант аб'явіў радасна Шашура, які ўжо ўправіўся пагаварыць з шафёрам аднаго грузавіка.— Надвор'е праясняецца, таварыш камісар...

— Напэўна, хутка і сюды падашлюць пяхоту, — прамовіў Туравец.

— Факт!— падтрымаў Шашура. — Хіба ж можа быць, каліна-маліна, каб дарога на Мінск была закрыта?!

Але мінула гадзіна, дзве, а пяхоты ўсё не было відаць. Прагрымела адно некалькі гармат вялікай магутнасці — на гусенічным ходу, з кароткімі тоўстымі ствaламі. Толькі ўночы, пад самы золак, пад'ехала каля дзесятка грузавікоў з пехацінцамі і чатыры «кацюшы». Яны, не спяшаючыся, прайшлі наперад у напрамку размяшчэння немцаў.

Бой пачаўся ўранку. Туравец раптам убачыў, як у сіняватае неба гнеўна ўскінулася чарга падобных да камет вогненных стрэл, якія, рассякаючы сінечу, крэслілі высокую дугу, хутка набліжаючыся да нябачнага праціўніка. Здавалася, што каметы стараюцца перагнаць адна другую. «Што гэта?» — з захапленнем пазіраў у неба Туравец, — ён упершыню бачыў гэта, але адразу здагадаўся: «кацюшы»! Вось вы якія, казачныя «кацюшы»! Ён слухаў, як недзе наперадзе часта і глуха грукаталі выбухі...

— Вось дык галасочак, каліна-маліна! Ад такога жаночага голасу душа ў пяткі просіцца адразу... Скажы ты, аж тут зямля затрапятала.

— Жанчынка аўтарытэтная, — падтрымаў Шашуру Туравец. — Нічога не скажаш!

Сонца ўжо ўзнялося на вышыню бяроз, калі шафёры і вайсковыя, што стаялі каля машын і сядзелі на ўзбочынах, заварушыліся, забегалі, пачалі перадаваць каманды.

— Сядайце, мінчане! Едзем! — крыкнуў Туравец сваім.

Першыя грузавікі крануліся і пайшлі па дарозе, а следам за імі папаўзла і ўся плынь машын, мінаючы рады белатварых бяроз. Наперад праімчаліся, падскокваючы на каляінах, два легкавыя «газікі».

Хутка Туравец убачыў поле бою. Усюды былі відаць неглыбокія варонкі, акаймаваныя камякамі суглінку і супесі, і ўсюды ў перамятым жаўцеючым жыце, у кюветах, на сцежках за імі, а то і проста на дарозе валяліся трупы, у мундзірах і без мундзіраў, часам густа, адзін пры адным. Каля адной варонкі ў кювеце ляжала мінамётная пліта без ствала і адарваная нага з запыленым ботам. Было раскідана многа рознага ваеннага снаражэння — ранцы,

кацялкі, шынялі, каскі. На павозках, кінутых каля купы алешніку, пры самай дарозе, ляжалі мяшкі з мукой ці з чым іншым, цынкавыя патронныя скрынкі; каля мяшкоў гаспадарылі некалькі пехацінцаў, якія зносілі іх на свой грузавік...

Мінуўшы гэтую мясціну, машына пайшла хутчэй. Цяпер ужо не было відаць ні трупаў, ні варонак, ні кінутых снарадаў,— насустрач бегла звычайная каляіністая дарога. Туравец узрушана ўзіраўся удалеч, чакаючы, калі з'явяцца знаёмыя абрысы горада, хоць і ведаў, што да Мінска яшчэ не менш як два дзесяткі кіламетраў.

Каля Трасцянца грузавік уз'ехаў на асфальт Магілёўскага шасэ, прыстроіўшыся між іншых грузавікоў, якія ішлі ў Мінск.

На ўскраіне горада, дзе пачынаўся брук, машына спынілася, таму што сталі пярэднія. Насустрач ішло некалькі грузавікоў, у кузавах якіх сядзелі салдаты. Туравец расчыніў дзверцы і, стоячы на падножцы сваёй машыны, стаў углядацца ў твары пехацінцаў, што хутка набліжаліся, міналі яго і аддаляліся. Групка за групкай, кузаў за кузавам...

Знянацку ў адным кузаве ён убачыў чалавека, які здаўся яму вельмі падобным да сына.

«Юрка?!»

Туравец ад неспадзяванасці не паверыў адразу, завагаўся, паімкнуўся гукнуць, але машына ўжо адышла ад яго.

«Няўжо Юрка?!» Бацька верыў і не верыў. Пехацінец вельмі нагадваў сына, але хіба гэта не мог быць хто-небудзь іншы, падобны да яго,— тым больш, што бачыць хлопца давялося толькі адзін міг ды яшчэ ўпершыню ў вайсковым адзенні...

Ад гэтых разваг Туравец і не заўважыў, як грузавік зноў затросся на бруку.

## 2

Ледзь толькі Туравец увайшоў у гарком, ён убачыў, што гарком працуе. У памяшканні былі наведвальнікі. Першым, каго Туравец спаткаў са знаёмых, была пажылая жанчына, з шырокім тварам і маленькім кірпатым носам, з на дзіва прыгожымі залацістымі валасамі.

Яна да вайны працавала інструктарам аднаго з мінскіх райкомаў, і хоць калісьці яны ведалі адзін другога мала, Туравец цяпер узрадаваўся сустрэчы з ёй так, быццам спаткаў вельмі дарагога друга.

Туравец ад яе даведаўся, што гарком пачаў працаваць сёння, што Малінін ужо тут, што прыехаў ён з Нававеліцы і прывёз з сабою каля дваццаці работнікаў.

Яны ехалі з Навабеліцы на трох машынах, на чацвёртай везлі розныя рэчы і харчы. Ехалі разам з войскамі. Дабірацца да Мінска было цяжка: на пераправах амаль усюды даўжэзныя чэргі, на дарогах цэлае разводдзе машын, вайсковай тэхнікі.

— Малінін выручыў усіх, — казала жанчына, увесь час усміхаючыся шырока, неяк па-дзіцячы ясна. — Каб не ён, мы яшчэ і цяпер недзе ў дарозе плылі б. Ой, цяжка было б нам без яго... Ну, а з ім — нам усе дарогі былі адкрыты. Ён жа ехаў у генеральскай форме. Як паявіцца дзе-небудзь з нашымі машынамі — усюды ў першую чаргу прапускаюць. Ды яшчэ чэсць аддаюць!..

Яна сказала, як знайсці Малініна. Убачыўшы Тураўца, Малінін, мімаволі зашпільваючы верхнія кручкі генеральскага кіцеля, падышоў да яго і моцна, па-сяброўску абняў.

— Даўно мы не бачыліся, Нічыпар! — ён выпусціў Тураўца з абдымкаў, і ў шэрых вачах пад густымі чорнымі брывамі заблішчала радасць: — Вось добра, што прыехаў! Работа тут цябе чакае! З самай раніцы... Дарэчы — я цябе не мог папярэдзіць — бюро рашыла даручыць табе аддзел кадраў гаркома...

— Крыху нечакана, — задумаўся Туравец. — А... калі за справы брацца?

— Ну, калі ж? Хіба можна такія пытанні задаваць?.. Зараз жа, таварыш загадчык аддзела кадраў...

І Малінін папрасіў Тураўца расказаць, якія людзі прыехалі з ім, дзе хто з іх добра можа працаваць.

— Сядай тут поруч і давай спіс. Возьмемся за справу!..

Прысеўшы за стол, накрыты сіняй маскіровачнай паперай, яны папярэдне памеркавалі, каго з партызан куды трэба паслаць.

— Як будзем, па адным выклікаць, ці... усіх папросім?

— Кліч усіх, Нічыпар Паўлавіч... Гэта ж іх і твая апошняя партызанская сустрэча і першае мірнае развітанне!.. Да таго ж няхай пабачаць, колькі для нас, камуністаў, тут у горадзе працы. Хай паглядзяць на сваё месца, адсюль, з гэтага КП...

— Так, ім карысна будзе пабыць тут разам... Зараз паклічу.

Партызаны, якія набліжаліся да дзвярэй гаварлівым натоўпам, уваходзячы ў пакой, адразу прыціхалі, стараліся не грукаць ботамі. Вітаючыся з Малініным, часцей за ўсё — па пачыну Шашуры — спачатку паваеннаму казыралі і толькі пасля таго, як сакратар працягваў руку, паціскалі яе «па-цывільнаму».

— Прашу сядаць, таварышы. Ды бліжэй! — Малінін пазіраў, як партызаны, стукаючы, шоргаючы стуламі і табурэтамі, уладжваліся

перад яго сталом і крыху далей, каля сцяны.— Усім хапіла месца, здаецца?.. Тады, каб не марнаваць часу, пачнем...

Так, гэта была яшчэ як бы партызанская сустрэча, што збоку амаль нічым не адрознівалася ад якой-небудзь нарады перад баявой аперацыяй. Партызаны яшчэ нярэдка, калі іх пытаўся Малінін, станавіліся смірна, адказвалі потка, залішне галосна. Але самі людзі і нават Туравец гэтага не заўважалі, — іх хвалявала і радавала іншае, нязвычнае, якое прымушала ўсіх, хто сядзеў у гэтым кабінеце, адчуваць сябе неяк асабліва, па-святочнаму, нават урачыста. Малінін кожнага распытваў пра даўнія мірныя спецыяльнасці, пра тое, што звычайна было недзе толькі ў памяці, у мінулым або хіба ў марах... А самае хвалюючае падыходзіла тады, калі сакратар гаркома гаварыў:

— Гарком рашыў вас накіраваць на працу...

І тады людзі проста, нібы ў казцы, перайначваліся: хто станавіўся дырэктарам электрастанцыі, школы, хто — начальнікам пашпартнага стала, хто — загадчыкам аддзела камунальнай гаспадаркі. Уставалі, калі сакратар гаркома выклікаў іх, партызанамі, а сядалі зноў на свае месца «мірнымі» начальнікамі...

«Загадчык аддзела!— здзіўляўся Шашура.— Быў разведчыкам, а цяпер загадчык аддзела камунальнай гаспадаркі. І трэба ж, каб такую пасаду далі разведчыку!.. Эх, дарэчы,— схамянуўся падрыўнік, — трэба заўтра забегчы да яго, папрасіць хоць пакой. Дасць ці не дасць? Ліха яго ведае, якім ён сябе пакажа на гэтай новай пасадзе... Павінен даць, душа з яго!» — падрыўнік прыгадаў Аксінню, уявіў сябе з ёю ў гэтым будучым пакоі, — ад чаго ў грудзях яго прыемна пацяплела.

Потым неспакойнага падрыўніка захапіла праблема: а куды ж яго пашлюць! Слесарам, сталяром? На начальніка пашпартнага стала, ён, напрыклад, не падыдзе — вельмі вёрткі. Там трэба сядзець многа... Шашура такім спосабам перабраў некалькі пасад, як паклікалі да стала яго.

— Табе, Шашура, прыдзецца заняцца арганізацыяй харчавання, — сказаў яму Туравец, які сядзеў збоку ад Малініна. — Будзеш дырэктарам вялікай сталоўкі. Што табе трэба? Даць харчаванне рабочым, служачым. Справа вельмі пачэсная!.. Памяшканне...

Туравец глянуў на сакратара. Той устаў з-за стала і загаварыў да Шашуры:

— Памяшканне ёсць. Праўда, таварыш Шашура, трэба будзе яго падрамантаваць... Падабраць кухараў, афіцыянтак. Знайсці мэблю, пасуду, — мэблю можна, дарэчы, узяць у рэстаранах, якія тут працавалі... Там яна, кажуць, засталася... Прадукты — будуць, але першымі днямі, пакуль не наладзім падвоз, вы атрымаеце вельмі мала. З

тых складаў, што ўдалося захапіць... Адным словам, патрэбна добрая гаспадарлівасць, ініцыятыва. Ну, вядома, і знаходлівасць партызанская!.. Так, так — знаходлівасць! Не здымайце яе з узбраення... Ну, вось усё. Задача, па-мойму, ясная? Ясная. Тады — астаноўка за вамі.

— Калі можна што-небудзь зрабіць, таварыш сакратар, за мной астаноўкі не будзе...

— Пабачым...

Так былы падрыўнік атрымаў першае мірнае заданне.

3

Калі партызаны разышліся, Малінін правёў Тураўца і паказаў загадчыку аддзела кадраў яго «кабінет». Гэта быў даўгаваты пакойчык з адным акном, каля якога стаяў стол і два табурэты, а каля сцяны — зеленаватая нямецкая шафа. Пакойчык быў ужо чыста вымецены і нават памыты. Застаўшыся адзін, Туравец вышаў і хутка вярнуўся з рэчавым мяшком і курткаю.

Павесіўшы куртку на цвічок, а мяшок паклаўшы каля дзвярэй, ён падышоў да акна, паглядзеў на асветленую сонцам вуліцу, на пустыры з абодвух бакоў яе. Расчыніў акно...

Трэба пачынаць. З чаго? Ён ведаў, з чаго: гораду патрэбны і дырэктары заводаў, і інжынеры па электрычнасці, і добрыя фінансісты, і старшыні арцеляў, і клубныя работнікі. Дзесяткі важных установ і прадпрыемстваў чакаюць людзей...

Чакаюць. Але людзей гэтых пакуль — на бяду — мала. Вельмі мала. Амаль няма... Туравец пачуў, што ззаду расчыніліся дзверы, і азірнуўся.

— Выбачайце,— сказаў, уваходзячы, хударлявы, прыгожы, немалады чалавек. — Думаў, што нікога няма. Не пастукаў... Голуб, урач...

— Помню вас, таварыш Голуб. Добры дзень! Вы ў мяне — першы, самы пачэсны, значыць, госць...

Цяжка давялося «самаму пачэснаму госцю». Успомніўшы тое-сёе з Голубам, парадаваўшыся сустрэчы, даведаўшыся, дзе ўрач быў,— аказалася, у партызанскім шпіталі,— Туравец запытаўся:

— Значыцца, думаеце заняцца практыкай: лячыць вушныя хваробы і пісаць дысертацыю?

— Так-так, дысертацыю. Абавязкова. Мне ўжо даўно трэба было напісаць яе, ды, ведаеце самі — вайна...

— Так, дысертацыя — добрая справа,— падтрымаў Голуба Туравец. — Матэрыял цікавы, праўда?

— Многа цікавага накапілася. Тры гады як-ніяк...

— Вопыт, напэўна, вельмі каштоўны?

— Каштоўны!

— Гэта добра, вельмі добра!

І такім жа лагодным, зачараваным тонам раптам запытаўся:

— А ці не ўзяліся б вы, таварыш Голуб, — часова, вядома, — за такую справу: загадваць аддзелам аховы здароўя, а? Часова, паўтараю, на некалькі месяцаў... Вельмі патрэбная справа! А?

— Патрэбная, — згадзіўся ўрач.

— Вельмі патрэбная, — падхапіў Туравец, пераходзячы на той асобы прыяцельскі тон, у якім было і давер'е, і надзея, і пры якім субяседніку, як ведаў Туравец, цяжка станавілася адмаўляцца. — Нават — неабходная!

Голуб спахмурнеў, задумаўся і адказаў, як бы просячы выбачэння, што не можа ўзяцца за гэтую справу.

— Чаму?

— Не магу. Не спраўлюся.

— Вы не справіцеся? Я, прызнаюся, не веру ў гэта.

— Як гэта не верыце?

— Не веру, што вы не справіцеся! Адзінае, што я адчуваю з вашага адказу, будзем гаварыць шчыра: вы не хочаце мяняць сваіх планаў... так? — Туравец узняўся.— Я, Ціхан Сяргеевіч, разумею ваш настрой. Пісаць дысертацыю, аб якой столькі год думалі... Больш таго, я лічу, што вы маеце на гэта поўнае права. Але,— загаварыў неяк асабліва ўзрушана Туравец,— нам патрэбны людзі на некаторых, найбольш важных участках. Вы разумееце? Вельмі патрэбны, дазарэзу! У тым ліку і там, куды мы хочам вас паслаць. Там павінен быць сёння-заўтра чалавек, інакш сарвецца вельмі важная справа... Наладзіць медабслугоўванне трэба як мага хутчэй. Чым раней, тым лепш!.. У Мінску цяпер тысячы хворых і скалечаных, вы разумееце?..

Туравец неспакойна прайшоўся. Голуб падумаў пра Тураўца: які ўчэплівы! — крыху няўпэўнена прамовіў:

— Вы так гаворыце, быццам я абавязаны пайсці.

— Так, вы не памыліліся. Я лічу, што вы, Ціхан Сяргеевіч, абавязаны пайсці, — пераканана сказаў Туравец. — Калі вы адчуваеце, у якім становішчы горад — а вы адчуваеце гэта — і калі вы ведаеце важнасць вашай працы, вы павінны пайсці...

Голуб, нарэшце, згадзіўся. Хіба можна ўтрымацца перад логікай гэтых довадаў? А Туравец, расказаўшы Голубу пра яго абавязкі і развітваючыся, загаварыў інакш:

— Прыдзе час — будзеце пісаць. Што ж зробіш,— давядзецца пакуль пачакаць. А падшукаем іншага чалавека — адпусцім... Толькі ўмова, Ціхан Сяргеевіч,— да той пары працаваць па-сапраўднаму.

Ніякай скідкі на тое, што мала вопыту ў кіраванні, не будзе. Не дадзім спуску!

— Ну, ды ўжо, калі ўзяўся... то колькі здолею!

У гэты час у пакой ступіў чалавек у вайсковай форме, але без пагонаў. Ён быў вельмі запылены,— відаць, чалавек прышоў сюды проста з дарогі. Падарожны адразу накіраваўся да Тураўца.

— Міхалап, — адрэкамендаваўся ён, сочачы за выразам твару Тураўца: — помніць ці не?

Туравец успомніў, узрадавана ад душы пацікнуў руку.

— Які вецер занёс сюды?! З партызан? Не, ты нешта больш нібыта на ваеннага падобны...

— Ваенны. Са шпіталя паслалі ў распараджэнне ЦК КП(б) Беларусі, а адтуль — сюды... За наступаючымі войскамі, можна сказаць, з другім эшалонам. А ты?

— А я? Ат, што я! У лесе ўсё быў...

— Ну-ну, па-ранейшаму ўсё любіш скромнічаць?.. Ага, — успомніў Міхалап,— дарэчы кіламетраў восемдзесят падвёз твой сын...

Туравец узрушана пачаў распытваць, дзе гэта было і што сын расказваў, і якім здаўся ён Міхалапу ў вайсковых абставінах. Туравец быў вельмі шчаслівы, чуючы, што сына таварышы паважаюць...

Потым ён запытаўся, дзе давялося быць Міхалапу за гады вайны. Ён слухаў расказ пра гэта з захапленнем: слаўны шлях прайшоў зямляк: абараняў Севастопаль і Сталінград, вызваляў многія гарады. Біяграфія яго, Тураўца, у гады вайны куды бяднейшая...

Вось каму даручыць кіраваць вялікім, амаль дашчэнту зруйнаваным станказаводам, дзе патрэбен асабліва моцны чалавек. Такі, можна спадзявацца, наладзіць справу!.. Ён зайшоў да Малініна, каб параіцца з ім пра гэта, але сакратар захацеў сам пазнаёміцца з Міхалапам.

Аб чым гаварыў Малінін з Міхалапам, Туравец не чуў, бо яго чакалі наведвальнікі, і ён адразу вярнуўся ў свой пакой. Жанчына год трыццаці,— яна да вайны была настаўніцай біялогіі, — камечачы ў руках даўно паблеклы капялюшык, гаварыла няўпэўнена:

— Я да вас, таварыш, за парадай: што рабіць? Хутка верасень, а ў нас у школе ніводнай парты, ніводнага падручніка ці кнігі.

Тураўцу было радасна, што настаўніца непакоіцца пра тое ж, што і ён. Відаць, насумавалася па любімай справе, зачакалася!

— Так, верасень ужо блізка... Праляціць паўтара месяца — і зноў малыя натоўпамі, з кніжкамі, са сшыткамі паплывуць, як ручайкі ў рэкі, да школ. Зазвіняць званкі... Даўно, даўно я не чуў гэтых

званкоў. Прыду першага верасня да школы, спецыяльна прыду, стану і буду слухаць званок!..

— Дык, значыцца, першага верасня... пачнецца?

— Абавязкова. Гарком зробіць усё, каб пачаць у час. Перадайце гэта ўсім настаўнікам... Скажыце, што нам — і дзецям — патрэбна ваша дапамога, настаўнікаў. Якая? Зараз скажу... У школах будзе пакуль, відаць, цяжка з падручнікамі: каб надрукаваць іх, патрэбен час. Адразу не надрукаваць тысячы, праўда?

— Праўда, — кіўнула настаўніца.

— Таму трэба наведаць вучняў і сабраць, у каго ўцалелі, кнігі... У хуткім часе будзем рабіць улік дзяцей школьнага ўзросту. Тут мы таксама папросім настаўнікаў...

— Ды я... ды мы — хоць сёння! — не ўтрывала настаўніца.

Голас яе задрыжаў: — Я столькі чакала гэтага!.. Аж не верыцца... што зноў усё...

Ашчаслiўленая, яна раптам устала і пачала хутка развітвацца, быццам некуды спяшаючыся.

Пасля яе ўвайшоў стары мужчына, які пытаўся, куды пісаць, каб даведацца пра лёс сваіх сыноў... З якімі толькі пытаннямі ні прыходзілі ў гэтыя дні ў гарком!

4

Наведвальнікаў больш не было. Толькі што пайшоў да сябе на завод запылены Міхалап: Малінін адобрыў выбар загадчыка аддзела кадраў.

Туравец прайшоўся па пакойчыку, заўважыў раптам свой мяшок з рэчамі, які яшчэ ляжаў каля дзвярэй, і, адчыніўшы пустую нямецкую шафу, паклаў яго туды.

Акно каля стала было адчынена, і ў пакой плыў цёплы летні вецер, з якім час-ад-часу ўрываўся то стук капыт, то гурчанне вайсковага грузавіка.

Прышла залатавалосая знаёмая, якую ён спаткаў тут першай. Пасміхваючыся па-дзіцячаму шырока, яна напомніла Тураўцу:

— Нічыпар Паўлавіч, пра масы ты не забыўся? Не? Не трэба адрывацца ад мас. Масы чакаюць вашага слова...

— Гэта я з прыемнасцю. Хоць зараз,— адказаў Туравец,— Толькі скажы, куды? Вядома, не на фабрыку і не ва ўстанову?.. Здагадваюся: мусіць, проста — на вуліцы?

— Ты адгадаў — проста там, дзе трапіцца дзесятак — два мінчан...

— Як у першыя дні рэвалюцыі! Ажывае гісторыя...

Так, яму трэба выступіць проста на вуліцы, там, дзе на той час збяруцца групкай людзі...

Перад тым, як пачаць выступленне, Туравец захацеў прайсціся па гораду. Ён ішоў па мінскіх вуліцах у вялікім журботна-гнеўным узрушэнні. Гарбы ўзелянелай бітай цэглы, пустыя вокны, бы сляпыя вочы, высачэзныя дзікія каміны — з гэтым нельга было памірыцца душою.

На вуліцах ціха і амаль пуста. Ён нецярпліва пазіраў на сустрэчных. Ці няма знаёмых? Але знаёмых не было відаць.

Ён зайшоў на Ленінскую — тут, побач з будынкам Камунбанка, які адной сцяной выходзіў на вуліцу Карла Маркса, Туравец жыў да вайны. Уцалелая скалечаная сцяна і балкончык,— балкончык з вазонам,— якія неяк выстаялі дасюль, быццам страшны помнік жонцы, раптам так ярка нагадалі няшчасны, паўзабыты дзень і яе аблічча, што грудзі Тураўца апаліла пякучым нясцерпным болем. Эх, Зося, Зося! Кварталы тры ён ішоў прыгорблены, невідушчы, з пякучым гэтым болем і сумам, з бурай нахлынуўшых успамінаў. Адзінай уцехай было яму тады толькі тое, што зямля, дзе яна жыла і дзе пахавана, ужо вольная.

Намагаючыся адолець сваё гора, ён стараўся сачыць за тым, што праходзіла перад вачыма. Горад быў страшэнна запушчаны і брудны. Нейкія абрыўкі паперы, бітае шкло, бутэлькі, розная дыхляціна, дрот — чаго тут толькі няма на бруку! Ледзь не на кожным кроку выбоіны, ямы. А калі толькі варухнецца вецер,— хмары пяску і пылу... Да чаго давялі, гады!

Ён прайшоў па Савецкай, спусціўся па Камсамольскай на Нямігу, дзе было бруду яшчэ больш, падаўся па вуліцы Мяснікова. Тут ён убачыў каля помпы, што стаяла ў тым месцы, дзе пачынаецца вуліца Розы Люксембург, доўгую чаргу людзей. У горадзе не працаваў водаправод...

А чаму яму не пачаць «размову з масамі» якраз тут? Тут — салдацкія маткі, заўтрашнія работніцы, служачыя, прадаўцы магазінаў, чыгуначнікі. Ён падышоў да чаргі.

— Ці не можна тут у вас напіцца?

— Ды чаму ж! Калі ласка... — яму падалі карэц з вадою; у тыя дні абавязкова быў у каго-небудзь каля калонкі корчык: часта падыходзілі напіцца байцы.

— Папіў — нібы паздаравеў... — ён атрос з гімнасцёркі некалькі пацерак — кропель вады.— Цэлая праблема — вады напіцца! Хто б падумаў... Не ведаю ўжо, як таму, каму на сям'ю патрэбна некалькі Бёдраў у дзень?

Жанчына, якая стаяла праз два чалавекі ад Тураўца, махнула рукою.

— Як? Вось так і стаім... Цэлымі гадзінамі стаяць прыходзіцца...

Другая панура адгукнулася:

— Гэта што, тут хоць дастаішся. А хлеба дзе, дзе дастанеш? Чацвёрты месяц хлеба амаль не бачу...

— Нічога, цяпер нашы прыйшлі — будзе ўсё.

Сівы чалавек, у заношанай салдацкай гімнасцёрцы, з чырвоным вядром, сказаў, што ўсё адразу не адновіцца — вунь якія руіны. Амаль усё прыдзецца пачынаць спачатку.

— Хутка многае зменіцца! — цвёрда загучаў голас Тураўца. Нічыпар Паўлавіч сказаў, што ўжо сёння пачынае працаваць хлебазавод «Аўтамат».

— Хлебазавод? Дык яго ж, мусіць, узарвалі?

— Спаліць хацелі гітлераўцы. Ды не выйшла ў іх... Іх факельную каманду каля завода сустрэлі такім агнём, што яны — хто куды... Падпольшчыкі выратавалі, Валодзя Нядзельцаў з сябрамі.

— Якія малайцы!.. Дык, значыцца, цэлы. І хлеб будзе?

— Будзе.

Гэтая вестка хутка пайшла па чарзе, якая адразу захвалявалася.

— Хто гэта гаворыць? Адкуль ён тое ведае?

— Значыць, ведае.

Людзі пачалі акружаць Тураўца. Некалькі з іх пазнала ў гэтым нізенькім шчуплым чалавеку з густым плецівам чорных валасоў, з гарачымі вачыма былога сакратара суседняга райкома.

Усе з затоеным дыханнем слухалі пра тое, што будзе зроблена ў горадзе бліжэйшымі днямі. Перабівалі нецярпліва:

— А ці хутка пачне працаваць пошта... Ці можа ўжо цяпер дайсці сюды, скажам, з фронта пісьмо?..

— А ці зусім ужо размініравалі Дом Урада? І што — не ведаеце — рабіць з мінамі, якія валяюцца на агародзе? Як бы дзеці не падарваліся!..

— А дзе цяпер немцы? Ці далёка ад Мінска?

— Ці будзе можна дзе-небудзь купіць абутак? Босыя ходзім, аж сорам...

— А ці не ведаеце, дзе знайсці дзіцячага доктара?..

— Няўжо не злавілі гэтага гада Готберга? От, каб злавілі ды прывезлі сюды!

Некалькі чалавек пыталіся пра становішча на фронце. Адказаўшы тым, хто цікавіўся зменамі ў Мінску, Туравец пачаў падрабязна гаварыць пра самае хвалюючае — фронт. Там, на фронце, сыны,

бацькі, браты, якіх чакаюць ужо тры гады. Весткі адтуль слухалі са слязамі радасці, як весткі ад блізкіх, і нібы падтрымку надзеі, што пракляты фашыст больш не вернецца.

— Многа працы наперадзе ў нас,— раптам перамяніў кірунак гаворкі Туравец,— многа. І самае галоўнае, прыдзецца рабіць усім нам разам... Усё залежыць ад нас, ад усіх.

— Ясна, што за нас ніхто не зробіць...

— Ды ці ж мы не хочам працаваць? Рукі просяцца самі да працы...

І пачаліся тут роспыты — куды ісці, што рабіць? Што рабіць швейніцы, якая да вайны на фабрыцы працавала? А куды пайсці трамвайшчыку? Ці хутка будзе аднаўляцца трамвай? А ці ёсць ужо работы слесару-сантэхніку. А што таму, у каго няма спецыяльнасці? «Я да вайны вучылася у восьмым класе». Туравец, адказваючы ім, адчуваў, што ім сапраўды вельмі хочацца працаваць...

З ім развіталіся, як з добрым другам.

— Дзякуй вам вялікае. Не забывайце нас, зноў заходзьце сюды... Сцежка вядомая!

— Проста сюды, да помпы!

— Дзякуй, зайду...

Туравец правёў яшчэ адзін такі збор-мітынг каля лістоўкі з загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага пра вызваленне Мінска, дзе сабралася два дзесяткі чалавек.

Ён вяртаўся назад весялейшым. Цяпер, калі ён ішоў па Савецкай ці па вуліцы Энгельса, ішоў нейкі радасны і нібы дужэйшы, жахлівая спусцеласць вуліц і руіны здаваліся не такімі страшнымі. «Думаеш, не падымемся! — сам сабе, у думках, заспрачаўся Туравец з тым, хто разбурыў і спаліў усё. — Не падымемся? Эх ты, гадаўё фашысцкае!..»

Спускаючыся ўніз, каля Дома Чырвонай Арміі, ён падумаў, што вось ужо і ўвайшоў у той чаканы мірны свет. Адразу.

## Раздзел III

### I

Лейтэнант Клямт яшчэ па той бок Бярэзіны прыстаў да адной невялікай адступаючай часці, якая хутчэй нагадвала натоўп.

Трэба сказаць, што такіх часцей у немцаў тады было ўжо нямала. Зняверaныя, дэмаралізаваныя, салдаты часта адставалі ад сваіх падраздзяленняў, стыхійна далучаліся да першага вайсковага натоўпу або паходнай кухні. Такія групы ўвесь час абрасталі новымі спадарожнікамі і гублялі іх пры кожным баі. Склад гэтых натоўпаў увесь

час змяняўся, і цяпер у дывізіях часта былі не толькі салдаты, а і афіцэры з самых розных часцей, розных родаў зброі.

Але ў гітлераўцаў былі яшчэ і вельмі моцныя групы, добра ўзброеныя і дысцыплінаваныя. Па дарогах рушылі часамі цэлыя дывізіі амаль у поўным складзе.

Пасля здарэння ў лесе, калі Трэйдэ здрадзіў лейтэнанту і хацеў выдаць яго рускім, Клямт стаў адносіцца да сваіх спадарожнікаў недаверліва і насцярожана. Хоць ён трымаўся разам з групай, яму цяпер нярэдка прыходзілася душыць у сабе спакусу кінуць усіх і прабівацца аднаму.

Клямту ў гэтыя дні пашанцавала. Тады, калі ён ужо не мог ісці далей — былі да крыві сцёрты ногі,— яму пашчасціла выпадкова на ўзлессі натрапіць на вандроўнага каня. Клямт, хаваючыся за дрэвамі, непрыкметна падабраўся да яго і ўчапіўся ў рудую грыву. Калі лейтэнант праехаў некалькі кіламетраў, пяцёра салдат неспадзеўкі напалі на яго, намерваючыся сцягнуць на зямлю і адабраць каня.

Лейтэнанту ледзь удалося адбіцца. Каб не застацца зусім без каня, Клямт, добра разважыўшы, уступіў яго аднаму обер-лейтэнанту. Ехалі па чарзе.

На ўскраіне адной вёскі калону спынілі. Тут стваралі новую часць. Лейтэнант, патупаўшы, пацёршыся сярод незнаёмых, каторых затрымалі тут раней, нечакана спаткаў свайго ефрэйтара Келера, пра якога ўжо даўно, мусіць, дзён пяць, нічога не чуў і не ведаў. Ён чамусьці вельмі ўзрадаваўся спатканню з Келерам, і калі Клямту далі ўзвод, папрасіў, каб ефрэйтара накіравалі да яго. Як-ні-як, Келер быў смелы ваяка, і што там ні кажы, хоць і з «грашкамі», але ўсё ж «свой». Акрамя яго, ва ўзводзе не было ні аднаго знаёмага салдата.

Камандаваў часцю аднавокі, магутнага росту маёр. Сабраўшы афіцэраў у садзе, ён люта гаварыў, што трэба зараз жа, не шкадуючы нікога, устанавіць парадак і дысцыпліну, ён здаўся Клямту вельмі моцным і настойлівым чалавекам.

Пад вечар маёр загадаў прывесці ў роту, у якой знаходзіўся ўзвод Клямта, дэзерціра і пастроіць салдат. Ён сам выступіў перад строем, называючы ўцекача здраднікам і баязліўцам.

Салдаты слухалі панура. Скончыўшы прамову, маёр навёў сваё адзінае вока на Клямта і, павольна змерыўшы яго з галавы да ног, спакойна загадаў расстраляць уцекача. Лейтэнант казырнуў, падышоў да салдата, на хаду вымаючы з кабуры пісталет, і, амаль не цэлячыся, стрэліў у патыліцу. Салдат, ірвануўшыся напаследак, упаў тварам у зямлю. Клямт наском бота грэбліва пакратаў яго, памацаў

пульс: уцякач быў мёртвы. Другой кулі не спатрэбілася. Аднавокі павярнуў сваё вялізнае цела да салдат і сказаў:

— Так я распраўлюся з кожным, хто не будзе выконваць мае загады.

Але падзея гэта, як заўважыў потым Клямт, не зрабіла таго ўражання, якога чакаў і на якое разлічваў маёр. Салдаты сталі толькі больш насцярожанымі і панурымі.

Увечары, кладучыся спаць у траве за агародамі, дзе яго ўзвод заняў пазіцыю, Клямт пачуў абрывак нечай гаворкі пра тое, што хлопца марна звялі.

— Усё-ткі ён, можа, і не вінаваты.

Клямт здзівіўся, як гэта можна шкадаваць здрадніка...

Келер, які сядзеў поруч, здымаючы нанач боты, буркнуў да Клямта:

— Які ён здраднік? Каму ён, лейтэнант, здрадзіў?.. Радзіме?.. А што Такое радзіма? — па тым, З якім прытоеным болем Келер гаварыў, адчувалася, што ён ужо многа думаў пра яе.

— Ты не ведаеш?

— Я, лейтэнант, пачынаю блытаць, што гэта такое...

— Глупства вярзеш...

— Глупства? Не, не глупства. Радзіма — гэта «фюрэр», так? Але я ў апошнія часы больш — прызнаюся — думаю пра маці і пра сястру. Маці любіць мяне і будзе шкадаваць, калі я тут выпручу ногі. А ён...— хоць Келер не назваў «яго», Клямт здагадаўся, аб кім размова.— Келер памаўчаў, стрымліваючы сябе, але не стрымаўся, рашуча скончыў:

— Здаецца, напляваць яму на мяне, калі ён кінуў мяне ў гэтую мясарубку і загадвае памерці... — зноў памаўчаў. — А маці хоча, каб я жыў. I я хачу жыць, разумееш, хачу жыць! Разам з ёю, з сястрою, спакойна...

— Але як ты, безгаловы, не цяміш: не будзе фюрэра — Германія загіне.

Келер адказаў раптам страшнае:

— Была яна і да фюрэра... — «Будзе і потым», як бы пачуў Клямт у далейшым маўчанні Келера.

«Вось дзе бяда!» — падумаў ён, гатовы накінуцца на Келера. Але ён не накінуўся, а, затаіўшы злосць, рашыў данесці. Сказаць, абавязкова сказаць маёру! Заўтра ж, як толькі выпадзе зручны выпадак, далажыць, — няхай гэты малавер, гэты здраднік, адкажа за ўсё! Заразу трэба вырываць з коранем.

Але выканаць гэта Клямту не ўдалося...

